Вячаслаў Рагойша

# Мой Трыглаў

*Кніга пра*
*Янку Купалу,*
*Якуба Коласа,*
*Максіма Багдановіча*



Мінск
«Кнігазбор»
2012

УДК [821.161.3]
ББК 83.3(4Беи)
Р14

Рэцэнзенты:
*загадчык кафедры беларускай літаратуры і культуры БДУ доктар філалагічных навук, прафесар*
Т. І. Шамякіна,
*прафесар кафедры беларускага літаратуразнаўства БрДУ імя А. С. Пушкіна доктар філалагічных навук*
М. І. Мішчанчук

**Рагойша, В. П.**

**Р14** Мой Трыглаў: Кніга пра Янку Купалу, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча / Вячаслаў Пятровіч Рагойша. — Мінск : Кнігазбор, 2012. — 340 с.

ISBN 978-985-7007-65-3.

Кнігу склалі новыя артыкулы і эсэ доктара філалагічных навук, прафесара Вячаслава Рагойшы пра малавядомыя старонкі жыцця і творчасці трох класікаў беларускай літаратуры, што ўяўляюцца яму ў вобразе Трыглава — найвышэйшай гары Славеніі. У прыватнасці, чытач даведаецца пра Янку Купалу як бацьку нацыі, лексікографа, пра прыязныя ўзаемаадносіны Якуба Коласа з рускай паэтэсай Святланай Сомавай (упершыню поўнасцю публікуюцца лісты да яе народнага паэта Беларусі), пра творчую спрэчку Максіма Багдановіча з вядомым рускім музыказнаўцам і кампазітарам Барысам Асаф'евым і інш.

У кнізе змешчаны таксама вершы і бібліяграфія публікацый яе аўтара пра знакамітыя «вяршыні» беларускага літаратурнага Трыглава.

**УДК [821.161.3]**
**ББК 83.3(4Беи)**

**ISBN 978-985-7007-65-3**



# ЗМЕСТ

Да чытачоў гэтай кнігі ........ 5

**Янка Купала**

Бацька нацыі ........ 9
Янка Купала — лексікограф ........ 63
Санетарый Янкі Купалы ........ 75
Пераклічка геніяў
Янка Купала і Аляксандр Пушкін ........ 81
Купалаўская сябрына
«А хто там ідзе?» і яго пераклады на мовы свету ........ 90
Напісанае — застанецца!
Рукапісная спадчына песняра ........ 109
Украінскі паўпрэд беларускага песняра
Пра Дмытра Паўлычку, які пераклаў усе 22 Купалавы санеты ........ 130
Калі б мы былі японцамі…
…то ў Янкі Купалы месца і дата нараджэння былі б іншымі ........ 140
Гаспадыня дома Купалы
Жанна Казіміраўна Каспяровіч-Дапкюнас ........ 144
Свята ў Вязынцы
З успамінаў ........ 149

**Якуб Колас**

І гарматы гаварылі, і музы не маўчалі
Жанравая палітра лірыкі Якуба Коласа ваеннага часу ........ 157
«Я не кахаю вас. Я вас люблю»
Святлана Сомава ў жыццёвым і творчым лёсе Якуба Коласа ........ 167
Лісты Якуба Коласа да Святланы Сомавай ........ 198
Зрокам сэрца
Аляксандр Дэйч у дачыненнях да Янкі Купалы і Якуба Коласа ........ 241
Ракаўскімі сцяжынамі песняроў ........ 250

**Максім Багдановіч**

З багдановічазнаўчых эцюдаў ........ 259
Музыка перш за ўсё!..
Спрэчка Максіма Багдановіча з Барысам Асаф'евым ........ 280
Творчая акцыя і яе матывацыя ........ 293
Сустрэча ўкраінцаў з беларускім Ікарам
Пра Рамана Лубкіўскага, які арганізаваў гэту сустрэчу ........ 302
Васілёк на магілу Багдановіча
З успамінаў ........ 310

**Вершы, прысвечаныя**
**Янку Купалу, Якубу Коласу, Максіму Багдановічу**
Земляком сваім я ганаруся ........ 317
Купалаўскі трыпціх ........ 318
У Коласавым родным куце
*(Вершаваны цыкл)* ........ 319
Звеставанне
*(Ля помніка Максіму Багдановічу)* ........ 324

**Даследаванні, прысвечаныя творчасці**
**Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча**
Кніжныя выданні
(у тым ліку — укладанне, навуковае рэдагаванне) ........ 326
Артыкулы, рэцэнзіі, інтэрв'ю ........ 330



# ДА ЧЫТАЧОЎ ГЭТАЙ КНІГІ

Калісьці вядомы ўкраінскі паэт Паўло Тычына вобразна назваў Янку Купалу «першай вяршыняй беларускага Эльбруса паэзіі». Як вядома, Эльбрус (гара на Каўказе) складаецца з дзвюх вяршынь, адна крыху вышэйшая за другую. Пад другой вяршыняй Тычына ўяўляў творчасць Якуба Коласа. Аднак сёння мы ўсё часцей кажам не пра дзвюхвяршынную, а пра трохвяршынную найвышэйшую «гару» беларускай паэзіі XX ст., якую можна ўявіць у вобразе Трыглава (самая высокая гара ў Юлійскіх Альпах, Славенія). Да самых высокіх творчых вяршынь — Янкі Купалы і Якуба Коласа — арганічна далучаецца і вяршыня Максіма Багдановіча. Калі б ён пражыў столькі, колькі Янка Купала, то, як кажуць, невядома яшчэ, хто быў бы нашым Купалам. Менавіта таму ў гэтай кнізе сышліся — на роўных — тры волаты нашай літаратуры, тры яе аднолькава вартыя вяршыні. Тым больш, што яны не замяняюць, не засланяюць, а толькі ўзаемадапаўняюць, узаемападтрымліваюць адна адну. Побач роўнавяліка ўзвышаюцца адухоўлена-нябесны лірык і драматург, гербоўны шляхціц Іван Дамінікавіч Луцэвіч, глыбока зямны ліра-эпік і эпік, сялянскі сын Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч і адмысловы паэт-неакласік, энцыклапедычна ўгрунтаваны літаратуразнавец, патомны інтэлігент Максім Адамавіч Багдановіч. Усе яны нам аднолькава дарагія. Як, зрэшты, і ўсе іншыя вяршыні і хрыбты горнага кража беларускай літаратуры шматпакутнага XX стагоддзя.

Увогуле, лічба «тры» з сівой даўніны мае ў нас (як і ў іншых народаў) сімвалічнае значэнне, што назіраецца ў многіх звычаях: тройчы кланяюцца, тройчы цалуюцца, тройчы хрысцяцца і інш. Траістасць увасоблена ў Трояне — язычніцкім богу неба, зямлі і падземнага царства, мінулага, цяперашняга і будучага, у хрысціянскай Святой Тройцы (Бог-Айцец, Бог-Сын, Бог — Дух Святы). У міфалогіі балтыйскіх славян (а значыць, і ў нас) існавала трохгаловае боства — Трыглаў, тры галавы якога сімвалізавалі ўладу над трыма царствамі — нябесным, зямным і падземным.

Такім чынам, мой сімвалічны вобраз Трыглава паўстае як са свету зямнога, рэальнага, так і з трансцэндэнтнага, сакральнага.

Але чаму *мой* Трыглаў? Бо менавіта так я бачу некаторыя аспекты творчасці нашых славутых пісьменнікаў. І не толькі ў тых артыкулах і эсэ, што склалі гэту кнігу, але і ў іншых, ранейшых літаратуразнаўчых публікацыях, нават вершах. Вершы і бібліяграфію тых публікацый можна знайсці ў канцы прапанаванага выдання.

Спадзяюся, што гэта маё бачанне беларускага літаратурнага Трыглава паспрыяе чытачам адкрыць нешта новае для сябе ў творчасці і жыцці Янкі Купалы, Якуба Коласа і Максіма Багдановіча, а ўрэшце — дапаможа глыбей зацікавіцца Песнярамі, палюбіць іх.

*Вячаслаў Рагойша*



# БАЦЬКА НАЦЫІ

## Беларускай песні ўладар

Калі талент даецца чалавеку ад нараджэння, то як распарадзіцца гэтым талентам — цалкам залежыць ад самога чалавека. Аглядаючы свой дваццацігадовы творчы шлях, Янка Купала ў вершы «За ўсё» (1926) пісаў:

*Я адплаціў народу,*
*Чым моц мая магла:*
*Зваў з путаў на свабоду,*
*Зваў з цемры да святла* [5, т. 4, с. 140].

З путаў на свабоду, з цемры да святла… Гэткі шлях разам з беларускім народам прайшоў і сам паэт. Сын беззямельнага арандатара, затым — сам дробны арандатар, чорнарабочы бровара, бібліятэкар, супрацоўнік, а пасля і рэдактар адной з першых легальных беларускіх газет «Наша Ніва» (1906–1915), народны паэт Беларусі Янка Купала ўсюды і заўсёды быў з родным народам — і ў горы, і ў радасці. Менавіта гэта дазволіла яму «сэрца мільёнаў падслухаць біццё» («З кутка жаданняў»), стаць яскравым летапісцам жыцця беларускага народа амаль ва ўсе важнейшыя гістарычныя моманты першай паловы XX ст.: у пераломны час рэвалюцыйных падзей у Расіі ў 1905–1907 і 1917 гг., у векапомны перыяд стварэння дзяржаўнасці Беларусі ў 1918–1920 гг., у трагічныя 1930-я гг., у радасныя дні ўз’яднання беларускага народа ў адзінай дзяржаве (1939), у самы змрочны першы год фашысцкай акупацыі Беларусі (чэрвень 1941 — чэрвень 1942)… Але Янка Купала быў не толькі мастацкім летапісцам народа. У розны час, у залежнасці ад абставін, тонкі і шчыры лірык станавіўся то паэтам-грамадзянінам, то прарокам, то філосафам, а то і ваяком «*за долю, волю і народ*» («Памяці С. Палуяна»). Ягоная творчасць не адно выяўляла рост сацыяльна-палітычнай і нацыянальнай свядомасці беларусаў,

але і актыўна садзейнічала гэтаму росту, фарміравала грамадскі ідэал, нацыянальную самасвядомасць, абуджала гістарычную памяць — стала сцягам духоўнага адраджэння народа. Нездарма Максім Горкі, пазнаёміўшыся праз газету «Наша Ніва» з «сапраўды народнай» творчасцю Янкі Купалы, у артыкуле «Пра пісьменнікаў-самавукаў» («Современный мир», 1911, № 2) даў надзвычай высокую ацэнку гэтай творчасці. А верш «А хто там ідзе?», у прыватнасці, назваў «красамоўнай і суровай» песняй, пераклаў гэту «песню» на рускую мову і выказаў надзею, што яна «стане народным гімнам беларусаў»*. Тое, што абсалютная большасць насельніцтва былога «Северо-Западного края России» з гэтак званых «палякаў», «рускіх» ці проста «тутэйшых» паступова стала беларусамі, усвядоміла сябе як народ, такі ж самы, як астатнія славяне, тое, што народ захацеў заняць (і ўрэшце заняў!) «свой пачэсны пасад між народамі» (прыгадаем купалаўскі заклік: «*Занімай, Беларусь маладая мая, / Свой пачэсны пасад між народамі!..*» — «Маладая Беларусь», 1906–1912) — атрымаў дзяржаўнасць, а ў канцы XX ст. і дзяржаўную незалежнасць, — ва ўсім гэтым агромністая заслуга Янкі Купалы. Бацька нацыі — у гэтым найменні-перыфразе Янкі Купалы няма перабольшання.

З кожным годам усё большы прамежак часу аддзяляе нас ад таго гістарычнага перыяду, калі жыў і тварыў геніяльны Янка Купала. За марывам гадоў падчас цяжка ўбачыць вострую актуальнасць, надзённасць, тую ці іншую падзейную абумоўленасць асобных яго твораў. Аднак ча́савая адлегласць, разам з тым, дазваляе разгледзець многае з таго, што зблізку не так і заўважыш. Сёння шмат выразней, чым калісьці, бачыцца агульначалавечая сутнасць паэзіі Янкі Купалы. Надзвычай глыбока зазірнуўшы ў душу спачатку прыгнечанага, а затым сацыяльна і нацыянальна разняволенага селяніна-беларуса, ён тым самым стварыў аптымістычную кардыяграму «ачалавечвання» чалавека-працаўніка. Такая кардыяграма набывае асаблівае значэнне ў кантэксце сацыяльнай і нацыянальна-вызваленчай барацьбы, якая вядзецца ў многіх месцах нашай сённяшняй планеты.

---

* Пра верш «А хто там ідзе?» гл. у артыкуле «Купалаўская сябрына».

Янка Купала паўстае перад намі і як арыгінальны паэт-філосаф, са сваёй канцэпцыяй жыцця, месца і ролі чалавека ў ім. Мы, у прыватнасці, захапляемся канкрэтнымі перыпетыямі, апісанымі ў яго шматлікіх вершах, паэмах, драматычных творах, убіраем у сябе думкі, назіранні, эмоцыі, увасобленыя ў гэтых творах. І мы, безумоўна, не можам прайсці міма праблем, якія па-свойму ставіў і вырашаў народны пясняр: дабра і зла, сацыяльнай справядлівасці, маральнай адказнасці, жыцця і смерці, даравання і помсты і інш. Альбо возьмем праблему выбару, што так востра ставіў у сваіх творах Васіль Быкаў, ставіцца некаторымі іншымі сучаснымі еўрапейскімі пісьменнікамі экзістэнцыяльнага кірунку. Ці не праглядае яна яшчэ ў «Кургане», «Магіле льва», «Бандароўне» Янкі Купалы? Думаецца, не толькі праглядае, але і з'яўляецца адной з галоўных праблем гэтых глыбока змястоўных паэм.

Народны паэт Беларусі — выдатнейшы майстар паэтычнага слова, адзін з самых буйных паэтаў, якіх увогуле ведае сусветная літаратура. Калісьці ўкраінскі пісьменнік Максім Рыльскі, які назваў нашага песняра «паэтам-рыцарам», пісаў: «Янка Купала быў невычэрпна разнастайны ў вершаванай форме, у яго мы бачым і творы, складзеныя зусім у духу народных песень («Алеся» яго са змененым імем «Ганнуся» — запісана на Украіне з народных вуснаў як фальклорны твор), і складаныя страфічныя пабудовы, і зварот да такіх кананічных узораў, як актавы, — але скрозь ён той самы Янка Купала: просты, шчыры, крышталёва-ясны, сапраўды народны паэт» [9, с. 393]. Трэба ўлічыць, што Янка Купала не проста абжываў для беларускай паэзіі некаторыя, невядомыя ёй раней, формы верша (напрыклад, санет, актава, брахікалан і інш.), але і свядома ствараў новыя. Паэт узняў культуру беларускага верша на сусветную вышыню, як ніхто з беларускіх паэтаў пасадзейнічаў развіццю тэхнікі вершавання, прыўнёс у беларускае і ўсё славянскае вершаванне свае рытмы, інтанацыі, накрэсліў найбольш перспектыўныя шляхі, якімі развіваецца і цяпер беларускі верш. Паэзія Янкі Купалы з'яўляецца сапраўднай школай майстэрства для сучасных і наступных пакаленняў беларускіх паэтаў.

Творчасць Янкі Купалы — нібыта шырока расчыненае акно ў свет усёй беларускай паэзіі першай паловы XX ст. Адсюль, з акна Купалавай паэзіі, лепш бачацца не толькі тыя магістральныя

шляхі, па якіх ішла беларуская літаратура, а нават узбочныя сцежкі і дарожкі. Відаць выразна і тое, што гэтыя шляхі тарыў ніхто іншы, як Янка Купала разам з другім волатам беларускага слова — Якубам Коласам. І як бы ў свой час ні станавіліся «ў рожкі са старымі» некаторыя з маладых беларускіх літаратараў — сучаснікаў Янкі Купалы і Якуба Коласа, сёння іх вершы і паэмы свецяцца прывабным святлом паэтычнасці ў вялікай ступені дзякуючы суседству з выдатнымі творамі класікаў. Гэтак пачынае свяціцца люмінесцэнтная лямпа, калі раптам з'яўляецца магутная крыніца электроннага выпраменьвання…

Янка Купала — неперазўзыдзены знаўца народнага беларускага слова. Аўтар «Жалейкі», як слушна заўважыў яшчэ Анатоль Луначарскі, прыўнёс у літаратуру «свой слоўнік, свае звароты, сваю паэтычную музыку проста з сялянскіх глыбінь, з цаліны народнай моватворчасці» [6]. У той час як Якуб Колас, чэрпаючы з тых самых крыніц, усё ж свядома ці падсвядома кантраляваў асноўныя лексічныя і граматычныя нормы сваёй мовы (яго настаўніцкая адукацыя не магла не сказацца і ў гэтым), калі Максім Багдановіч, жывучы далёка ад Беларусі, карыстаўся пераважна кніжнай (вывучанай) беларускай мовай, то моўная стыхія Янкі Купалы — гэта сінтаксічна гнуткае, лексічна надзвычай багатае, інтанацыйна выразнае жывое народнае маўленне, якое часта ніяк не ўкладваецца ў пракрустава ложа сучаснай граматыкі. Пра гэта сведчаць, у прыватнасці, рупліва сабраныя беларускімі мовазнаўцамі матэрыялы вялікага, васьмітомнага «Слоўніка мовы Янкі Купалы» [13]. Янка Купала — яскравы прыклад сапраўды народнага паэта, які ўваскрашае ў памяці псіхалагічны тып старажытнага сказіцеля-баяна. І гэты прыклад тым больш знамянальны, што жыў такі баян не ў легендарныя часы «Слова пра паход Ігаравы», а ў XX ст., у касмічны век. Думаецца, творчасць, сама постаць Янкі Купалы з цягам часу будзе прыцягваць штораз большую ўвагу не толькі літаратуразнаўцаў, але і мовазнаўцаў, філосафаў, псіхолагаў…

Мы — сведкі таго, як паэтычнае слова Янкі Купалы жывіць не толькі беларускую літаратуру. Для Аляксандра Пракоф'ева, напрыклад (як, дарэчы, і для Усевалада Раждзественскага, Міхаіла Галоднага, Марыі Камісаравай і некаторых іншых вядомых рускіх паэтаў), творчасць песняра з'явілася той «пера-

правай», якая надзейна і назаўжды злучыла іх з вечназялёным мацерыкам беларускай паэзіі. Дзякуючы гэтай сувязі ўсе паэты-перакладчыкі адчулі на сабе дабратворны ўплыў Купалавай музы. Іх жаданне — каб і на іх паэзію «упало / Хотя б немного света из того / Сиянья слов, в котором рос Купала, / С которым Колас ведал торжество» (А. Пракоф’еў) — здзейснілася. Крынічная, светлая паэзія Янкі Купалы таксама неаднойчы асвяжала голас Аляксандра Твардоўскага, Міхаіла Ісакоўскага, Сяргея Гарадзецкага, у чым прызнаваліся самі гэтыя майстры паэтычнага слова. Зрэшты, гэта ж можна сказаць і пра некаторых творцаў іншых нацый, у прыватнасці ўкраінскіх. Скажам, калі М. Рыльскі сцвярджаў: «Як паэт, я часам лаўлю сябе на тым, што менавіта **так** я напісаў уласна **дзякуючы** чытанню маіх беларускіх сяброў. Думаю, што гэта могуць сказаць і іншыя мае таварышы» [10], — то ён меў на ўвазе перш за ўсё паэзію Янкі Купалы.

Творчасць беларускага паэта дазваляе часам глыбей зразумець некаторыя працэсы ў гісторыі іншых нацыянальных літаратур, добра «ўпісваецца» ў гэтыя літаратуры. Так, яна ў пэўнай ступені запаўняе адно недастаючае звяно ў рускай паэзіі 1900-х гг. Як слушна заўважыла рускі літаратуразнавец Р. І. Файнберг, «у рускай літаратуры той пары не было паэта, які, працягваючы справу Някрасава, раскрыў бы знутры свет устрывожанага рэвалюцыяй чалавека. Гэта задача выпала на долю вялікага лірыка [Янкі Купалы. — *В. Р.*], які выступіў у 1905 г. ад імя зняволенага сялянства Беларусі» [14, с. 53].

Улічваючы ўсё сказанае, не здадуцца перабольшаннем словы Янкі Купалы, гучна прамоўленыя ім у вершы «Мая навука» яшчэ ў 1919 г.:

*Цяпер маймі скарбамі — думы-саколы,*
*Цяпер беларускай я песні ўладар* [5, т. 4, с. 68].

Прылюдна заявіў гэта паэт, будучы ў пушкінскім веку, у росквіце сваіх творчых сіл, маючы ў сваёй паэтычнай кайстры — як ніхто з беларускіх паэтаў — багаты даробак (не забудзем, што славутыя Коласавы паэмы «Сымон-музыка» і «Новая зямля» з’явяцца пазней). Сам верш «Мая навука» — своеасаблівая маніфестацыя поглядаў Янкі Купалы на жыццёвыя вытокі як сваёй творчасці, так і мастацкай творчасці ўвогуле. Але не толькі.

«Мая навука», разам з тым, — гэта яскравая дэманстрацыя творчых мажлівасцей і творчай самабытнасці паэта.

Янка Купала галоўныя вытокі сваёй творчасці, яе ідэйна-эстэтычныя вартасці бачыць не ў «раскошах» «мудрасці кніжнай», а ў самім жыцці: у фізічнай працы («*Каса, і сякера, і цэп малацьбітны / Магутную волатаў сілу далі*»), у беларускай прыродзе («*Ад самай красы маіх дзён невясёлых / Настаўнікам быў беларускі абшар*»). Гэта сапраўды так. Аднак нельга просталінейна, як часам здараецца, успрымаць гэтыя словы. Без літаратуры, выхавання мастацтвам, без «*мудрасці кніжнай*» сапраўдным мастаком стаць нельга. Сам Янка Купала, прыгадваючы пачатак сваёй творчасці, у лісце да Л. Клейнбарта адзначаў: «*Писать начал я с 1904 г., но сначала ничего путного не выходило, т. к. не имел тогда еще ни малейшего представления о теории стихосложения. Впоследствии попалась мне в руки стилистика, и дело стало налаживаться*» [5, т. 9, кн. 1, с. 228]. Як вядома, сярэдняй школы паэту, на жаль, не давялося скончыць. Але ж не забудзем, што ён ажно чатыры гады (1909–1913) вучыўся ў Пецярбурзе на агульнаадукацыйных курсах А.Чарняева — у гэтым вячэрнім універсітэце для дарослых, а таксама ў маскоўскім універсітэце А. Шаняўскага (1915). А хіба можна не ўлічваць самаадукацыю, пастаянную, яшчэ з ранняга дзяцінства, цягу Янкі Купалы да кніг! Увогуле, нельга супрацьпастаўляць вучобу ў рэальнага жыцця вучобе «ў кніг». Зрэшты, паэт гэтага і не робіць. Некалькі гіпербалізуючы адсутнасць у сябе сістэматызаванай адукацыі («…*іншай не знаўшы навукі і школы*»), ён, тым не менш, з павагай ставіцца да яе. Пра гэта выразна сведчаць некалькі штрышкоў — паважлівыя ў адносінах да адукацыі выказванні («*мудрасць* кніжная» — гэта «*раскоша*»; без «навукі і школы» паэт «у *пацёмках* шукаў… божы дар»). Ды і сама паэтыка верша паказвае на неабходнасць і наяўнасць вучобы яго аўтара ў літаратурных папярэднікаў і сучаснікаў. Бо няўжо Янка Купала вынайшаў сам і сістэму вершавання (сілаба-тоніку), і вершаваны памер (чатырохстопны амфібрахій), і страфу (катрэн з перакрыжаванай рыфмоўкай), і рыфмы (мужчынскія і жаночыя, дакладныя і недакладныя, адкрытыя і закрытыя), якімі напісана «Мая навука»?! Усё гэта было і да яго ў беларускай, тым больш у сусветнай, паэзіі, з якіх і за-

пазычаны гэтыя кампаненты вершаванай паэтыкі. На наяўнасць літаратурных традыцый часам указваюць нават асобныя вобразы верша. У прыватнасці, параўнанне верша са звонам («*песню, як звон… адлілі*») — алюзія, што вядзе да верша М. Багдановіча «Паэту» («*верш… як звон, зазвініць*»).

Разам з тым, як мы ўжо сказалі, у «Маёй навуцы» яскрава ўвасобілася арыгінальнае, наватарскае, высокае паэтычнае майстэрства Янкі Купалы, тое, што вызначае ягоны талент, робіць твор (як і ўсё лепшае ў творчасці паэта) непадуладным часу. Параўнаць песню (верш) са звонам — гэта выразна, паэтычна дакладна, вобразна рэальна акрэсліць з'яву. Так у Багдановіча. Але ж у Янкі Купалы іншы склад паэтычнага мыслення: рамантычна-абагульнены, умоўна-асацыятыўны, эмацыянальна-экспрэсіўны. Яму, як таму мастаку-імпрэсіяністу, важней выклікаць пэўнае ўражанне, чым стварыць малюнак — рэальнае падабенства прадмету ці з'яве. І ён піша:

*Марозы і спёкі далі гарт нязбытны —*
*Мне песню, як звон, як пярун, адлілі.*

Марозы і спёкі адлілі песню… Ужо адна гэта метафара сваёй навізной, нечаканасцю, паэтычнай смеласцю выклікае належныя эмоцыі і асацыяцыі. Але паэт узбагачае гэтую метафару двума параўнаннямі — «багдановічаўскім» звонам і нечаканым, чыста купалаўскім параўнаннем песні з перуном: «песню, як звон, *як пярун…*» А перад гэтым жа паэт назваў песню «*гартам нязбытным*». Такім чынам, вобраз становіцца шматслойным, у ім кандэнсуюцца, падначальваючыся выяўленню адной эмацыянальнай думкі, некалькі тропаў. Прычым паэтычныя «мазкі» размашыстыя, шчодрыя, бо Купалаў «мальберт» — увесь свет, нават сусвет. Гэта не толькі «*бурлівая рэчка і млын гутарлівы*», якія «*складалі… рытму мастацкія звівы*», не толькі «*цяністыя бітага шляху прысады / І ў вырай лятучыя гусяў шнуры*», што надавалі песням гармонію, не толькі шэпт «*спелых пшанічных калоссяў*» і шэлест «*лісцяў узмежных ігруш*», ад якіх «*музычнае водгулле ў песню лілося*», не толькі, урэшце, зялёнае поле і «*цвітучая ў сонечны цвет сенажаць*», якія «*вучылі, як словы ў вянок завіваць*» (тут — разуменне аўтарам верша «душы» паэзіі, ад рытму — да музычнасці, гармоніі). Усё гэта — яшчэ чыста зямныя замалёўкі. Але вось Янка Купала кідае позірк у

космас. Касмізм яго паэтычнага мыслення, што выявіўся яшчэ ў ранні перыяд творчасці, не можа не выклікаць захаплення:

*Душу акрылялі прыгожасці свету,*
*Па гонях пад небам лунала яна,*
*Купалася ў сонцы вясёлкай распетай,*
*Сама, як вясёлка, як казка-вясна.*

*І п'яная чарамі, п'яная песняй,*
*Як сон заварожаны райскіх мясцін,*
*Шаптала мне дзівы цвітучых прадвесняў*
*І песняй лілася з паходам часін.*

Відаць, не варта «прэпарыраваць» гэты паэтычны вобраз прыгажосці, зводзіць яго з касмічных даляў на грэшную зямлю, аддзяляць адзін вобразны «слой» ад другога. Бо можна пры гэтым загубіць саму паэзію, у якой, як і ў музыцы, не ўсё і не заўсёды паддаецца рацыянальнаму вытлумачэнню. Галоўнае, што на ўзроўні не толькі (магчыма, нават не столькі) свядомага, але і падсвядомага мы разумеем паэта, успрымаем яго формулу прыгажосці, разумеем і тыя «дзівы цвітучых прадвесняў», якія шаптала яму, паэту, тая прыгажосць.

Купалаўскае, непаўторнае відаць у «Маёй навуцы» не толькі ў вобразным ладзе, у яго рамантычным рэалізме, але і ў распрацоўцы «цаліны народнай моватворчасці», на што ў свой час указваў А. Луначарскі. Маюцца на ўвазе самабытныя народныя словы і словаформы (*гутарлівы, плюскат, прыгожасць, раскоцісты, песельны, саколы, малацьбітны* і інш.), ужыванне сінярэз (на***ў***чыўся — замест на***ву***чыўся, парад***кв***алі — замест парад***ка***валі) і дыярэз (нашэп***ты***ваў — замест нашэп***тв***аў, шо***па***ту — замест шэ***пт***у), якія арганічна ўваходзяць у лексікон паэта. Яны надаюць вершу непаўторны каларыт, выкрасаюць дадатковыя сэнсавыя і эмацыйныя нюансы.

## На зары новага жыцця

Як вядома, з пачатку 1914 г. Янка Купала ўзначаліў газету «Наша Ніва», стаў яе галоўным рэдактарам. Аднак фронт Першай сусветнай вайны наблізіўся да Вільні, горад у верасні 1915 г. стаў эвакуіравацца. Газета перастала выходзіць. Янка Купала,

уражаны жудасцямі вайны, што бушавала на беларускай зямлі, замаўкае як паэт, пацвярджае справядлівасць даўняга выслоўя: «Калі гарматы гавораць, музы маўчаць». Ён выязджае на вёску, у Акопы, дзе жыла маці, потым — як бежанец — трапляе ў Арол, затым у Маскву, дзе паступае ў народны ўніверсітэт А. Шаняўскага. У студзені 1916 г. жэніцца з Уладзіславай Францаўнай Станкевіч, прыгожай і энергічнай жанчынай, якая на ўсё жыццё стала яму дарадчыцай і сяброўкай, а пасля смерці паэта вельмі многа зрабіла для ўшанавання яго памяці. Адразу пасля вяселля прызываецца ў армію. Служыць у дарожнабудаўнічым атрадзе спачатку ў Мінску, потым у Полацку (тут яго застае Лютаўская рэвалюцыя 1917 г.), затым у верасні 1917 г. трапляе ў Смаленск, дзе сустракае Кастрычніцкую рэвалюцыю, грамадзянскую вайну, пачынае працаваць раз'язным агентам па нарыхтоўцы сельскагаспадарчых прадуктаў. У той галодны і халодны час таксама было не да вершаў.

Другое паэтычнае дыханне прыйшло да Янкі Купалы восенню 1918 г., калі ён жыў і працаваў у Смаленску. Смаленск у той час з'яўляўся цэнтрам гэтак званай Заходняй вобласці, у якую ўваходзіла Смаленшчына і вольныя ад нямецкай акупацыі ўсходнебеларускія землі. І да актыўнай творчасці пасля працяглага перапынку паэта паклікала менавіта Бацькаўшчына, Беларусь. Янка Купала хоць непасрэдна і не ўдзельнічаў у многіх векапомных падзеях таго часу, але, несумненна, ведаў пра іх: і пра барацьбу камуністаў-беларусаў, нацыянал-камуністаў (З. Жылуновіч, Я. Дыла, А. Бурбіс, А. Чарвякоў і інш.) з камуністамі-вялікадзяржаўнікамі (І. Алібегаў, В. Кнорын, К. Ландар, А. Мяснікоў і інш.) за стварэнне хаця б аўтаномнай, у складзе Расійскай Федэрацыі, Беларускай савецкай рэспублікі, і пра разагнаны смаленскімі бальшавікамі (кіраўнікамі Аблвыканкамзаха) Усебеларускі з'езд Саветаў у Мінску ў снежні 1917 г. з яго дэклараванай самім Сталіным магчымасцю «безоговорочно объявить себя учредительным, образовать свою республику и даже отделиться от России» [цыт. па.: 5, с. 90], і пра абвяшчэнне 25 сакавіка 1918 г. Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР)… Паэт адчуў: нястомная сяўба на нацыянальнай ніве, дзякуючы бурным рэвалюцыйным падзеям, дала хуткі і добры плён. Цяпер самы час перад народам, абуджаным ад летаргічнага сну, ставіць новыя, на гэты раз ужо дзяржаватворчыя, задачы. Бо ён добра ведаў:

«*Пройдуць гады, падрастуць сыны і ўнукі нашы і спытаюць тады нас: «Што зрабілі вы ў той бурны і векапомны час для сваіх патомкаў, для свайго краю?*» [5, т. 8, с. 60].

Янка Купала, які звыш трох гадоў маўчаў як паэт, за нейкія два апошнія месяцы 1918 г. напісаў звыш дваццаці вершаў. Ды якіх вершаў! Тут і славутая «Спадчына», і выдатныя санеты «Для Бацькаўшчыны», «Пчолы», «Наша гаспадарка», і палкі верш-кліч «На сход!», і глыбока сімвалічныя «У дарозе», «Паязджане», і красамоўны зварот «Свайму народу» з яго заклікам:

*Паўстань, народ! Для будучыны шчасце*
*Ты строй, каб пут не строіў больш сусед;*
*Не дайся ў гэты грозны час прапасці, —*
*Прапашчых не пацешыць шчасцем свет.*

*Сваю магутнасць пакажы ты свету, —*
*Свой край, сябе ў пашане мець прымусь.*
*Паўстань, народ!.. З крыві і слёз кліч гэты…*
*Цябе чакае маці-Беларусь!* [5, т. 4, с. 31].

Прычым, як і заўсёды ў Янкі Купалы, гэта былі не бяскрылыя вершы-аднадзёнкі, а творы эстэтычна паўнацэнныя, глыбока паэтычныя, хоць і ўзнікалі яны ў асобныя дні па некалькі адразу. Паэт, безумоўна, сэрцам улавіў эпахальны для Беларусі момант, калі на моцным падмуры, узведзеным яшчэ да ўсіх названых падзей, патрэбна было класці сцены Беларускай дзяржавы. Балазе і прыклад добры быў: на развалінах Аўстра-Венгрыі ўзніклі Югаславія, Чэхаславакія, з былой царскай Расіі вылучыліся Польшча, Фінляндыя, аб'явілі самастойнасць Украіна, Літва, Латвія, Эстонія…

У вершы «Час!» паэт-прарок заклікаў:

*Хай званы зазвоняць з жарам,*
*Хай музыка ў струны ўдара!*
*Гэй, паўстань, народ!*
*За сябе сам пастаяці*
*І за Бацькаўшчыну-маці*
*Йдзі, народ, на сход!* [5, т. 4, с. 33].

Рытм верша, увасоблены ў чатырохстопным харэі, падмацаваны шматлікімі лексічнымі і фанетычнымі паўторамі, — бадзёры,

аптымістычны. Гэтую мажорную інтанацыю падтрымлівае і пяціразовае паўтарэнне секстын — шасцірадковых строфаў на тры рыфмы: ААбВВб. Задача ж паэта была абудзіць народ ад працяглага летаргічнага сну, заклікаць яго на «сход» — як і ў драме «Раскіданае гняздо» (1913), дзе Сымон кідае кліч: «*На вялікі сход! Па Бацькаўшчыну!*». Янка Купала ў сімвалічных паняццях «*сход*», «*нарада*», як і ў шматлікіх іншых, на якіх «трымаецца» верш «Час!» (*новы пасад, сонца залатое, лепшы час, цапы, косы* і інш.), увасабляў сваю мару пра новае, лепшае жыццё, эмацыянальна абуджаў «грамаду» да актыўнага сацыяльнага дзеяння.

Ісці «на сход» Янка Купала заклікаў і ў адмысловым вершы з аднайменнай назвай — «На сход!»:

*На сход, на ўсенародны, грозны, бурны сход*
*Ідзі, аграблены, закованы народ!*

*Як роўны йдзі жыхар між роўных жыхароў,*
*Аддай на суд свае ўсе крыўды, слёзы, кроў <...>.*

*Аддаці ўсё на суд, на ўсенародны сход*
*Ідзі, аграблены, закованы народ!* [5, т. 4, с. 31].

Што гэта быў за «сход» і якая ў будучым павінна быць Бацькаўшчына (дэмакратычная рэспубліка? сацыялістычная дзяржава? Вялікае Княства Беларускае, накшталт колішняга Вялікага Княства Літоўскага?) — тады над гэтым паэт, відаць, і не задумваўся. Ды і ці паэту вырашаць гэта? Сам народ, палітыкі, дзяржаўныя дзеячы скажуць сваё слова. Для яго галоўнай задачай было фарміраваць дзяржаватворчую грамадскую думку, эмацыянальна ўздымаць грамадства да актыўнага нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва.

Як мы сёння ведаем, бальшавіцкае кіраўніцтва Заходняй вобласці як магло супраціўлялася нават нацыянальна-аўтаномнаму ўладкаванню Беларусі ў складзе новай Расіі*. Так, 21 снежня 1918 г. у рэдакцыйным артыкуле газеты «Западная

---

* Гл. пра гэта ўспаміны Я. Канчара «Из истории Гражданской войны в Белоруссии в 1917–1920 гг. (по личным воспоминаниям, записям и документам)», апублікаваныя В. Скалабанам у часопісе «Беларуская думка» (2010, № 1, 2).

Коммуна» гаварылася: «Спрашивается, зачем эта игра в советские республики?.. Провозглашение советской республики Белоруссии… не в интересах социалистической революции». І толькі калі члены Белнацкама пры Наркамаце асветы РСФСР пераканалі, нарэшце, Леніна і членаў Бюро ЦК РКП(б) у неабходнасці абвяшчэння савецкай Беларусі, смаленскім бальшавікам-вялікадзяржаўнікам нічога не заставалася, як выканаць рашэнне Бюро ЦК РКП(б) аб утварэнні БССР («А то будет плохо!» — папярэдзіў іх Сталін). Аднак і на гэтым яшчэ не ўсё скончылася. Ужо была 1 студзеня 1919 г. абвешчана Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка (БССР), са Смаленска ў Мінск пераехаў Янка Купала і члены ўрада рэспублікі на чале са Зміцерам Жылуновічам (Цішкам Гартным), а газета «Звезда» 5 лютага 1919 г. рукою В. Кнорына пагрозліва пісала: «Потуга белорусской националистической интеллигенции к созданию «своего» белорусского языка, «своей» национальной культуры напрасны… Пусть примут это к сведению белорусские писатели». Гэтая пагроза-папярэджанне ў першую чаргу была скіравана, несумненна, у бок Янкі Купалы, які ў той час у Мінску распачынаў нацыянальна-асветную і культурную працу, служачы ў Камісарыяце асветы бібліятэкарам пры Беларускім народным доме. Не дзіва, што патрыятычныя вершы Янкі Купалы 1918 г. ні ў Смаленску, ні ў Мінску, пакуль там трымалася ўлада Мяснікова і Кнорына, апублікаваны не былі. Дый дзе яны маглі быць апублікаваныя, калі тады ж, на пачатку 1919 г., Бюро ЦК КП(б)Б, якое ўзначальваў той жа Кнорын, пастанавіла: «Издание белорусской газеты признать нежелательным». Як пісаў Янка Купала ў вершы «Крыўда»,

*Раскованы раб сябе выдаў —*
*Не ўзнёсся ўвысь дух чалавечы, —*

*Нявольнік пабратаўся з Крыўдай*
*І ў помач ёй даў свае плечы* [5, т. 4, 53].

Названыя вершы песняра былі надрукаваны ў тым жа 1919 г., толькі ўжо ў часе польскай акупацыі Мінска, пад якую нечакана трапіў і іх аўтар.

# З думай пра Беларусь

Польская акупацыя Мінска працягвалася з 8 жніўня 1919 г. па 11 ліпеня 1920 г. Вершы, напісаныя ў Смаленску пры савецкай уладзе, Янка Купала апублікаваў у газетах «Беларусь», «Звон», часопісе «Беларускае жыццё». І што цікава: актуальнасць іх ані крыху не зменшылася. Больш таго, нават узрасла. У той час калі бальшавікі, няхай сабе і з чыста палітычных меркаванняў, нехаця, і ўсяго толькі на невялікай частцы адной Мінскай губерні, пайшлі на абвяшчэнне БССР (праўда, праз месяц злілі яе з Літвой, аб'явіўшы аб стварэнні Літоўска-Беларускай ССР — ЛітБел), польскія ўлады не прызналі не толькі БССР (што зразумела), але і БНР і на акупаванай імі тэрыторыі не захацелі беларусам даць нават нацыянальна-культурную аўтаномію. Усё гэта болем адгукнулася ў сэрцах свядомых беларусаў, у тым ліку — Янкі Купалы, выклікаўшы ў ім рэзкі супраціў паланізатарскім памкненням «заходнікаў», як да гэтага — асімілятарскім захадам «усходнікаў». Ён паступова прыходзіць да пераканання неабходнасці для Беларусі поўнай дзяржаўна-палітычнай незалежнасці. У часе польскай акупацыі Янка Купала выпрацаваў сваю ўласную канцэпцыю дзяржаўнай незалежнасці Беларусі і ўвасобіў яе ў шэрагу вершаваных і публіцыстычных твораў.

Сёння як эпахальнае дасягненне ў дзяржаўным будаўніцтве мы ўспрымаем суверэннае існаванне Рэспублікі Беларусь. З самых высокіх трыбун атрыманне Беларуссю дзяржаўнай незалежнасці ў 1991 г. кваліфікуецца як найвыдатнейшая падзея не толькі ў жыцці беларускага народа, але і ў гісторыі ўсяго славянскага свету, а Дзень Незалежнасці Рэспублікі Беларусь (Дзень Рэспублікі) адзначаецца намі як найвялікшае свята. Праўда, яшчэ да нядаўняга часу ў друку (найперш замежным) можна было прачытаць, што незалежнасць «звалілася» на нас нечакана, што мы «не гатовыя» да дзяржаўнай самастойнасці, што беларусы быццам бы ўвогуле «недзяржаўная нацыя» і г. д. У той жа час поспехі сённяшняй Беларусі ў эканоміцы, адукацыі, навуцы, культуры, спорце, ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі неабвержна сведчаць пра вялікія дзяржаватворчыя магчымасці нашага народа, якія найбольш і найлепш раскрыва-

юцца менавіта цяпер, у час, калі «*Беларусь на куце ў хаце сваёй села*» (Янка Купала). Што да «нечаканасці», «нeспадзяванасці», «негатоўнасці» атрымання беларусамі суверэнітэту, то гэты наўмысны домысел абвяргае, у прыватнасці, творчасць народнага песняра Янкі Купалы, які яшчэ на пачатку ХХ ст. не толькі дбаў пра дзяржаўную незалежнасць для свайго народа, але і сродкамі палымянай публіцыстыкі і паэзіі распрацоўваў канцэпцыю дзяржаўнай незалежнасці Беларусі. Што ж гэта за канцэпцыя, чым яна вызначаецца?

Асягнуўшы думкаю ХХ ст., можна лёгка вызначыць драматычныя і нават трагічныя моманты ў лёсе беларускага этнасу: Першая сусветная, грамадзянская і савецка-польская войны 1914–1920 гг., рэпрэсіі ў Заходняй Беларусі і БССР у 1920–1930-я гг., Другая сусветная вайна 1939–1945 гг., тэорыя і практыка «зліцця нацый», стварэння «адзінага савецкага народа» пасляваеннага часу… Разам з тым можна ўбачыць і тое галоўнае, чаго мы дасягнулі: нарэшце мы сталі нармальнай еўрапейскай нацыяй! Сучасная наша «грамада» («не адзін мільён») на колішняе купалаўскае пытанне *«А хто там ідзе?»*, несумненна, адкажа гэтаксама, як і на пачатку ХХ ст., але ўжо цалкам нацыянальна свядома: «*Беларусы!*». І заслуга ў гэтым, несумненна, перш за ўсё вялікага Янкі Купалы, які на самым пачатку стагоддзя, на працягу трох з паловай дзесяцігоддзяў (самых, бадай, цяжкіх і адказных), абапіраючыся на зробленае папярэднікамі і на сваіх аднадумцаў-сучаснікаў, нястомна і настойліва «тварыў» нацыю: выяўляў яе самабытны духоўны воблік, паглыбляў гістарычную памяць народа, пашыраў яго нацыянальную самасвядомасць, граніў беларускую літаратурную мову, надзяляў беларусаў літаратурна-мастацкімі скарбамі сусветнага ўзроўню, вызначаў іх духоўныя арыенціры… Прычым гэтае «тварэнне» нацыі адбывалася паэтапна, у залежнасці ад канкрэтна-гістарычных абставін, але (зноў жа, дзякуючы тым самым канкрэтна-гістарычным абставінам) хутка, нават імкліва. Так, у 1920 г., выступаючы ў Мінску на юбілейным вечары, прысвечаным 15-годдзю сваёй літаратурнай працы, Янка Купала падкрэсліў: «*Ні адно на свеце адраджэнне народа, ні адна вялікая ідэя не пашыралася так шпарка, як ідэя нацыянальнага адраджэння беларускага народа. І сапраўды. Што было пятнаццаць год таму назад і што мы бачым цяпер? Пятнаццаць*

*год таму назад некалькі шалёных галоў захацелі галовамі мур прабіваць — адбудоўваць сваю закаваную ў многавяковыя кайданы Бацькаўшчыну, а сягоння без малага ўвесь народ усімі сіламі дамагаецца свайго вызвалення. Пятнаццаць год таму назад аб незалежнасці і падумаць было небяспечна, — сягоння нашы дужэйшыя суседзі самі аб гэтым па-дзяржаўнаму гавораць з намі як з народам, каторы заслужыў па людскому й Божаму праву гэту незалежнасць*» [5, т. 8, с. 93]. На жаль, яшчэ даволі доўга, ажно да канца XX ст., беларусам «*аб незалежнасці і падумаць было небяспечна*». Аднак сягоння, на пачатку XXI ст., «*нашы дужэйшыя суседзі самі аб гэтым гавораць з намі*», а дзяржаўная незалежнасць Беларусі, як і ўсіх іншых суверэнных дзяржаў свету, слушна лічыцца найвялікшай сацыяльна-палітычнай каштоўнасцю.

Як мы ведаем, матывы сацыяльнай справядлівасці ў творчасці Янкі Купалы, пачынаючы з першага верша «Мужык», акрэсліліся ў жаданні «ачалавечыць» селяніна, зрабіць яго паўнапраўным грамадзянінам, а затым — і заклікаць да барацьбы за свае сацыяльныя правы. Што да нацыянальна-патрыятычных матываў, то з самага пачатку яны ўвасобіліся ў творах чыста асветніцкага, беларусазнаўчага характару. Янка Купала цярпліва і мэтанакіравана тлумачыў беларускаму мужыку, што ён менавіта беларус, а не нейкі «тутэйшы», «паляк» або «рускі», што не трэба блытаць веру і нацыянальнасць (так называўся адзін з артыкулаў пісьменніка — «Вера і нацыянальнасць», 1914), што радзіма яго — Беларусь, якая працягнулася ад Смаленшчыны да Гародні і Бярэсця і ад Палесся да Віленшчыны, што яго роднае слова, хоць цяпер «*загнанае*», аднак «*магутнае*» і «*бяссмертнае*» (верш «Роднае слова», 1908). Яно калісьці гучала з вуснаў самых саноўных вяльможаў, а беларуская мова была дзяржаўнаю ў магутнай Беларуска-Літоўскай дзяржаве — Вялікім Княстве Літоўскім… З дня ў дзень, з году ў год Янка Купала, як калісьці вялікі Тарас Шаўчэнка ўкраінцаў, навучаў беларусаў «*любіць свабоду, родны край і мову*» («Памяці Шаўчэнкі», 1909). У шэрагу твораў паэт нават ідэалізаваў мінулае, супрацьстаўляў яго нецікаваму, небеларускаму сучаснаму («Над сваёй Айчызнай», «Курганы», «З мінулых дзён», «На Куццю» і інш.). Аднак гэтае ўзвышэнне мінулага над сучасным не было самамэтаю, імкненнем абяліць «мінуўшчыну» і ачарніць «цяперршчыну», а

выклікалася жаданнем абудзіць у беларусе беларуса, адрадзіць яго нацыянальную свядомасць, гістарычную памяць, накрэсліць аптымістычную перспектыву яго будучага вольнага і самастойнага існавання.

Ніхто так умела, далікатна, мэтанакіравана не ўзгадоўваў, не ствараў беларускую нацыю ў пачатку ХХ ст., як народны пясняр Беларусі. У 1914 г. пачалася Першая сусветная вайна. І Беларусь, як не раз гэта здаралася на працягу папярэдніх стагоддзяў, стала арэнай самых жорсткіх кровапралітных бітваў. Мільёны беларусаў зрушыліся з месца, былі мабілізаваны ў царскую армію (у тым ліку і сам Янка Купала), пайшлі на ўсход, у бежанства. Затым Першая сусветная вайна змянілася братазабойчай грамадзянскай, якая, у сваю чаргу, — савецка-польскай вайной. Пад пагрозай аказалася не толькі духоўнае, а само фізічнае існаванне нацыі. І адраджэнска-беларуская тэма ў Янкі Купалы адышла на другі план, а затым і ўвогуле знікла. Больш таго, як мы ведаем, паэт у той час наогул перастаў тварыць, з 1915 г. замоўк, здавалася, назаўсёды. І толькі лёсаносныя падзеі 1917 г. зноў заклікалі прарока нацыянальнага адраджэння да тварэння нацыі і актыўнага акрэслення яе форм дзяржаўнага існавання.

Польская акупацыя Беларусі ў 1919–1920-х гг. — мала даследаваная гісторыкамі тэма. Звычайна абыходзяць гэты перыяд у жыцці і творчасці Янкі Купалы і літаратуразнаўцы. У той жа час ён надзвычай важны, бо якраз тады, нягледзячы на розныя грамадска-палітычныя варункі, у Янкі Купалы канчаткова выспела канцэпцыя не проста нацыянальна-дзяржаўнага самавызначэння, а больш таго — незалежнага існавання Беларускай дзяржавы. Тое, да чаго ў практыцы нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва мы прыйшлі толькі ў самым канцы ХХ ст., у выніку распаду СССР. Народны пясняр гэту сваю канцэпцыю ўвасобіў не столькі ў вершаваных творах, колькі ў шэрагу актуальных і выдатных з мастацкага боку публіцыстычных артыкулаў. Прычым ён яе штораз актыўна паглыбляў, напаўняючы паняцце дзяржаўнай незалежнасці канкрэтным і глыбокім зместам.

Стрыжнёвая ідэя гэтай Купалавай канцэпцыі дзяржаўнай незалежнасці Беларусі выказана адназначна: «*Толькі адна поўная дзяржаўная незалежнасць можа даць і праўдзівую свабоду, і багатае існаванне, і добрую славу нашаму народу*» («Незалежнасць», 1919; 5, т. 8, с. 78). Таму ён як мог раскатурхваў беларусаў, рассейваў іх спадзяванне, што нехта іншы, а не самі

яны, можа вырашыць іх лёс. Аналізуючы ў газеце «Беларусь» у студзені 1920 г. «Справу незалежнасці Беларусі за мінулы год» (назва артыкула), гаворачы, як пасля адыходу немцаў на «*аграбленыя абшары з вялікім разгонам кінуліся з Усходу — расійскія бальшавікі, з Захаду — польскія нацыяналісты*», Янка Купала прароча даводзіў: «*Мінулы год паказаў нам, што інтэрнацыяналісты і ап'янелыя пабедамі нацыяналісты не дадуць Беларусі жаданага міру і незалежнасці. Яны яе дзялілі і будуць дзяліць паміж сабой, пакуль сам беларускі народ не скажа свайго апошняга слова*» [5, т. 8, с. 88]. Гэта, зрэшты, вельмі хутка, у сакавіку 1921 г., пацвердзіў савецка-польскі дагавор аб міры, на падпісанне якога ў Рыгу нават не запрасілі кіраўнікоў БССР. А паводле ж таго дагавора палова тэрыторыі Беларусі адыходзіла да Польшчы…

Янка Купала добра ўсведамляў ролю асобы ў грамадстве, у прыватнасці — у станаўленні нацыянальнай дзяржавы. Былі ўжо і яскравыя прыклады такога роду: чэх Томаш Масарык і паляк Юзаф Пілсудскі, якія адыгралі першаступенную ролю ва ўзнікненні ў 1918 г. новых дзяржаў — адпаведна Чэхаславакіі і Польшчы. Для Купалавага разумення ролі асобы ў гісторыі шмат дае, у прыватнасці, верш «Паўстань…», напісаны паэтам 28 жніўня 1919 г. Верш складаецца з чатырох актэтаў (васьмірадкоўяў), кожны з якіх змацаваны лексічнымі і сінтаксічнымі паўторамі ды рыфмоўкай і прасякнуты адной закончанай думкай. Жанравую сутнасць твора можна вызначыць як стансы. Але гэта стансы своеасаблівыя, наватарскія. Дзякуючы аднолькавай архітэктанічнай будове асобных актэтаў і скразному паўтору ў іх адных і тых жа фраз з першым пабуджальным словам «*Паўстань…*», усе васьмірадкоўі, пры іх самастойнасці, горнуцца да адной стрыжнёвай ідэі. Ідэя гэта — выявіць і абудзіць у народзе яго лідараў, правадыроў, хто мог бы ў пераломны гістарычны момант дамагчыся дзяржаўнай незалежнасці краіны. Каго ж бачыць Янка Купала на чале нацыі? Найперш (і гэта знамянальна!) выдатнага мысліцеля, «*прарока*», своеасаблівага «*варажбіта*», які «*мудрым словам*» змог бы скінуць з народа «*ўрок, якім быў век праз ворагаў спавіт*», сабраў бы «*ў адну ўсю Беларусь сям'ю*». «*Паўстань з народу нашага, Прарок!..*» — горача заклікае паэт.

Аднак думка, якою б вешчай, актуальнай яна ні была, сама па сабе, пакуль не запаліць сэрцы людскія, яшчэ не можа стаць

рэальнай сілай. Побач з выдатным прарокам павінен стаць выдатны паэт, пясняр, «*былых і будучых вякоў баян*», які б, як бура, загудзеў «*пад звон кайдан*», бурным словам-клічам пранёсся «*над Беларусяй з краю ў край*», над курганамі зайграў бы перуном, распаліў бы «*ў сэрцах спячых*» свяшчэнны пажар. «*Збудзіць нябожчыкаў паўстань, Пясняр!*». Толькі пясняр, палкае пясняр-скае слова, паводле Янкі Купалы, можа ажывіць «*нябожчыкаў*». Ажывіць, каб яны ўзнялі горда галовы, развінулі плечы, сталіся воінамі, ваякамі за свой край, народ.

А сярод іх павінен з'явіцца адзін, самы смелы, мужны, самаадданы, які б — «*волатам на вогненным кані*» — павёў «*народ аграблены*» ў паход за Бацькаўшчыну, змёў бы з яе палёў «*чужых бадзяк*», стаў бы на варце «*гранічнае мяжы*»… «*Паўстань з народу нашага, Ваяк!*» — моліць-просіць Янка Купала.

Лагічнае ж завяршэнне высілкаў Прарока, Песняра і Ваяка паэт бачыць у стварэнні Беларускай дзяржавы, на чале якой павінен стаць буйны дзяржаўны дзеяч. Таму — «*Паўстань з народу нашага, Ўладар!*» Паўстань, каб «*адбудаваць свой збураны пасад*». Свайго дзяржаўца «*жджэ Беларусь даўно*», яго тут чакае «*ўладарства Божы дар*»…

Такім чынам, у стансах «Паўстань…» скандэнсавана, па сутнасці, уся паэтава праграма нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва. Дакладней — разуменне кіруючых сіл гэтага будаўніцтва. Быццам маг-чараўнік, Янка Купала выклікáў з народных нетраў чараўнічыя сілы, якія б змаглі павярнуць ход гісторыі, надаць ужо абвешчанай Беларусі (а ўжо былі, як мы памятаем, і БНР, і БССР, і ЛітБел) вагу сапраўднай, а не папяровай дзяржаўнасці.

*Паўстань з народу нашага, Прарок <…>*
*Зняць путы Бацькаўшчыне ўстань, Прарок!*

*Паўстань з народу нашага, Пясняр <…>*
*Збудзіць нябожчыкаў паўстань, Пясняр!*

*Паўстань з народу нашага, Ваяк <…>*
*Свой край заваяваць паўстань, Ваяк!*

*Паўстань з народу нашага, Ўладар <…>*
*Пад беларускі сцяг прыйдзі, Ўладар!* [5, т. 4, с. 65–66].

Відавочна, знаёмы з тагачаснымі нацыянальнымі кадрамі — з боку як бальшавікоў, так і «незалежнікаў», — паэт не бачыў сярод іх ні «прарокаў», ні «ваякоў», ні «песняроў», хоць быць «уладарамі» многія з іх, несумненна, хацелі. Тым больш ён не меў на ўвазе Юзафа Пілсудскага, чалавека не «з народу нашага», у чым Янку Купалу беспадстаўна абвінавачвалі супрацоўнікі НКУС у 1930 г. Што давала падставу для такога абвінавачвання? Сапраўды, верш быў надрукаваны ў газеце «Звон» яе тагачасным рэдактарам Язэпам Лёсікам 17 верасня 1919 г., за дзень да прыезду галоўнакамандуючага польскай арміі Пілсудскага ў Мінск. Але ж, па-першае, верш быў напісаны паэтам на хутары Карлсберг (недалёка ад Радашковічаў) яшчэ за тры тыдні перад той нечаканай падзеяй, якую, зразумела, ніхто ў той ваенны час не афішаваў і пра якую Янка Купала не мог ведаць. Па-другое, да Пілсудскага можна было дастасаваць найменні «ваяка», нават «уладара», толькі не «прарока» і не «песняра». Зрэшты, песняром незалежнай Беларусі ён мог стаць і станавіўся сам. Гэтаксама як і прарокам.

Янка Купала разумеў, што кожная самастойная дзяржава павінна мець сваю нацыянальную сімволіку — Сцяг, Герб, Гімн. Паэт радаваўся, бачачы, што беларускі сцяг, як адзін з асноўных сімвалаў незалежнай дзяржавы Беларусь, «*уваскрос*» («Беларускі сцяг уваскрос!»; 5, т. 8, с. 65). Горш было з гімнам, з якім выходзіла «*нейкая неразбярыха*». Існавала некалькі песень, што выконвалі функцыі гімна («А хто там ідзе?», «О Божа, спасе наш», «Працуй, беларусе…», «Не загаснуць зоркі ў небе…»), але не было таго аднаго, усеагульна прызнанага, які б выконваў функцыі беларускага нацыянальнага гімна. «*Справа гэта вельмі важная*,— падкрэсліваў Янка Купала,— *і трэба, канешна, каб наша ідэйная інтэлігенцыя — паэты і кампазітары — заняліся ёй паважна*» («Справа беларускага нацыянальнага гімна»; 5, т. 8, с. 90). Незалежная дзяржава павінна абапірацца на рэальную сілу, і не толькі сацыяльна-палітычную, але і вайсковую. Самастойная дзяржава не можа існаваць без свайго войска. Таму «*войска беларускае павінна быць, і яно будзе*», трэба «*даць беларусам магчымасць бараніць свае гранічныя слупы войскам беларускім*», бо «*само жыццё гэтага вымагае, вымагае гэтага самаабарона*» («Беларускае войска»; 5, т. 8, 64). Паэт вітаў стварэнне ў Мінску Беларускай Вайсковай Камісіі, якая пачала

рэгістраваць беларусаў-афіцэраў, фарміраваць беларускае войска, хоць польскія ўлады пэўны час не дазвалялі гэтага, баючыся (і не беспадстаўна), што зброя беларусаў будзе накіравана супраць іх. Янка Купала, ідэалагічна забяспечваючы нацыянальнае беларускае войска, нават напісаў вялікі цыкл вершаў-песняў «На вайсковыя матывы» (1920 г.; 5, т. 4, с. 81–90) — дзеля духоўнага спажытку маладых беларускіх жаўнераў. Паэт увогуле рабіў стаўку на моладзь, радаваўся, што ў час, калі «*шырокі размах прыняла наша справа над адбудаваннем сваёй незалежнай Бацькаўшчыны*», моладзь актыўна пачала ўключацца ў грамадскае жыццё. Ён з радасцю адзначаў, што «*адбудаванне незалежнай Беларускай дзяржавы бярэ ў свае рукі наша моладзь*», падкрэсліваў: «*Сягодня ў нас творыцца армія, творыцца рукамі гэтай самай гарачай беларускай моладзі, ствараюцца па гарадах, мястэчках і вёсках беларускія нацыянальныя камітэты, усё рукамі той жа самай беларускай моладзі*» («Моладзь ідзе!»; 5, т. 8, с. 69). І гэта было не заігрыванне з моладдзю, а пазіцыя чалавека, умудронага вопытам пражытага, які бачыў у моладзі адну з асноўных рухальных сіл грамадства.

Што да сацыяльна-палітычнага ўладкавання будучай вольнай Беларусі, то, згодна з Янкам Купалам, гэта будзе сапраўды дэмакратычная дзяржава, у якой «*усе роўныя перад дзяржаўнай уладай, усе роўныя перад правам і законам*», «*кожны грамадзянін нашага краю павінен карыстацца з роўнай пашаны, з роўнай абароны ў вачах права свету*» («Незалежная дзяржава і яе народы»; 5, т. 8, с. 81, 80). Нацыянальныя меншасці ў гэтай дзяржаве будуць «*вольна развіваць сваю нацыянальную культуру і самабытнасць*», бо «*свабодны беларус у сваёй незалежнай дзяржаве будзе куды прыхільней адносіцца да іх, чымся беларус, паднявольны чужынцам*» [5, т. 8, с. 80]. «*Ва ўсіх дзяржаўных і грамадзянскіх установах, пачынаючы ад дзяржаўнага сойма і канчаючы мястовымі і валаснымі самаўрадамі, — павінны мець сваё месца і нацыянальныя меншасці, разумеецца, прапарцыянальна беларускай большасці*» [5, т. 8, с. 81].

Янка Купала заўсёды быў на баку «бедных  і загнаных», выступаў за сацыяльную справядлівасць. Услаўляючы дзяржаўную незалежнасць, ён, разам з тым, не забываўся і пра сацыяльную справядлівасць. Паколькі ў царскай Расіі беларусы былі «мужыцкай нацыяй», то асабліва вострым тут было зя-

мельнае пытанне. Выказваючы надзею сялян на справядлівае вырашэнне гэтага пытання, Янка Купала ў артыкуле «Зямельная спекуляцыя» пісаў: «*Беларускі земляроб верыць і чакае, што панская зямля пяройдзе раней ці пазней у яго рукі і што гэтай зямлі для яго хопіць, абы толькі падзяліць яе па справядлівасці, як прыстала на добры лад і парадак у дзяржаве*» [5, т. 8, с. 62]. Ён выкрывае «паноў-абшарнікаў», якія сталі спекуляваць зямлёй, «*стараюцца як мага перагнаць загоны малых і вялікіх двароў на царскія рублі*» [5, т. 8, с. 60]. Прычым вырашэнне ўсіх пытанняў — ад палітычных да сацыяльных — паэт звязваў з актыўнасцю саміх насельнікаў Беларусі: «*Самы найлепшы прыяцель, самы найлепшы збаўца наш ад нашага ліхалецця — гэта мы самі. І калі не хочам загінуць, калі не хочам быць вечнымі рабамі, — павінны пакінуць мы благую прывычку думаць, што нехта прыйдзе і выратуе нас з нашай бяды, з нашай няволі*» («Больш самачыннасці»; 5, т. 8, с. 60).

Незалежная, вольная Беларусь у яе этнаграфічных межах… Да гэтага імкнуўся Янка Купала ў 1919–1920 гг., гэта прадвызначала пафас яго літаратурнай творчасці і грамадскай дзейнасці як Прарока і Песняра. Купала-прарок, Купала-мысліцель вылучаў ідэі, вызначаў канкрэтныя арыенціры беларускай дзяржаўнасці. Купала-пясняр агонь гэтых ідэй запрасоўваў у абалонку паэтычнага і публіцыстычнага слова, якое вершамі і артыкуламі ўспыхвала на белым полі «Беларусі», «Звона», «Руні», «Беларускага жыцця» і іншых тагачасных беларускіх выданняў.

Разам з абуджэннем, палітычнай актывізацыяй нацыі Янка Купала ўсё рабіў дзеля яе кансалідацыі. У той час ішла савецка-польская вайна, і Беларусь, як пісаў паэт у вершы «Новы год» (1919), «*бязбожна жыўцом парэзалі на часці*». Для паэта — бацькі нацыі — самае балючае было нават не гэта, а тое, што «*брат проць брата стаў варожа / І памагае край раскрасці*». Гэта было не толькі на беларускай тэрыторыі, акупаванай легіянерамі Пілсудскага, але і на землях, занятых Чырвонай Арміяй. Полымя класавай, грамадзянскай барацьбы знішчала, спапяляла маладую беларускую нацыю, абяскроўлівала яе. Янка Купала як ідэолаг нацыянальнага адраджэння не мог не бачыць гэтай небяспекі. І ён, з аднаго боку, гуртуе нацыянальныя сілы, аб’ядноўвае іх. Піша вершы, артыкулы, бярэцца нават за пераклад «Слова пра паход Ігаравы», захоплены яго

кансалідуючай ідэяй — яднанне ўсходнеславянскіх княстваў перад пагрозай татара-мангольскага нашэсця. Вядома, і пагроза ў пачатку ХХ ст. была зусім іншая, і не ўсіх усходніх славян, а ўласна беларускія нацыянальныя сілы меў на ўвазе перакладчык. Але звышзадача Купалы-перакладчыка была тая самая, што і ў аўтара «Слова»: гуртаваць, кансалідаваць народ дзеля яго самазахавання, самазберажэння. З другога боку, паэт выступае супраць розных здраднікаў, адшчапенцаў, якія за лыжку поліўкі з чужацкага стала гатовыя здрадзіць нацыянальным інтарэсам. У вершы «Пяць сенатараў» Янка Купала з'едліва высмеяў адшчапенцаў, якія не сароме́ліся прынізіцца, абы толькі мець падаянку ад палякаў. Побач з гэтым ён выкрывае палітычны гандаль «усходнікаў» і «заходнікаў», якія, прыкрываючыся высокімі словамі аб вызваленні народаў, у імя «панавання ўсясільнага молаха-золата» вырашаюць свае справы за кошт гэтых народаў.

Трэба сказаць, што Янка Купала нікольк і не прынізіў сваёй шляхетнай годнасці не тое што ўслугоўваннем, а нават сімпатызаваннем польскім акупантам. З другога боку, не злоўжываў ён і адноснай бяспекай, каб з-за лініі польска-савецкага фронту «даставаць» бальшавікоў. Паэт з пазіцыі беларускага незалежніка, з вышыні беларускай дзяржаўнасці даволі аб'ектыўна ацэньваў дзеянні адных і другіх. Хаця такая аб'ектыўнасць у той ваенны час вымагала немалой смеласці, мужнасці. Бо прылюдна сказаць у пачатку 1920 г., што «*праз два гады на Беларусі / Народ аб радасці не сніў*», што «*ўсюды шалее катні здзек і гнеў*» і скрозь «*звініць ланцуг, як і звінеў*» (верш «25.ІІІ.1918–25.ІІІ.1920. Гадаўшчына-памінкі»; 5, т. 4, с. 77–78) — гэта значыла супрацьпаставіць сябе польскім уладам, самому Пілсудскаму, якія на ўвесь свет заяўлялі аб вызваленні беларусаў з-пад «бальшавіцкага ярма». Янка Купала нават у прысутнасці польскіх ваенных уладаў горда заяўляў: «*Перуновым голасам будзем гаварыць з суседзямі сваімі, бліскавічнымі літарамі будзем упісваць сваю гісторыю ў векавечную кнігу гісторыі народаў*» [5, т. 8, с. 94].

Такія асноўныя моманты купалаўскай канцэпцыі дзяржаўнай незалежнасці, выпрацаваныя (выпакутаваныя) ім з думай пра Беларусь. Логіку Прарока дапаўнялі эмоцыі Песняра, які, сам горача паверыўшы ў ідэю нацыянальнага адраджэння, запальваў гэтай ідэяй іншых: «*Арлінparam узмахам агняцветнай думкі аб на-*

*шай волі мы скінулі і патапталі даўгавечную брахню, — брахню, што Беларусі не было і няма. Сваім векапомным і магутным духам народным, што адважна сягае на сонца, мы паказвалі свету, што Беларусь была, ёсць і будзе*» («Прамова на 15-годдзі літаратурнай працы», 1920; 5, т. 8, с. 93). І гэтую веру паэта не пахіснулі ўжо ніякія віхуры, хоць вельмі хутка яго надзея на існаванне незалежнай Беларусі пагасла. Аднак, як мы бачым, не канчаткова. І сёння, жывучы ў незалежнай Рэспубліцы Беларусь, вучачыся жыць ва ўмовах самастойнай дзяржаўнасці, мы павінны памятаць пра ўсіх, хто дбаў пра незалежную дзяржаву для беларусаў. І ў першую чаргу — пра вялікага Янку Купалу.

## Перад новай будучыняй

11 ліпеня 1920 г. часці Чырвонай Арміі зноў увайшлі ў Мінск. 30 ліпеня была пераабвешчана БССР, паколькі тое першае, смаленскае, абвяшчэнне рэспублікі было скасавана ўтварэннем ЛітБел, ды яго мала хто і помніў. А ў сакавіку наступнага года ў Рызе быў заключаны савецка-польскі мірны дагавор, што па жывому распалавініў Беларусь, замацаваў за Польшчай усе заходнебеларускія землі. У жыцці Янкі Купалы адгарнулася новая старонка…

Хоць і на зусім невялікім лапіку сваёй этнаграфічнай тэрыторыі (астатняя аказалася ў складзе Польшчы і РСФСР) Беларусь — насупор унутраным і знешнім антыбеларускім сілам — усё ж існавала. Існавала ў канкрэтнай дзяржаўнай форме савецкай сацыялістычнай рэспублікі. Відавочна, Янка Купала не спадзяваўся менавіта на такое вырашэнне сацыяльных і нацыянальных праблем роднага народа. Ён, у прыватнасці, добра помніў працу «чразвычайкі» ў 1919 г., у прамежку паміж нямецкай і польскай акупацыямі Беларусі: «*Аб Беларусі тады не можна было і заікнуцца <…>. Курганы сотняў нявінна расстраляных… Над Менскам павіс крывавы кашмар. Людзі на вуліцах баяліся голасна гаварыць. Кожную ноч — павальныя вобыскі…*» («Справа незалежнасці Беларусі за мінулы год»; 5, т. 8, с. 82, 84). Ідэалы Кастрычніцкай рэвалюцыі (улада — працоўнаму народу ў форме Саветаў, фабрыкі — рабочым, зямля — сялянам, паняволеным нацыям — нацыянальна-дзяржаўнае самавызна-

чэнне) Янку Купалу, як чалавеку з народных нетраў, былі блізкія. Уласна, за гэтыя, ці прыблізна гэткія, ідэалы ён і змагаўся ўвесь перадкастрычніцкі час, імі ён марыў і жыў. I вось цяпер, нягледзячы ні на што, на палітычнай карце свету з'явілася яго, Янкі Купалы, рэспубліка — Беларусь! Прычым БССР, як і РСФСР, Украіна, Закаўказская Федэрацыя, абвяшчалася як незалежная рэспубліка, звязаная з астатнімі трыма на аснове двухбаковых пагадненняў. Гэта пасля ўжо, у канцы 1922 г., Сталін задумае пакінуць адну РСФСР, уключыўшы ў яе тры астатнія як аўтаноміі, і хвораму Леніну давядзецца прыкласці тытанічныя намаганні, каб хаця б намінальна пакінуць не адну ўнітарную дзяржаву, а саюз дзяржаў — СССР. Як самастойны суб'ект міжнароднага права, Беларусь пачалі прызнаваць асобныя замежныя краіны. Ды і «гэтыя саветы» былі ўжо некалькі іншыя, чым «тыя», ранейшыя, — і ў ідэалагічным, і ў сацыяльным, і нават у нацыянальным сэнсе. Неяк неўпрыкмет у Беларусі не стала армяніна Мяснікова (Мяснікяна), латыша Кнорына (Кнорыньша)… Ва ўладных структурах з'явіліся не толькі этнічныя, але і свядомыя беларусы: Аляксандр Чарвякоў, Мікалай Галадзед, Усевалад Ігнатоўскі, Зміцер Жылуновіч, Язэп Адамовіч, Аляксандр Адамовіч, Дзмітрый Прышчэпаў, Антон Баліцкі, Пётр Ільючанак…

Вядома, Янка Купала не мог ведаць таго, што ведаем сёння мы, а менавіта жорсткага змагання ў кіраўніцтве РКП(б) паміж прадстаўнікамі дзвюх ліній — ленінскай і сталінскай. Гэтае змаганне, што ўплывала на канкрэтную палітыку, закранала розныя аспекты: эканоміку, нацыянальнае будаўніцтва, адносіны да сялянства, да інтэлігенцыі, нават мараль… Ленін, не ў прыклад Сталіну і некаторым іншым тагачасным кіраўнікам партыі, валодаў гібкасцю мыслення, быў не толькі ўмелым стратэгам, але і тактыкам. Так, калі ён убачыў, што «ваенны камунізм» страшнейшы за Антанту і савецкая ўлада можа быць задушана смяртэльнай рукой голаду, ён пераканаў партыю ў неабходнасці новай эканамічнай палітыкі (НЭП) — развіцця рынкавых адносін, існавання прыватнага капіталу, замены харчразвёрсткі харчпадаткам і інш. Прычым, паводле Леніна, НЭП засноўваўся «ўсур'ёз і надоўга». Увогуле, пасля Кастрычніка Ленін перагледзеў многія свае ранейшыя погляды і ўпадабанні, імкнуўся, як ён выказваўся, «змяніць увесь пункт

погляду на сацыялізм». На жаль, хвароба, што адхіліла яго ад улады, і ранняя смерць не далі яму да канца здзейсніць задуманае…

Значна пераглядзеў Ленін і сваё ранейшае (па сутнасці — Марксава) разуменне нацыянальнага пытання, дзе класавае, сацыяльнае выразна пераважала над нацыянальным. Імкнучыся да таго, каб камуністычная ідэалогія пранікла ва ўсе, у тым ліку і ў нацыянальныя, грамадскія поры, Ленін у тэзісах па нацыянальнаму пытанню, якія ляглі ў аснову рашэнняў X (сакавік 1921 г.) з’езда РКП(б), а таксама ў прадыктаваным на бальнічным ложку звароце да партыі («Да пытання аб нацыянальнасцях ці аб «аўтанамізацыі», снежань 1922 г.) стаў, па сутнасці, на пазіцыі нацыянал-камуністаў, якіх потым пачалі абражальна называць «нацдэмамі» (нацыянальнымі дэмакратамі). Ленінскія ідэі ляглі ў аснову «каранізацыі» — тагачаснай афіцыйнай палітыкі КПСС па развіцці культур раней прыгнечаных, зрусіфікаваных царскай Расіяй нацый, укараненні іх родных моў у розныя сферы навукі, культуры, партыйнага і дзяржаўнага будаўніцтва. У Беларусі такая палітыка атрымала назву беларусізацыі. Не дзіва, што Сталін, які заўсёды па гэтаму пытанню заставаўся на пазіцыях Карла Маркса (задача камунізму — стварыць класава аднароднае грамадства, ліквідаваць разнастайнасць дзяржаў, нацый, культур, моў) і настойліва імкнуўся стаць на чале новай, савецкай імперыі, за вочы называў Леніна «нацыянальным лібералам».

Зразумела, Янку Купалу былі бліжэй ленінскія пастулаты, якія знаходзілі тады ўвасабленне ў некаторых партыйных рашэннях, у выказваннях і практычнай дзейнасці асобных прадстаўнікоў новай беларускай улады. Ён — і не толькі ён — пераконваўся: савецкая ўлада на справе імкнецца вырашыць нацыянальнае пытанне, стварыць належныя ўмовы для развіцця беларускай мовы, культуры, навукі, народнай гаспадаркі. Перавагі савецкай нацыянальнай палітыкі асабліва былі бачныя пры параўнанні з тым, што дзеялася на заходнебеларускай тэрыторыі. У той час як у Польшчы зачыняліся беларускія школы, праследаваліся беларускія грамадскія арганізацыі, выданні, у БССР адчыняліся нацыянальныя навучальныя і навуковыя ўстановы, бібліятэкі, музеі, архівы, тэатры. Так, у 1920 г. распачалі працу Беларускі першы тэатр (цяпер — Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы) і Беларускі трэці тэатр (вандроўны тэатр Уладзіслава Галубка), у 1921 г. — Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, у 1922 г. —

Інстытут сельскай і лясной гаспадаркі (у 1925 г. пераўтвораны ў Беларускую дзяржаўную акадэмію сельскай гаспадаркі), Інстытут беларускай культуры, з якога ў 1929 г. вырасла Беларуская акадэмія навук, Універсітэцкая і Дзяржаўная бібліятэкі, Дзяржаўны музей, Цэнтральны архіў і інш. Узніклі Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі (1921), беларускамоўныя перыядычныя выданні: у 1920 г. — часопісы «Вольны сцяг», «Зоркі», газета «Савецкая Беларусь» (да 1933 г. выходзіла на беларускай мове), у 1922 г. — часопіс «Полымя», у 1923 г. — часопіс «Маладняк» і інш. Беларуская мова паступова станавілася мовай справаводства, афіцыйнай мовай дзяржаўных і грамадскіх устаноў. У ліпені 1924 г. на другой сесіі ЦВК БССР была прынята пастанова «Аб практычных мерапрыемствах па правядзенні нацыянальнай палітыкі», якой афіцыйна абвяшчаўся пераход да палітыкі беларусізацыі. Адчувальна пашырыліся адміністрацыйна-тэрытарыяльныя межы БССР. У 1924 г. па рашэнні ЦВК СССР да рэспублікі адышлі 15 паветаў і шэраг валасцей Віцебскай і Смаленскай губерняў, у 1926 г. — Гомельскі і Рэчыцкі паветы РСФСР. Не забываліся і культурныя запатрабаванні нацыянальных меншасцяў тагачаснай Беларусі. Побач з беларускай, дзяржаўнымі мовамі ў рэспубліцы былі аб'яўлены руская, польская і яўрэйская. Беларуская лічылася асноўнай, паколькі звыш 80 % насельніцтва з'яўляліся беларусамі, але ва ўсіх дзяржаўных установах прымаліся дакументы і на астатніх мовах. Больш таго, ствараліся нацыянальныя сельсаветы (яўрэйскія, польскія, літоўскія і латышскія), узнікалі нацыянальныя дзяржаўныя тэатры (рускі, яўрэйскі і польскі), выходзілі кнігі і газеты на розных мовах.

Такая рэальнасць Янку Купалу была даспадобы. У ёй ён пачынае актыўна ўдзельнічаць: рэдагуе часопіс «Вольны сцяг» (1920–1922), пачынаючы з 1921 г. працуе ў Навукова-тэрміналагічнай камісіі Народнага камісарыята асветы БССР (пазней — Інстытута беларускай культуры), абіраецца старшынёй яе літаратурна-мастацкай секцыі*. Актыўна займаецца і літаратурнай творчасцю. Вітаючы землякоў з Новым, 1922

* Пра вынікі працы паэта па стварэнні навуковай тэрміналогіі гл. у артыкуле «Янка Купала — словапісец».

годам, вычувае новы, больш спагадлівы для беларусаў, час: «*З Новым годам, што крыніцай / Новай пойдзе ў пераходзе, / Беларуская зямліца, / Беларускі мой народзе!*» («З Новым годам!»; 5, т. 4, с. 105). Радуецца, што «*Вяртаюцца з выраю жоравы, гусі…*» (1921; 5, т. 4, с. 97) — вяртаюцца сыны беларускія да сваёй Бацькаўшчыны-Беларусі. Перакладае на беларускую мову партыйны гімн «Інтэрнацыянал» (1921), услаўляе рэвалюцыянера-рамантыка, тагачаснага галоўнага рэдактара «Савецкай Беларусі» Сцяпана Булата («На смерць Сцяпана Булата», 1921), першага старшыню ўрада БССР Зміцера Жылуновіча («Цішку Гортнаму», 1923), гісторыка і грамадскага дзеяча, наркама асветы БССР Усевалада Ігнатоўскага («Наш летапісец», 1924). Шчыра радуецца за Леніна і бальшавікоў, якіх, нарэшце, пачала прызнаваць Еўропа і запрасіла на міжнародную канферэнцыю ў Геную («Пазвалі вас», 1922), піша прывітанне дэлегатам IV Усебеларускага з'езда Саветаў (1922)…

У той жа час паэт, радуючыся таму новаму, што разгарнула рэвалюцыя перад беларусамі, не мог не звярнуць увагу і на адмоўнае. У прыватнасці, яно ў Янкі Купалы ўвасобілася ў алегарычным вобразе трутня, які «*пустапасам жыў*», але «*неяк з пчолкамі здружыў*», пранік у вулей і вось — «*Пчолкі мёд нясуць да сот, / Труцень есць ды есць той мёд*» («Бай», 1921; 5, т. 4, с. 96–97). Кожны чытач купалаўскага верша ўяўляў сваіх «трутняў». Але тое, што яны існавалі — ці ўнутрана перарадзіўшыся, адрокшыся ў мірны час ад ранейшых рэвалюцыйных ідэалаў свабоды, роўнасці і братэрства, ці прымазаўшыся, прыстасаваўшыся да новай улады — у гэтым не было сумнення. Аднаго з такіх «трутняў», Мікіту Зноска, «тутэйшых» прыстасаванцаў да любой улады, у тым ліку і да савецкай, злосна высмеяў Янка Купала ў камедыі «Тутэйшыя» (1922; 5, т. 7, с. 263–332). Дзеянне камедыі адбываецца ў Мінску ў 1918–1920 гг., калі ўлада некалькі разоў пераходзіла з рук у рукі: савецкая — нямецкая — савецкая — польская — зноў савецкая… У адпаведнасці з гэтым «тутэйшы» Мікіта мяняе сваю палітычную арыентацыю, свае паводзіны, нават прозвішча: са Зноска становіцца то Знасілавым, то Знасілоўскім. Урэшце, пачуўшы, што «*заводзіцца нейкая, меджду протчым, Беларуская Рэспубліка*», гатовы стаць «*на беларускі бок*»…

Мы гаварылі пра змаганне ў кіраўніцтве камуністычнай партыі і савецкай дзяржавы розных палітычных ліній. Цікава, што і Янка Купала як паэт своеасабліва падключыўся да гэтага змагання. Яго верш «…О так! Я — пралетар!..» (1923; 5, т. 4, с. 124) не мае назвы, пачынаецца са шматкроп'я, пачатковага недасказу. Тым самым паэт нібы ўключаецца адразу ў дыскусію, дыскусію па нацыянальнаму пытанню. Верш — яскравы прыклад ролевай лірыкі: яго аўтар выступае ад імя «Я-пралетара», учарашняга «*раба пакутнага*», а сёння «*цара магутнага*», «*зямлі ўладара*». Дарэчы, гэты вобраз «раба-цара» паэт яшчэ раней ужыў у вершы «Пазвалі вас» («*І вы з рабоў пайшлі ў цары*»). «Пралетар» спавядаецца: «*Мне Бацькаўшчынай цэлы свет. / Ад родных ніў я адвярнуўся*». Для яго гэта натуральна, бо ён слепа верыць у тое, што «камунізм сатрэ ўсе граніцы» (лозунг бальшавікоў). Адна «*бяда*», якую ён яшчэ «*не збыў*», не дае яму спакою: «*Мне сняцца сны аб Беларусі*». Ведаючы Янку Купалу, яго непахісны патрыятызм, нельга тут не адчуць магутнай іроніі ў адносінах да гэтай споведзі «Я-пралетара», у зборны вобраз якога ўкладваецца не толькі беларусафоб Кнорын, але і сам Сталін. Менавіта сталінскі «інтэрнацыяналізм» (разумей: касмапалітызм) паэт і «паддзеў» іранічна ў сваім вершы. «Карыкатура на пралетарскі інтэрнацыяналізм» — так адкрыта зласліва, але ўвогуле слушна вызначыў сутнасць купалаўскага твора адзін з тагачасных беларускіх крытыкаў.

Інтанацыйная палітра Купалы-паэта ўвогуле вельмі шырокая: спакойны аповед-развага змяняецца палкім пафасам, усмешка — сумам, іронія — сарказмам. У 1922 г. паэт напісаў адзін з праграмных вершаў новага часу «Перад будучыняй» (5, т. 4, с. 106–107). У ім ён з адкрытым забралам вырушыў у бой супраць тых, хто «*засеў за наш бяседны, сытны стол / І кідае, як з ласкі, нам агрызкі, / А мы к зямлі з падзякай гнёмся ў пол*». Гэта ўжо не проста «трутні», а «трутні» — гаспадары ў чужым доме. Таму тут да месца не ўсмешка, нават не іронія, а востры сарказм, з дапамогай якога паэт імкнуўся разбудзіць нацыю, нацыянальную інтэлігенцыю ад, на жаль, традыцыйнай культурна-палітычнай беларускай спячкі, заклікáў беларусаў актыўней — з думаю пра будучыню — уключацца ў дзяржаватворчы працэс, не баяцца разам з асобнымі пасадамі браць на сябе адказнасць за сваю рэспубліку, яе эканоміку, культуру,

навуку, суверэнітэт… Пры гэтым Янка Купала не шкадаваў вострых, па-народнаму дасціпных выразаў для характарыстыкі нацыянальнай інтэлігенцыі, характарыстыкі надта горкай, але справядлівай: «*Заціснуты, задушаны, як мышы / Пад жорсткім венікам…*»; «*Пакрыўленыя колісь нашы душы / Дагэтуль выпрастаць не ў моцы йшчэ*»; «*Мы ў страху… дум крутня… разбежнасць… / Без толку крыллем лопаем, як цьмы*»; *«Нат у вочы глянуць, плюнуць смела / Не смеем, стоптаныя на пясок»* і г. д. Як тут не прыгадаць яго колішні, напісаны пры польскай акупацыі артыкул «Больш самачыннасці» (1919; 5, т. 8, с. 59–60) з яго заклікам: «*Дык больш самачыннасці, больш смеласці к будаванню свайго новага незалежнага жыцця»*! Яшчэ тады паэт заклікáў «*пакінуць благую прывычку думаць, што нехта прыйдзе і выратуе нас з нашай бяды, з нашай няволі*». Цяпер ён таксама — толькі ўжо з сарказмам — гаворыць пра тое самае: *«…прысягаем, клічам Бога ў сведкі, / Што мы — не мы, што нехта вінават…»*

Верш «Перад будучыняй» аказаўся настолькі востра актуальным, што тыраж альманаха «Адраджэнне» (1922), у якім ён першы і апошні (пры жыцці паэта) раз друкаваўся, быў канфіскаваны. Аднак Янка Купала ўсё-такі паспеў пазнаёміць з ім паважаную аўдыторыю — 19 сакавіка 1922 г. у БДУ, на вечарыне, прысвечанай яго творчасці.

## Услаўленне безназоўнага

Верш «Перад будучыняй» заканчваўся страфой з пытальнай інтанацыяй:

*Няўжо нас не аб'ясніць розум ясны*
*І не пакінем біцца з кута ў кут?*
*Няўжо кліч вечны будзе ў нас напрасны —*
*Кліч бураломны: вызваленне з пут?!* [5, т. 4, с. 107].

Будзячы беларусаў да нацыянальна-стваральнай працы, Янка Купала, відавочна, і сам не да канца быў упэўнены ў поспехах сваіх намаганняў. Але час ішоў, «вызваленне з пут» адчувалася ўсё выразней. Беларусы былі пераважна працоўнай, дакладней — сялянскай, мужыцкай нацыяй. Перадзел панскай зямлі,

надзяленне ёю беззямельных, развіццё рынкавых адносін, доступ да адукацыі, навукі — усё гэта адпавядала іх інтарэсам, а значыць, радавала і народнага заступніка Янку Купалу. Упэўненасці ў светлай будучыні народа прыдаваў і ўзяты партыяй ленінскі курс на свабоднае развіццё раней прыгнечаных нацый і нацыянальных культур, што пацвердзілі рашэнні чарговага XII з'езда РКП(б) (красавік 1923 г.), якія па нацыянальнаму пытанню былі яшчэ больш радыкальныя, чым рашэнні X з'езда партыі. Асабліва паэт радаваўся за моладзь — сапраўдную будучыню нацыі і дзяржавы. У вершы «Арлянятам», гэтай купалаўскай одзе маладосці, якой пачынаўся ў 1923 г. першы нумар новага часопіса «Маладняк», паэт з маладзечым імпэтам заклікаў:

*Гэй, узвейце сваім крыллем,*
*Арляняты, буйна, бурна,*
*На мінулых дзён магіле,*
*Над санлівасцю хаўтурнай!..*

*У маланках перуновых,*
*З гулкім гоманам грымотаў*
*Для вякоў дыхтуйце новых*
*Нечуваныя ясноты* [5, т. 4, 119].

Паэт выказваў цвёрдую веру, што менавіта працоўная моладзь, якой «*Серп і Молат даравала доля*», змяце канчаткова «*цень мінуўшчыны праклятай, / Дзе бізун гуляў з нагайкай*». Рамантычная прыўзнятасць, шчырасць выказвання, празрыстая, высокапаэтычная сімволіка (арляняты, сярпы, косы, зерне «чыстае, як вока», песні і г. д.), мажорны харэічны метр, пругкія кароткія радкі з чатырох і трох стопаў, узнёслая інтанацыя — усё гэта надало вершу-закліку, вершу-звароту, вершу-пасланню не толькі асаблівую пафаснасць, але і сілу пераканання, надзвычайную душэўнасць. Верш зрабіў агромністае ўражанне, і не толькі на моладзь, але і на ўсё грамадства. Ён адразу стаў хрэстаматыйным, паўплываў на творчасць многіх маладнякоўцаў (Міхась Чарот, Паўлюк Трус, Валеры Маракоў і інш.), зрабіўся «папулярным рэвалюцыйным гімнам усёй савецкай моладзі» (Алесь Якімовіч).

На пачатку 1924 г. памёр Ленін. Янка Купала адгукнуўся на жыццё і смерць правадыра перакладам на беларускую

мову паэмы ўкраінскага паэта Валяр'яна Палішчука «Ленін» (апублікавана ў першым нумары часопіса «Полымя» за той жа год). Пераклад, думаецца, быў выкліканы не нейкімі кан'юнктурнымі меркаваннямі, а сапраўднай павагай перакладчыка да правадыра, думкі якога былі замацаваны ў рашэннях апошняга пры ягоным жыцці партыйнага з'езда. А ў рашэннях, якія, несумненна, імпанавалі Янку Купалу, была пастаўлена мэта «дабіцца таго, каб… органы нацыянальных рэспублік і вобласцяў ствараліся пераважна з людзей мясцовых, якія ведаюць мову, быт, норавы і звычаі адпаведных народаў; былі выдадзены спецыяльныя законы, якія б забяспечвалі ўжыванне роднай мовы ва ўсіх дзяржаўных органах і ва ўсіх установах, што абслугоўваюць мясцовае іншанацыянальнае насельніцтва і нацыянальныя меншасці, законы, якія б праследавалі і каралі з усёй рэвалюцыйнай строгасцю ўсіх парушальнікаў нацыянальных правоў і асабліва правоў нацыянальных меншасцяў» (з «Рэзалюцыі XII з'езда РКП(б)»). Менавіта гэтыя рашэнні паўплывалі на адпаведныя пастановы партыйных і савецкіх органаў БССР, на аснове якіх у рэспубліцы распачалася афіцыйная праца па беларусізацыі і «каранізацыі»: вылучэнне на адказныя пасады беларусаў, наданне беларускай мове (побач з рускай, польскай і яўрэйскай) статусу дзяржаўнай і перавод на яе, як на мову пераважнай большасці насельніцтва, дзяржаўнага справаводства, навукі, выкладання ў сярэдніх школах і ВНУ і г. д. У прыватнасці, у ліпені 1924 г. пленум ЦК КП(б)Б абавязаў усіх членаў партыі, якія не валодалі беларускай мовай, вывучыць яе да 1 студзеня 1928 г. Паслаблі і цэнзурныя абмежаванні. Нарэшце, «Полымя» змагло апублікаваць камедыю «Тутэйшыя». Такая сацыякультурная сітуацыя канчаткова пераканала Янку Купалу ў перавагах савецкага ладу, у перспектыўнасці шляху, па якім пайшло грамадства. Гэта і прадвызначыла пафас многіх яго твораў таго часу, у прыватнасці — паэмы «Безназоўнае» (1924).

Відаць, спачатку паэт не думаў пісаць паэму. Ён проста адгукаўся на тыя ці іншыя падзеі вершаваным словам. Так, на пачатку студзеня Янка Купала апублікаваў у газеце «Савецкая Беларусь» (тады яна выходзіла на беларускай мове) верш «Трэба» з падзагалоўкам «*Газеце «Савецкая Беларусь» з прывітаннем выхаду яе тысячнага нумару*». Верш пазней стаў восьмым раздзелам паэмы. У сакавіку ў той жа «Савецкай Беларусі» быў

надрукаваны верш «Як бы хто набаяў…» з прысвячэннем: «*На прывітанне пашырэння Беларусі і шостага Усебеларускага з’езда Радаў*». Гэты верш пазней увайшоў у паэму як яе шосты і сёмы раздзелы. Магчыма, некаторыя часткі паэмы былі напісаны яшчэ раней, прыблізна ў адзін час з вершам «Арлянятам» — настолькі пафас, інтанацыя, нават вершаваны памер блізкія ў іх. Ва ўсякім разе ўжо ў другім нумары «Полымя» за 1924 г. твор пад назвай «Безназоўнае» быў надрукаваны цалкам.

У адрозненне ад ранейшых ліра-эпічных паэм Янкі Купалы («Курган», «Магіла льва», «Бандароўна», «Яна і я» і інш.), «Безназоўнае» зусім не мае сюжэта (магчыма, адсюль і назва твора). Перад намі, па сутнасці, новы тып лірычнай паэмы, якую ўмоўна можна назваць ста́нсавай. Накшталт таго як у стансах кожная страфа мае інтанацыйна-сінтаксічную і сэнсавую завершанасць, у «Безназоўным» кожны з дзесяці яе раздзелаў нагадвае асобны верш са сваім матывам, канкрэтным зместам, відам страфы, рытма-інтанацыйным ладам. Кампазіцыйнае ж адзінства твора дасягаецца адзінствам лірычнага героя, за якім мы бачым самога паэта, а таксама лейтматывам радасці за новую яву Беларусі, якой прасякнуты літаральна ўсе раздзелы паэмы, стылёвым адзінствам, агульнасцю пафасу. Прычым агульны рамантычны пафас паэмы ўвасабляецца ў яскравай сімволіка-алегарычнай форме. У прыватнасці, у першым раздзеле паэт распавядае, як «*беларускія межы / Ўсталі з залежы*» — як пачала, спачатку «*вельмі нясмела*», Беларусь абуджацца і ўрэшце абудзілася зусім:

*Скаваная сіла паўстала*
*Бурай… навалай…*
*Надзелі чырвоныя кветкі*
*Нашы палеткі* [5, т. 6, с. 120].

Пад «чырвонымі кветкамі», відавочна, трэба разумець новую рэвалюцыйную яву. А вось як канкрэтна рэалізавалася гэта ява, як узводзілася «*будыніна / На іншы склад і лад*», як «*плойма-чарада суседаў… / На каравай пшанічны наш / Машкарой ляцелі, елі*» — пра гэта (зноў жа мовай сімвалаў) расказваецца ў другім і трэцім раздзелах паэмы. У чацвёртым раздзеле прыгадваецца мінулае — як «*На нас ляцела смецце, / Бязладдзе, беспрасвецце, / Пятлю віло сіло*». Шосты раздзел паэмы, бадай, кульмінацыйны.

Тут у вобразнай форме выяўлены патрыятычны ідэал Янкі Купалы. Беларусь паўстае ў алегарычным вобразе гасціннай і клапатлівай гаспадыні :

*Беларусь на куце*
*Ў хаце саваёй села, —*
*Чарка мёду ў руцэ,*
*Пазірае смела* [5, т. 6, с. 124].

Звернем увагу на дэталі: Беларусь сядзіць «у хаце *сваёй*», і не абы-дзе, а «*на куце*», пры гэтым «пазірае *смела*». «Сядзіць *важна*, сама / Сабе *гаспадыня*» — гэта ўжо з наступнай страфы. Толькі «гаспадыня» не займаецца самалюбаваннем, а «*глядзіць, / Ці усё як трэба*», бо «*Трэба ўсім дагадзіць / І соляй і хлебам*». Вельмі важныя і дэталі-сімвалы ўбору «гаспадыні»:

*На галоўцы вянок*
*З сініх васілёчкаў,*
*А чырвон паясок*
*Стан абвіў дзявочы* [5, т. 6, 124].

Несумненна, чырвоны колер у паэтыцы купалаўскага твора сімвалізуе рэвалюцыйна-савецкае («*чырвоныя* кветкі»), у той жа час васількі — сімвал беларуска-нацыянальны. Такім чынам, Янка Купала ў сваім патрыятычным ідэале арганічна паяднюўваў сацыяльнае з нацыянальным, быў упэўнены сам і ўпэўніваў іншых, што «рэвалюцыя вырашыла беларускую праблему, зліўшы нацыянальны момант з сацыяльным» (Л. Клейнбарт).

Шосты раздзел паэмы кульмінацыйны і ў сэнсе напалу патрыятычнай радасці паэта, якая дасягае тут сваёй вяршыні. Высокі мажор падтрымліваецца і сёмым раздзелам, яго «вясёлым» харэічным метрам (прыгадаем тут «Арлянятам»), усёй сістэмай розных паўтораў, алітэрацый і асанансаў:

*Зручна, гучна грай нам, грайка,*
    *Ад усіх рэж струн!*
*Не свісціць ужо нагайка,*
    *Не гудзіць бізун* [5, т. 6, с. 125].

Наступныя раздзелы паэмы па сваіх матывах, а таму і па рытма-інтанацыйнаму ладу, крыху іншыя. Радасць ад новай явы застаецца, але да яе далучаецца роздум: роздум-папярэджанне

(«*Бо цікуе злосны вораг / Тых, што спыняцца не ў часе / У сваім паходзе ў зорах / І задрэмлюць на папасе*»), роздум-прароцтва («*Яшчэ ўспалаюць там паднебныя / Чырвоным полымем пажары...*»). Урэшце — роздум-перакананне:

*Досталі сцежкі, ад якіх прапасці*
*Маглі мы ў беспуцці,*
*А кінем бітыя шляхі да шчасця,*
*Абы умець ісці* [5, т. 6, с. 128].

Абы ўмець ісці... Пра гэта заўсёды думаў вялікі Янка Купала, гэтаму ён вучыў родны народ.

## На пераломе жалеза і песні

У адным са сваіх вершаў 1930-х гг. Максім Танк пісаў:

*Жыць нам прыйшлося вялікімі днямі*
*На пераломе жалеза і песні.*

Гэта было сказана пра іншую рэчаіснасць — рэчаіснасць Заходняй Беларусі, што тады ўваходзіла ў склад Польшчы. Аднак яшчэ большы пералом «жалеза і песні» адбываўся ў той час у Беларусі савецкай.

Як мы ўжо казалі, у 1924 г. (і пра гэта вельмі добра сведчыць тая ж паэма «Безназоўнае») Янка Купала ўспрымаў БССР як сваю родную і адзіную дзяржаву, а новы савецкі лад — як найбольш адэкватны настроям і марам працоўнага люду. У 1925 г. урачыста адзначалася 20-годдзе літаратурнай дзейнасці паэта. У чэрвені таго года яму — першаму ў гісторыі Беларусі — урадам рэспублікі было нададзена ганаровае званне народнага паэта. Адначасова СНК БССР пастанавіў прызначыць паэту пажыццёвую пенсію, што дало магчымасць яму цалкам аддацца творчай працы. Гэтую падзею Янка Купала ўспрыняў як «*свята... беларускай нацыянальнай ідэі*», «*трыумф вызваленай працоўнай Беларусі*». У шчырасці гэтых слоў нельга сумнявацца. Як і ў шчырасці наступных: «*Інакшай Беларусі, як сялянскай і работніцкай, я сабе ў сваіх думках і песнях не ўяўляю, інакшых песень, як песень змагання, вызвалення і свабоды, я не ўмеў складаць і не патраплю*». Паэт быў упэўнены: «*Што ні тварылася*

*б на свеце, беларуская думка аб нацыянальнай і сацыяльнай волі як жыла, жыве, так і жыць будзе*» («Ліст у рэдакцыю газеты «Савецкая Беларусь», 1925; 5, т. 8, с. 105). Праз тры гады Янка Купала, пасля стварэння Беларускай акадэміі навук, становіцца яе акадэмікам (1928), яшчэ праз год абіраецца правадзейным членам Акадэміі навук Украіны…

З упэўненасці і радасці нараджаліся ў 1926 г. такія творы песняра, як «За ўсё», «Сей, вольны сейбіт!», «Улетку», «Піянерскае», «Аб дзяўчыне», а таксама вершаваныя гумарэскі «І што я ёй зрабіў такое?», «Гутарка аб кепскай гаспадыні», «Гутарка аб кепскім гаспадару»… Дарэчы, гумарыстычных твораў паэт не пісаў з дарэвалюцыйнага часу. І ўжо сам зварот да гумару быў сімптаматычны.

Аднак радасць Янкі Купалы была далёка не бясклапотнай. Яна штораз аявлалася сумам і трывогай. У вершы «У лесе» (1926) паэт прызнаваўся:

*Калі бывае мне маркотна, —*
*А я маркочуся часцей,*
*Чым гэта думае ахвотна*
*Мой дабрадзей ці ліхадзей, —*
*Тады іду я ў лес…* [5, т. 4, с. 145].

Чаму ж паэт «маркоціўся часцей»? На гэта быў шэраг прычын. У межах СССР усю партыйную і дзяржаўную ўладу пачаў у сваіх руках канцэнтраваць дыктатар-тыран Сталін. І гэта нягледзячы на папярэджанне Леніна сваім партыйным калегам. «Залішне грубы»; «зрабіўшыся генсекам, засяродзіў у сваіх руках неабдымную ўладу, і я не ўпэўнены, ці здолее ён заўсёды дастаткова асцярожна карыстацца гэтай уладай»; «я прапаную таварышам абдумаць спосаб перамяшчэння Сталіна з гэтага месца і прызначыць на гэтае месца другога чалавека…» — гэта з перадсмяротнага ленінскага завяшчання («Ліст да з’езда»). Ужо тады сталі фарміравацца сталінскія стыль і метады кіраўніцтва, якія пазней былі акрэслены выразам «культ асобы». Чым больш часу праходзіла з дня смерці Леніна, тым хутчэй партыйныя функцыянеры, узнятыя на свае пасады генсекам Сталіным, адыходзілі ад ленінскіх ідэй, тым часцей ленінізм пачаў падмяняцца сталінізмам. Сталін адхіляў ад улады, а часта, арганізуючы надуманыя судовыя працэсы, знішчаў фізічна прадстаўнікоў

гэтак званай ленінскай гвардыі: Бухарына, Троцкага, Каменева, Зіноўева, Пятакова, Рыкава… На рубяжы 1925–1926 гг. пацярпеў паражэнне бухарынізм, яшчэ да гэтага, у 1925 г., — «новая апазіцыя» на чале з Зіноўевым і Каменевым. У 1926 г. быў ідэйна разбіты на XV партканферэнцыі «аб'яднаны блок» на чале з Троцкім. У жыццё пачаў укараняцца тэзіс Сталіна аб абвастрэнні класавай барацьбы па меры руху да сацыялізму. У 1926 г. пачалося актыўнае наступленне на НЭП (ён быў у асноўным ліквідаваны ў 1928 г.). У 1927 г. была абвешчана палітыка калектывізацыі сялянскіх гаспадарак — па сутнасці, новае запрыгоньванне сялян. У беларускіх вёсках распачалося змаганне з «кулакамі» — як правіла, самымі працавітымі, самымі разумнымі сялянамі. Яны пазбаўляюцца нерухомасці, а іх саміх вывозяць у Сібір, на Поўнач, у Казахстан. У краіне ствараецца сетка канцэнтрацыйных лагераў (ГУЛАГ). З вялікімі намаганнямі Янка Купала выратоўвае ад вывазу ў Сібір сваіх «раскулачаных» маці і дзвюх сясцёр…

Адчувальна стала мяняцца і нацыянальная палітыка. Сталін, ладзячы адзіную таталітарную дзяржаву, пачаў патаемна і адкрыта выступаць супраць ранейшай лініі на суверэнізацыю рэспублік СССР, згортваць выкананне рашэнняў X і XII з'ездаў РКП(б) па нацыянальным пытанні. «Некаторыя таварышы ўсур'ёз успрынялі заяву пра дзяржаўны суверэнітэт рэспублік…» — папярэджваў ён партыйных функцыянераў. Нацыянальны дэмакратызм у вуснах афіцыйнай прапаганды з «правага ўхілу» (як яго называлі раней) ператвараецца ў «варожую ідэалогію», а нацыянальныя дэмакраты (нацдэмы), як і нацыянал-камуністы, становяцца «злейшымі ворагамі партыі і народа», само слова «нацдэм» робіцца своеасаблівай мянушкай «ворагаў народа»…

У Беларусі пачала згортвацца беларусізацыя, сталі праяўляцца рэцыдывы беззаконня (напрыклад, арышт драматурга Ф. Аляхновіча), вялікадзяржаўнага шавінізму, адкрытай беларусафобіі. Што, у сваю чаргу, выклікала пэўны супраціў школьнай і студэнцкай моладзі, нацыянальна свядомага настаўніцтва («Лістападаўшчына»). І вось якраз у гэты лёсавызначальны момант талент Янкі Купалы ўспыхнуў з новай сілай. Паэт паўстаў на абарону народа, роднай мовы, культуры, дэмакратыі, Бацькаўшчыны. У шостым нумары часопіса «По-

лымя», у газетах «Савецкая Беларусь», «Беларуская вёска» ў 1926 г. ён змясціў звыш дваццаці вершаў, напісаных пераважна ў Акопах. Падборка ў «Полымі» пачыналася вершам «Ёсць жа яшчэ…», у якім паэт выявіўся не толькі Песняром, Прарокам, але яшчэ і Ваяком. Ваяком за праўду, за свой народ, за Бацькаўшчыну:

*Ёсць жа яшчэ ў мяне сіла*
*Крыўдзе не дацца, змагацца,*
*Над спячых продкаў магілай*
*Вольна маланкай мігацца* [5, т. 4, с. 151].

Гэта — пра сябе. Да асабістага адносіліся і іншыя адчуванні паэта: «*Ёсць жа яшчэ ў мяне сэрца, / Поўнае шчырых жаданняў*»; «*Ёсць жа яшчэ ў мяне песень, / Поўных надзеі, жыцця…*». Разам з тым было ў паэта яшчэ адно адчуванне, якое дадавала яму моцы і гарту ў той нялёгкі час, — вера ў родны народ, яго свабодалюбства:

*Ёсць жа яшчэ ў мяне вера*
*Ў вольны мой родны народ,*
*Што — у патрэбе — з сякерай*
*Выйдзе за волю ў паход!* [5, т. 4, с. 151].

Янка Купала зноў узяў на сябе абавязак званара-будзіцеля, каб яшчэ раз напомніць пра ідэалы, якія варта адстойваць. «*Заляглі, бы ў ступе груца, — / Той не хоча, а той квол*», — з сарказмам пісаў ён пра некаторых сваіх сучаснікаў у вершы «Праз гультайства…» (5, т. 4, с. 162). Праз гэтае «*гультайства, праз нядбальства*» (у чарнавым варыянце было: «*Ад паляцтва, ад маскальства…*») беларусы «*Лазма лезлі самі ў нерат, / Як бы гнаў хто у каршэль*». Паэт, як і калісьці ў 1919 і 1922 гг., заклікаў беларусаў да большай самачыннасці. Ён сарамаціў сваіх суайчыннікаў: «*Быць затычкай пустой бочкі — / Сорам вольнай грамадзе!*». Ён заклікаў іх «*працерць… / Вочы хоць бы кулаком / І заняць у куце месца, / А не недзе за вуглом*». Тая купалаўская Беларусь, якая ў першай палове 1920-х гг. «*на куце ў хаце сваёй села*», у пачатку другой паловы таго ж дзесяцігоддзя, як бачым, пачынала адсоўвацца далей ад кута…

Калі ў вершы «Праз гультайства…» Янка Купала проста журыў беларусаў (перш за ўсё інтэлігенцыю) за іх інертнасць,

то ў вершы «І прыйдзе…» ён устурбована папярэджваў: «*А ўжо свой выдасць непадкупны / Аб нас гісторыя прысуд*...» і нават пагрозліва дадаваў: «*А суд гісторыі цяжкі!..*» За што ж, на думку паэта, гісторыя будзе судзіць і асуджаць беларусаў 20-х гг. XX ст.? За што яна папросіць іх «*даць адказ*»? А спытаецца гісторыя, ці яны «*сумленна / Жыццё прайшлі*», ці «*па-даўняму нясмела / Жылі не ў лад і неўпапад*», ці «*аб свой гонар дбайна дбалі / І дабравольна, без прынук, / Самі сабой не гандлявалі, / Не неслі ў петлі дум і рук*»? Пытанні былі ў многім рытарычныя. А яшчэ, на думку Янкі Купалы, гісторыя будзе судзіць пакаленне 1920-х гг. за тое,

*Што нейкі з нас хоць быў не зломак,*
*А плечы гнуў у крук не раз;*

*Не йшоў з адкрытымі вачыма*
*У свет і сцежкі не прастаў,*
*А ўсёй магчымасці магчымай*
*Таптаў сляды, сябе таптаў* [5, т. 4, с. 140].

Як тут не прыгадаць купалаўскі выраз «*Абы ўмець ісці*»?! Менавіта гэтаму ўменню і вучыў паэт сваіх чытачоў.

Сам жа ён рабіў усё дзеля ажыццяўлення тагачаснай «*магчымасці магчымай*». Тым, хто «*над Беларусяй / Хоча распасцерці / Свой бізун чужацкі / І народ усмерціць*», паэт кінуў выклік у напісаным у стылі народных кленічаў вершы «Каб…» (5, т. 4, с. 150–151). Праклёны слаліся жахлівыя: «*Каб вады гарачай / На таго нагрэлі / І не ўстаў ён болей / Са сваёй пасцелі*...»; «*Каб таго парвала / З сэрцам на тры часці / І звяр'ё збрылося / Мяса параскрасці*...»; «*Каб таго скруціла / Га́дзінавым скрутам / І прастала потым / Сухажыльным прутам*...». Відаць, трэба было моцна дапячы шляхетнаму, далікатнаму паэту, каб з ягоных вуснаў вырваліся такія словы. І дапячы не яму асабіста, а ягонай Бацькаўшчыне, яго народу.

Зразумела, Янка Купала не ведаў, як ведаем сёння мы, усёй непазбежнасці цяжкіх вынікаў захопу ўлады Сталіным, у выніку чаго, у прыватнасці, пачала згортвацца беларусізацыя, ажыло «мора велікарускай шавіністычнай дрэні» (Ленін). Гэты шавінізм не пабаяўся вылезці нават на старонкі рэспубліканскага друку. Так, у газету «Савецкая Беларусь» нехта з Полацка пад

псеўданімам «Белорусс» даслаў допіс «Вражда из-за языка» — пасквіль на беларусаў і беларускую мову, на беларускіх пісьменнікаў. Чаго варта была толькі адна фраза з гэтага допісу: «Ведь язык белорусский, не имеющий литературы (ибо нельзя же в самом деле считать большими литераторами таких «письменников», как Янка Купала, Якуб Колас…), в сущности говоря, служит лишь для того, чтобы портить, извращать фонетику, стиль, грамматику чисто русского языка…». Зразумела, такое зневажальнае выказванне не магло не выклікаць гарачую абарону беларушчыны, цэлую дыскусію пра характар і лёс беларускай мовы, культуры, беларускага народа, у якую ўключыліся знакамітыя культурныя і грамадскія дзеячы (прафесар Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Пётр Бузук, старшыня СНК БССР Язэп Адамовіч і інш.), у тым ліку — і Янка Купала…

Падключыўшыся да дыскусіі, Янка Купала ў творы «Акоў паломаных жандар: На палеміку ў «Сав. Беларусі» аб беларускай мове» [5, т. 4, с. 133–134] палымяным вершаваным словам высцебаў былых «*царадвораў*», шавіністаў, назваўшы іх «*акоў паломаных жандарамі*», якім «не па нутру» была беларусізацыя, тое, «*што хлапчук ў лапцёх, / Напаўадзеты вёскі сын, / У роднай мове ўчыцца змог*». Кожны такі «*расійскі чынадрал*», «*слуга оцечаству, цару*» сніць «*былую моц і шыр… / Пагромы, катаргі, Сібір*», не можа змірыцца з развалам «единой и неделимой» Расійскай імперыі, утварэннем асобных рэспублік са сваімі мовамі ў якасці дзяржаўных: «*Рэспублікі?! ды з «языком» / З іх лезе кожная ўсур'ёз…*». «*Масквы каронная гразь*» — так трапна, апелюючы да вядомага выслоўя Тараса Шаўчэнкі («Варшавське сміття, грязь Москви…»), назваў паэт «*скінутых сатрапаў*», якім «*дай вісельню, дый каб / На ёй «языкі» ўсе ўшчаміць*». Відаць, з часу «Ворагам Беларушчыны» (1907) Янка Купала не быў больш з'едліва-саркастычны, чым цяпер, у час напісання верша «Акоў паломаных жандар…»

Яшчэ адзін бой з «чынадраламі» развязаў Янка Купала ў 1926 г. На гэты раз у сувязі з пастаноўкай камедыі «Тутэйшыя». Напісаная ў 1922 г., яна, нягледзячы на аўтарытэт аўтара, ніяк не магла прабіцца на сцэну. І вось якраз цяпер, маючы ўжо званне народнага паэта, Янка Купала дабіўся нарэшце пастаноўкі п'есы на сцэне БДТ-1. Пастаноўка «Тутэйшых» была прымеркавана да Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і

азбукі, у якой прынялі ўдзел буйныя вучоныя і дзеячы культуры не толькі БССР, але і РСФСР, Украіны, Германіі, Польшчы, Літвы, Латвіі (П. Растаргуеў, І. Свянціцкі, М. Фасмер, Ю. Галомбак, М. Біржышка, Я. Райніс і інш.). Удзельнікам канферэнцыі і паказалі спектакль 16 лістапада 1926 г.

Што гэта быў за спектакль і якая была на яго рэакцыя афіцыйных уладаў, можна часткова ўявіць хаця б з невялікага дзённікавага запісу вядомага рускага рэжысёра і тагачаснага галоўнага мастацкага кіраўніка тэатра, пастаноўшчыка «Тутэйшых» М. Папова. Як ён запісаў сабе «для памяці», спектакль «спалохаў камуністаў Мінска». І рэагаванне на спалох было імгненнае: «Пасля першага і адзінага прадстаўлення п’есы былі зняты са сваіх пасад усе, хто меў дачыненне да дазволу пастаноўкі п’есы на сцэне». Сам жа М. Папоў быў вымушаны пакінуць Беларусь… [гл. пра гэта: 8]. Дададзім, што зноў у Беларускім нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы «Тутэйшыя» былі пастаўлены толькі ў канцы 1980-х гг. і доўга не сыходзілі з яго сцэны. Спектакль атрымаў шырокае грамадскае прызнанне, а яго пастаноўшчыкі і выканаўцы галоўных роляў — званне лаўрэатаў Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы.

Аднак 1926 год заканчваўся. У 1927 г. рэспубліканскую партыйную арганізацыю зноў узначаліў Вільгельм Кнорын, які у 1922 г. з Беларусі быў адкліканы ў Маскву. Цяпер ён зноў прыдаўся тут. Праўда, не на доўгі час, на два гады (1927–1928), каб толькі раскруціць махавік рэпрэсій. Як і трэба было чакаць, Кнорын адразу узняў партыйны «молат», распачаў вострую «класавую барацьбу» з «нацдэмамі», «кулакамі» і іншымі «ворагамі народа». У крытыцы на ўсю моц пачаў разгульваць вульгарны сацыялагізм, які чарніў дарэвалюцыйную класіку, пісьменнікаў старэйшага пакалення, «выводзіў на чыстую ваду» многіх літаратараў-сучаснікаў. Справу Кнорына прадоўжыў неўзабаве новы 1-ы сакратар ЦК КП(б)Б Канстанцін Гей. Сталі распадацца асобныя літаратурныя аб’яднанні, зачыняцца часопісы (у 1928 — «Маладняк», у 1931 — «Узвышша»). Дбайна ўкладзеныя тэкстолагамі зборы твораў класікаў пачалі выходзіць або ва ўрэзаным выглядзе, або ўвогуле не выходзіць. Так, з падрыхтаванага пад кіраўніцтвам акадэміка І. Замоціна трохтомнага Збору твораў Максіма Багдановіча свет змаглі ўбачыць толькі два тамы. Пад цэнзурную забарону трапляе зборнік Янкі

Купалы «Творы. 1918–1928» (1930). Янка Купала амаль цалкам замаўкае як паэт. У 1927 г. ён друкуе толькі невялічкую паэму «З угодкавых настрояў», у наступныя два гады — усяго па два вершы.

У 1929–1930 гг. у СССР пракацілася першая хваля рэпрэсій супраць нацыянальна свядомай навуковай і творчай інтэлігенцыі асобных рэспублік. Рэпрэсіі пачаліся ва Украіне, з «выкрыцця» міфічнага «Саюза вызвалення Украіны», па справе якога ў другой палове 1929 г. было арыштавана і асуджана 45 чалавек [1, с. 813–814]. За «ўдзел» у сфабрыкаваным ДПУ праз год дакладна па ўкраінскім узоры «Саюзе вызвалення Беларусі» (СВБ) было арыштавана і асуджана 108 дзеячаў навукі і культуры, у тым ліку акадэмікі Вацлаў Ластоўскі, Сцяпан Некрашэвіч, Язэп Лёсік, Максім Гарэцкі, прафесары Аркадзь Смоліч, Пётр Бузук, пісьменнікі Язэп Дыла, Уладзімір Дубоўка, Язэп Пушча, Адам Бабарэка… У апалу трапілі рэктар БДУ акадэмік Уладзімір Пічэта, першы прэзідэнт Беларускай акадэміі навук Усевалад Ігнатоўскі, наркам асветы Антон Баліцкі, наркам земляробства Дзмітрый Прышчэпаў… Арыштаваным інкрымінавалі тое, што яны, быццам бы, «з’яўляліся членамі контррэвалюцыйнай нацыяналістычнай арганізацыі «Саюз адраджэння Беларусі» («САБ»), у далейшым перайменаванай у «Саюз вызвалення Беларусі» («СВБ»), ажыццяўлялі арганізаванае шкодніцтва на культурным, ідэалагічным і іншых участках сацыялістычнага будаўніцтва, праводзілі антысавецкую нацыяналістычную агітацыю, скіраваную на запавольванне тэмпаў развіцця Беларусі на сацыялістычным шляху, ставячы канчатковай мэтай адарванне Беларусі ў этнаграфічных межах ад Савецкага Саюза і стварэнне так званай Беларускай Народнай Рэспублікі («БНР»)» [15, с. 245]. Па справе СВБ карныя органы ў канцы 1930 г. выклікáлі на допыты Якуба Коласа, прымусілі яго «раззброіцца», напісаць некалькі пакаянных заяў у ДПУ БССР (16 лістапада, 20 лістапада, 6 снежня), звярнуцца 12.XII.1930 г. з самакрытычным «Адкрытым лістом да моладзі» [гл.: 3, с. 121–122, 122–126, 130–139, 139–145]. Да СВБ органы ДПУ абавязкова хацелі далучыць (больш таго — ідэйна паставіць на чале «арганізацыі») і Янку Купалу, які, паводле даносу ў Маскву, «входил в руководящий центр «Саюза вызвалення Беларусі», как о том свидетельствуют показания Лёсика, Некрашевича и других… являлся идейным

центром наццемовской контрреволюции, что нашло отражение в его творчестве. Наряду с произведениями вполне советскими у него имеются стихотворения и кулацкого и прямо контрреволюционного содержания» (з ліста К. Гея да сакратара ЦК ВКП(б) П. Постышава ад 21.XI.1930 г.; 3, с. 126). Паэта штоноч пачалі цягаць на допыты. Але ён не паверыў паказанням сваіх былых калег і сяброў (здагадваўся, як тыя «паказанні» выбіваліся ў засценках ДПУ), не напісаў пакаяннага ліста. Як даносіў той жа К. Гей, «приглашенный для переговоров в ГПУ, Янка Купала упорно отрицал свою принадлежность к какой бы то ни было контрреволюционной организации и не обнаружил ни малейшего желания пойти навстречу нам в смысле хотя бы осуждения контрреволюционной деятельности своих друзей — участников и руководителей СВБ» [3, с. 126]. Больш таго, пасля аднаго з такіх допытаў пясняр 20 лістапада 1930 г. зрабіў спробу самагубства, вырашыўшы, што «*лепей смерць фізічная, чымся незаслужаная смерць палітычная*». І дадаў у тым жа перадсмяротным звароце «Старшыні ЦВК СССР і БССР т. А. Чарвякову»: «*Павесіўся Ясенін, застрэліўся Маякоўскі, ну, і мне туды за імі дарога*» (5, т. 8, с. 113), здагадваючыся і пра рэальную прычыну іх вымушанай смерці…

## На хвалях сацыяльнага рамантызму

Самагубства, на шчасце, не ўдалося. Мінскія лекары адратавалі паэта. Чалавек, які пабываў на «тым свеце», ужо некалькі па-новаму глядзіць на жыццё. Па-новаму, відаць, пачаў адчуваць каштоўнасці жыцця і Янка Купала. Але галоўнае, што яго засцерагло ад паўторнага самагубства, — гэта, думаецца, жаданне ў новых абставінах і па-новаму паслужыць роднаму народу, беларускай нацыі.

Бюро ЦК КП(б)Б на закрытым пасяджэнні 21.11.1930, на другі дзень пасля спробы самагубства паэта, у сваёй пастанове запісала: «1. Рассматривать попытку Я. Купала к самоубийству как форму политич. протеста против борьбы с контрревол. организацией (СВБ). 2. Считать необходимым добиться выступления Я. Купала, Я. Коласа, Зарецкого и др. с резким осужд. контрревол. деятельности арестованных по делу СВБ и с осуждением тех своих произведений, которые служили нацдем. контрреволюции» [3,

с. 127–128]. У газеце «Звязда» 30 лістапада 1930 г. быў надрукаваны «Адкрыты ліст Я. Коласа». У той жа «Звяздзе» за 14 снежня 1930 г. з'явіўся і самавыкрывальны «Адкрыты ліст Я. Купалы» [5, т. 8, с. 114–119]. Якуб Колас і Янка Купала раскайваліся ў сваіх «грахах», але пры гэтым яны не назвалі ніводнага канкрэтнага прозвішча «ворага народа», ні на каго персанальна не нагаварылі. Якуб Колас ліст пісаў сам, захаваўся яго рукапісны арыгінал з подпісам [гл.: 3, с. 139–145]. Што да ліста Янкі Купалы, то яго купалаўскага арыгінала не існуе. Нельга не згадзіцца з Янкам Саламевічам, што «гэты фальсіфікаваны «Адкрыты ліст Янкі Купалы» належыць не песняру, бо ў бальніцы хворы Я. Купала не мог фізічна зрабіць гэта»; яго, відавочна, «напісаў Л. Бэндэ» [5, т. 9, кн. 2, с. 202]. На карысць такой высновы гаворыць і выразна бэндаўскі, далёка не купалаўскі, стыль выказвання, і нават яго дата: 10.12.1930 г. Вядома, што тэкст купалаўскай «дэкларацыі» быў гатовы яшчэ да гэтай даты. Так, у пастанове бюро ЦК КП(б)Б ад 6.12.1930 г. сказана: «Дэкларацыі Янкі Купалы ў друку не змяшчаць да азнаямлення з ёю членаў бюро ЦК» [5, т. 8, с. 394]. Нават не захавалася звестак, ці ўвогуле прачытаў «свой» ліст Янка Купала…

Ва ўмовах сталінскага палітычнага пераследу, што пачаўся са знішчэння розуму нацыі — інтэлігенцыі, перш за ўсё творчай і навуковай, на пярэдні план выступіла задача захавання нацыі. Калі да рэвалюцыі Янка Купала нястомна займаўся «тварэннем» нацыі, калі ў 1918–1920 гг. ён дапамагаў гэтай нацыі атрымаць сваю дзяржаву, калі ў 1920-я гг. ён услаўляў і ўмацоўваў беларускую дзяржаўнасць у яе канкрэтным, няхай сабе і абмежаваным, савецкім выглядзе, то ў 1930-я гг., калі большасць лепшых сыноў народа была знішчана, паэт убачыў сваю ролю народнага песняра і народнага заступніка некалькі па-іншаму. Ён выдатна разумеў, што разам з «фізічнай» смерцю яго самога і «палітычнай» — ягоных твораў уся беларуская нацыя асірацее, страціць тое, што ніхто і ніштo замяніць не зможа. Засталіся ж жыць у рускай літаратуры і рускім народзе творы Ясеніна і Маякоўскага! У той жа час «смерць палітычная» многіх рускіх, украінскіх і беларускіх пісьменнікаў адразу і цалкам выкрэслівала іх творы і нават самі імёны творцаў з тагачаснай савецкай культуры. Зразумець гэта дапамог яму, у прыватнасці, і Усевалад Ігнатоўскі, які ў часе адведзін паэта ў шпіталі неўзабаве пасля спробы яго

самагубства даверліва сказаў: «Табе трэба жыць, Янка… Трэба жыць. Ты ў нас адзін». У гэтых словах вопытнага чалавека з партыйнай і навуковай наменклатуры была настойлівая просьба. Просьба і наказ чалавека, які толькі крыху пазней за Янку Купалу трапіў у той самы нерат, якога таксама цягалі на допыты ў ДПУ, знялі з усіх пасад, выключылі з партыі і які ў пачатку лютага 1931 г. рашыўся на суіцыд…

Янка Купала на пачатку 1930-х гг. у беларусаў быў, на шчасце, не адзін. Але з нацыянальных геніяў, якія б з такой паўнатой і таленавітасцю выяўлялі самую сутнасць нацыі, з'яўляліся яе душой, быў сапраўды адзін. І ён, як і да рэвалюцыі (памятаеце: «А беларусы ж нікога не маюць»?), гэта разумеў. Разумеў, што без яго нацыя асірацее, страціць тое, што ніхто замяніць не зможа.

Такім чынам, і ў 1930-я гг. Янка Купала заставаўся душой нацыі, хоць, зразумела, не мог адкрыта ўжо быць прарокам нацыянальнага адраджэння, тым больш — дзяржаўнай незалежнасці. Паміж паэтам і ўладай быў дасягнуты неафіцыйны кампраміс. Улада выкарыстоўвала яго імя і творчасць для пацвярджэння плённасці «ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі». Са свайго боку, паэт стаў, як і многія іншыя вядомыя савецкія літаратары (Мікалай Ціханаў, Міхаіл Ісакоўскі, Аляксандр Твардоўскі, Паўло Тычына, Максім Рыльскі, Тыцыян Табідзэ, Джамбул Джабаеў, Наіры Зар'ян, Самед Вургун і інш.), па меры магчымасці славіць «правадыра», «Сталіна-сейбіта», апяваць тое станоўчае, што бачыў вакол сябе: дружбу савецкіх народаў, ліквідацыю непісьменнасці, індустрыялізацыю краіны, асушэнне балот і інш. Ён не закранаў, дый калі б і хацеў — не мог закранаць, драматычных і трагічных бакоў тагачаснага жыцця (прымусовая калектывізацыя, раскулачванне сялян, палітычныя рэпрэсіі і інш.). Гэтага ў тых умовах зрабіць было нельга. Зрэшты, пра рэальнае, трагічнае паэт далёка не ўсё і ведаў (напрыклад, пра сістэму ГУЛАГ), паколькі сталіністы здзяйснялі сваю чорную справу пад вялікім сакрэтам. Ён, як і большасць савецкіх людзей, у асноўным давяраў афіцыйнай прапагандзе, якая па-свойму тлумачыла многія падзеі. Адсюль яго вершы «На смерць таварыша Кірава» (1934), «Мала іх павесіць…» (1937), «Смерць забойцам А. М. Горкага» (1938), артыкулы тыпу «Ворагі народаў павінны быць знішчаны» (1937) і іншыя «дрындушкі», што ўзнікалі па гарачых слядах падзей і рабіліся найчасцей па

настойлівым і тэрміновым заказе рэдактараў газет. Зразумела, сёння, калі многія факты тагачасных палітычных падзей нам вядомыя, яны гонару аўтару падобных вершаў і артыкулаў не робяць, але зразумець яго можна. Апрача ўсяго, у 1930-я гг. спаўна прымянялася палітыка «бізуна і перніка». Так, у сярэдзіне і другой палове 1930-х гг. на Янку Купалу абрынулася цэлая лавіна ўзнагарод, прывілеяў, матэрыяльных даброт, што значна аддаліла яго ад народа, ад рэальных народных бед і турбот. Урад БССР падараваў яму дачу ў Ляўках (каля Оршы), аўтамабіль. Прычым і дача і машына разам з шафёрам (вядома ж, інфарматарам) былі ўзяты на поўнае дзяржаўнае ўтрыманне. Без затрымкі выходзілі з друку новыя кнігі паэта. Шырока, на ўсесаюзным узроўні, адзначаліся яго юбілеі і юбілеі яго літаратурнай дзейнасці (1930, 1932, 1935, 1940)…

І ўсё ж нават такі, суб'ектыўна і аб'ектыўна аддалены ад многіх людскіх клопатаў, Янка Купала, як слушна выказаўся Аляксандр Твардоўскі, «сваім уласным існаваннем ужо быў чымсьці неад'емным ад духоўнага жыцця народа». Ён паказваў і гэтаму народу, і ўсяму свету: нягледзячы ні на што, беларускі народ жыве! Жыве беларуская мова! Жыве Беларусь! Дзякуючы Янку Купалу, а таксама Якубу Коласу і тым нямногім старэйшым пісьменнікам, што пазбеглі рэпрэсій (Змітрок Бядуля, Янка Маўр, Ілья Гурскі, Кузьма Чорны, Кандрат Крапіва, Міхась Лынькоў, Міхась Клімковіч, Рыгор Мурашка), іх маладзейшым калегам, якія ўбіраліся ў сілу (Пятрусь Броўка, Пятро Глебка, Алесь Якімовіч, Аркадзь Куляшоў, Пімен Панчанка, Эдзі Агняцвет), пакрысе ўмацоўвалася і нацыянальная свядомасць беларусаў, у іх узнікаў зразумелы нацыянальны гонар за сваіх песняроў, а тым самым — і за Беларусь. Уратаваная ад «смерці палітычнай», асноўная частка творчай спадчыны песняра, у тым ліку дарэвалюцыйнай, актыўна служыла беларусам, стала іх нацыянальным скарбам, духоўным спажыткам. У тыя гады творы Янкі Купалы пачалі перакладацца ва ўсіх рэспубліках СССР, часта прыходзілі да замежнага чытача. Тым самым, апрача ўсяго іншага, замацоўваліся ў свядомасці і савецкіх, і еўрапейскіх народаў паняцці «Беларусь», «беларусы», якія да рэвалюцыі нават на самой беларускай этнічнай тэрыторыі не ўсюды былі пашыраныя. Адным словам, Янка Купала працягваў служыць Беларусі, беларускаму народу. Толькі ўжо, як бачым, некалькі іншым чынам і іншымі сродкамі.

Па сваёй сутнасці Янка Купала — паэт рамантычнага складу, творца, настроены на высокае, незвычайнае, ідэальнае. Метад сацыялістычнага рэалізму, які з пачатку 1930-х гг. стаў асноўным і адзіна магчымым метадам савецкай літаратуры, якраз і патрабаваў незвычайнага, ідэальнага — «выхавання мас у духу камуністычных ідэалаў». Зразумела, гэта значна звужала функцыі і задачы літаратуры, паколькі вузка класавыя камуністычныя ідэалы не заўсёды супадалі з гуманістычнымі, агульначалавечымі. Творы сацыялістычнага рэалізму ў сваёй большасці былі далёкія не толькі ад класічнага рэалізму XIX ст., але ўвогуле ад рэалізму як метаду, які патрабуе, апрача праўдзівасці дэталей, праўдзівага паказу тыповых характараў у тыповых абставінах. Гэты метад дакладней было б назваць сацыялістычным рамантызмам. Бо не тыповае, але выключнае, ідэальнае было ў яго аснове, прычым характар гэтага ідэальнага быў наперад прадвызначаны ў рашэннях з’ездаў КПСС і партыйных пастановах. Тым не менш праз рамантычнае перабольшанне, гіпербалізацыю, ідэалізацыю можна было часамі выявіць і сваё разуменне прыгожага, добрага, вечнага. Што і рабіў Янка Купала, пішучы, у прыватнасці, паэмы «Над ракою Арэсай» (пра калектыўную працу па асушэнню балот), «Тарасова доля» (пра змагара за «свабоду, родны край і мову» Тараса Шаўчэнку). Рамантычнай ідэалізацыяй прасякнута і тое лепшае з лірыкі, што ён стварыў у 1930-я гг., найперш гэтак званы ляўкоўскі цыкл — нізка вершаў, напісаных летам 1935 г. на дачы ў Ляўках. Паэт-рамантык быў настроены на святочнае, урачыстае, радаснае. Яго цешылі родныя краявіды («Сосны», «Дарогі»), магчымасці вучобы і працы, што адкрыліся перад савецкай моладдзю («Сыны», «Алеся», «Як у госці сын прыехаў…», «Хлопчык і лётчык»), прызнанне заслуг працоўнай Беларусі («Беларусі ардэнаноснай»), адчуванне перамогі над рознымі знешнімі ворагамі («Старыя акопы», «Партызаны»), калектыўная праца і адпачынак вяскоўцаў («Госці», «Вечарынка»)… Пры гэтым ва ўсім, што б ці пра што б ён ні пісаў, відаць арганічны талент пераўвасаблення і творчае майстэрства. Паказальны ў гэтым сэнсе верш «Лён».

*Як на поле, на зямлю*
*Прыйшла раніца вясны,*
*Я пасеяла ў раллю*
*Жмені зёран ільняных.*

*Неба сеяла цяпло,*
*Цёплы дожджык церушыў,*
*Ў думках радасна было,*
*Беглі песні ад душы.*

*Ой, лянок, лянок мой чысты,*
*Валакністы, залацісты!* [5, т. 5, с. 69–70].

Адразу, з першых радкоў, у вершы праяўляецца матыў радасці — праз асобныя вобразы-дэталі («*раніца вясны*», «*неба сеяла цяпло*», «*у думках радасна было*»), памяншальна-ласкальныя формы назоўнікаў (*дожджык, лянок*), асобныя эпітэты (*чысты, валакністы, залацісты*), выклічнік «*ой*»… Мажорную інтанацыю ўзмацняе рытм — «вясёлы» чатырохстопны харэй, розныя паўторы, найперш — шасціразовае паўтарэнне ў творы аднолькавых страфічных комплексаў, што складаюцца з двух чатырохрадкоўяў і двухрадкоўя-рэфрэна. У кожным такім комплексе па прынцыпу градацыі (нарастанне дзеяння) паралельна развіваюцца дзве сюжэтныя лініі: аповед ільнаводкі аб сваёй працы ад пасеву лёну і да яго апрацоўкі («*лён палола*» — «*рваць ішла яго*» — «*ішла лён абіваць*» — «*слала я лянок*» — «*змяла ў мяліцы я лён, абтрапала лён траплом*») і, з другога боку, — аб узаемаадносінах яе з брыгадзірам Міхасём, ад першых прыкмет кахання і да іх сумеснага жыцця («*спадабала я тады брыгадзіра Міхася*» — «*брыгадзір… час ад часу моргаў мне*» — «*Міхась мне паклаў на стан руку*» — «*дзе папаўся Міхасёк, цалавала на бягу*» — «*хату новую стаўляў брыгадзір мой для мяне*»). Па сутнасці, перад намі своеасаблівая лірычная міні-паэма, дзеянне якой развіваецца на працягу года, ад вясны і да зімы. Нечым гэты твор нагадвае паэму «Яна і я», дзе таксама пачуццё кахання цесна знітавана з паказам розных формаў вясковай працы і дзе радасць кахання арганічна зліваецца з радасцю працы. Толькі ў паэме лірычны аповед вядзецца ад імя Я-мужчыны, у вершы — ад імя Я-жанчыны (як, дарэчы, і ў вершах «Я — калгасніца…», «Як я молада была…» і некаторых іншых). Янку Купалу, як і кожнаму вялікаму паэту, талент пераўвасаблення быў надзвычай характэрны.

Пазнаёміўшыся з вершам Янкі Купалы «Лён», Максім Горкі на палях рукапісу напісаў адно слова: «Славно!» Ён, несумненна, меў рацыю.

Нягледзячы на характар твораў, што выходзілі з-пад пяра Янкі Купалы, на знешне (толькі знешне!) прыхільнае стаўленне да яго савецкай улады, жыццё паэта было не бясхмарным. За ім пастаянна сачылі розныя сексоты, падслухоўвалі кожнае яго слова, рэгулярна пісалі «справаздачы» ў ДПУ. Ледзь не кожная яго нязгода з выказваннямі і дзеяннямі асобных дзяржаўных чыноўнікаў кваліфікавалася як «антысавецкая прапаганда». Нават гасціннасць Купалавага дома, падмацаваная шчырасцю і кулінарным майстэрствам жонкі паэта Уладзіславы Францаўны, выклікала падазрэнне: а ці не праводзяцца нейкія недазволеныя сходы пад выглядам званых і нязваных абедаў? Літаратурны салон — так падазрона-грэбліва ў высокіх партыйных кругах сталі называць дом Купалы, беручы на заметку ўсіх, хто туды наведваўся. Як вядома, «за дзесяцігоддзе з 1930 да 1939 года рэпрэсавана не менш як 350 беларускіх літаратараў. Амаль палову з іх расстралялі» [7, с. 4]. Зразумела, многія з рэпрэсаваных бывалі ў купалаўскім «літаратурным салоне». І тыя, якіх арыштавалі ў 1930 г. па справе СВБ (А. Бабарэка, П. Бузук, М. Грамыка, У. Дубоўка, Я. Дыла, В. Ластоўскі, Я. Лёсік, С. Некрашэвіч, Язэп Пушча, Б. Эпімах-Шыпіла, М. Гарэцкі, А. Цвікевіч і інш.), і прадстаўнікі гэтак званай другой хвалі арыштаў, што пачалася ў лютым 1933 г. (Лукаш Калюга, С. Ліхадзіеўскі, Максім Лужанін і інш.), і арыштаваныя ў самым трагічным 1937 г., калі толькі за адну ноч 29 кастрычніка было расстраляна 20 літаратараў (Анатоль Вольны, П. Галавач, М. Зарэцкі, Васіль Каваль, Ю. Лявонны, В. Маракоў, В. Сташэўскі, І. Харык, Міхась Чарот і інш.). У канцы 1938 г. над самім Янкам Купалам, як і над большасцю іншых, што засталіся, беларускіх пісьменнікаў, навісла смяротэльная пагроза.

Тагачасны першы сакратар ЦК КП(б)Б Панцеляймон Панамарэнка, прысланы ў Беларусь з Масквы ў разгар палітычных рэпрэсій у чэрвені 1938 г., 21 лістапада таго ж года паслаў Сталіну просьбу даць дазвол на два «мерапрыемствы»: кардынальную, ужо даастатку, русіфікацыю беларускай лексікі і правапісу, а таксама на арышт «ворагаў народа», найперш — Янкі Купалы і Якуба Коласа [гл.: 3, с. 284–291]. Ужо быў арыштаваны (14 лістапада 1938 г.) Кузьма Чорны, вось-вось павінны былі пачацца новыя арышты. «Наркомвнудел Белоруссии запросил из центра санкцию на арест Купалы и Коласа уже давно,

но санкция пока не дана, — скардзіўся Панамарэнка Сталіну. І тут жа тлумачыў: — В отношении Янки Купала, Якуба Коласа, Бровко, Глебки, Крапивы, Бядули, Вольского, Аксельрода и др. <…> имеются многочисленные показания разоблаченных и арестованных врагов, изобличающих их вплоть до связей с польской дефензивой. В отношении Янка Купалы имеется 41 показание, в большинстве прямые; Якуба Коласа — 31 показание; Крапивы — 12 показаний и так далее. По количеству и качеству изобличающего материала, а также по известным нам фактам их работы они, безусловно, подлежат аресту и суду, как враги народа» [3, с. 290]. Якое ж гэта было «качество изобличащего материала» ў адносінах да Янкі Купалы? Панамарэнка даносіў: «Янка Купала пустил крылатое выражение «пока живе мова, живе народ»; «Они [названыя вышэй пісьменнікі. — **В. Р.**] печатали и печатают внешне патриотические стихи и произведения, насквозь фальшивые, но необходимые для выражения советскости (их буквальное выражение). Янка Купала говорит, что то, что он написал при Советской власти, не творчество, а дриндушки. Они говорят, что теперь литература сведена на роль придатка, разъясняющего или восхваляющего, что это не творчество, а иллюстрация. В литературе нельзя ничего ставить или решать, так как партия все уже решила на много лет вперед, план составлен, иллюстрируй то, что прошло»; «Янка Купала недавно сказал: «Все наши карты биты, лучшие люди истреблены, надо самому делать харакири». (Он уже пытался один раз покончить с собой.) В другой раз он начал жаловаться (в своем кругу) на безудержную тоску, на то, что никакой Белоруссии он не видит вокруг себя, что его жизнь прожита даром, что он скоро умрет с такой же тоской о Белоруссии, с какой начинал свою жизнь в молодости» [3, с. 286, 288–289, 289].

Відавочна, сапраўды так думаў і гаварыў у вузкім пісьменніцкім коле Янка Купала. І сексоты тут нічога не прыдумвалі. Але ці не была праўда ў такіх меркаваннях? Хто-хто, а Сталін ведаў іх слушнасць. Мог разабрацца ён і ў філалагічнай кваліфікацыі Панамарэнкі, які нават у беларускім аканні і яканні, у лексічным адрозненні рускай і беларускай моў бачыў «происки кучки нацдемовских заправил». Можна ўявіць, як Сталін пацяшаўся, чытаючы такі «прыклад» тых «происков»: «Лозунг «Да здравствует годовщина Октябрьской революции»

на белорусском языке «Няхай жыве гадавіна Кастрычніцкай рэвалюцыі», испохаблен от начала до конца, — пісаў Панамарэнка і тлумачыў Сталіну: — Белорусы говорят здравствуй, а «няхай» означает «пусть» в смысле пренебрежительного «так и быть». Гадавіна означает гада большого размера [?!! — **В. Р.**]. Так и говорят: «Ух, якая гадавіна». Кастрычнік — октябрь. Но кастрица — это не лён, а отбросы от льна» [3, с. 288]. Сёння нават дзіўна чытаць, як такі глухі да мовы карэннай нацыі чалавек кіраваў рэспублікай, у тым ліку яе культурай! І Сталін паступіў вельмі мудра. Не пагадзіўся на арышт вядомых беларускіх пісьменнікаў, на канчатковую русіфікацыю беларускай літаратурнай мовы. Якраз у канцы 1938 г. рыхтаваўся ўказ на ўзнагароджанне вялікай групы савецкіх пісьменнікаў ордэнамі і медалямі. І ён загадаў «замяніць ордэры на ордэны». У студзені 1939 г. радыё і газеты разнеслі вестку: за вялікія заслугі ў развіцці савецкай літаратуры народныя паэты Янка Купала і Якуб Колас узнагароджваюцца ордэнам Леніна, Кандрат Крапіва — Чырвонага Сцяга, Змітрок Бядуля — Працоўнага Чырвонага Сцяга, Пятрусь Броўка — «Знак Пашаны»… Рэальная пагроза арышту ад беларускіх пісьменнікаў адступіла.

## На апошняй вярсце

У 1939 г. сапраўдную радасць Янку Купалу прынесла ўз’яднанне беларускага народа ў адной дзяржаве. Здзяйснялася яго запаветная мара, выказаная яшчэ ў газетным звароце 1925 г., — пра Беларусь «у яе этнаграфічных межах». Янка Купала піша вялікі цыкл вершаў «На заходнебеларускія матывы», разам з Якубам Коласам едзе ў Беласток знаёміцца з заходнебеларускай рэчаіснасцю, выбіраецца дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР ад Лідскай выбарчай акругі… У сакавіку 1941 г. за зборнік вершаў «Ад сэрца» паэту прысуджаецца найвышэйшая ў СССР узнагарода — Сталінская прэмія 1-й ступені.

Але радавацца Янку Купалу заставалася нядоўга. 22 чэрвеня 1941 г. Гітлер напаў на савецкую краіну, парушыўшы заключаны незадоўга да таго дагавор аб дружбе і супрацоўніцтве паміж СССР і Германіяй. Для беларускіх савецкіх пісьменнікаў даваеннага часу, а не толькі для Янкі Купалы, напад гітлераўскай

Германіі на СССР з'явіўся напачатку падзеяй не столькі трагічна-нечаканай, колькі проста нечаканай. Увераваныя ў непараўнаную мудрасць і прадбачлівасць «вялікага Сталіна», у непераможнасць Чырвонай Арміі, яны, хоць і выдатна бачылі яшчэ задоўга да Вялікай Айчыннай вайны, што «*гітлеры і герынгі з Берліна… / На край савецкі точаць шаблі і штыкі*», усё ж, як Янка Купала, былі ўпэўнены і запэўнівалі іншых: «*На іхніх землях з іхніх генералаў / Знімаць пагоны будзем, шаблі і крыжы*» («Старыя акопы», 1935; 5, т. 5, с. 58). Нават 1 мая 1941 г., за нейкіх паўтара месяца да фашысцкай агрэсіі, у вершы «З Першым маем» Янка Купала, звяртаючыся да савецкага народа (які, дарэчы, у гэты час, рыхтуючыся да найгоршага, расхопліваў у крамах соль і мыла), аптымістычна сцвярджаў:

*Пад расстрэлам стаяць больш не будзеш нідзе,*
*Больш тыран ланцуга на цябе не ўскладзе,*
*Бомбы больш не спадуць з самалётаў,*
*Кветкі сыпацца будуць з высотаў…*
(«З Першым маем», 1941; 5, т. 5, с. 171).

Аднак нямецкія бомбы пачалі падаць з самалётаў на беларускія гарады і вёскі. І народны пясняр адразу стаў на чале духоўнага супраціўлення фашыстам, якія хацелі пазбавіць беларускі народ самага дарагога — Бацькаўшчыны. Янка Купала пачаў пісаць палымяныя звароты да насельніцтва акупаваных раёнаў, да партызанаў (друкаваліся ў газетах «Правда», «Известия», «Красная звезда», «За Савецкую Беларусь» і інш.), выступаць на мітынгах, па радыё, заклікаць да супраціўлення гітлераўскай навале, усяляць веру ў перамогу над крыважэрным ворагам, «Гітлерам ашалелым». Асаблівую вядомасць атрымаў яго верш «Беларускім партызанам», напісаны ў верасні 1941 г. у будынку Чарнарэцкага лясніцтва (пад Масквой), дзе паэт-бежанец знайшоў часовы прытулак.

*Партызаны, партызаны,*
*Беларускія сыны!*
*За няволю, за кайданы*
*Рэжце гітлерцаў паганых,*
*Каб не ўскрэслі век яны.*

*На руінах, папялішчах,*
*На крывавых іх слядах*
*Хай груган іх косці ліча,*
*На бяседу соваў кліча*
*Баль спраўляць на іх касцях* [5, т. 5, с. 172].

Гэты верш-пасланне, верш-заклік сваёй стылістыкай вельмі нагадвае колішні купалаўскі верш «Арлянятам». У ім тое ж рамантычнае абагульненне, тая ж аптымістычная інтанацыя, той жа чатырохстопны харэй (уперамежку з трохстопным). Аднак тэма і ідэйная скіраванасць твораў зусім розныя. У той час калі ў вершы «Арлянятам» Янка Купала заклікаў моладзь да стваральнай працы, выяўлення сваіх творчых здольнасцяў, у вершы «Беларускім партызанам» ён кліча «арлянят» да бязлітаснай помсты фашыстам. Прычым нямецкіх фашыстаў паэт малюе сродкамі гратэску («*Сыты быў людскім ён жырам, / П'яны быў крывавым вірам*»), з дапамогай вульгарызмаў («*фашыстаў род сабачы, / Людарэзаў зброд смярдзячы*», «*нечысці*», «*людаеды*»). У адрозненне ад «Арлянятам», у «Беларускім партызанам» рамантычнае суседнічае з дэталямі рэалістычнымі, нават натуралістычнымі («*рэжце гітлерцаў*», «*выразайце людаедаў*», «*вырывайце з жывых жылы*»). У іншым выпадку гэта ўносіла б у твор дысгармонію. Тут жа не толькі сам тэкст, прасякнуты антыфашысцкім пафасам, але і кантэкст тагачаснай рэчаіснасці, калі літаральна кожны дзень прыносіў прыклады нечуванай жорсткасці нямецкіх захопнікаў, палагоджвалі рамантычнае з рэалістычным, нават натуралістычным.

Верш «Беларускім партызанам», як ніякі іншы, адыграў велізарную мабілізуючую ролю ў час вайны. Яго перадрукавалі ў арыгінале і ў перакладзе на рускую мову Міхаіла Галоднага ўсе цэнтральныя і падпольныя партызанскія выданні, яго ў выглядзе лістовак скідалі з самалёта на акупаваныя раёны СССР, першымі радкамі з яго (яны цытаваліся вышэй) пачыналіся і заканчваліся перадачы радыёстанцыі «Савецкая Беларусь», што працавала тады ў Маскве. З часам верш стаў гімнам партызанаў, і не толькі беларускіх.

Аднак вораг наступаў, нягледзячы на адчайнае супраціўленне Чырвонай Арміі і партызанаў. Летам 1942 г. ён ужо стаяў ля сцен Масквы. Янка Купала эвакуіраваўся ў пасёлак Пячышчы, што пад

Казанню. Як зараз прыдаліся б вопыт, мужнасць, сіла многіх тысяч не толькі цывільных людзей, але — перш за ўсё — афіцэраў, генералаў, маршалаў, знішчаных у 1930-х гг. па загаду Сталіна! Многіх з рэпрэсаваных народны паэт ведаў асабіста як шчырых патрыётаў, людзей з крыштальным сумленнем, верных рэвалюцыйным ідэалам. Не мог ён зразумець і неабходнасці заключэння перад самай вайной дагавора аб дружбе і супрацоўніцтве СССР з фашысцкай Германіяй. Менавіта сталінская палітыка прывяла да хуткага захопу фашыстамі Беларусі, значнай часткі тэрыторыі СССР, да таго, што гітлераўцы апынуліся ля самай Масквы. Але нават не словы — думкі такія ў той час станавіліся вядомыя ведамству Берыі…

Янка Купала ў пачатку чэрвеня 1942 г., напярэдадні свайго 60-гадовага юбілею, быў выкліканы ў Маскву. 8.6.1942 Казанскі гарадскі камітэт ВКП(б) выдаў паэту пасведчанне на паездку. Прыехаў ён у сталіцу 18 чэрвеня. У той жа дзень сустрэўся з Міхасём Лыньковым, Кандратам Крапівой, Кузьмой Чорным. 21 чэрвеня пасяліўся ў гасцініцы «Масква» ў 414-м нумары. Якая асноўная мэта была той паездкі, чаму не запрасілі ў Маскву і Уладзіславу Францаўну — невядома. Пэўны час у літаратуразнаўстве існавала думка: рыхтавацца да юбілею, які можна было б адзначыць як усенароднае свята нескаронай Беларусі. Але гэтай версіі пярэчыць той факт, што хоць юбілей быў на падыходзе, спецыяльнай урадавай пастановы наконт гэтай падзеі прынята не было. Хоць яшчэ 14 красавіка 1942 г. Бюро ЦК КП(б)Б прыняло рашэнне «правесці ў лістападзе 1942 г. юбілей 60-годдзя Народнага паэта БССР Я. Коласа» [5, т. 9, кн. 2, с. 367]. У склад юбілейнай камісіі па правядзенні юбілею Якуба Коласа быў уключаны і Янка Купала. Паэт, несумненна, ведаў пра гэта, але не мог зразумець: чаму ігнаруецца яго ўласны юбілей, які фактычна амаль на паўгода раней за Коласаў?

28 чэрвеня пры загадкавых абставінах паэт трагічна загінуў — упаў у пралёт гасцінічнай лесвіцы. Вось як пра абставіны яго гібелі пісаў з Масквы ў Ташкент Якубу Коласу Міхась Лынькоў, з пакоя якога на дзясятым паверсе «Масквы» (№ 1034) выйшаў Янка Купала а палове адзінаццатай вечара — за пару хвілін да трагедыі: «Упаў Янка, відаць, з пляцоўкі паміж 9-м і 10-м паверхам, у пралёт лесвіцы. Смерць была раптоўнай. Казалі, што ён нібы гаварыў з нейкай жанчынай на пляцоўцы і стаяў,

прыхіліўшыся да парапета. Але трайное следства, якое ішло [НКУС, вайсковай пракуратуры і міліцыі г. Масквы. — **В. Р.**], так і не ўстанавіла прычыны падзення. Медыцынскае ўскрыццё не знайшло ніякіх слядоў ап'янення. Чалавек быў трэзвым, чутачку выпіўшым шампанскага. Аб самагубстве не магло быць ні малейшага намёка. Быў ён жыццялюбам, такім мы бачылі яго і ў апошнія дні» [4, с. 159–160]. Дадаць трэба хіба што наступнае: матэрыялы «трайнога следства» гібелі народнага паэта Беларусі даследчыкам Купалавай творчасці да гэтага часу недаступныя. У свой час з версіямі пра смерць Янкі Купалы выступілі Барыс Сачанка [11], Георгій Колас [2] і некаторыя іншыя. Аднак па-ранейшаму апошнія хвіліны жыцця паэта застаюцца таямніцай…

Урна з прахам Янкі Купалы ў 1962 г. перавезена ў Мінск і пахавана на Вайсковых могілках (вул. Даўгабродская) побач з магілай другога класіка беларускай літаратуры — Якуба Коласа. У сталіцы Беларусі ў парку імя песняра, што побач з вуліцай Янкі Купалы, на месцы, дзе да вайны стаяў драўляны дом паэта (згарэў у першыя дні вайны), пабудаваны двухпавярховы будынак Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы (ён мае свае філіялы ў Вязынцы, Ляўках, Акопах і Яхімоўшчыне). У гэтым жа парку з 1972 г. узвышаецца велічны помнік народнаму паэту Беларусі работы скульптара Анатоля Анікейчыка.

## Літаратура


1. Довідник з історії України. — 2-е вид., доопр. і доповн. — Київ : Ґенеза, 2002.
2. Колас, Г. Карані міфаў / Георгій Колас. — Мінск : Маст. літ., 1998.
3. Купала і Колас, вы нас гадавалі : дакументы і матэрыялы : у 2 кн. / уклад. В. Дз. Селяменеў, В. У. Скалабан. — Мінск : Літаратура і Мастацтва, 2010. — Кн. 1. 1909–1939
4. Купала і Колас, вы нас гадавалі : дакументы і матэрыялы : у 2 кн. / уклад. В. Дз. Селяменеў, В. У. Скалабан. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2011. — Кн. 2. 1939–2009. Ч. 1
5. Купала, Я. Поўны збор твораў: у 9 т. / Янка Купала. — Мінск : Маст. літ., 1995–2003. — Т. 1–9.
6. Луначарский, А. Народный поэт Белоруссии / А. Луначарский // Известия. — 1930. — 15 мая.

7. Маракоў, Л. Вынішчэнне: рэпрэсаваныя беларускія літаратары: даведнік / Леанід Маракоў. — Мінск : Літ.-маст. фонд «Нёман», 2000.
8. Рагойша, В. І ўсё-такі яна ставілася! / В. Рагойша // Вяршыні / В. Рагойша. — Мінск : Універсітэцкае, 1991. — С. 64–67.
9. Рильський, М. Зібрання творів : у 20 т. / Максим Рильський. — Київ : Наукова думка, 1986. — Т. 14 : Літературно-критични статті.
10. Рильський, М. Нерозрівні зв'язки / Максим Рильський // Молодь України. — 1953. — 16 червня.
11. Сачанка, Б. Сняцца сны аб Беларусі… / Барыс Сачанка. — Мінск : Маст. літ., 1990.
12. Скалабан, В. Яўсей Канчар — палітык, гісторык, мемуарыст / В. Скалабан // Беларуская думка. — 2010. — № 1. — С. 88–91.
13. Слоўнік мовы Янкі Купалы : у 8 т. — Мінск : Беларуская навука, 1997–2004. — Т. 1–6.
14. Файнберг, Р. И. Янка Купала / Р. И. Файнберг // Янка Купала. Избранное. — Л. : Сов. писатель, 1973. — С. 53.
15. Энцыклапедыя гісторыі Беларусі : у 6 т. — Мінск : БелЭн, 2003. — Т. 6, кн. 1.

# ЯНКА КУПАЛА – ЛЕКСІКОГРАФ

Янка Купала — лексікограф ці, кажучы яго ж наватворам, — словапісец… На першы погляд, такое словаспалучэнне ў адносінах да песняра здаецца надуманым. Але ж мы ведаем, што разам з утварэннем у 1921 г. Навукова-тэрміналагічнай камісіі пры Навукова-літаратурным аддзеле Народнага камісарыята асветы Беларусі паэт стаў у ёй працаваць. Пачалі ў маладой Беларусі ствараццa беларускія школы, на парадку дня стала выданне для іх падручнікаў, і камісіі было даручана выпрацаваць па ўсіх школьных дысцыплінах адпаведны тэрміналагічны апарат. Аб працы Янкі Купалы ў тэрміналагічнай камісіі купалазнаўцы ведалі. Але якія вынікі той працы? А вось пра гэта стала вядома адносна нядаўна. А чаму — крыху пазней.

Для мяне ў свой час адкрыццём стала сустрэча ў спецфондзе колішняй Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У. Леніна (цяпер — Нацыянальная бібліятэка Беларусі) з другім вы-

пускам колішняга серыйнага выдання «Беларуская навуковая тэрміналогія» — кніжкай «Практыка і тэорыя літаратурнага мастацтва» [2]. Выданне для літаратуразнаўца, найперш для аўтара тлумачальных літаратуразнаўчых слоўнікаў, ужо само па сабе цікавае. Асабліва ж яно зацікавіла мяне, калі ўбачыў, што ўкладальнікам кніжкі з'яўляецца Янка Купала. Здзівіла толькі, што публікацыя, падрыхтаваная паэтам яшчэ ў перыяд працы ў Навукова-тэрміналагічнай камісіі і выдадзеная коштам Інстытута беларускай культуры ў 1923 г., засталася па-за ўвагай купалазнаўцаў. Кніжка не ўпаміналася ў крытыка-біяграфічных нарысах творчасці Янкі Купалы, не была апісана ні ў адной з самых поўных бібліяграфій Купалавай творчасці. Зрэшты, і пазней, ужо ў постсавецкі час, яна не трапіла ў вядомы біябібліяграфічны даведнік «Беларускія пісьменнікі» [5]. Нават у энцыклапедыі «Беларуская мова», дзе праца самой Навукова-тэрміналагічнай камісіі атрымала ўвогуле аб'ектыўную, прычым вельмі высокую, ацэнку, у артыкуле аб мове і моватворчай дзейнасці Янкі Купалы нічога не гаворыцца пра яго лексікаграфічны даробак [6]. І толькі ў Поўным зборы твораў паэта ў 9 тамах «Практыка і тэорыя літаратурнага мастацтва» нарэшце знайшла належнае месца. З маім удзелам як укладальніка і каментатара яна была перадрукавана пад назвай «Расейска-беларускі слоўнік» [9, с. 369–432, 640–644].

Першае пытанне, якое ўзнікае: чаму на пачатку 1920-х гг. паэт значны час адводзіў не чыста літаратурнай, а навуковай працы? Зразумела, трэба было недзе працаваць, зарабляць на хлеб, за тагачасныя ганарары (як, зрэшты, і за пазнейшыя) пражыць было немагчыма. Аднак тут жа напрошваецца і другое пытанне: чаму менавіта лексікаграфічны занятак, а не які-небудзь іншы, абраў Янка Купала? А вось адказ на гэта пытанне, як мне здаецца, знаходзіцца ў самой сутнасці творчай натуры песняра — яго выразнай грамадзянскасці, выключным патрыятызме, самаадданым служэнні Бацькаўшчыне. Ва ўмовах, што склаліся ў першыя гады савецкай улады ў Беларусі (жорсткія цэнзурныя абмежаванні, немагчымасць адкрыта, у публіцыстычным слове, выказаць думкі, якія хоць у нечым разыходзіліся з афіцыйнымі ўстаноўкамі, недавер да тых, хто перажыў польскую акупацыю, і г. д.), лексікаграфія для Янкі Купалы стала, бадай, ці не найлепшым спосабам служэння Бацькаўшчыне. Не забудзем, што ў той

час менавіта лексікаграфічная дзейнасць выйшла на пярэдні план сярод гуманітарных заняткаў на велізарнейшай частцы ўсяго еўрапейскага кантынента. Народы, якія нарэшце вызваліліся з-пад улады Расійскай і Аўстра-Венгерскай імперый, сталі паскорана ўзводзіць сваю дзяржаўнасць, фундаментам якой, як вядома, з'яўляецца нацыянальная адукацыя, навука, культура. Родная ж мова — самы надзейны цэмент, што змацоўвае гэты фундамент. І вось лепшыя літаратурныя і культурныя сілы ва Украіне і ў Польшчы, у Чэхаславакіі і Літве, у Латвіі і Эстоніі, у іншых, тады ўжо самастойных, дзяржавах актыўна ўключыліся ў працэс навукова-тэрміналагічнай словатворчасці, запаўняючы прагалы ў нацыянальным лексіконе. З канца жніўня 1920 г., пасля заканчэння савецка-польскай вайны, надышла пара для канкрэтнай дзяржаватворчай, нацыятворчай працы і ў нас. Бо дзяржаве, каб існаваць, а нацыі — каб жыць паўнакроўным духоўным жыццём, патрэбна была свая сістэма тэрмінаў для абслугоўвання ўсіх сфер народнай гаспадаркі, адукацыі, навукі і культуры. Не толькі спецыялісты-мовазнаўцы высокага класа, такія, як Сцяпан Некрашэвіч, Язэп Лёсік, Мікалай Байкоў і інш., але і выдатныя літаратары — Янка Купала, Якуб Колас, Максім Гарэцкі, Вацлаў Ластоўскі, Змітрок Бядуля — заняліся словапісам, сталі ствараць рознага тыпу слоўнікі: тэрміналагічныя, тлумачальныя, перакладныя…

Літаратуразнаўчая (і ўвогуле мастацтвазнаўчая) беларуская тэрміналогія, нягледзячы на тое, што стала ўзнікаць яшчэ некалькі стагоддзяў назад у «Граматыках» Лаўрэнція Зізанія (1596) і Мялеція Сматрыцкага (1618), «Лексіконе славенароскім» Памвы Бярынды (1627), у выніку вымушанай перапыненасці беларускага моватворчага працэсу (пад уздзеяннем паланізацыі, затым русіфікацыі) не ўстоялася і да пачатку 20-х гг. XX ст. канчаткова не адкрышталізавалася. Тыя некалькі дзясяткаў тэрмінаў, што ўжываліся ў публікацыях «Нашай Нівы» ды іншых нешматлікіх выданняў пачатку стагоддзя, як кажуць, пагоды не рабілі. Трэба было асвоіць, абеларусіць некалькі соцень найменняў, бальшыня з якіх у беларускамоўным друку ўвогуле ніколі не выкарыстоўвалася.

Янка Купала з літаратуразнаўчай тэрміналогіяй быў увогуле знаёмы — дзякуючы тэарэтыка-літаратурнай самаадукацыі,

працы ў «Нашай Ніве», вучобе на чатырохгадовых агульнаадукацыйных курсах Чарняева ў Пецярбурзе (1909–1913), а затым — ва ўніверсітэце Шаняўскага ў Маскве (1915). Праўда, гэта была найперш рускамоўная тэрміналогія. Але крыху абеларусіць яе не было вялікай цяжкасцю. Пра гэта, у прыватнасці, добра сведчыць ужо адзін з яго ранніх вершаў «Паэзія» (1906), у якім выкарыстаны дзясятак такіх тэрмінаў:

*Праўду з няпраўдай,*
*Цноту з гарэзіяй*
*Вымешай спрытам, —*
*Будзе* ***паэзія****.*

*Лета, ноч, месяц,*
*Клёнік, чарэсня,*
*Хлопец, дзяўчына, —*
*Вось вам і* ***песня****.*

*Шэпты, прысяга,*
*Вечная згода,*
*Вечная любасць, —*
*Вось вам і* ***ода****.*

*Пуня, дзяўчына,*
*Сена-прынада,*
*Хлопец пад пуняй, —*
*Вось* ***серэнада****.*

*Пуня падперта…*
*Голас: сусед я!*
*Бацька з дубінай, —*
*Вось вам* ***камед’я****.*

*Зімка. Знік хлопец,*
*Дзеўка ўжо «мамай»,*
*Слёзы… Палонка, —*
*Вось вам і* ***драма****.*

*Свет, людзі-шэльмы*
*Крадуць, лгуць шчыра,*
*Чэсны паэта, —*
*Вось вам* ***сатыра****.*

*Двор, хорам панскі;*
*Рада-парада, —*
*Добрасць, пачцівасць, —*
*Вось вам* ***балада****.*

*Свінні, падпасвіч,*
*Лапаць, парцянка,*
*Непагадзь, золка, —*
*Вось і* ***сялянка****.*

*Добра пан, пані;*
*Корміць іх ласка*
*Бедных, галодных, —*
*Вось вам і* ***казка****.*

*Пан, хам і поле,*
*Праца, нястатак…*
*Тры аплявухі, —*
*Вось і канчатак* [9, с. 107–108].

Якімі ж прынцыпамі пры стварэнні нарматыўнай беларускай літаратуразнаўчай тэрміналогіі карыстаўся Янка Купала? Пра гэта, а таксама пра многае іншае найлепей адказаў ён сам — ва ўступе да свайго тэрміналагічнага слоўніка. Прывядзём гэты ўступ цалкам:

*Апрацаванне тэрміналогіі «Практыка і тэорыя літаратурнага мастацтва» пачалося гуманітарнай секцыяй Беларускае Навукова-тэрміналагічнае камісіі ў 1921 г. і закончылася ў 1922 г. — Тэрміналагічнай камісіяй гуманітарнай секцыі Інстытута беларускае культуры.*

*Спачатку мелася на мэце апрацаванне сцісла стылістычнай тэрміналогіі, г. зн. тэорыі прозы і паэзіі. Але калі прыйшлося падбіраць тэрміны, то адразу выяснілася немагчымасць прытрымлівацца гэтае сціслы: тэорыя прозы й паэзіі так шырока абхоплівае ўсе галіны літаратурнага мастацтва, што выдзеліць сціслa стылістычныя тэрміны й замкнуцца ў пэўных рамках было б непажаданым абмежаваннем усяе працы ў дадзенай галіне. Апрача таго, калі б і выдзеліць дзе-якія сціслa стылістычныя тэрміны, то яны амаль што ўсе пераняты ўсімі народамі з грэцкае або лацінскае мовы, як, напр.,* ***проза, паэзія, драма, лірыка,*** *якія не паддаюцца перакладу, і гэтакім*

*чынам прыйшлося б даць не беларускія тэрміны, а чужаземныя ў беларускім правапісе. Дзеля гэтых вось прычын было вырашана надаць тэрміналогіі болей жыццёвага характару і абхапіць хоць частку таго літаратурнага слоўнікавага матэрыялу, з якім на кожным кроку прыходзіцца спатыкацца кожнаму пісьменніку ў сваёй літаратурнай працы. Гэтым Тэрміналагічная камісія манілася дасягнуць хоць і не поўнасцю дзвюх мэт: 1) даць самыя патрэбныя для тэорыі прозы й паэзіі і 2) даць беларускі тэрміналагічны матэрыял для літаратурнае практыкі, каб гэтым хоць крыху дапамагчы нашаму пісьменству, асабліва ча́сапіснаму, пазбавіцца ад лішняй, у большай частцы непатрэбнай і незразумелай, чужаземшчыны.*

*Разглядаючы чужаземныя тэрміны, Камісія старалася па магчымасці даваць заместа іх толькі беларускія, а калі й пакідаліся чужаземныя, то ўжо такія, што: або агульнапрынятыя, як, напр.:* ***літаратура, санет, ода****, або пашыраныя і ў народзе, як, напр.:* ***камедыя, талент, артысты****. Побач з беларускім ставіўся чужаземны тэрмін толькі тады, калі ён — таксама добра вядомае слова ў народзе. Агулам жа Камісія лічыла лішнім даваць чужаземныя тэрміны побач з беларускімі, зважаючы на тое, што калі хто захоча карыстацца з чужаземшчыны, то яе знойдзе і паміма беларускай тэрміналогіі.*

*Уся змешчаная ў гэтай кнізе тэрміналогія «Практыка і тэорыя літаратурнага мастацтва» канчаткова разгледжана й прынята Тэрміналагічнай камісіяй гуманітарнай секцыі Інстытута беларускае культуры ў складзе сяброў Камісіі:* ***М. Байкова, М. Гуткоўскага, Я. Лёсіка, І. Луцэвіча, К. Міцкевіча, С. Некрашэвіча, С. Плаўніка і У. Чаржынскага.***

*Слоўнікавы матэрыял для тэрміналогіі ў ліку 2500 слоў сабраў паводле альфабэту, упарадкаваў, пераглумачыў пабеларуску і прынятую тэрміналогію зрэдагаваў*

***старшыня гуманітарнай секцыі Інстытута беларускае культуры Ів. Луцэвіч.***

*Менск, студзень 1923 г.* [9, с. 371–372].

У прадмове — некаторая недакладнасць. У тэрміналагічны слоўнік «Практыка і тэорыя літаратурнага мастацтва», які складаецца з руска-беларускай часткі («Расейска-беларускі слоўнік») і «Слоўніка беларускіх тэрмінаў», уключана не 2500, а 1706 тэрмінаў. Магчыма, асобныя словы-тэрміны былі апушчаны

пры падрыхтоўцы слоўніка да выдання, без ведама Янкі Купалы, пасля таго ўжо, як ён напісаў сваю прадмову да выдання. Аднак і тое, што засталося, здзіўляе сваёй колькасцю. Для параўнання: сучасныя тлумачальныя літаратуразнаўчыя слоўнікі звычайна змяшчаюць нейкіх паўтысячы найменняў. Праўда, у «Практыку і тэорыю літаратурнага мастацтва», як і агаворваўся яго аўтар («*выдзеліць сцісла стылістычныя тэрміны й замкнуцца ў пэўных рамках было б непажаданым абмежаваннем усяе працы ў дадзенай галіне*»), увайшоў цэлы шэраг слоў, якія да літаратуразнаўчай тэрміналогіі маюць толькі ўскосныя адносіны. Гэта такія словы, як *абагульненне, абвестка, абмылка, аднастайны, асабісты, асаблівы, асабовы, асвета, вусны, выклік, выразны, гаворка, грамата, гутарка, дадатак, довад, думаць, жаласлівы, заданне, захапленне, здарэнне, імкненне, істотны, краіна, лёс, літаральны, маляўнічы, павучальны, прыгожасць, разумовы, сціслы, увага, узнёслы* і г. д. У рускай частцы слоўніка (з наступным іх перакладам на беларускую мову) пэўнае месца занялі (не маглі ў той час не заняць!) і неабавязковыя словы з палітычнага лексікону: *класс, классовый, коммуна, коммунизм, коммунистический, пролетариат, пролетарий, пролетарский, революция, революционный, советский*… Несумненна, усе гэтыя словы ўжываліся і ўжываюцца і ў літаратурных тэкстах, але да тэрміналогіі літаратуры і літаратуразнаўства не маюць прамога дачынення. Наяўнасць іх у купалаўскім слоўніку абумоўлівалася агульнай тэрміналагічнай нераспрацаванасцю тагачаснай беларускай літаратурнай мовы, неабходнасцю даць беларускія адпаведнікі да многіх рускіх слоў-найменняў.

Дарэчы, такое назіралася не толькі ў выданні «Практыка і тэорыя літаратурнага мастацтва», а, бадай, ва ўсіх 24 выпусках «Беларускай навуковай тэрміналогіі», што выйшлі ў 1922–1930 гг. і ахоплівалі самыя разнастайныя галіны ведаў: матэматыку, геаграфію, логіку і псіхалогію, геалогію, музыку, анатомію, грамадазнаўства, хімію, сельскую гаспадарку і інш. Своеасаблівай усёахопнасці лексічнага матэрыялу не пазбег, у прыватнасці, сам старшыня Галоўнай тэрміналагічнай камісіі Інбелкульта вядомы мовазнавец Язэп Лёсік, які распрацоўваў лінгвістычную тэрміналогію. Так, у ягонай «Граматычнай тэрміналогіі» [4], як і пазней ва ўкладзеным ім «Слоўніку граматычна-лінгвістычнае тэрміналогіі (Праект)» [3], сустра-

каюцца словы, што да лінгвістыкі маюць толькі адноснае дачыненне: *абрыс, відавочны, памылка, прыпушчэнне, старонка, увага, хібнасць, часоўны* і г. д.

Як ужо гаварылася, на пачатку 1920-х гг. Янка Купала заняўся лексікаграфіяй найперш з патрыятычных пабуджэнняў. Патрыятычны пафас у значнай ступені абумоўліваў характар працы ўсёй Навукова-тэрміналагічнай камісіі Інбелкульта, якая, як пісаў у 1922 г. часопіс «Адраджэнне», «па прыкладу чэхаў, трымалася таго погляду, што лепш утвараць згодна з законамі беларускай мовы неалагізмы, чымся браць чужыя, зусім незразумелыя словы» [1]. Такая ўстаноўка яскрава выявілася і ў «Практыцы і тэорыі літаратурнага мастацтва». Так, многія тэрміны, што, па словах Янкі Купалы, былі «*пераняты ўсімі народамі з грэцкае або лацінскае мовы*», аўтар слоўніка імкнуўся замяніць зразумелымі беларускімі адпаведнікамі. Вось асобныя вельмі паказальныя прыклады: *автотип — адбітка, амфиболия — двузначнасць, анаграмма — надпіс, анахронизм — нясучаснасць, аноним — бязыменнік, ассонанс — сугалоссе, афиша — абвестка, библиограф — кнігавед, библиотека — кніжня, биограф — жыццяпісец, варваризм — чужаслоў, вульгаризм — прастаслоўе, гекзаметр — шасцістоп, шасцімер, градация — ступенаванне, диссонанс — рознагучнасць, двустишие — двуверш, дубликат — падвойнік, дуэт — двуспеў, журнал — ча́сапіс, каламбур — жартаслоўе, изотонический — аднагучны, лексикография — словапіс, лексикология — словазнаўства, метонимия — перайменне, моносиллабический — аднаскладовы, оговорка — абмоўка, ономатопея — гукаперайманне, оратор — красамоўца, плеоназм — мнагаслоўе, подлинник — аўтэнтык, стихосложение — вершаванне, трилогия — троечасце* і інш. Праўда, як бачым, не заўсёды такая замена замежных тэрмінаў на чыста беларускія (паводле прыкладу тагачасных чэшскіх лексікографаў) было апраўданай, але сама тэндэнцыя відавочная.

Пераклад іншамоўных тэрмінаў патрабуе ад перакладчыка не толькі добрага ведання ім роднай мовы, здольнасцей яго як словатворца, але і глыбокага разумення сутнасці паняццяў, што выражаюцца гэтымі тэрмінамі. У дадзеным выпадку Янка Купала выступіў у ролі не толькі словапісца, стваральніка наватвораў, але і — літаратуразнаўца, дакладней — тэарэтыка літаратуры. Аналіз купалаўскай «Практыкі і тэорыі літаратурнага ма-

стацтва» паказвае, што паэт у асноўным дакладна ўзнавіў сутнасць літаратуразнаўчых тэрмінаў, знайшоў належныя беларускамоўныя адпаведнікі да многіх замежных найменняў. Несумненна, у гэтым яму дапамаглі не толькі тэарэтыка-літаратурныя веды, але і журналісцкая праца ў газеце «Наша Ніва». У свой час на газетных палосах знайшлі апрабацыю некаторыя тэрміны з галіны тэорыі і практыкі літаратурнага мастацтва (*агляд, адозва, апавяданне, аўтар, байка, верш, літаратура* і інш. — гл. 11). Гэты «задзел» Янка Купала выкарыстаў спаўна.

Праўда, сам «задзел» быў не вельмі вялікі, надта разнашэрсны, не ўпарадкаваны, не сістэматызаваны. Для яго, як паказаў мовазнаўца В. Красней [7], былі характэрныя полінайменнасць, калі для выражэння аднаго паняцця ўжывалася некалькі лексем (*пісьменнік — пісар — пісацель — артыста — пісар; з'ява — праява — сцэна; апавяданне — расказ),* варыянтнасць на фанетычна-марфалагічным і словаўтваральным узроўні (*абраз — образ — вобраз; твор — вытвар — рэч — штука; пісьменнасць — пісьменства — пісьменніцтва*). Трэба было спыніцца на нечым адным: адным слове або нават на адной форме слова. Пісьменнік з абсалютным моўным слыхам, Янка Купала амаль беспамылкова выбіраў з некалькіх варыянтаў адзін, максімум — два, якія затым з лёгкай паэтавай рукі станавіліся ў нас літаратурнай нормай: *пісьменнік, з'ява, апавяданне, вобраз, твор, пісьменства, верш, кірунак, мілагучнасць, мастацкасць, паданне, пераклад, рукапіс* і г. д. Побач з гэтым патрэбна было займацца неалагізацыяй, вынаходзіць наватворы. Асобныя ягоныя тэрміны, што з пэўных гістарычных прычын не ўвайшлі ў актыўны літаратурны абыходак, проста так і просяцца ў сучасныя беларускія слоўнікі літаратуразнаўчых тэрмінаў: *сугалоссе (ассонанс), адбітка (автотип), чужаслоў (варваризм), іншасказ (аллегория), мнагаслоўе (плеоназм), аднагалоссе (зияние), аднаверш (моностих), назваслоўе (терминология), недасказ (умолчание), вершаванне (стихосложение), досціп (остроумие), допіс (корреспонденция), жыццяпіс (биография), кнігапіс (библиография)* і інш. Зрэшты, некаторыя з гэтых і іншых купалаўскіх наватвораў ужываюцца ўжо ў сучаснай беларускай мове ў выглядзе тэрміналагічных сінонімаў, своеасаблівых слоў-дублетаў. І мала хто ведае, што заслуга ў гэтым — Янкі Купалы.

Сёння, з вышыні сучаснай лексікаграфіі, відаць не толькі дасягненні, але і асобныя ўпушчэнні, пралікі, агрэхі ўкладальніка «Практыкі і тэорыі літаратурнага мастацтва». У прыватнасці, часам у беларускім тэрміне не захоўваецца цалкам аб'ём і сутнасць зыходнага наймення. Так, *анафора* — гэта не любое *паўтарэнне*, *ария* — не любы *спеў*, *жанр* — не *род*, *куплет* — не *прыпеўка*, *тема* — не *заданне*, *роман* — не *повесць*, *сентиментализм* — не толькі *чуллівасць* і г. д. Тэрміны, як вядома, не любяць шматзначнасці. Аднак жа ў слоўніку ажно ў пяці значэннях ужываецца тэрмін *нарыс (очерк, начертание, схема, эскиз, этюд*), у чатырох — *апавяданне (повествование, рассказ, новелла, сказание), склад (силлаба, склад речи, слог, стиль), вобразны (образный, изобразительный, картинный, фигуральный*), *выслоўе (афоризм, изречение, предложение, фраза).* Што да двух- і трохсэнсавых тэрмінаў, то іх у слоўніку значна больш: *адухаўленне (одухотворение, одушевление), аўтар (автор, сочинитель), байка (аполог, басня), вершаванне (версификация, стихосложение, стихотворство), загаловак (заглавие, заголовок, титул), надпіс (анаграмма, анаграф, эпиграф), параўнанне (сопоставление, сравнение), стапа (метр, стопа*) і інш. Асобныя літаратуразнаўчыя тэрміны ўспрымаюцца сёння як штучна сканструяваныя: *пераносня (метафора), мігадзея (пантомима), брахняпіс (пасквиль), спрэчкапіс (полемика), творакрадства (плагиат), пастырка (пастораль), злосмех (сарказм), кругаход (период), старасветчына (архаизм), пасмерце (некролог), высмешка (ирония), выхвала (панегирик)* і інш.

І ўсё ж, нягледзячы на сказанае, купалаўская «Практыка і тэорыя літаратурнага мастацтва» заслугоўвае самай пільнай увагі як лексікографаў-мовазнаўцаў, так і літаратуразнаўцаў. Слоўнік, які ў свой час быў зацверджаны ў выглядзе тэрміналагічнага стандарту, аказаў значнае ўздзеянне на развіццё літаратуразнаўчай тэрміналогіі 1920-х гг. У прыватнасці, купалаўскі словапіс быў улічаны Максімам Гарэцкім у тлумачальным слоўніку літаратуразнаўчых тэрмінаў, што ў якасці дадатку ўвайшоў у 3-е (1924), а затым і ў 4-е (1926) выданне яго славутай «Гісторыі беларускае літаратуры». У «Назваслоўі» (так М. Гарэцкі назваў у 3-м выданні «Гісторыі…» свой тлумачальны літаратуразнаўчы слоўнік, дарэчы, першы такі слоўнік у

беларускім літаратуразнаўстве) былі растлумачаны ў алфавітным парадку 344 тэрміны. У «Слоўнічку літаратурных паняццяў» (дадатак да 4-га выдання «Гісторыі…») такіх тэрмінаў было менш — 154. Аднак і ў першым, і ў другім выпадках заўважаецца яўная арыентацыя на купалаўскую тэрміналогію. Нават тады, калі ў саміх гісторыка-літаратурных раздзелах «Гісторыі…» выкарыстоўваліся прамыя запазычанні грэцкіх і лацінскіх тэрмінаў. Так, у тлумачальным літаратуразнаўчым слоўніку як асноўны, загалоўны Гарэцкі бярэ тэрмін традыцыйнай паэтыкі, але тут жа, як ягоны сінонім, ставіць беларускі адпаведнік — купалаўскі наватвор з «Практыкі і тэорыі літаратурнага мастацтва». Напрыклад: *Алегорыя. — Іншасказ*… (Далей ідзе тлумачэнне паняцця); *Версіфікацыя. — Вершаванне*…; *Градацыя. — Ступенаванне*…; *Плеаназм. — Мнагаслоўе*…; *Сінонім. — Блізазначнік*… і г. д. [гл. пра гэта: 10].

На вялікі жаль, уздзеянне купалаўскай лексікаграфічнай працы на беларускую літаратуразнаўчую тэрміналогію пазнейшага часу не стала, як хацелася б, з’явай значнай і неабарачальнай. Тут якраз можна і адказаць на пытанне, пастаўленае намі ў пачатку артыкула: чаму ледзь не да канца XX ст. не толькі масавы чытач Купалавай творчай спадчыны, але і прафесійныя літаратуразнаўцы не ведалі пра існаванне «Практыкі і тэорыі літаратурнага мастацтва»? Успомнім словы з ліста Янкі Купалы да старшыні СНК БССР А. Чарвякова перад спробай самагубства паэта 20 лістапада 1930 года: «Лепей смерць фізічная, чымся незаслужаная смерць палітычная» [8, с. 113]. У выніку барацьбы бальшавікоў з «нацдэмамі», «выкрыцця» ў 1930 г. міфічнага «Саюза вызвалення Беларусі» былі арыштаваны, асуджаны да розных тэрмінаў пакарання (а многія пазней і расстраляны) 108 чалавек, у тым ліку і згаданыя Янкам Купалам у прадмове да свайго тэрміналагічнага слоўніка члены Навукова-тэрміналагічнай камісіі: М. Байкоў, М. Гуткоўскі, Я. Лёсік, С. Некрашэвіч, У. Чаржынскі. Пасля зняволення знішчаліся не толькі іх асабістыя публікацыі, але нават тыя, дзе ўпаміналіся іх прозвішчы. Такім чынам, наступала для вязняў «смерць палітычная». Згодна з гэтай чалавеканенавісніцкай логікай «Практыка і тэорыя літаратурнага мастацтва» Янкі Купалы не толькі была знішчана, але і выкраслена з бібліяграфічных

даведнікаў. Сам жа паэт-лексікограф працу гэту нідзе не ўспамінаў, тэрмінамі яе, за невялікім выключэннем, не карыстаўся [гл.: 12].

Купалаўскія намаганні па стварэнні ўласнабеларускага літаратуразнаўчага словапісу маюць не толькі чыста гістарычнае значэнне. Тэрміналагічны слоўнік «Практыка і тэорыя літаратурнага мастацтва» і сёння можа аказаць сваю паслугу навуцы пра літаратуру, мовазнаўству і нашаму грамадству ў цэлым.

## Літаратура

1. Адраджэнне. Сшытак 1. — Менск, 1922. — С. 281.
2. Беларуская навуковая тэрміналогія. Вып. 2 : Практыка і тэорыя літаратурнага мастацтва. — Менск : Выд. Інст-ту беларус. культуры, 1923.
3. Беларуская навуковая тэрміналогія. Вып. 15 : Слоўнік граматычналінгвістычнае тэрміналогіі (Праект). — Менск : Выд. Інст-ту беларус. культуры, 1927.
4. Граматычная тэрміналогія // Вестник Народного Комиссариата просвещения ССРБ. — 1921. — № 2.
5. Грышкевіч, В. М. Янка Купала / В. М. Грышкевіч, Г. П. Маркушэўская, Л. С. Новікава // Беларускія пісьменнікі : біябібліяграф. слоўнік : у 6 т. — Мінск : БелЭн, 1994. — Т. 3. — С. 489–568.
6. Каўрус, А. А. Янка Купала / А. А. Каўрус // Беларуская мова: энцыклапедыя. — Мінск : БелЭн, 1994. — С. 280–284.
7. Красней, В. П. Літаратуразнаўчыя тэрміны на старонках «Нашай Нівы» / В. П. Красней // Янка Купала і «Наша Ніва». — Мінск,1997. — С. 78–83.
8. Купала, Я. Поўны збор твораў : у 9 т. / Янка Купала. — Мінск : Маст. літ., 2002. — Т. 8 : Артыкулы ; Нататкі ; Выступленні ; Калектыўныя творы.
9. Купала, Я. Поўны збор твораў : у 9 т. / Янка Купала. — Мінск : Маст. літ., 2003. — Т. 9, кн. 1 : Пераклады ; Эпісталярная спадчына ; Дарчыя надпісы ; «Расейска-беларускі слоўнік» ; Калектыўнае ; Службовыя і асабістыя дакументы ; Дадатак.
10. Рагойша, В. Каб жыць у эпохах: «Назваслоўе» Максіма Гарэцкага / В. Рагойша // Роднае слова. — 1997. — № 6. — С. 42–49.

11. Слоўнік мовы «Нашай Нівы» (1906–1915) : у 5 т. / пад рэд. В. П. Лемцюговай. — Мінск : Тэхналогія, 2003. — Т. 1 : А—Д; Мінск : Тэхналогія, 2007. — Т. 2 : Д—Н.
12. Слоўнік мовы Янкі Купалы: у 8 т. / пад рэд. У. В. Анічэнкі (1–3 тт.) і В. А. Ляшчынскай (4–6 тт.). — Мінск : Беларус. навука, 1997–2006. — Т. 1–6.

# САНЕТАРЫЙ ЯНКІ КУПАЛЫ

Пра сталасць і развітасць любой паэзіі сведчыць, апрача ўсяго іншага, і наяўнасць у ёй разнастайных жанраў і відаў верша, якія выпрацавала нацыянальная і сусветная вepishатворчасць. Гісторыя літаратуры паказвае: кожны сапраўдны пісьменнік не толькі пашырае наша, чытацкае, светабачанне, светаадчуванне і светаразуменне, але і ўдасканальвае, узбагачае саму тэхніку мастацкае творчасці, тыя спосабы і сродкі, той інструментарый, з дапамогай якіх і можна спрабаваць шырэй і глыбей спасцігнуць духоўны космас чалавека. Адным з такіх пісьменнікаў-майстроў у беларускім прыгожым пісьменстве быў і застаецца Янка Купала. Менавіта ён увёў у новую беларускую літаратуру многія віды і жанры верша, у прыватнасці санет — гэтую, бадай, самую вышуканую вершаваную форму.

Санет (sonetto, ад sonare — гучаць) узнік у Італіі ў XIII ст., адкуль паступова і ўвайшла гэтая вершаваная форма ў большасць моў і літаратур свету. Складаецца санет з чатырнаццаці радкоў, аб’яднаных у два катрэны (чатырохрадкоўі) і два тэрцэты (трохрадкоўі). Найбольш распаўсюджаны яго памер — 5-, радзей 4- або 6-стопны ямб. Дзве рыфмы спалучаюць катрэны (abba abba ці abab abab), тры рыфмы тэрцэтаў размяшчаюцца ў залежнасці ад характару папярэдняй рыфмоўкі: ccd ede ці ccd eed. Такая будова санета цесна звязана з разгортваннем у ім паэтычнага зместу. У катрэнах ідзе развіццё тэмы, у тэрцэтах — кульмінацыя і развязка. Як адзначаў Максім Багдановіч у артыкуле «Санет» (1911), у першых васьмі радках «развіваецца тэма санета, а ў астатніх — заключэнне да яе; ставіцца пытанне і даецца адказ; малюецца абразок і даецца паясненне да яго». Асаблівая нагрузка падае на апошні тэрцэт, нават на апошні ра-

док санета (т. зв. санетны замок), які па вобразнасці і лаканічнай афарыстычнасці думкі павінен быць самым моцным у санеце. Больш таго, па законах класічнага санета апошняе слова ў ім павінна быць своеасаблівым сэнсавым «ключом» да ўсяго твора.

Строгая рэгламентаванасць санетнай формы, зразумела, ускладае на паэта дадатковыя цяжкасці і значныя абавязкі, абмяжоўвае яго фармальныя пошукі. Затое форма і дысцыплінуе вершатварца, падштурхоўвае яго да лаканізму, афарыстычнасці вобразнага выказвання, абумоўлівае пругкасць, сэнсавую ёмістасць вершаванага радка. Вось гэта апошняе, а таксама эстэтычная дасканаласць, прыгажосць самой вершаванай формы і прывялі да таго, што санет даволі хутка распаўсюдзіўся ў еўрапейскай (найперш італьянскай, іспанскай, партугальскай, французскай, англійскай), а затым і сусветнай паэзіі. З XVIII ст. ён вядомы ў рускай паэзіі, з XIX — ва ўкраінскай.

На Беларусі санет заявіў пра сябе яшчэ на пачатку XVII ст., калі Мялецій Сматрыцкі ў сваім славутым «Трэнасе» (Вільня, 1610) змясціў свой пераклад на лацінскую і польскую мовы санета Франчэска Петраркі «Папскаму двару ў Рыме». Аднак затым шматмоўная паэзія Беларусі два стагоддзі да санета не звярталася. І толькі на пачатку XIX ст. вуснамі нашага вялікага земляка Адама Міцкевіча, хоць усё яшчэ і не беларускім словам, яна стала прызнавацца санетам у любові да роднага краю і ў каханні да жанчыны, разважаць над праблемамі чалавечага існавання, складанасцю грамадскіх узаемаадносін і г. д. У 80-х гг. XIX ст. Міцкевічаў санет «Бура» (з цыкла «Крымскія санеты») упершыню загучаў і на беларускай мове — у перастварэнні Аляксандра Ельскага.

Сапраўднымі творцамі беларускага нацыянальнага санета сталі класікі нашай літаратуры Янка Купала і Максім Багдановіч. Янка Купала, верагодна, яшчэ да 1904 г., калі ён карыстаўся ў сваёй творчасці і польскай мовай, напісаў сем польскамоўных санетаў: «Беларус», «Не для вас…», «На змярканні», «…Перастаньце марыць пра слаўнае мінулае», «Гэй, у свет!..», «…З вечным болем замкнёныя ў сваіх марах», «Зямля…» (датаванне іх усіх 1906 г., відавочна, было абумоўлена першапачатковым жаданнем паэта выдаць у тым годзе кніжку на польскай мове). Вытрыманыя ў духу традыцый польскіх санетапісцаў (Адама Міцкевіча, Юльюша Славацкага, Адама Асныка, Мар'і

Канапніцкай, Яна Каспровіча і інш.), купалаўскія санеты, аднак, вызначаліся сваёй сацыяльнай і нацыянальнай беларускай канкрэтыкай. Сімптаматычна, што ў гэтым санетным шэрагу першым ідзе верш «Беларус» («Białorusin»). Пройдзе ўсяго пару гадоў, прагрымяць лёсаносныя падзеі 1905 г., і гэты няшчасны лапцюжны беларус далучыцца да «не аднаго мільёна» такіх жа, як і сам, гаротнікаў, каб ужо на сваёй беларускай мове заявіць на цэлы свет аб сваім жаданні і праве «людзьмі звацца».

У 1910 г., за год да з’яўлення санетаў Максіма Багдановіча, Янка Купала напісаў тры санеты на беларускай мове — «Жніво», «…Па межах родных і разорах» і «Запушчаны палац». Першы з іх быў надрукаваны 15 ліпеня 1910 г. у «Нашай Ніве» з паметай: Пецярбург, чэрвень 1910 г. Усе тры ўпершыню былі змешчаны ў зборніку «Шляхам жыцця» (1913). Як і наступныя тры — «Я люблю», «На вялікім свеце» і «Для зямлі прадзедаў маіх…», — датаваныя 1912 г. Затым паэт тры гады да санета не звяртаўся, хоць пісаў у гэты час многа і плённа. Аднак у драматычным 1915 г., калі руска-нямецкі фронт наблізіўся да Вільні, перажыванні паэта, яго роздум над праблемамі жыцця і смерці, крэўнай сувязі з родным народам і Бацькаўшчынай часта адліваліся ў дасканалую санетную форму. Шэсць санетаў напісаў ён у гэты час — чвэрць ад усіх вершаў, напісаных за цэлы год. Гэта былі такія творы філасофскага складу, як «Маё цярпенне», «Таварыш мой», «На суд», «Сярод магіл», «Чаму?», «Бацькаўшчына». Затым, як мы ведаем, на цэлыя тры гады Янка Купала зусім замаўчаў як паэт. На Беларусі ў крывавай бойцы сышліся мільённыя арміі, родная зямля была заліта крывёй тысяч нявінных ахвяр, вера ў адраджэнне Бацькаўшчыны згасала па меры разгарання ваеннага пажару. Давала пра сябе знаць і неўладкаванасць асабістага жыцця: голад, холад, няўпэўненасць у будучым. Аднак 1918 год, яго пачатак і асабліва канец, прынёс надзею, а затым і ўпэўненасць, што «не загіне край забраны». Жывучы ў Смаленску, Янка Купала быў сведкам падрыхтоўкі, а затым і абвяшчэння Савецкай Беларусі бальшавікамі Заходняй вобласці — неахвотнага абвяшчэння, пад націскам зверху, з агаворкамі, але, тым не менш, рэальнага і адчувальнага. Паэт зноў набываў Бацькаўшчыну, а разам з гэтым да яго зноў вяртаўся паэтычны голас. І першае, што ён напісаў 29

кастрычніка 1918 г. пасля доўгага творча-летаргічнага сну, быў санет «Для Бацькаўшчыны» з яго знакамітым пачаткам:

*Я зноў заснуўшую было жалейку*
*Бяру і пробую ў ёй галасоў:*
*Ці хопіць светлых, звонкіх думак-слоў,*
*Ці гладка пойдзе песня-дабрадзейка?* [2, т. 4, с. 27].

Песня-дабрадзейка пайшла «гладка»: услед за санетам паэт у гэты дзень напісаў яшчэ чатыры (!) класічныя вершы: «У дарозе», «Песня», «Свайму народу» і «На сход!» І ўсе наступныя дні былі паэтычна-плённыя, на свет з’яўляліся па аднаму, а то і па некалькі вершаў. Сярод іх — два санеты, «Пчолы» і «Наша гаспадарка», з іх падкрэслена патрыятычным пафасам. З’явіліся яны як адкрыты выклік тым шавіністычна настроеным камуністам, якія, маючы на ўвазе найперш яго, Янку Купалу, пагрозліва заяўлялі: «Потуги белорусской националистической интеллигенции к созданию «своего» белорусского языка, «своей» национальной культуры напрасны… Пусть примут это к сведению белорусские писатели» («Звезда», 5 лютага 1919 г.)…

Санетная форма напачатку ўзнікла як вышуканая, дасканалая пасудзіна для нектару кахання. Таму санет і цяпер нярэдка ўспрымаецца як жанр інтымнай лірыкі. Аднак яшчэ ў Шэкспіра ён да краёў напоўніўся філасофскім зместам. Калі ж Іван Франко стварыў т. зв. «вольныя» і нават «турэмныя» санеты, якія-небудзь тэматычныя абмежаванні для гэтай формы верша ўвогуле перасталі існаваць. Праўда, сама форма — пры любых матывах і тэматыцы — надае зместу медытатыўную настраёвасць, вымагае ад паэта слоўна-вобразнай ашчаднасці, лаканізму выказвання. Янку Купалу санет прыдаўся найперш для роздуму не філасофскага, не ўнутрана-асобаснага (хоць, зразумела, маецца і гэта), а найперш для разваг агульнаграмадзянскага значэння, для выяўлення трывог, хваляванняў і надзей, звязаных з сацыяльнымі і нацыянальнымі праблемамі існавання роднага народа. Бацька нацыі, ён на пачатку XX ст. — у самы мадэрновы перыяд развіцця еўрапейскай паэзіі — не спакусіўся рознымі чыста фармальнымі вышукамі, якіх тады ў паэзіі было нямала, не паддаўся эгацэнтрызму, душэўнаму самакапанню і самалюбаванню, што тады нават некаторым выдатным майстрам слова не дазваляла азірнуцца вакол сябе. Зрэшты, калі ён і

прыслухоўваўся да свайго ўнутранага голасу, да асабістага болю, то аказвалася, што гэтым голасам гаварыў яго зямляк-беларус, гэта быў боль роднай зямлі.

*І калі здзекваецца нада мною хтосьці —*
*Над Бацькаўшчынай здзекваецца ён маей,*
*Калі ж над ёй — мяне тым крыўдзіць найцяжэй.*
(«Бацькаўшчына»; 2, т. 4, с. 20)

Гэта не былі пустыя словы. Нават «*у тайным брэдзе*» ён помніў галоўнага адрасата сваёй паэзіі: «*Для Бацькаўшчыны-маці буду йграць!*» І іграў як толькі мог. На самых розных інструментах. У тым ліку — і на чатырнаццаці струнах санета…

Форма санета таксама з часам змянялася. Французы некалькі мадыфікавалі другую — тэрцэтную — частку верша, і ён набыў наступны выгляд: **вв гддг** або **вггв дд**. Шэкспір пісаў санеты ўжо ў форме трох чатырохрадкоўяў і аднаго двухрадкоўя: **абаб вгвг деде ёё** (т. зв. санет шэкспіраўскага тыпу). Нязменным звычайна заставаўся толькі памер — як правіла, пяцістопны ямб. Аднак, выяўляючы дыханне часу, Янка Купала, асабліва ў 1910–1912 гг., звычайна ламаў пракрустава ложа вершаванага памеру. Побач з ямбам чатырохстопным («…Па межах родных і разорах») і шасцістопным («Запушчаны палац») у яго з’яўляюцца трохскладовыя памеры — чатырохстопны амфібрахій («Жніво») і трохстопны анапест («Я люблю»). Больш таго, ён звяртаецца да тактавіка («Для зямлі прадзедаў маіх…»), што ўжо зусім парушала ўсталяваную традыцыю санетапісання. Да гэтага, часам, не захоўвалася агульнапрынятае чаргаванне мужчынскіх і жаночых рыфмаў. Некаторыя літаратуразнаўцы вытлумачваюць гэта пэўнай творчай нявопытнасцю самага Янкі Купалы, а таксама «агульнай збедненасцю нацыянальнай літаратуры з прычыны неспрыяльных умоў гістарычнага развіцця» [1, с. 144]. На самай справе, як нам здаецца, прычына тут у іншым — у даволі смелым стаўленні песняра да некаторых паэтычных канонаў, у жаданні знайсці адэкватную форму для выяўлення думкі і пачуцця, нават калі б дзеля гэтага і трэба было адысці ад нейкіх канонаў. Відавочна, невыпадкова, што з дваццаці двух яго санетаў толькі два («Таварыш мой» і «На суд») супадаюць у метрычным малюнку і рыфмоўцы, усе ж астатнія маюць кожны сваё аблічча, утвараючы 9 відаў і ажно 21 (!) разнавіднасць (паводле ме-

трычнага малюнку і рыфмоўкі). Ужо сярод санетаў на польскай мове, самых ранніх, мы не знойдзем ніводнага двайніка. І гэта пры «нязбедненасці» польскай літаратуры, пры ўсёй строгай кананічнасці польскага санетапісання. Хто з беларускіх паэтаў, апрача Янкі Купалы, мог і можа адважыцца на такое!

Па сутнасці, Янка Купала заклаў сваю, купалаўскую, традыцыю беларускага санетапісання, якая вызначаецца — пры захаванні асноўных архітэктанічных асаблівасцей санета (чатырнаццаць радкоў, два катрэны і два тэрцэты, звязаныя адпаведна дзвюма і трыма рыфмамі) — адносна вольным стаўленнем да яго вершаванага памеру і рыфмоўкі. Гэтаксама як Максім Багдановіч заклаў сваю, багдановічаўскую, строга рэгламентаваную традыцыю, увасобленую і на практыцы, і ў тэарэтычных развагах. Абедзве яны ўвасобіліся ў творчасці беларускіх паэтаў XX стагоддзя. Аднак трэба прызнаць: купалаўская традыцыя знайшла больш прыхільнікаў. У прыватнасці, яе падхапіў і далей развіў яшчэ адзін волат беларускага прыгожага пісьменства — Якуб Колас. Так, у санетапісанні ён смела выкарыстоўваў амфібрахій, дактыль і нават вольны дольнік, звяртаўся да дактылічных рыфмаў, чаго, у прыватнасці, руская і ўкраінская паэзія амаль не ведаюць, не прымаюць. Якубу Коласу належыць і першы, вельмі рэдкі ў беларускай паэзіі, санет-акраверш («Слова»).

Распачатая Янкам Купалам на самым пачатку XX ст. традыцыя санетапісання знайшла плённы працяг у творчасці Максіма Багдановіча, Алеся Гаруна, Змітрака Бядулі, Якуба Коласа, Язэпа Пушчы, Паўлюка Труса, Уладзіміра Жылкі, Уладзіміра Дубоўкі, Максіма Танка, Кастуся Кірэенкі, Алеся Звонака, Анатоля Сербантовіча, Петруся Макаля, Сяргея Грахоўскага, Хведара Жычкі, Рыгора Барадуліна, Янкі Сіпакова, Міколы Федзюковіча, Таісы Бондар, Алега Мінкіна і інш. Дзякуючы Міхасю Кавалю, Алесю Салаўю і Нілу Гілевічу ў 1950–1960-я гг. асобныя санеты — па пятнаццаць — упершыню ў беларускай паэзіі пачалі сплятацца ў вянкі санетаў. А ўжо ў канцы стагоддзя, дакладней — у 1992 г., дзякуючы Змітраку Марозаву не толькі ў беларускай, але і ва ўсёй славянскай паэзіі з'явіўся першы вянок вянкоў санетаў, што паяднаў у сабе 15 вянкоў санетаў, а ў цэлым — 225 асобных санетаў.

Трывалым аказаўся купалаўскі падмурак, калі на ім узведзены такі будынак!

## Літаратура

1. Грынчык, М. Шляхі беларускага вершаскладання / М. М. Грынчык. — Мінск : Выд-ва БДУ імя У. І. Леніна, 1973.
2. Купала, Я. Поўны збор твораў : у 9 т. / Янка Купала. — Мінск : Маст. літ., 1997. — Т. 4.

# ПЕРАКЛІЧКА ГЕНІЯЎ
## Янка Купала і Аляксандр Пушкін

Пачнём з парадоксу.

У лютым 1937 года да 100-годдзя з дня гібелі Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна Янка Купала выказаўся невялікім допісам «Любімы паэт» [3, т. 8, с. 168–169]. Любоў да вялікага рускага паэта, прычым любоў шчырая, увасобілася не толькі ў змесце гэтага выказвання, але нават у яго форме, што нагадвае паэтычны твор — версэт, у анафарычных зачынах чатырох яго абзацаў: «*Люблю я Пушкіна*…», «*Люблю я Пушкіна*…», «*Люблю я Пушкіна*…», «*Я люблю Пушкіна*…». Гэтае «прызнанне ў любові» адразу ж — 10 лютага 1937 г. — растыражыравалася не толькі ў беларускамоўнай рэспубліканскай «Звяздзе», але і ў рускамоўных газетах «Рабочий» і «Советская Белоруссия» (у апошняй яно друкавалася пад назвай «Певец свободы»).

Але дзе ж парадокс?

А справа ў тым, што дзевяццю гадамі раней 21 верасня 1928 г., у лісце да свайго ленінградскага біёграфа Льва Клейнбарта, згадваючы сваю маладосць і адказваючы на пытанне пра літаратурныя ўплывы на ўласную творчасць, беларускі пясняр сказаў пра Пушкіна нешта зусім іншае. Працытуем Янку Купалу па-руску — так, як ён сам пісаў да свайго адрасата: «*Какой автор тогда произвел на меня большее впечатление — трудно сказать. Но в общем помню хорошо, что книга, где говорилось о тяжкой доле бедного люда, всегда меня захватывала. Из этого, конечно, следует, что такие авторы, как Кондратович, Конопницкая, Ожешко (польские) и Некрасов, Кольцов (русские), меня больше всего интересовали. Впоследствии я увлекался Лермонтовым,*

*Надсоном, Пушкиным (не особенно). То место, где он где-то вспоминает о «черни», мне очень не нравилось, оскорбляло. Разумеется, это выражение я поверхностно тогда понимал. Из польских авторов на меня большое впечатление производили Выспянский, Словацкий, Мицкевич, отчасти Крашевский своими историческими романами*» [3, т. 9, кн. 1, с. 267]. Далей паэт дадае: «*Из русских должен отметить М. Горького, который произвел на меня сильное впечатление. «Бывшие люди», «На дне» и «Дети солнца» больше всего меня захватили. Потом отдал дань времени и увлекся, что называется, символистами — Андреевым, Сологубом и др., из польских — Пшибышевским. Из иностранной литературы: Байрон, Шекспир, Шиллер, Сервантес («Дон Кихот»), Гауптман, Гамсун («У врат царства») и (автор выскочил из памяти) — сочинения его «Бранд», «Строитель Сольнес», «Женщина с моря» и др.»* [3, т. 9, кн. 1, с. 268].

Як бачым, з усіх пералічаных рускіх, польскіх і замежных пісьменнікаў лаўраў Пушкіну дасталася найменш. Хоць і называе яго Янка Купала сярод тых, чыімі творамі «*увлекался*», але з удакладненнем: «*не особенно*»…

Калі пясняр быў шчырым, у першым ці ў другім выпадку? Думаецца, у абодвух. Як паэт, Янка Купала, гадаванец «шарачковай шляхты», цвёрда стаяў на баку бедных і абяздоленых, «паноў сахі і касы», «черни» (у тагачасным разуменні гэтага слова). Ён быў голасам сацыяльнага асяроддзя «прыніжаных і абражаных», якія жадалі спачатку толькі аднаго — «людзьмі звацца» (вершы з кніг «Жалейка», 1908, «Гусляр», 1910). Многія раннія творы Янкі Купалы напісаны то «пад Кальцова», то «пад Някрасава» з катэгарычным сцвярджэннем апошняга: «Поэтом можешь ты не быть, но гражданином быть обязан!» Несумненна, такія пушкінскія вершы, як «Деревня» з яе пафасам выкрыцця «барства дикого без чувства, без закона», не маглі не імпанаваць беларускаму паэту. Імпанавалі, хоць у кніжках для «масавага чытача» іх не часта можна было сустрэць. Безумоўна, не перабольшваў Якуб Колас, калі сцвярджаў, што «Янка Купала наследаваў высокія пушкінскія традыцыі ў лепшых сваіх творах: ён пачынаў тварыць у эпоху, якая паводле жудаснага прыгнёту рэакцыі адрознівалася ад пушкінскай бадай толькі тым, што пасля імені «Мікалай» стаялі не адна, а дзве палачкі, нібы сімвалізуючы ўзмацненне палачнага рэжыму. У дарэвалюцый-

най сваёй творчасці Купала наследаваў у Пушкіна тую вялікую любоў да радзімы, якая ў сутнасці сваёй азначала барацьбу з самаўладствам і прыгонніцкім ладам» [1, с. 86]. Тым не менш — купалаўскае «не особенно»…

Аднак па меры таго, як ішло паэтычнае і светапоглядне сталенне беларускага паэта (а ішло яно надзвычай хутка, чаму садзейнічала вучоба Янкі Купалы на агульнаадукацыйных курсах Чарняева ў Пецярбурзе ў 1909–1913 гг., больш глыбокае яго знаёмства з жыццём увогуле, з рускай і сусветнай літаратурнай класікай і г. д.), ён усё больш і больш «захапляўся» Пушкіным. Само сабой, да Пушкіна патрэбна было «дарастаць». Хаця б для таго, каб засвоіць класічную пушкінскую паэтыку, той жа чатырохстопны ямб, як, увогуле, і ўсю рускую сілаба-тоніку, больш арганічную для паэтычнага слыху беларуса, чым польская сілабіка. Да Пушкіна трэба было яшчэ ўзвысіцца. Да Пушкіна неабходна было дацягвацца. Узносіцца, быццам на неба. Пушкін быў наверсе і ўперадзе.

«Узнясенне» да Пушкіна працягвалася ў Янкі Купалы, па сутнасці, столькі ж, колькі доўжылася актыўнае творчае жыццё і самога генія рускай паэзіі — дзесьці каля дваццаці гадоў. Майстар не толькі інтымнай, пейзажнай, філасофскай, але і грамадзянскай, сатырычнай лірыкі, аўтар рамантычных паэм («Курган», «Бандароўна», «Магіла льва», «Яна і я»), арыгінальны драматург («Паўлінка», «Раскіданае гняздо», «Тутэйшыя»), палкі публіцыст, крытык, перакладчык, Янка Купала быў найперш «заражаны» пушкінскай ідэяй служэння самому мастацтву, айчыннай і ўсечалавечай культуры. Часам свядома арыентуючыся на рускага пабраціма, а часцей за ўсё ідучы тымі ж шляхамі, якім да яго па прасторах рускай культуры крочыў аўтар «Цыганоў» і «Меднага конніка», Янка Купала ў беларускай літаратуры выконваў, па сутнасці, тую ж ролю, што і Пушкін у рускай літаратуры. Ён паступова станавіўся выразнікам дум і настрояў не аднаго сацыяльнага слою, а ўсяго беларускага народа, больш таго — чалавека наогул, для якога паняцці гуманнасці і свабоды — не пустыя гукі. Валодаючы ад нараджэння агромністым літаратурным талентам, ён ствараў (разам з Якубам Коласам, М. Багдановічам, М. Гарэцкім і інш.) эстэтычную сістэму сучаснай беларускай прыгожай пісьменнасці, сучасную мадэль

беларускай літаратурнай мовы. Больш за тое, як шырока вядомы і аўтарытэтны пісьменнік з яскрава выяўленай грамадзянскай пазіцыяй, ён актыўна займаўся нацыятворчасцю, дзяржаватворчасцю, пазней — выпрацоўкай канцэпцыі дзяржаўнай незалежнасці Беларусі. Чаго, уласна, ад Пушкіна не патрабавалася — яго Расія здаўна была адной з вядучых дзяржаў свету. І тут Янка Купала, як мы ведаем, знаходзіў апору не ў рускіх паэтаў, а ў песняроў суседніх, паняволеных расійскім царызмам народаў — ва ўкраінца Тараса Шаўчэнкі, у палякаў Адама Міцкевіча, Марыі Канапніцкай, Элізы Ажэшка… «*В польской литературе*, — як тлумачыў Янка Купала, — *после упадка Польши больше выражалось стремления к политическому, а иногда и социальноиу вызволению, нежели, как мне казалось, в русской*» [3, т. 9, кн. 1, с. 267–268]…

У канцы жыццёвага шляху ў вершы «Я памятник себе воздвиг нерукотворный…» (1836) А. С. Пушкін так выразіў асноўны пафас сваёй творчасці:

*И долго буду тем любезен я народу,*
*Что чувства добрые я лирой пробуждал,*
*Что в мой жестокий век восславил я свободу*
*И милость к падшим призывал.*

У гэтых словах — асноўнае творчае крэда Пушкіна, у якім арганічна з’ядналіся яго ідэалы — маральна-этычны («чувства добрые я лирой пробуждал», «милость к падшим призывал») і сацыяльна-палітычны («в мой жестокий век восславил я свободу»). Толькі генію пад сілу эстэтычна абняць у сваёй творчасці адно і другое, не дапускаючы перакосу ў той ці іншы бок. Прычым выявіць усё гэта з такой мастацкай сілай, на якую здольныя толькі геніі.

Беларуская зямля пасля Францыска Скарыны роўна пяць вякоў чакала з’яўлення такога генія. Беларускага Адама Міцкевіча. Беларускага Тараса Шаўчэнку. Беларускага Аляксандра Пушкіна. Ім стаў вялікі Янка Купала.

У 1926 г., падводзячы вынік сваёй дваццацігадовай літаратурнай дзейнасці, Янка Купала ў вершы «За ўсё» пісаў:

*Я адплаціў народу,*
*Чым моц мая магла:*

*Зваў з путаў на свабоду,*
*Зваў з цемры да святла.*

*Для Бацькаўшчыны беднай,*
*Для ўпаўшых яе сіл*
*Складаў я гімн пабедны*
*Сярод крыжоў, магіл.*

*Змагаўшыся з напасцяй*
*За шчасце для людзей,*
*Не раз пісаў ў няшчасці*
*Крывёй сваіх грудзей.*

*Уносіў гэтым долю*
*Сваю для ўсіх дабра.*
*А болей... Што ж там болей*
*Жадаць ад песняра?!* [3, т. 4, с. 140]

Няўжо не чуцён у гэтых словах водгалас боскай пушкінскай ліры? І не ў сэнсе пераймання, паўтарэння, эпігонства, а — узнясення да Пушкіна, на вышыні дабра, гуманізму, свабоды...

Саракачатырохгадовы Янка Купала, як некалі трыццацішасцігадовы Аляксандр Пушкін, шчыра спавядаўся за зробленае дзеля роднага народа і любімай Айчыны. Прычым яны, праракі, месіі, ведалі сабе цану. Адзін «памятник себе воздвиг нерукотворный», які «вознесся выше... главою непокорной Александрийского столпа». Другі безапеляцыйна заяўляў: «*Цяпер беларускай я песні ўладар*».

Аднак, на жаль, у гэтым свеце ўладарыць не толькі, нават не столькі паэтычныя геніі з іх ідэаламі. Любая ўлада заўсёды імкнецца зрабіць сваімі слугамі тых, хто можа «глаголом жечь сердца людей». Ад непакорных, непадатлівых пазбаўляецца. Адным махам — як ад Пушкіна ў лютым 1837 г. Ці паступова — як ад Янкі Купалы: спачатку ў 1930 г., давёўшы паэта да спробы самагубства, і канчаткова — у 1942 г.

Але паміж гэтымі датамі, што ўвабралі ў сябе спробу Янкі Купалы пакончыць з жыццём пасля выклікаў у ДПУ, арышты большасці калег і сяброў і яго загадкава-трагічную смерць у маскоўскай гасцініцы «Москва», была яшчэ адна падзея, ужо згаданая намі. Гэта — грандыёзнае па маштабах ушанаванне Пушкіна ў 1937 г. — у самы жудасны, самы крывавы год

сталінскіх рэпрэсій. У мінскіх казематах НКУС мучыліся, чакаючы свайго трагічнага прысуду, сотні палітычных зняволеных, у тым ліку — дзясяткі вядомых беларускіх пісьменнікаў. Янка Купала ведаў пра гэта. Яго самога цягалі па начах на допыты, над ім самім навісла новая пятля, якую варта было толькі зашмаргнуць. Тагачасны першы сакратар ЦК КПБ(б) Панамарэнка, толькі што прызначаны ў Беларусь, пачаў раскручваць новы віток рэпрэсій супраць беларускай інтэлігенцыі, збіраючыся ліквідаваць і беларускую мову, і апошніх беларускіх пісьменнікаў, у тым ліку Янку Купалу, Якуба Коласа, Кандрата Крапіву, Змітрака Бядулю, Петруся Броўку, Кузьму Чорнага… Народных пісьменнікаў знішчыць сам не асмельваўся, таму прасіў дазволу ў Сталіна, напісаўшы таму 21.XI.1938 г., што быццам бы «в отношении Янка Купалы имеется 41 показание, в большинстве прямые… разоблаченных и арестованных врагов», якія сведчаць пра яго, як і іншых пісьменнікаў, антысавецкую, «вражескую работу… вплоть до связей с польской дефензивой», і таму ўсе яны «подлежат аресту и суду, как враги народа» [2, с. 290]. Атмасфера была жудасная. Галоўнае, і слова ў сваю абарону, у абарону іншых сказаць было нельга. А трэба было. І вось з’явіўся зручны момант.

Авалодаўшы моваю палітычнага інакшамоўлення яшчэ ў дарэвалюцыйны час, Янка Купала выкарыстаў яе і ў трагічныя для савецкага народа 30-я гг. мінулага стагоддзя, а менавіта — ў сотую гадавіну з дня пушкінскай смерці. Па-першае, маючы непасрэдны доступ да размеркавання твораў Пушкіна для перакладу на беларускую мову (а тады перакладаліся практычна ўсе лепшыя творы рускага пісьменніка), Янка Купала пакінуў за сабою — і, безумоўна, невыпадкова — знакамітую «пецярбургскую аповесць» — «Медны коннік». За «грозным царем», «кумиром», «державцем полумира», «горделивым истуканом», «мощным властителем судьбы» выразна праглядваўсяваспаваты твар самога Сталіна, чыёй «волей роковой» і здзяйсняліся ў той час розныя нядобрыя справы. У пушкінскай паэме, як помнім, «горделивый истукан» растоптвае лёс асобнага «маленькага» чалавека, пачынаючы ад ягонага спакою, кахання, шчасця, розуму і канчаючы яго фізічным існаваннем. Тое ж рабілі Сталін і яго апрычнікі з сучаснікамі Янкі Купалы. Так, у 1937 г. толькі за адну ноч, 29 кастрычніка, «у сталіцы Беларусі Мінску, — як

піша вядомы даследчык палітычных рэпрэсій пісьменнік Леанід Маракоў, — адбылася акцыя, аналагаў якой яшчэ не ведала гісторыя чалавецтва. На працягу ночы ў сутарэннях унутранай турмы НКУС, так званай «амерыканкі», былі расстраляны паэты Алесь Дудар, Юрка Лявонны, Валерый Маракоў, Сяргей Мурзо, Зяма Півавараў, Міхась Чарот, празаікі Міхась Зарэцкі, Васіль Каваль, Васіль Сташэўскі, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі паэт Анатоль Вольны, літаратурныя крытыкі Саламон Левін, Пятро Хатулёў, Макар Шалай, журналіст Павел Шастакоў, наркам асветы Аляксандр Чарнушэвіч, рэктар БДУ Ананій Дзьякаў…» [5, с. 6]. Але перапынім гэты мартыралог, што налічвае шмат прозвішчаў відных дзеячаў дзяржаўных, партыйных, навуковых, культурных, сярод якіх — звыш двух дзясяткаў пісьменнікаў. Хутчэй за ўсё пра тую канкрэтную карную акцыю, як і многія іншыя, Янка Купала не ведаў — карнікі не афішуюць сваіх злосных дзеянняў. Але пра шматлікія, нічым не апраўданыя арышты светлых асоб, у тым ліку сяброў Саюза пісьменнікаў Беларусі, ён не мог не ведаць. Нельга не згадзіцца з думкай літаратуразнаўца Цімафея Ліякумовіча: «Переводя пушкинскую поэму в душной атмосфере сталинских преследований, Купала не мог не думать о трагических судьбах современников, не лелеять потаенной мысли о восстановлении исторической справедливости и попранных человеческих прав» [4, с. 152].

У тым жа 1937 г., калі на старонках «Полымя рэвалюцыі» (№ 6), а пазней і асобным выданнем выйшаў «Медны коннік» у перакладзе Янкі Купалы, з'явіўся і згаданы юбілейны водгук песняра пра Пушкіна «Любімы паэт». За што ж урэшце палюбіў беларускі пясняр аўтара «Меднага конніка»? «*Люблю я Пушкіна за яго прыгожы, чароўны верш. Люблю за яго багацце думак, за сюжэтнасць, за зразумеласць яго мовы для ўсіх — ад малога да вялікага*» [3, т. 8, с. 168]. Затым — згадка пра пашыраную ў дарэвалюцыйнай Беларусі безыменную, але Пушкіну прыналежную, песню «Гляжу я, безумный, на черную шаль, і хладную душу терзает печаль…» (заўважым, што яе яшчэ ў 1912 г. Янка Купала ўклаў у вусны Адольфа Быкоўскага — персанажа славутай камедыі «Паўлінка», у гэткім жа, некалькі перайначаным, выглядзе; у Пушкіна было: «Гляжу как безумный на черную шаль, и хладную душу терзает печаль»). І вось пасля такіх агульных трох-чатырох фраз — сапраўднае «ўзнясенне» Янкі Купалы

да Пушкіна, які ў «жестокий век» «восславил свободу». «Дозволенными цензурою» словамі пра Пушкіна славіў у савецкай імперыі неабходнасць свабоды і Янка Купала:

*«Люблю я Пушкіна за яго гордасць, за свядомасць чалавечай дастойнасці, Пушкіна, акружанага прыдворнай камарылляй. Ён смела бічаваў вершамі і эпіграмамі ўладальнікаў таго часу. Ён не баяўся цароў і генералаў. Ён пісаў супроць імператара і яго прыслужнікаў, і пісаў шчыра-бунтарскі, не баючыся за сваё жыццё.*

*Люблю я Пушкіна за тое, што ў дэспатычным жандарскім акружэнні ён, адзінокі, быў страшным для царскіх сатрапаў. Імператар быў бяссільны са сваёй ахранай, прыдворнай гвардыяй і казематамі перад Пушкіным — паэтам. Вальнадумства Пушкіна было не толькі ў вершах і эпіграмах. Яго вальнадумства ішло ў нагу з дзекабрыстамі. Імператар, які загнаў на вечную катаргу — у Сібір лепшых барацьбітоў за свабоду — дзекабрыстаў, не пасмеў крануць безабароннага паэта. У цара хапіла храбрасці толькі спадцішка забіць вялікага песняра»* [3, т. 8, с. 169].

Ці не адчуваецца ў гэтых выказваннях выразная пераклічка з тагачаснай савецкай рэальнасцю? Думаю, што так. Адчуваецца, і яшчэ як. І адчуваецца не толькі нам, сённяшнім, але адчувалася і жыхарам ужо далёкіх 30-х гг. ХХ ст., спрактыкаваным у эзопавай мове дарэвалюцыйных і савецкіх літаратараў.

І ў канцы гэтага купалаўскага выказвання — як падагульненне выказанага, як «асучасненне», своеасаблівае «ажыўленне» Пушкіна, з’яўляецца фраза, якая ўсё ставіць на сваё месца:

«*Я люблю Пушкіна за тое, што ён у дні вялікай сталінскай эпохі паўстаў як жывы барацьбіт за свабоду, за шчасце чалавецтва... Мне хацелася б так пісаць, як пісаў любімы мною А. С. Пушк*ін» [3, т. 8, с. 169].

«Жывы барацьбіт за свабоду, за шчасце чалавецтва…». Несумненна, усё сказанае Янкам Купалам лёгка экстрапаліравалася на тагачасную савецкую рэчаіснасць, на «дні вялікай сталінскай эпохі». У тым ліку словы, што самому Янку Купалу «хацелася б» (ды, як усе разумелі, нельга было!) пісаць так, як пісаў яго любімы Пушкін, калі «бічаваў вершамі і эпіграмамі» ўладароў таго часу, «цароў і генералаў», прычым «не баючыся за сваё жыццё»… Усё-такі эпоха Сталіна, у якой існаваў Янка Купала,

была больш жорсткай, чым эпоха Мікалая I, у якую жыў Аляксандр Пушкін.

Цяжка сказаць, ці дайшлі купалаўскія словы да тых, хто сядзеў у цямніцах унутранай турмы НКУС, у гэтак званай «амерыканцы» (афіцыйныя газеты ім часам давалі чытаць). Але, несумненна, купалаўскае праслаўленне — з дапамогай Пушкіна — такіх чалавечых якасцей, як свабодалюбства, гордасць, нязломнасць, пачуццё чалавечай годнасці, дзеля якіх можна было пайсці і на смерць, былі адэкватна ўспрыняты 10 лютага 1937 г. чытачамі «Звязды», «Советской Белоруссии», «Рабочего». Гаворачы пра Пушкіна, Янка Купала выказваў і свае запаветныя думкі, якія іншым чынам у тагачасным падцэнзурным друку выказаць было нельга. Ён, як і раней, «зваў з путаў на свабоду, зваў з цемры да святла…»

## Літаратура

1. Колас, Я. Сонца нашай паэзіі / Якуб Колас // Зб. тв. : у 14 т. — Мінск, 1976. — Т. 12.
2. Купала і Колас, вы нас гадавалі : дакументы і матэрыялы : у 2 кн. / уклад. В. Дз. Селяменеў, В. У. Скалабан. — Мінск : Літаратура і Мастацтва, 2010. — Кн. 1. 1909–1939.
3. Купала, Я. Поўны збор твораў : у 9 т. / Янка Купала. — Мінск, 1995–2003. — Т. 1–9.
4. Лиокумович, Т. «Я люблю Пушкіна…» / Тимофей Лиокумович // А. С. Пушкін і Беларусь. — Мінск, 1999.
5. Маракоў, Л. Ахвяры і карнікі / Леанід Маракоў. — Мінск, 2007.

# КУПАЛАЎСКАЯ СЯБРЫНА «А хто там ідзе?» і яго пераклады на мовы свету

На сустрэчу-сябрыну звычайна з'яўляюцца самі. Але часам сяброў трэба і гукнуць. Бо да аднаго не дайшла звестка пра месца і час сустрэчы, другі забыўся на дамоўленасць, гэты заняўся хатнімі клопатамі, той займеў нейкі іншы інтарэс… А падзея вымагала сустрэчу не адкладваць, дый каб сяброўскае кола было не надта маленькае. Так думалася, калі яшчэ на пачатку 1970-х гг. узнікла ў мяне думка запрасіць на інтэрнацыянальную сябрыну паэтаў-перакладчыкаў купалаўскай паэзіі, дакладней — укласці кнігу аднаго верша Янкі Купалы «А хто там ідзе?» у перакладах на розныя мовы народаў свету. І выдаць яе да 90-годдзя з дня нараджэння народнага паэта. Але чаму я вырашыў звярнуцца менавіта да гэтага твора беларускага песняра?

* * *

Верш «А хто там ідзе?», напісаны ў час рэвалюцыйных падзей 1905–1907 гг. і ўпершыню апублікаваны ў зборніку «Жалейка» (Пецярбург, 1908), у творчасці Янкі Купалы, гісторыі беларускай літаратуры і грамадска-палітычнай думкі займае асаблівае месца. У ім вобразна і надзвычай сцісла (усяго пяць трохрадкоўяў!) выстаўлены напаказ усяму свету пакуты людзей працы пад жорсткім сацыяльным і нацыянальным прыгнётам, гучыць у ім крык душы занядбанага, забітага горам беларуса, выказаны актыўны пратэст пакрыўджаных. З верша паўстае вобраз беларускага народа дарэвалюцыйнага часу — агромністай грамады, якая вырушыла ў паход па сваё чалавечае шчасце. Гэта многамільённая грамада акрэслена сацыяльна. Ідуць не проста беларусы, а «пагарджаныя век» людзі: у іх худыя плечы, рукі ў крыві, ногі ў лапцях, яны «сляпыя», «глухія». Іх дзеянні яшчэ ў многім стыхійныя, не да канца ўсвядомленыя і мэтанакіраваныя. Аднак «грамада» ўжо ведае, *што* нясе на сваіх плячах («сваю крыўду»), *куды* нясе «гэту крыўду ўсю» («на свет цэлы»), *хто* яе разбудзіў («бяда, гора»), *чаго* яна дамагаецца («людзьмі звацца»).

У творы непарыўна звязаны рэальнае з умоўна-сімвалічным, рамантычнае з рэалістычным. Асобныя рэалістычныя дэталі дапамаглі паэту стварыць даволі канкрэтны вобраз працоўнага народа, абяздоленага, пагарджанага, але не зможанага бядою і горам. Велічнасць хады, фальклорная сімволіка, урачыста-ўзнёслы рытміка-інтанацыйны характар твора надалі яму своеасаблівую эпічнасць. Руская пісьменніца Ганна Караваева, маючы на ўвазе верш «А хто там ідзе?», прыгадвала: «Памятаю, разважаючы са сваімі курсавымі калегамі пра гэты цудоўны верш, я прызнавалася, што ён прынёс, напрыклад, для мяне новыя думкі пра эпічны пачатак. Звычайна ўяўляюць сабе эпічнае неяк шырока, прасторна, велічна. А ў Янкі Купалы вельмі кароткая фраза з двух слоў: «людзьмі звацца», а якія далягляды яна адкрывае, як ясна і пластычна бачацца за ёй беларусы, што ідуць наперад!..» [5, с. 254]. Выразную эпічнасць твору надаюць і адметныя гукавыя асацыяцыі, што ўзнікаюць у свядомасці чытача (слухача). «Чуваць у гэтым вершы водгулле размеранага кроку мільёнаў ног. Веліч пакрыўджанага народа, які ідзе на барацьбу за сваю чалавечую годнасць, на бой за шчасце, уздымае чытача. Песня аб тым вялікім паходзе імпануе, трывожыць, пранізвае пагрозай чакання. Народ ідзе!» — падкрэсліваў адразу пасля з’яўлення верша польскі літаратар Ежы Янкоўскі [7, с. 131]. Максім Танк канкрэтызаваў: «Адзін з выдатнейшых вершаў Купалы «А хто там ідзе?» напісаны ў незвычайным рытме — у рытме хады мільёнаў ног. Чытаючы гэты верш, мы нават, здаецца, чуем перабоі, якія бываюць, калі людзі ідуць велізарнай грамадой і нясуць на сваіх плячах нейкі цяжар» [6]. Народ у паказе паэта акрылены рамантыкай барацьбы за лепшую долю і волю, за свае чалавечыя правы. У цэлым жа купалаўскі малюнак народнага шэсця рамантычна-ўмоўны, уяўны. Гэткая ж умоўная і сімволіка твора, што вядзе сваю радаслоўную з вуснай народнай творчасці: вобразы крыўды, якую людзі нясуць «на худых плячах» напаказ усяму свету, бяды, якая навучыла несці крыўду, разбудзіла адвечны сон людзей…

Своеасаблівы, непаўторны рытм верша («водгулле размеранага кроку мільёнаў ног») ствараецца з дапамогай апорных рытмічных націскаў — 4 у першых двух радках кожнага трохрадкоўя і 2 — у заключных радках усіх 5 строфаў (за выключэннем першай страфы, дзе ў 3-м радку адзін такі націск). Пры гэтым цэзура дзеліць першыя два радкі ўсіх строфаў на

два паўрадкоўі. На рытміку твора ўплывае і роўная колькасць складоў у радках: у першых двух радках строфаў па 10 (толькі ў другой страфе, і то ў выніку дапрацоўкі верша, — па 11), у трэціх радках — па 4. Такім чынам, верш можна аднесці да танічнага вершавання, да яго акцэнтна-складовага віду (АС4/10). Аднак моцна адчуваецца ў вершы (асабліва ў першым яго варыянце) і пэўная ўпарадкаванасць стопная: у кожным паўрадкоўі — спалучэнне анапеста з ямбам (— — I — I або — I — — I), у трэціх радках строфаў (за выключэннем першай) — ямбахарэй (— I I —). Таму яго можна разглядаць і ў межах сілаба-тонікі, адносячы да лагаэда — надзвычай рэдкай разнавіднасці ўсходнеславянскага верша, што ўзнікла як пераходная форма ад народнай тонікі да сілаба-танічнай сістэмы вершавання.

Знешне просты, някідкі верш «А хто там ідзе?» вызначаецца не толькі своеасаблівай рытмікай, але і гукапісам, строфікай, кампазіцыяй. Па сваім інтанацыйным ладзе гэта вельмі меладычны песенны верш харальнага тыпу з амебейнай кампазіцыяй (пытанне — адказ). Як харал ён, у прыватнасці, выконваўся ў трупе Ігната Буйніцкага, дзе пытанне задаваў адзін чалавек, а адказваў хор. Вытокі такой кампазіцыі — у некаторых творах беларускага песеннага фальклору, вершах Францішка Багушэвіча («Чаго бяжыш, мужычок?»), у харавых песнях старажытнагрэчаскага тэатра з папераменным чаргаваннем у іх пытанняў і адказаў, строфаў і антыстрофаў. Пытанні — спакойна-разважлівыя, зусім канкрэтныя — задае ў вершы паэт. Адказвае паэту— энергічна-коратка, умоўна-вобразна — шматмільённая грамада. Такім чынам дасягаецца запаветнае жаданне паэта «з цэлым народам гутарку весці» («З кутка жаданняў»). Верш перарастае ў твор пра паэта, які разумее свой народ, і пра народ, які разумее свайго паэта, у твор самасцвярджэння народнага, якому спрыяе паэт.

Пафас твора, абумоўлены выразна дэмакратычным светапоглядам паэта, акрэсленне ў ім своеасаблівай паэтычнай «праграмы дзеяння» цэлага народа ў пэўны гістарычны перыяд, вонкавая прастата і агульнадаступнасць, песенны характар верша — усё гэта па зместу і форме наблізіла «А хто там ідзе?» да нацыянальнага гімна. «Штосьці накшталт беларускага гімна» бачыў у творы Максім Горкі (ліст да Міхайлы Кацюбінскага ад 7.11.1910 г.); пра тое, што ён «вырастае да сілы гімна», пісаў Е. Янкоўскі; вершам-гімнам беларускага народа, «сапраўднай

жамчужынай сусветнай паэзіі, адным з найпрыгажэйшых гімнаў адраджэння» назваў гэты твор літоўскі паэт Людас Гіра. У 1910 г. віленскі кампазітар Людамір Рагоўскі паклаў верш на музыку, і яго як неафіцыйны гімн выконвалі розныя беларускія суполкі да Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г. (а ў Заходняй Беларусі — да 17 верасня 1939 г.) перад пачаткам і пасля заканчэння розных урачыстых вечароў, сходаў, тэатралізаваных відовішчаў і г. д. Верш Янкі Купалы з нотамі Л. Рагоўскага газета «Наша Ніва» надрукавала і распаўсюджвала асобнай лістоўкай (1910).

Праз настаўніка Андрэя Посаха лістоўка трапіла на востраў Капры, дзе ў той час жыў Максім Горкі. Адзін экзэмпляр выдання з цёплым лістом — выказваннем пра твор Янкі Купалы — Максім Горкі паслаў выдатнаму ўкраінскаму празаіку М. Кацюбінскаму. У хуткім часе верш «А хто там ідзе?» стаў шырока вядомы не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі. Як магутны гімн народнага адраджэння верш успрымаўся ўсюды, куды ён толькі ні трапляў (на Украіне, у Чэхіі, Югаславіі і інш.). Гэта сведчыла пра яго інтэрнацыяналісцкі, усечалавечы характар, пра тое, што «яшчэ ў тыя далёкія часы, вырашаючы тэму чалавечай годнасці, Янка Купала перарос ужо нацыянальныя рамкі» (Аркадзь Куляшоў).

Верш «А хто там ідзе?» мае сапраўды гістарычнае значэнне. «У студэнцкай моладзі таго часу, — прыгадвала сучасніца паэта Софія Шамардзіна,— такія вершы былі на рэвалюцыйным узбраенні, і я памятаю, як горача і натхнёна гучалі яны» [5, с. 150]. Слова Янкі Купалы дапамагала заходнебеларускім працоўным вызваліцца ад сацыяльнага і нацыянальнага ўціску. Да верша звяртаўся пад час судовага працэсу над «Беларускай сялянска-работніцкай грамадой» (1928) яе кіраўнік Браніслаў Тарашкевіч. Сама назва гэтай арганізацыі, відавочна, узнікла не без уплыву купалаўскага вобраза «агромністай грамады».

Асабліва значнае ўздзеянне твора на літаратуру, культуру ў цэлым. Магчыма, славуты французскі пісьменнік Луі Арагон некалькі перабольшвае, калі лічыць «песню «А хто там ідзе?» паваротным пунктам у станаўленні новай беларускай літаратуры» [цыт. па.: 2, с. 23]. У той жа час у вершы «А хто там ідзе?», як і ў некаторых іншых творах Янкі Купалы таго часу («Там», «Ах, ці доўга», «Песня вольнага чалавека», «Спрасоння» і інш.), зараджаліся паасобныя адметныя рысы метаду, новага не толькі для творчасці паэта, але і для ўсёй беларускай літаратуры па-

чатку XX ст. Максім Горкі, якога, паводле яго слоў, «гэта рэч усхвалявала», цытаваў верш як узор «красамоўнай і суровай песні», сапраўды народнай купалаўскай паэзіі, горача жадаў, каб галоўныя якасці яе — шчырасць, прастата, задушэўнасць — сталі ўласцівымі і для большасці тагачасных рускіх паэтаў. Верш аказаў пэўны ўплыў на паэзію не толькі сваім сацыяльным зместам, але і высокім узроўнем майстэрства, «смеласцю фармальнага яго рашэння» (Мікалай Браўн): наватарскімі знаходкамі ў галіне вобразнасці, рытмікі, архітэктонікі. З часу напісання «А хто там ідзе?» і ў многім пад уплывам гэтага верша «пачалося шырокае прызнанне беларускай літаратуры як глыбока народнай, прагрэсіўнай, рэвалюцыйна-дэмакратычнай» (Гаўрыла Гарэцкі). Водгалас галоўнай думкі купалаўскага твора, яго вобразнага ладу адчуваецца ў многіх творах беларускіх савецкіх пісьменнікаў: Аркадзя Куляшова («Крыўда», 1931), Алеся Звонака («Беларусы», 1968), Анатоля Грачанікава («Людзьмі звацца», 1973) і інш. Верш Янкі Купалы натхніў Максіма Клімковіча і Нестара Сакалоўскага на стварэнне песні, якая стала Дзяржаўным гімнам БССР. Беларускі кампазітар Рыгор Пукст напісаў кантату «А хто там ідзе?» на словы Янкі Купалы («А хто там ідзе?»), а таксама Міхася Клімковіча, Паўлюка Труса і Кастуся Кірэенкі. Кім Цесакоў стварыў араторыю «Мы — беларусы» на словы Янкі Купалы, Пімена Панчанкі і Максіма Танка, дзе ў пралогу і эпілогу гучыць верш «А хто там ідзе?». Паводле матываў верша Заір Азгур вылепіў скульптурную кампазіцыю (загінула ў час Вялікай Айчыннай вайны), Пётра Сергіевіч намаляваў карціны «А хто там ідзе?» і «Беларусы», Уладзімір Гоманаў — жывапісны трыпціх «А хто там ідзе?», «Паланянкі» і «Зямля родная». Верш ілюстравалі Янка Раманоўскі, Валянцін Ціхановіч, Васіль Шаранговіч і інш.

Верш адразу ж пасля публікацыі пачаў перакладацца на розныя мовы народаў свету. Першымі да яго звярнуліся ўкраінцы (Мікіта Шапавал, 1909), літоўцы (Людас Гіра, 1910), рускія (Максім Горкі, 1911), чэхі (Адальф Чэрны, 1911), палякі (M. W. S., 1912). Перакладчыкам прыйшоўся да сэрца вольналюбівы пафас купалаўскага твора, адліты ў дасканалай вобразнай форме. Кожны з іх, па сутнасці, імкнуўся голасам Янкі Купалы выказаць боль, гнеў і надзеі роднага народа, што быў, як і тагачасныя беларусы, прыніжаны і абяздолены. Цікавы ў гэтым сэнсе на-

ступны факт. Удмурты з вершам Янкі Купалы пазнаёміліся яшчэ ў 1915 г. Верш ва ўзнаўленні Кузебая Герда (К. П. Чайнікава) быў змешчаны ў падпольным рукапісным часопісе «Семінарскае пяро». У перакладзе імя аўтара твора адсутнічала, а «беларусы» былі заменены «ўдмуртамі». Удмурты ішлі грамадой, неслі на худых плячах, у мазолістых руках сваю бяду, крыўду. Удмурты імкнуліся людзьмі звацца…

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі ўвага перакладчыкаў да верша «А хто там ідзе?» не толькі не паменшала, а, наадварот, узрасла. Народы, якія цярпелі пакуты (і пакутуюць зараз) пад сацыяльным прыгнётам, адчувалі (і адчуваюць) нацыянальнае прыніжэнне, бачылі (бачаць) у купалаўскім вершы сваё надзённае, запаветнае. Для тых жа, хто скінуў ланцугі няволі, верш стаў суровай згадкай пра тое, што было і чаго не павінна быць на зямлі. Як і іншыя творы бессмяротнага Янкі Купалы, «А хто там ідзе?» кранае чытачоў сваёй гаротнай праўдай, дакладнай гуманістычнай скіраванасцю і мастацкай гармоніяй.

Знамянальна, што да «А хто там ідзе?» звярталіся і звяртаюцца самыя знакамітыя дзеячы нацыянальнай культуры. У шэрагу кангеніяльных перакладчыкаў купалаўскага твора — лепшыя пісьменнікі XX ст.: рускі Максім Горкі і француз Луі Арагон, англічанка Вера Рыч і сербка Дэсанка Максімавіч, кітаец Чжу Цзі і грэк Яніс Рыцас, літовец Людас Гіра і казах Ільяс Джансугураў, украінец Максім Рыльскі і аварац Расул Гамзатаў, азербайджанін Расул Рза і латыш Юлій Ванаг, армянін Наіры Зар’ян і балгарын Найдан Вылчаў, егіпцянін Абдурахман аль-Хамісі і італьянец Альда Севярыні, кіргіз Аалы Такамбаеў і малдаванін Андрэй Лупан, узбечка Зульфія і балкарац Кайсын Куліеў… Прычым многія з перакладчыкаў лічылі за гонар і шчасце перакладаць верш Янкі Купалы.

У сваю чаргу, мы, землякі Янкі Купалы, з удзячнасцю згадваем кожнага, хто адчуў унутраную патрэбу прычасціцца да светлай купалаўскай крыніцы, даў магчымасць слову паэта залунаць над краінамі і кантынентамі ўсяго зямнога шара. Пра вялікую папулярнасць верша «А хто там ідзе?» у літаратурным свеце сведчыць таксама даволі значная колькасць яго мастацкіх узнаўленняў. На асобных мовах існуе па тры, чатыры і больш перакладаў яго. Так, на ўкраінскай мове сёння налічваецца шэсць перакладаў верша Янкі Купалы. Шэсць разоў верш перакладаўся

і на англійскую мову, столькі ж перакладных варыянтаў верша мае польская літаратура. Чатыры разы «А хто там ідзе?» перакладаўся на рускую і венгерскую мовы. Тройчы верш узнаўляўся па-італьянску, па-нямецку, па-чэшску, па-ўдмурцку і інш. Па два пераклады верша маюць алтайцы, асеціны, в'етнамцы, грэкі, казахі, лезгінцы, малдаване, таджыкі, тувінцы, туркмены, фіны, французы, японцы… Увесь час з'яўляюцца новыя мастацкія пераклады гэтага купалаўскага твора (праўда, звесткі пра іх нярэдка даходзяць да нас са спазненнем). Усё гэта сведчыць пра жыццяздольнасць, надзвычайную вядомасць не толькі верша «А хто там ідзе?», але і ўсёй творчасці класіка беларускай літаратуры, народнага паэта Беларусі Янкі Купалы.

* * *

У пачатку 1970-х гг. налічвалася каля двух дзясяткаў моў народаў СССР, на якіх гучаў верш беларускага песняра. Былі пераклады на мовы рускую (Максіма Горкага, Ус. Раждзественскага, М. Браўна, М. Ісакоўскага), украінскую (М. Шапавала, С. Піліпэнкі, Т. Масэнкі, А. Малышкі), армянскую (Н. Зар'яна), грузінскую (М. Мачаварыяні), казахскую (І. Джансугурава), літоўскую (Л. Гіры, А. Венцлавы), малдаўскую (А. Лупана), таджыкскую (М. Шэраліева), удмурцкую (К. Герда), уйгурскую (Х. Абдуліна), чувашскую (А. Эсхеля), эстонскую (М. Веетама). А былі ж яшчэ ўзнаўленні на мовы іншых народаў і краін. І ўсё ж лічба перакладаў была яшчэ не дужа значная, каб хутчэй збіраць іх пад адну кніжную вокладку. Трэба было шукаць новых сяброў беларускай літаратуры, творчасці песняра…

Тады, да 90-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы, Камітэт па друку пры Савеце Міністраў БССР не пагадзіўся выдаваць кнігу: маўляў, беларусы дзякуючы Кастрычніцкай рэвалюцыі «ўжо сталі людзьмі», трэба падрыхтаваць зборнік з нейкім савецкім купалаўскім вершам… Аднак ад ранейшай задумы я не адмовіўся. Балазе і нагода не менш важная займалася на даляглядзе: сотая гадавіна з дня нараджэння геніяльнага песняра. Сама дата канкрэтызавала і творчую задачу: сто гадоў — сто перакладаў!

Ужо добра ўзяўшыся за працу, я зразумеў: аднаму, ды яшчэ на грамадскіх пачатках, яе не асіліць. Таму запрасіў у памочнікі выдатнага знаўцу купалаўскай спадчыны, галоўнага захавальніка

архіўных фондаў Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы, пляменніцу народнага паэта Ядвігу Юльянаўну Раманоўскую. Дзякуючы ёй можна было афіцыйна звяртацца ў розныя ўстановы і арганізацыі, весці актыўную перапіску з перакладчыкамі, нават з замежнымі (што ў той час было няпроста). Народны паэт Беларусі Максім Танк (а з ім мы былі ў добрых адносінах яшчэ з часу абароны мной кандыдацкай дысертацыі «Паэтыка Максіма Танка») па маёй просьбе згадзіўся стаць аўтарам прадмовы да выдання. Народны мастак СССР Міхаіл Савіцкі ў той перад’юбілейны час маляваў для купалаўскага музея серыю жывапісных палотнаў па матывах творчасці песняра. Мы з Ядвігай Юльянаўнай угаварылі яго перадаць 12 каляровых рэпрадукцый карцін для першапублікацыі ў кнізе «А хто там ідзе?» — яшчэ да таго, як арыгіналы палотнаў размясціліся на сценах музея. Шчыра падтрымалі кнігу і выдавецкія работнікі: тагачасны дырэктар выдавецтва «Мастацкая літаратура» Міхал Дубянецкі, выдатны майстар мастацкага афармлення кніжных выданняў Леанід Прагін, рэдактар Нэла Тулупава. Перад такой грамадой не змог ужо ўстаяць і Камітэт па друку…

Настала самая гарачая пара — скліканне сябрыны. На яе вырашана было запрасіць самых ганаровых гасцей — найлепшых нацыянальных паэтаў-перакладчыкаў. Мы з Ядвігай Юльянаўнай пачалі актыўна наладжваць кантакты з літаратарамі з розных саюзных і аўтаномных рэспублік СССР, весці з імі ажыўленую перапіску. У той час я быў старшынёй секцыі мастацкага перакладу Саюза пісьменнікаў БССР і ўваходзіў у склад усесаюзнага Савета па мастацкаму перакладу пры Саюзе пісьменнікаў СССР. На пасяджэннях Савета ў Маскве я мэтанакіравана імкнуўся пазнаёміцца з паэтамі-перакладчыкамі з розных краёў і абласцей СССР. Калі ведаў, што на іх мову верш «А хто там ідзе?» яшчэ не пераствораны, з настойлівай просьбай аб гэтым уручаў ім папяровы пакет з арыгіналам верша, яго рускім падрадкоўнікам (з тлумачэннем паэтыкі верша) і перакладам на рускую мову Максіма Горкага. Апрача гэтага, для арганізацыі перакладаў на замежныя мовы я выкарыстоўваў свой удзел у міжнародных навуковых канферэнцыях, у маскоўскіх міжнародных творчых сімпозіумах па мастацкаму перакладу. Толькі цяпер папяровы пакет запаўняўся некалькі іншым змесцівам: апрача беларускага арыгінала і падрадкоўнікаў на рускай і англійскай мовах, у ім

былі і наяўныя тагачасныя пераклады на найбольш вядомых сусветных і рэгіянальных мовах — англійскай, рускай, французскай, кітайскай… У прыватнасці, так узніклі пераклады на арабскую мову Абдурахмана аль-Хамісі, валійскую Гарэт Джонс, грэчаскую Яніса Рыцаса, іспанскую Хуана Рамона Масалівера, італьянскую Альда Севярыні, карэйскую Лі Гендзіна, каталонскую Перэ Гімферэра, малагасійскую Эстэр Рандрыамамоні, малаялам Гапалакрышнана Найяра, нарвежскую Марціна Нага, нямецкую Элізабет Котмаер, партугальскую Мануэля дэ Сеабры, румынскую Іона Драганою, сінгальскую Сірыла Перэра, тамілі Сома Сундарама, турэцкую Атаола Бехрамаглу, урду Хайдэра Такі, хіндзі Мадана Лала Мадху, японскую Дзіра Кітамікада. Выкарыстоўваў я для гэтага і свае паездкі за межы СССР. Так, дзякуючы прыязнай сустрэчы ў Белградзе з класікам сербскай літаратуры Дэсанкай Максімавіч у кнізе «А хто там ідзе?» з'віўся яе пераклад на сербахарвацкую мову…

Што да майстроў мастацкага слова саюзных і аўтаномных рэспублік, аўтаномных акругоў і абласцей СССР, то іх абсалютная большасць з задавальненнем успрыняла прапанову перакласці твор беларускага песняра на родную мову. Вось, у прыватнасці, прызнанне аднаго з выдатных савецкіх паэтаў балкарца Кайсына Куліева: «Верш «А хто там ідзе?» я ведаю з юнацкіх год. І перакладаў яго з задавальненнем. І таму, што ён цудоўны, і таму, што я сын народа, які вельмі шмат перапакутаваў… Імкнуўся, каб мой пераклад быў як мага бліжэй да арыгінала і гучаў проста, натуральна… Я лічыў для сябе радасцю і гонарам перакладаць выдатны, горкі, справядлівы верш Купалы»*. Падобныя пачуцці валодалі і народнай паэтэсай Узбекістана Зульфіёй (так здарылася, што да яе на ўзбекскую мову гэты верш не перакладаўся): «Я дзякую маім таварышам за аказаны мне гонар — быць сярод стваральнікаў-удзельнікаў гэтай інтэрнацыянальнай кнігі класіка беларускай літаратуры Янкі Купалы. З вялікай гордасцю пераклала гэты выдатны верш на сваю мову, мову Алішэра Наваі. Мне здаецца, пераклад атрымаўся някепскі, дакладна перададзены вялікі рэвалюцыйны

---

* Гэтыя і іншыя лісты перакладчыкаў захоўваюцца ў архіўным фондзе Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы (Мінск).

дух і музыка верша». Цікава, што праз некалькі гадоў Зульфія палічыла патрэбным яшчэ раз выказаць гэтае адчуванне — ужо ў прадмове да свайго паэтычнага зборніка «Такое сэрца ў мяне», што ў перакладзе на беларускую мову выйшаў у Мінску ў 1985 г.: «Мне пашчасціла перакласці класічны верш Янкі Купалы «А хто там ідзе?» для ўнікальнага, інтэрнацыянальнага выдання аднаго гэтага верша на мовах свету. І светла ў мяне на душы ад таго, што я ведаю і люблю беларускую літаратуру, якая дала нашай савецкай культуры такіх волатаў слова, як Купала і Колас…».

Некалькі месяцаў не было адказу ад народнага паэта Азербайджана Расула Рзы. Нарэшце ў доўгачаканым канверце ляжала тлумачэнне такой затрымкі: «Я доўга хварэў. Толькі днямі выпісаўся з бальніцы. Вашу просьбу абавязкова выканаю. У самы бліжэйшы час зраблю і вышлю пераклад». Неўзабаве пераклад мы атрымалі. Доўгі час розныя бягучыя справы перашкаджалі сесці за пераклад «А хто там ідзе?» і Расулу Гамзатаву. Дапамог выпадак. Па пуцёўцы Літфонда СССР мне пашчасціла паехаць у санаторый у Карлавы Вары (Чэхія). Аднойчы каля бювета з лекавай вадой мы і спаткаліся з Расулам Гамзатавым. Тагачаснае асабістае знаёмства і пасадзейнічала таму, што ў хуткім часе ў Маскве на кватэры паэта я трымаў у руках ліст паперы з перакладам верша на аварскую мову.

Па-малдаўску яшчэ ў 1956 г. верш Янкі Купалы ўзнавіў Герой Сацыялістычнай Працы, акадэмік Андрэй Лупан («Октомбрие», 1956, № 10). Аднак перад самай здачай кнігі «А хто там ідзе? : На мовах свету» ў друк выявілася, што ў перакладзе не пяць строфаў, як у арыгінале, а чатыры. Трэба было тэрмінова звязвацца з перакладчыкам: шукаць адрас, прасіць яго яшчэ раз, праз шмат гадоў, звярнуцца да купалаўскага верша. Але як гэта зрабіць? І тут прыгадалася: некалькімі гадамі раней у Доме творчасці СП СССР у Ялце мы пазнаёміліся з цікавай пісьменніцкай сям’ёй. Муж — рускі паэт Мікалай Савосцін, жонка — вядомы малдаўскі празаік Анна Лупан, родная сястра Андрэя Лупана. Тут жа было вырашана выкарыстаць тое знаёмства… «Проста не разумею, як з’явіўся той скарочаны варыянт, — дзівіўся неўзабаве ў лісце сам перакладчык, — відаць, скарацілі без майго ведама. Зразумела, я не мог дапусціць такога кашчунства ў дачыненні да славутага і любімага мной паэта.

Цяпер пасылаю пераклад, які прашу лічыць сапраўдным… Паведаміце, калі ласка, пра лёс перакладу».

А лёс гэтага, як і многіх іншых перакладаў, ужо быў шчасліва прадвызначаны. Нягледзячы на розныя творчыя, арганізацыйныя, тэхнічныя складанасці (звязаныя найперш з наборам тэкстаў на не кірылічным і не лацінскім алфавітах) кніга летам 1982 г., перад самым стагадовым юбілеем песняра, убачыла свет [2]. Праўда, з'явіўся не ўвесь яе дзесяцітысячны тыраж, а ўсяго пару соцень асобнікаў. Выдавецтва — і таксама па тэхнічных прычынах (асаблівую, «пад старыну», паперу трэба было закупляць недзе ў Прыбалтыцы) — увесь тыраж не паспела надрукаваць да 7 ліпеня, да юбілею беларускага песняра.

Упершыню кнігу змаглі патрымаць у руках удзельнікі юбілейнай купалаўскай вечарыны ў Вялікім акадэмічным тэатры оперы і балета БССР. Яна прадавалася ў тэатральным кніжным кіёску. Яе як самы значны юбілейны рарытэт расклалі на сталах перад членамі ўрачыстага прэзідыума — беларусамі і гасцямі з саюзных рэспублік і некаторых замежных краін. У тым ліку — перад старшынёй юбілейнага камітэта намеснікам Старшыні Савета Міністраў БССР Нінай Сняжковай. Я, седзячы па запрашальным білеце на балконе, добра бачыў, як Сняжкова з цікавасцю пачала прыглядацца да кнігі, гартаць яе, потым раптам занервавалася, падазвала з-за куліс свайго памочніка і нешта шапнула яму, паказваючы на кнігу… Мне стала не па сабе. Я ўсё зразумеў. Я сарваўся з месца і пабег у кіёск, дзе купіў яшчэ некалькі асобнікаў выдання — на ўсе грошы, якія ў мяне былі.

І добра, што зрабіў гэта своечасова. Бо ўжо ў перапынку вечарыны кніга ў кіёску не прадавалася. У той жа дзень было спынена і яе друкаванне на мінскім паліграфкамбінаце імя Якуба Коласа. Работнікі выдавецтва атрымалі сур'ёзныя «внушения»…

* * *

Юбілейная вечарына праходзіла ў дзень нараджэння Янкі Купалы, 7 ліпеня 1982 г.. А праз два дні ў газеце «Літаратура і мастацтва» паведамлялася: «Гэтае ўнікальнае выданне толькі што пабачыла свет у «Мастацкай літаратуры» — прыгожая, аформленая ў выглядзе альбома кніга, у якой тэкст верша

прыводзіцца ў арыгінале і ў перакладзе на 81 мову народаў СССР і свету. У пачатку кнігі змешчана факсіміле твора, якое захоўваецца ў Літаратурным музеі Янкі Купалы. Пераклады пададзены ў алфавітным парадку назваў тых моў, на якіх верш «А хто там ідзе?» узноўлены… Кніга ілюстравана карцінамі народнага мастака СССР Міхаіла Савіцкага, выкананымі аўтарам для Літаратурнага музея Янкі Купалы. Змешчаны таксама партрэты бацькоў песняра — маці Бянігны Іванаўны і бацькі Дамініка Ануфрыевіча і каля трыццаці фотапартрэтаў самога Купалы. «Слова пра Купалу» гаворыць народны паэт Беларусі Максім Танк» [1]. Допіс гэты — бадай, адзіны з друкаваных водгукаў на тое кніжнае выданне. Пра яе не згадана нават у грунтоўным энцыклапедычным даведніку «Янка Купала», у той час як пра новае, другое яе выданне, што ўбачыла свет у наступным годзе, змешчаны там спецыяльны артыкул [2]. У чым жа прычына? А ў тым, што, як слушна пісалася ў газеце, «пераклады пададзены ў алфавітным парадку назваў тых моў, на якіх верш «А хто там ідзе?» узноўлены». Здавалася б, усё тут слушна, правілы тэксталогіі не парушаны. Ды што там тэксталогія перад ідэалогіяй! «Як, пераклад верша на рускую мову змешчаны не адразу за беларускім арыгіналам, а за перакладамі на абазінскую, аварскую, азербайджанскую, грузінскую і іншыя мовы, ажно за румынскім перакладам?!» Рабалепства тагачаснага беларускага начальства перад Масквой было такім вялікім, што выявілася нават у гэтым, выклікала страх быць западозраным у непавазе да «старэйшага брата». І паследаваў загад: «Друкаванне кнігі ў такім выглядзе прыпыніць, кнігу перарабіць». А што значыць «прыпыніць»? Дэфіцытная папера адразу пайшла ў друкарні на іншыя выданні, новае паступленне яе трэба было чакаць некалькі месяцаў, і другое выданне «А хто там ідзе?» з’явілася толькі праз год [4]…

Але, як кажуць, няма нічога благога, каб не выйшла на добрае. Пачалі мы з мастаком Л. Прагіным меркаваць: як, не парушаючы вобліку выдання (такая была ўмова), максімальна наблізіць у ім рускі пераклад да беларускага арыгінала? Зрабіць гэта механічна не атрымлівалася. Патрэбна было перавёрстваць старонкі. Кніга ж была не звычайная, альбомнага кшталту — са здымкамі, каляровымі рэпрадукцыямі, тэкстамі ўнутры яе — артыкулам

Максіма Танка пра Янку Купалу і асобнымі выказваннямі пра верш «А хто там ідзе?» Максіма Горкага, Ежы Янкоўскага, Людаса Гіры, Адальфа Чэрнага, Ганны Караваевай, Аркадзя Куляшова, Луі Арагона, Іозефа Румлера, Зыгмунта Абрамовіча, Міхаіла Ісакоўскага, Мікалая Браўна, Гаўрылы Гарэцкага, Максіма Рыльскага, Аляксандра Пракоф'ева. А добрае было ў тым, што новае размяшчэнне тэкстаў запатрабавала — на маю радасць — яшчэ адзін пераклад. У мяне такі пераклад — Мастона Шэраліева на экзатычную для нас мову дары — быў пад рукой. Замоўлены мной у Маскве, ён прыпазніўся да пачатку першавыдання кнігі (як, зрэшты, і некалькі іншых перакладаў). Цяпер жа з гледзішча алфавітнага ён якраз падышоў. Такім чынам, верш «А хто там ідзе?» у Купалавай кнізе 1983 года выдання стаў фігураваць ужо ў перакладзе не на 81 мову, а на 82. Прагрэс! Унёс я адпаведныя змены ў «Каментарыі», «Змест». Спатрэбілася крышку змяніць і юбілейны запіс на адвароце тытульнага ліста кнігі. У выданні 1982 года было: «Да 100-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы». У выданні 1983 года стала: «Стагоддзе з дня нараджэння Янкі Купалы. 1882–1982». Застаўся, аднак, нязменным у абодвух выданнях запіс: «Ганарар за ўкладанне, апублікаванне карцін і макет кнігі пералічаны ў Фонд міру»…

Не нам, хто меў непасрэднае дачыненне да стварэння і выдання кнігі, гаварыць пра яе сапраўдную каштоўнасць. Але радасна было бачыць, з якім непрыхаваным захапленнем бралі яе ў рукі чытачы, прыемна было чытаць пра яе ў друку. Вось што, у прыватнасці, паведамлялася ў «Информационном бюллетене» (1984, № 10–11), які выдаваўся ў Маскве савецкай асацыяцыяй эсперантыстаў і распаўсюджваўся па ўсіх кантынентах зямнога шара: «Не першы раз выходзяць кнігі, якія змяшчаюць адзін верш, але ў перакладзе на дзясяткі моў. Так, у 1961 г. да 100-годдзя з дня смерці Тараса Шаўчэнкі выдавецтва АН УССР выпусціла цудоўны «Заповіт» на 44 мовах народаў СССР і замежных краін. У 1974 г. выдавецтва «Молодая гвардия» да 50-годдзя з дня прысваення камсамолу імя У. І. Леніна выдала «Разговор с товарищем Лениным» У. Маякоўскага на 32 мовах. Аднак тое, чым адзначыла 100-годдзе з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Янкі Купалы мінскае выдавецтва «Мастацкая літаратура», нельга назваць інакш як выдавецкім подзвігам!

Вялікага фармату, у пераплёце з тканіны, багата ілюстраваная кніга змяшчае толькі адзін верш — але на 83 мовах!». У кнізе, дарэчы, змешчаны пераклад верша Янкі Купалы і на «сусветную» мову, які зрабіў беларускі эсперантыст Адам Паўлюкавец.

У бюлетэні, апрача водгуку на кнігу, надрукаваны арыгінал верша Янкі Купалы «А хто там ідзе?» і пераклад яго на рускую мову Максіма Горкага.

* * *

Радасць і гордасць за Янку Купалу і ўсю беларускую літаратуру перапаўняюць сэрца, калі толькі знаёмішся з мовамі, на якія перакладзены верш «А хто там ідзе?»: абазінская, алтайская, асецінская, даргінская, дунганская, інгушская, карачаеўская, лакская, лезгінская, мардоўская-мокша, мардоўская-эрзя, мансі, нанайская, тувінская, уйгурская, хантыйская, чачэнская, эвенская, эвенкійская, якуцкая… Беларус пачатку XX ст., калі пісаўся гэты верш (дый намнога пазней!), мабыць, і не чуў пра такія экзатычныя мовы і народы. З другога боку, хіба тыя народы што-небудзь ведалі пра беларусаў? А гэта ж толькі асобныя мовы народаў Расіі. А верш жа перакладзены і на многія вядомыя мовы Еўропы, Азіі, Афрыкі, Лацінскай Амерыкі…

А як жа задума: сто гадоў — сто перакладаў? Па розных прычынах, на жаль, задуму гэтую ў кнізе Янкі Купалы «А хто там ідзе? : На мовах свету» рэалізаваць не ўдалося. Некаторыя перакладчыкі так і не з’явіліся на сябрыну, хоць і актыўна запрашаліся. Іншыя ж прыйшлі запозна, калі кніга была ў вытворчасці ці нават тады, калі яна ўжо ўбачыла свет. З’яўляюцца і сёння новыя пераклады гэтага верша. І хочацца сказаць ім: з’яўляйцеся, нараджайцеся, калі ласка! Несумненна, некалі ўбачыць свет і новае, трэцяе па ліку, выданне гэтай кнігі. Можа, у ёй будзе змешчана і больш чым сто перакладаў.

А пакуль што — як ілюстрацыя сказанага — некаторыя з іх.

***А коді сэн локтӧ?***

*А кодъяс нӧ чукӧрӧн снэж ув тыр,*
*Лёк ныръясті локтӧны пыр?*
*— Белорусъяс.*

*Быд кокын тай нинкӧм и быд киын дой,*
*А жеб пельпом вылас мый кутӧ быд сой?*
*— Шудтӧмлунсӧ.*

*А кытчӧ нӧ нуӧны сiйӧс бур йӧз,*
*Кор шудтӧмлун вывтi нин курыд да свӧд?*
*— Йӧз син водзӧ.*

*А кодi нӧ налысвсӧ пальӧдiс ун*
*Да шудтӧмлун тӧдмалан ликтiс лун?*
*— Нужа-шотыс.*

*А мыйла лёк нарт улас сингтӧг эз ов*
*Да мый кӧсйӧ шедодны мырсьысьлӧн лов?*
*— Лоны мортон.*

Так гучыць купалаўскі верш на мове комі. Пераклад належыць вядомаму комі паэту, заслужанаму дзеячу літаратуры і мастацтва РСФСР і Комі АССР Серафіму Папову. Дасылаючы свой рукапіс, перакладчык паведаміў: «Перакласці на мову комі «А хто там ідзе?» Янкі Купалы вельмі цяжка, — каб дакладна захаваць памер кожнага радка. Але, мне здаецца, я ўсё ж дасягнуў сваёй мэты. Крыху пазней я апублікую тэкст на мове комі і прышлю дадаткова. Прабачце, што затрымаўся з выкананнем надта пачэснага і адказнага задання».

Адэкватна перадаць своеасаблівы рытм купалаўскага верша цяжка не толькі на мове комі. На поўдні Украіны, пераважна ў Данецкай вобласці, жыве крыху больш за сто тысяч грэкаў. Перасяліліся яны сюды з Грэцыі сотні гадоў таму назад, тут прыжыліся, лічаць украінскую зямлю сваёй радзімай, але родную мову не забыліся. Праўда, гэта мова даволі далёка адышла ад літаратурнай грэчаскай мовы, і сучасны жыхар Грэцыі, відаць, не адразу паразумеецца з данецкім грэкам. У «Літературній Україні» я неяк прачытаў допіс пра Антона Шапурму — паэта, члена Саюза пісьменнікаў СССР. Ён пераклаў на мову грэкаў Украіны «Кабзар» Тараса Шаўчэнкі, стварыў грэкамоўную «Малую анталогію ўкраінскай паэзіі», узнавіў на роднай мове некаторыя творы М. Някрасава, Д. Беднага, А. Твардоўскага. Для перадачы гукаў грэчаскай мовы прыстасаваў рускі алфавіт. Ці не паслаць яму для перакладу і верш «А хто там ідзе?»? Адрас

даведацца не цяжка: існуе спецыяльны «Справочник Союза писателей СССР»…

Праз некаторы час у Мінск прыйшоў ліст. «Верш я перакладу, дакладней, ужо пераклаў, — паведамлялася ў ім, — але рытм перакладу не зусім такі, як у арыгінале, а прыкладна такі, як у Максіма Горкага на рускай мове. Перадаць на грэчаскай (мяккай) мове рытм, што імітуе барабанны пошчак, вельмі цяжка. Хачу знайсці пераклад Максіма Рыльскага на ўкраінскую мову, даведацца, як ён зрабіў, ці захаваў дакладна рытм арыгінала».

Вось як загучаў верш «А хто там ідзе?» на мове грэкаў Украіны:

***То тыс эркит, тыс?***

*То тыс эркит, тыс, то тыс эркит, тыс,*
*Нда тытку купадъ, тытку мэга-дъыкс?*
*— Белорусы.*

*Ки ты фэрны аты пас амблатя фтуха,*
*Пас та шэря-тын ‘ты ирайдъарка кака?*
*— Ту хурлух-тын.*

*Пу ту пагны, пу, ту хурлух ныхто.*
*Пу ту пагны, пу, на ту дъыксны то?*
*— Сн’ дуня олу.*

*Ма тыс матъсин ‘ты-ц, мильон эна тьэн,*
*На пратызны хурлух, гнэфсин ‘ты-ц бирдэн?*
*— Ананть, пикра.*

*Ма пос скотъан аты, ты элны аты,*
*Васанзмэн дыгкиз, аты сагир, тыфлы?*
*— На лэгн-ц козмус.*

Грэкі Украіны, накшталт большасці іншых невялікіх па ліку народнасцей былога СССР, што атрымалі пісьменства ў выніку Кастрычніцкай рэвалюцыі, паклалі ў аснову свайго пісьма рускую графіку. Асобныя гукі, якіх няма ў рускай мове, яны перадаюць рознымі знакамі, адметнымі літарамі. І не толькі яны. Скажам, у нянецкай мове на два гукі больш, чым у рускай. Гартанны змычны гук сталі перадаваць на пісьме коскай зверху. Заднеязычнае «н» калісьці абазначалі дзвюма літарамі — «нг»,

але ў 1960-я гг. увялі спецыяльны знак «ӊ». Тлумачэнне нянецкага пісьма разам са сваім перакладам на нянецкую мову даслаў архангельскі паэт Васіль Лядкоў. Паспрабуем прачытаць гэты пераклад.

***Такыдди хибид?***

*Такыдди хибид, такыдди хибид*
*Вэто мался сабол ерба миндид?*
*— Беларусь'ню'.*

*Селв идар' ӊудид мал', ӊэто малъи'-тэ',*
*Ӊавэд есьмы марць' ни' такыд масибте'?*
*— Тэхэ илмдо'.*

*Тад ханяи' минре' ва илмдо' мал',*
*Мана'лабтӊэ минре' ханя' хаял?*
*— Яля' сэв' ныл'.*

*Хибяр тад тикыт — ӊиня ӊоб' мильон' —*
*Тэхэм' илванзь', ныд'ӊа нема' синём?*
*— Мая, маӊгбабц.*

*Ӊамгэен', ӊамгэен' харбелыд такыд*
*Похо' хасьвыд, сэвсявыд хибярид?*
*— Хибяри ӊэсь.*

Васіль Лядкоў у прыпісцы да перакладу выказаў надзею, што ў хуткім часе зможа прыслаць і друкаваны асобнік перакладу верша «А хто там ідзе?» Янкі Купалы на нянецкую мову: паводле пастановы Савета Міністраў РСФСР павінны былі зноў адкрыцца нацыянальныя старонкі ва ўсіх газетах, што выдаваліся для народнасцей Крайняй Поўначы і Далёкага Усходу. Калісьці такая старонка была ў нар'ян-марскай газеце «Няръяна вындер», сам В. Лядкоў рэдагаваў яе, але «па нейчай блізарукасці была закрыта ў самым пачатку 1960-х гадоў»…

Вепсаў у СССР паводле перапісу 1979 г. налічвалася ўсяго 7750 чалавек. Жывуць яны пераважна ў Карэльскай АССР, дзе іх, дарэчы, у адзінаццаць разоў менш, чым беларусаў. Напэўна, мала што ведаў пра гэту народнасць і Янка Купала. Але вось дзякуючы карэннаму жыхару вепскага краю літаратару Эдуарду

Бронзаву беларускі паэт загаварыў і на вепскай мове — сёння адной з самых экзатычных у свеце:

***А кен сига мяноб?***

*А кен сига мяноб, а кен сига мяноб*
*Суурел мугомал когол рахваз?*
*— Белорусад.*

*А мин хё канттазэ лайхил оугил,*
*Кядэд хийл верес, дёугас верзуд?*
*— Манитусен.*

*А куна хё канттазэ манитус нецэ,*
*А келле хё озутазэ манитус нецэ?*
*— Светале кайкеле.*

*А кен нецэ хийд — ей юхт милион,*
*Ноусть да манитуст опеньзь кантта?*
*— Нууж, горя.*

*А мида жо нугуде тахтэйже хейле,*
*Хейлезэ курдхыле, согедыле?*
*Риститыкш куцтазэ.*

Пераклад на вепскую мову адрэдагаваў навуковы супрацоўнік Інстытута мовы, літаратуры і гісторыі Карэльскага філіяла АН СССР М. Зайцаў. А з перакладчыкам дапамог звязацца загадчык Шалтазёрскага краязнаўчага музея Р. Лонін. Па сутнасці, гэтыя патрыёты сваёй зямлі — сааўтары перакладу. Сам пераклад змешчаны па нашай парадзе ў раённай газеце «Коммунист Прионежья» (5 студзеня 1980 г.). Ён з’явіўся адной з першых ластавак яшчэ адной — вепскай — літаратуры. На нашых вачах, такім чынам, узнікае (узнікла?) новая літаратура. І ўзнікла пры самым чынным удзеле вялікага Янкі Купалы.

Аднак паэзія Янкі Купалы стымулюе ўзнікненне не толькі мастацкай літаратуры некаторых малалікіх народнасцей Расіі, але нават самога іх пісьменства. Я не абмовіўся: пісьменства. Напрыклад — у адной з каўказскіх народнасцей, у ахвахаў, якія нават у самых грунтоўных перапісных статыстычных даведніках трапляюць у разрад «і іншыя». Жывуць ахвахі ў Дагестане. Іх нават меней, чым вепсаў, усяго некалькі тысяч.

«На жаль, не магу даслаць друкаванага тэксту, таму што на ахвахскай мове пісьменства не існуе, — напісаў у сваім лісце паэт Карымула Габолаў, які ўзнавіў верш Янкі Купалы па-ахвахску. — Ахвахцы належаць да тых народнасцей Дагестана, якія на пісьме карыстаюцца толькі аварскай мовай. Такіх народнасцей у Дагестане звыш дваццаці». К. Габоеў надрукаваў свой пераклад на машынцы. Для палёгкі чытання твора ўсюды расставіў націскі. Гартанныя насавыя галосныя «а» і «и» пазначыў зверху літарай «н» (у гэтай публікацыі яны дзеля зручнасці перададзены як «ан» і «ин»). А адзін спецыфічны гук ахвахскай мовы абазначыў нават клічнікам. Вось гэты, у пэўным сэнсе гістарычны, пераклад верша Янкі Купалы «А хто там ідзе?» — адзін з самых першых узораў (ці, можа, нават першы) ахвахскага пісьменства:

***Гьаде бекъиди чуйи?***

*Гьаде бекъиди чуйи, гьаде бекъиди чуйи,*
*Чанка гьадешта инк!и къокъадила гийигьи?*
*— Белорусийо голи.*

*Гьудоде къинда чуби миштида гъечанеге,*
*Гьинлъи рекьила реч!и, къеч!улъи хук!ачинкьи?*
*— Индолъасе хисалъе.*

*Гьаге бехе болъода гьудоде гьу хисалъе,*
*Гьаге бехе болъода лъолъа гьаригурулъа?*
*— Анкъода дуналъилъа.*

*Лъоди гьанже гьудуйи, че чамиса миллиу,*
*Гьубачило жабайн, микьегуне гоч!айн?*
*— Угъи, къваралъе лъиде.*

*Г!асруледе хисалдъе х!акъелъила, къваралъе,*
*Баччилайи бак!иди, гьудолъа къвараг!ан чви?*
*— Индога андо экьу.*

Я расказаў толькі пра некалькіх новых — у параўнанні з выдадзенай кніжкай «А хто там ідзе? : На мовах свету» — удзельнікаў адмысловай інтэрнацыянальнай сябрыны. Купалаўскай сябрыны. Несумненна, гэтая сябрына будзе не толькі існаваць, але і пашырацца з кожным годам.

## Літаратура

1. Андрэеў, М. У перакладзе на 81 мову / М. Андрэеў // ЛіМ. — 1982. — 9 ліп.
2. «А хто там ідзе? : На мовах свету» // Янка Купала : энцыкл. даведнік. — Мінск : БелСЭ, 1986. — С. 23–24.
3. Купала, Я. А хто там ідзе? : На мовах свету / Янка Купала. — Мінск : Маст. літ., 1982.
4. Купала, Я. А хто там ідзе? : На мовах свету / Янка Купала. — Мінск: Маст. літ., 1983.
5. Такі ён быў : успаміны пра Янку Купалу. — Мінск : Маст. літ., 1975.
6. Танк, М. Вялікі пясняр працы і братэрства / Максім Танк // Зб. тв. : у 13 т. — Мінск : Беларус. навука, 2009. — Т. 8. — С. 277–278.
7. Янкоўскі, Е. Песняры маладой Беларусі / Ежы Янкоўскі // Беларуская літаратура XIX — пачатку XX ст. : хрэстаматыя крытычных матэрыялаў. — Мінск : Выд-ва БДУ, 1978. — С. 131.

# НАПІСАНАЕ – ЗАСТАНЕЦЦА!
## Рукапісная спадчына песняра

У кожнага народа ёсць рэчы і прадметы знакавыя, больш таго — свяшчэнныя. Сярод іх — і рукапісы класікаў нацыянальных літаратур. Гэтыя рукапісы рупна збіраюцца, дбайна захоўваюцца ў архіўных і музейных сховішчах. Для іх часам будуюцца спецыяльныя памяшканні (як, напрыклад, для рукапіснай спадчыны Льва Талстога — «стальны пакой», арыгінальны незгаральны пакой-сейф) — каб ніякія катаклізмы ні мірнага, ні нават ваеннага часу не змаглі іх пашкодзіць. Сёння многія такія рукапісы не даюць у рукі нават даследчыкам-літаратуразнаўцам і пры неабходнасці замяняюць іх ксеракопіямі, электроннымі сродкамі інфармацыі — зноў жа дзеля лепшага, на доўгія вякі, іх захавання і шырэйшага выкарыстання.

Не варта і казаць, што такімі свяшчэннымі рэчамі для нас, беларусаў, з'яўляюцца рукапісы нашых класікаў, найперш — заснавальнікаў сучаснай беларускай літаратуры і літаратурнай мовы Янкі Купалы і Якуба Коласа. Зрэшты, іх, гэтых рукапісаў,

у выніку розных падзей ваеннага і неваеннага часу XX ст. (дзве сусветныя вайны, што пракаціліся праз Беларусь, сталінскія рэпрэсіі і інш.) засталося не так і шмат. Тым большая іх каштоўнасць. Тым з большым піетэтам мы павінны да іх ставіцца. Тым больш старанна павінны іх захоўваць і ахоўваць. Пры гэтым не павінны забываць і тых, хто збіраў іх — па радку, па аркушыку, па вершыку, па кніжцы з дарчым надпісам…

Калі мець на ўвазе рукапісы Янкі Купалы, то як не згадаць тут добрым словам верную сяброўку народнага паэта, нязменнага, ажно да самай сваёй смерці, дырэктара Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы (далей — Музей) Уладзіславу Францаўну Луцэвіч (1891–1960)! Адразу, як толькі ў 1942 г. яе прызначылі адказным сакратаром па ўвекавечванні памяці песняра, нават не чакаючы, пакуль урадам Беларусі будзе прынята пастанова па стварэнні Музея (а гэта здарылася 4 жніўня 1945 г.), яна з усёй уласцівай ёй энергіяй распачала збор купалаўскіх рэліквій, у тым ліку рукапісаў. Па сутнасці, добрая палова рукапіснай спадчыны Янкі Купалы, што захоўваецца сёння ў Музеі, сагрэта цеплынёй яе вачэй і рук. Затым яе эстафету пераняла шматгадовы галоўны захавальнік фондаў Музея, пляменніца песняра Ядвіга Юльянаўна Рамаяноўская (1920–2011). Куды яна толькі ні ездзіла ў пошуках (і часта вельмі плённых!) аўтографаў Янкі Купалы! І ў Расію, і ва Украіну, і ў Грузію, і ў Польшчу… Нямала зрабіла для пошукаў, апрацоўкі і захавання ўсяго, да чаго дакранулася рука песняра, шматгадовы супрацоўнік, а затым дырэктар Музея ў 1986–2004 гг. Жанна Казіміраўна Дапкюнас, унучатая пляменніца паэта. Можна яшчэ называць прозвішчы былых і цяперашніх супрацоўнікаў Музея, якія па крупінцы, па радку збіралі і збіраюць, старанна аберагалі і аберагаюць усё, што калісьці напісаў і надрукаваў вялікі Янка Купала. А хіба не заслугоўваюць добрага слова тыя, хто, не маючы прамога дачынення да Музея, дасылаюць і прыносяць сюды свой дар памяці песняра — кнігі з яго дарчымі надпісамі, лісты, звычайныя запіскі…

Так паступова, год за годам, фарміраваўся залаты фонд Музея — рукапісны. Многія навукоўцы карысталіся і карыстаюцца яго багаццем. З яго дапамогай абаронена некалькі кандыдацкіх і доктарскіх дысертацый, ён дапамог узвышэнню не толькі беларускага, але і міжнароднага купалазнаўства. Гэта асабліва бачна

па матэрыялах усіх Купалаўскіх чытанняў — Міжнародных навуковых канферэнцый, якія перыядычна ладзіць Міжнародны фонд Янкі Купалы сумесна з Музеем. І ўжо без купалаўскіх рукапісаў, несумненна, нельга было б на належным узроўні ні стварыць вядомую энцыклапедыю «Янка Купала» [5], па-беларуску сціпла названую энцыклапедычным даведнікам, ні, тым больш, выдаць першы ў гісторыі беларускай тэксталогіі Поўны збор твораў Янкі Купалы ў 9 тамах, 10 кнігах (далей — ПЗТ) [2]…

Каштоўнасць любой бібліятэкі і архіва — не толькі ў актыўным зборы і належным захаванні сваіх фондаў, але і ў іх прапагандзе, выкарыстанні. І тут першаступенную ролю адыгрывае інфармацыя аб наяўнасці ў фондах тых ці іншых матэрыялаў. У сусветным архівазнаўстве даўно стала практыкавацца выданне каталогаў рукапісаў розных архіўных сховішчаў — нацыянальных архіваў, рукапісных аддзелаў буйных бібліятэк, музеяў і г. д.

У свой час Музею былі выдзеленыя пэўныя сродкі з Фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы культуры і мастацтва — для стварэння і выдання каталога «Рукапісная спадчына Янкі Купалы» (далей — Каталог). З дапамогай Міжнароднага фонду Янкі Купалы гэты праект быў паспяхова выкананы. У 2008 г. у выдавецтве «Чатыры чвэрці» выйшла вялікая, на 480 старонак, кніга, у шэсць раздзелаў якой увайшлі апісанні рукапісаў купалаўскіх вершаў 1904–1942 гг., яго польскамоўных твораў, рукапіснага зборніка «Шляхам жыцця» (1913), асобных паэм, п’ес, публіцыстычных выступленняў, перакладаў, пісем, некаторых дакументаў і інш. [3]. Над гэтым — першым сярод літаратурных музеяў рэспублікі — выданнем шчыравалі найперш яго ўкладальнік тагачасны вучоны сакратар Музея Алена Уладзіміраўна Бурбоўская і захавальнік музейных фондаў Марыя Кандратаўна Чабатарэвіч. Курыравала іх працу дырэктар Музея Алена Раманаўна Мацевасян. Навуковае рэдагаванне Каталога ажыццяўляў аўтар гэтых радкоў.

На жаль, памер кніжнага выдання не дазволіў уключыць у яго ўсё з рукапісаў, якія захоўваюцца ў Музеі. У прыватнасці, надзвычай цікавы і карысны (для даследчыкаў Купалавай творчасці і ўвогуле ўсіх купалалюбаў) матэрыял — апісанне дзвюх карэктур зборніка «Шляхам жыцця» (1913 і 1923 гг.) са шматлікімі аўтарскімі паметкамі і выпраўленнямі, а таксама дарчых надпісаў (інскрыптаў) песняра на кнігах і фотаздымках.

Таму спатрэбілася выданне яшчэ 2-й часткі Каталога, што і было зроблена ў 2010 г. [4]. Менавіта цяпер, маючы пад рукамі не толькі скупыя архіўныя запісы (нумар фонду, адзінка захавання і інш.), але і больш падрабязнае апісанне рукапісаў, купалазнаўцы і купалафілы з усёй Беларусі і за яе межамі могуць зэканоміць час на пошук неабходных звестак, а пры неабходнасці — звярнуцца ў Музей за пэўнай, адраснай дапамогай. У гэтым — галоўная вартасць любога надрукаванага каталога, у тым ліку — і каталогаў «Рукапісы Янкі Купалы». Дзякуючы ім сустрэчы з Янкам Купалам будуць больш карыснымі і працяглымі.

У дзвюх частках каталога «Рукапісная спадчына Янкі Купалы» сістэматызавана і апісана, па сутнасці, усё, да чаго дакраналася рука песняра і што на сённяшні дзень сабрана і захоўваецца ў фондах Музея. Гэта найперш рукапісы ягоных вершаваных, драматычных і празаічных твораў на роднай беларускай мове, а таксама на польскай і рускай, розныя нататкі, надпісы на здымках, дарчыя надпісы на кнігах. Да рукапісаў па каштоўнасці прыроўнены і машынапісныя, друкаваныя тэксты, карэктурныя адбіткі, на якіх рукой паэта зроблены тыя ці іншыя надпісы-ўдакладненні. Разам з тым у Каталогу зафіксаваны наяўныя музейныя фотакопіі (ксеракопіі) асобных рукапісаў, што захоўваюцца ў іншых, найперш расійскіх, архівах і рукапісных аддзелах бібліятэк (у Расійскай нацыянальнай бібліятэцы, Расійскім дзяржаўным архіве літаратуры і мастацтва ў Маскве і інш.). У якасці дадатку надрукаваны ўказальнік рукапісаў Янкі Купалы, што захоўваюцца па-за межамі Музея.

Ужо сам па сабе Каталог — як форма ўліку наяўных рукапісных матэрыялаў — апраўдвае сваё існаванне. Як і падобны дакумент любой установы, дзе ўсё ўлічана і пералічана. Аднак жа не варта забывацца, што ў ім не толькі для сучаснікаў, але і для нашых нашчадкаў зафіксаваны не матэрыяльныя рэчы часовага карыстання, а несмяротныя духоўныя скарбы, да якіх будуць звяртацца наступныя пакаленні даследчыкаў Купалавай творчасці. Так, як сёння мы нярэдка звяртаемся, напрыклад, да апісанага яшчэ ў канцы 20-х гг. мінулага стагоддзя архіва Максіма Багдановіча, што захоўваўся тады ў будынку Акадэміі навук БССР і ад якога, на жаль, у выніку падзей Вялікай Айчыннай вайны засталося толькі тое апісанне…

Дзеля зручнасці карыстання Каталогам усе аўтографы ў ім згрупаваны па раздзелах. Вось пералік матэрыялаў 1-й часткі Каталога: аўтабіяграфічныя матэрыялы, эпісталярная спадчына (лісты да Л. М. Клейнбарта, А. А. Карынфскага, Б. І. Эпімах-Шыпілы, С. М. Гарадзецкага, Я. С. Мазалькова і інш.), рукапісы вершаў 1902–1942 гг. («А хто там ідзе?», «Прарок», «Песьня Званара», «Паўстань…», «На сьмерць Сьцяпана Булата» і інш. — 339 адзінак захавання), польскамоўныя вершы, рукапісы п’ес і паэм («На Куцьцю», «На Дзяды», «Бандароўна», «Паўлінка», «Раскіданае гняздо», «Сон на кургане» і інш.), рукапіс зборніка «Шляхам жыцьця», пераклады («Слова аб палку Ігаравым», твораў А. Пушкіна, Ф. Цютчава, Т. Шаўчэнкі, А. Міцкевіча, М. Канапніцкай і інш.), дарчыя надпісы на здымках і кнігах (В. Брусаву, У. Дубоўку, М. і Л. Ісакоўскім, У. Караленку, А. М. Метэхелі, Я. Обсту, Л. М. Рагоўскаму, П. Тычыне і інш.). У 2-ю частку Каталога, як было сказана, увайшлі апісанні карэктур зборнікаў «Шляхам жыцця» 1913 і 1923 гг. выдання, дарчыя надпісы песняра, а таксама розныя даведнікі (твораў, кніг) і паказальнікі (імянны, геаграфічны, храналагічны). Апісанне кожнай адзінкі захавання ўключае яе музейны шыфр, жанр (што гэта: верш, ліст, дарчы надпіс і г. д.), першы і апошні радкі тэксту, агульную колькасць радкоў і старонак рукапісу, яго памер (у сантыметрах), знешні выгляд (у тым ліку якасць паперы, колер чарніла або алоўка, якім напісаны тэкст), час і месца напісання, ступень захаванасці. Да гэтага, апісваюцца асаблівыя аўтарскія паметкі (замены літар і слоў, закрэсленні, дапіскі і інш.), указваецца першапублікацыя тэксту ў перыёдыцы ці асобным выданні. Пры неабходнасці падаецца і іншая інфармацыя. Несумненна, усяго гэтага зусім даволі, каб зацікаўленыя асобы атрымалі пра рукапісы неабходныя ім звесткі. Зрэшты, падобная форма апісання рукапісаў агульнапрынятая ў міжнароднай сістэме каталагізацыі.

Вартасць Каталога (і гэтага, і такіх каталогаў увогуле) не толькі, аднак, ва ўліку наяўнага рукапіснага матэрыялу і яго папулярызацыі сярод зацікаўленых даследчыкаў творчасці паэта. Ён, безумоўна, разлічаны не на масавага чытача і не на павярхоўнае чытво. Прафесійны чытач — настаўнік роднай літаратуры і мовы, студэнт-філолаг, аспірант, ужо не кажучы пра навукоўца-філолага — можа адно толькі з Каталога, на-

ват не звяртаючыся да саміх рукапісаў, здабыць неабходную інфармацыю. Скажам, адно толькі па інскрыптах песняра можна ўбачыць літаратурнае і ўвогуле грамадскае асяроддзе, у якім жыў і тварыў Янка Купала, беларуска-іншакраінныя сувязі, так званыя масты дружбы, якія ён наладжваў і мацаваў. Пра гэта сведчаць і яго рукапісы перакладаў з рускай, украінскай, польскай, нямецкай, нават французскай моў (маецца на ўвазе пераклад «Інтэрнацыянала» Эжэна Пацье, ажыццёўлены паэтам з дапамогай яго цешчы-францужанкі Эміліі Манэ-Станкевіч). У Каталозе зафіксаваны ўсе асноўныя тэкставыя праўкі, зробленыя рукой Янкі Купалы. Па іх мы можам убачыць, як ішло нараджэнне (станаўленне, шліфоўка) таго ці іншага мастацкага твора. Гэта найперш пошук найбольш дасканалага вобраза, слова, цэлага радка ці нават страфы. Так, першапачаткова пяты радок у вершы «Лясная царэўна» (1910) гучаў наступным чынам: «Твар мела *праменны*, як неба узор». Пасля выпраўлення стала па-купалаўску своеадметна: «Твар мела *святлісты*, як неба узор». Радок «Люблю і малюся, *як бачу*, табе» набыў таксама больш адухоўлены выгляд: «Люблю і малюся, *як Богу*, табе». Што да верша «Партызаны» (1935), то пошукі паэтычна вобразнага радка запатрабавалі яшчэ больш намаганняў. Рукапіс сведчыць, што радок «Задымелі агні на начлезе» меў тры варыянты: «*Задымеліся вогнішчы ў пушчы»; «Запылалі агні на пакосе»; «Запылалі агні на начлезе*». Радок жа «Шляхі значылі сонца і зоры» з’явіўся ў канчатковым выглядзе толькі за пятым разам («*Усміхалася сонца і зоры»; «Іх праводзіла сонца і зоры»; «Шлях паказвала сонца і зоры»; «Шлях ім значыла сонца і зоры*»)…

Каталог падказвае і паказвае, якое вялікае значэнне не толькі для літаратуразнаўцаў, але і для мовазнаўцаў маюць рукапісы пісьменніка. Я не перабольшваю: і для мовазнаўцаў. У гэтым сэнсе вельмі паказальныя апісанні падрыхтаваных самім Янкам Купалам да друку рукапісных тэкстаў са зборніка «Шляхам жыцця», а таксама карэктур першага выдання кнігі (Пецярбург, 1913) і яе перавыдання ў Вільні ў 1923 г. Як вядома, у той час, калі пісаліся і друкаваліся ў перыёдыцы (як правіла, у «Нашай Ніве») вершаваныя творы Янкі Купалы, што затым склалі яго лепшы дарэвалюцыйны зборнік паэзіі, правапісныя і арфаэпічныя нормы беларускай літаратурнай мовы толькі выпрацоўваліся. Над правіламі беларускай граматыкі, у

прыватнасці, працаваў — пад кіраўніцтвам вядомага рускага славіста акадэміка А. Шахматава — тагачасны студэнт-філолаг Пецярбургскага ўніверсітэта Браніслаў Тарашкевіч. Гэта яму ў сакавіку 1914 г., ужо пасля выхаду з друку «Шляхам жыцьця», пісаў Янка Купала з Вільні: «*Што чуваць у Вас з беларускай граматыкай? Ці што-небудзь зрабілі ў гэтым напрамку? Калі маеце ўжо яе нарыс, то будзьце ласкавы прысланць нам яго, калі не, то будзьце такімі добранькімі і спрытнымі ды як найхутчэй гэта зрабіце*» [2, т. 9, кн. 1, с. 239]. Але беларускай граматыкі ўсё не было і не было. І Янку Купалу давялося самому ўдзельнічаць у выпрацоўцы пэўных правіл беларускамоўнага літаратурнага напісання і маўлення. Відаць, некалі спецыялісты па гістарычнай арфаграфіі, арфаэпіі, лексікалогіі беларускай мовы даследуюць і гэту праблему, засноўваючыся ў значнай ступені і на купалаўскіх рукапісах.

Аўтограф зборніка «Шляхам жыцьця» — гэта сшытыя ў адну вялікую папку некалькі сотняў лістоў з творамі рукапіснымі, машынапіснымі, друкаванымі (раней у перыёдыцы, а пасля выразанымі і наклеенымі на асобныя аркушы). Бадай, на кожным лісце — купалаўскія праўкі, праўкі, праўкі… Захаваліся таксама карэктурныя адбіткі зборніка, некаторых твораў — па два, тры, чатыры, нават па восем (!) такіх адбіткаў. На іх таксама рука Янкі Купалы пакінула свой след. Якое раздолле для літаратуразнаўцаў і мовазнаўцаў! У прыватнасці, па карэктурных адбітках першага выдання «Шляхам жыцьця» (1913) мы выразна бачым, як Янка Купала ўдзельнічаў у выпрацоўцы беларускай азбукі. У напісаных (надрукаваных) тэкстах яшчэ да 1913 г. ён выпраўляў «**и**» на «**і**», «**йо**», «**іо**» — на «**ё**», пачынаў сістэматычна карыстацца «**ў**» (і пасля галосных, і пасля зычных — дзеля захавання рытму)… Хоць яшчэ і асцярожна, але асаблівасці беларускага акання, якання, мяккасці вымаўлення зычных ён імкнуўся перадаваць і на пісьме (*сьлед, сьцюжы, зьвінела, ёсьць, сьвіст, жыцьця* і г. д.). Цікава, што ў той жа час не лічыў патрэбным усюды ўжываць мяккі знак пры падваенні зычных, прасіў выдавецкіх карэктараў зняць яго ў такіх словах, як *каменьня, насеньня, засьляпленьне* («Ужо днее»), *панаваньне* («Нашай Ніве»), *груганьнё* («Прарок») і г. д.

Аднак час ішоў. Таксама і з Купалавай дапамогай усталёўваліся асобныя правілы беларускага правапісу. Урэшце выйшла з друку

«Беларуская граматыка для школ» (Вільня, 1918) Б. Тарашкевіча. Сілу закона набывае «тарашкевіца». Пры ўсіх яе прыватных агрэхах яна пачынае адыгрываць сваю сістэмастваральную, універсалізуючую ролю. Што да Янкі Купалы, то ён — і гэта добра відаць ужо з карэктуры «Шляхам жыцьця» 1923 года выдання — імкнецца і на пісьме перадаваць арфаэпічныя асаблівасці беларускай мовы, па магчымасці (не даводзячы, аднак, да абсурду) трымацца правіла «як гаворыцца, так і пішацца». Так, з аднаго боку, ён у прыназоўніках, прыстаўках замяняе «**с**» на «**з**», «**т**» на «**д**» — нягледзячы на іх пазіцыю перад глухімі зычнымі: *з(с) хорамаў, з(с) паходняй, з(с) табою, з(с) сьлязою, ад(т) сьвету, ад(т)каз, пад(т)хапілі, пад(т)сякайце*... З другога — паслядоўна, нават там, дзе не зрабіў гэтага па нейкіх прычынах у карэктуры 1913 г., галосныя «**о**», «**е**», «**э**» у ненаціскных пазіцыях мяняе на «**а**»: *ва(о)ўкалак, легла(о), мора(э), ча(э)кае, ноча(э)нька, ваконца(э), пера(э)д, Божа(э), сэрца(э)*... Мяккі знак паслядоўна займае сваё месца і ў падваеннях зычных (у адрозненне ад папярэдняга выдання зборніка): *насеньне, калосьсе, гуканьне*... У першым складзе перад націскам, як і належыць, усюды з’яўляецца «**я**»: *я(е)шчэ, звая(е)ваным, пя(е)сьняр, зя(е)мля, бя(е)да, ня(е)шчаснай, вя(е)сна*... Літара «**я**» становіцца ў канцы прыметнікаў і дзеепрыметнікаў множнага ліку (*віхры дзікія(е); хлопцы непакорныя(е); грудзі збалелыя(е); хамскія(е) натуры; неадкрытыя(е) сілы; пахаронныя(е) далі*...), у часціцы «**не**» (*ня(е) буду, ня(е) знаю, ня(е) пужайся, ня(е) хапаю, ня(е) ўздыхай*...). Купалаўскае набліжэнне да пэўных нормаў напісання (і вымаўлення) відаць і ў іншых выпадках: у выкарыстанні прыстаўнога «**в**» (*в-ока, в-учыў*), замене часціцы «**бы**» на «**б**» (*захацела б-ы, памагла б-ы*), ва ўжыванні апострафа — замест мяккага знака — пасля цвёрдых зычных перад ятаванымі галоснымі (*б’(ь)ецца, сям’(ь)ю, п’(ь)явак, п’(ь)яны, зьвяр’(ь)ё*) і інш. Удасканальваецца і лексіка твораў. Русізмы, паланізмы, дыялектызмы там, дзе яны не выконваюць пэўных мастацкіх функцый, замяняюцца натуральнымі беларускімі словамі і выразамі: *склічу ўміг карагод — сазаву харавод* («Песьня Званара»), *блеск — бліск, вогнік — огнік* («Зоркі»), *бязмежнае мора — бязбрэжнае мора* («Чалавеку»), *магутнаму Богу — магучаму Богу* («Мая малітва»), *кветка-лілея — цвет-лілея* («Мая дзяўчынка»), *супольна — спольна* («Я хацеў бы...»), *дзе —*

*гдзе* («Мой дом», «Я ад вас далёка…»), *удваіх — удваём* («Да дзяўчынкі»), *задумлівы — задумчывы, год — лет, расхапалі — расхваталі, адказ — адвет, на бел-свет — на мір-свет* («На Куцьцю»)…

Калі моўныя праўкі, якія рабіў Янка Купала пры вычытцы зборніка «Шляхам жыцьця» 1923 года выдання, былі накіраваны на ўсталяванне пэўных арфаграфічных прынцыпаў, то сэнсавыя ўдакладненні тэкстаў былі выкліканы перш за ўсё жаданнем палепшыць іх мастацкі ўзровень. Безумоўна, на гэты ўзровень уплывалі — не маглі не ўплываць — і чыста моўныя праўкі: эстэтычнае ў мастацкай літаратуры неадлучна ад лінгвістычнага, ад таго «матэрыялу і інструменту» (Якуб Колас), з дапамогай якога творыць пісьменнік. Тым не менш не толькі моўна-правапіснымі акалічнасцямі былі выкліканы тэкстуальныя змены ў асобных творах. Так, адсутнасць у новых грамадскіх умовах ранейшай, царскай, цэнзуры дазволіў Янку Купалу аднавіць некаторыя купюры. У прыватнасці, у вершы «Прыстаў я жыць» (1912) раскрыта шматкроп’е 14-й страфы:

*У жудкім чорным беспрасьвецьці*
*Бушуе выпасьвены кат…*
*Любіць… Каго, за што любіць?*
*І ненавідзець сіл ня хват.*

У вершы «Прарок» (1912) адноўлены тэкст 10-й страфы:

*Паўстаньце, рабскія натуры.*
*Пакіньце свой адвечны сон.*
*Загаманеце віхрам, бурай,*
*Каб ажна дрогнуў ваш палон!*

У вершы «Папросту» ў першадруку 1913 г. шматкроп’ем былі зашыфраваны два апошнія радкі:

*Проста жывём мы, як доля вучыць,*
*І крывадушыць не прабавалі…*
*Просім папросту: кіньце нас мучыць,*
*Ляхі, маскалі!*

Іншая сацыяльна-палітычная сітуацыя ў час перавыдання зборніка «Шляхам жыцьця» (1923) дазволіла Янку Купалу зрабіць у сваіх творах яшчэ адну сутнасную замену. У 1912 г.,

калі пісаўся верш «Папросту», беларусам у афіцыйных колах адмаўлялася нават у праве называцца самастойным славянскім народам. І рускія шавіністы, і польскія нацыяналісты далучалі беларусаў, як асобнае «племя», адпаведна кожны да сваёй нацыі (прыгадаем тут маналогі рускага і польскага «вучоных» з камедыі Янкі Купалы «Тутэйшыя»). Праз дзесяць гадоў сітуацыя карэнным чынам змянілася. Насельнікі нашага краю не толькі сталі «людзьмі звацца», але і звацца менавіта беларусамі, больш таго — разам з іншымі народамі былой Расійскай імперыі, тымі ж палякамі, украінцамі, літоўцамі, латышамі, займелі сваю дзяржаўнасць. Як відаць з матэрыялаў Каталога, Янка Купала ўлічыў і гэтую сітуацыю. У рукапісе «Папросту» ёсць выразная аўтарская праўка (тут і далей паўтлустым курсівам выдзелены першапачатковыя аўтарскія варыянты слоў і выразаў):

*Хочам папросту, каб лепш ручыла*
*Нашым хацінам, (**нашым палянам**) нашым прыплодам,*
*Каб стаць раўнёю, славай і сілай*
*Іншым (**славянам**) народам.*

Як бачым, слова «славянам» заменена на «народам». Прызнанне беларусаў самастойным этнасам з агульнаславянскага ўзроўню пашырылася да міжнароднага, што і ўлічыў Янка Купала. Гэтай жа акалічнасцю абумоўлена і аналагічная праўка 1923 г. у рукапісе славутага верша «Маладая Беларусь», які ўпершыню быў апублікаваны ў тым жа зборніку «Шляхам жыцьця» (1913):

*Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,*
*Над крыжамі бацькоў, (**над курганамі**) над нягодамі.*
*Занімай, Беларусь маладая мая,*
*Свой пачэсны пасад між (**славянамі**) народамі!..*

Каталог неаспрэчна сведчыць пра тое, з якой вялікай адказнасцю паставіўся Янка Купала да перавыдання сваёй кнігі «Шляхам жыцьця». Так, у віленскім выданні 1923 г. замест ранейшых «зорачак» з'явіліся назвы многіх вершаў: «*Ня ўздыхай*», «*Яшчэ прыйдзе вясна*», «*За праўду…*», «*Як я полем іду…*», «*Дзе ты, шчасце маё?..*», «*Гора нядольнае*», «*Абнімі…*» і інш. Шэраг колішніх астрафічных твораў падзелены на асобныя строфы — ад чатырох да дзесяці радкоў («*Выйдзі…*», «*Як спы-*

*таюцца нас*», «*Над Іматрай*», «*Сьнег*», «*Хмарка і Маладзік*», «*На рынку*», «*Наша песьня*», «*Падсякайце тое дрэва…*» і інш.). Амаль усюды зняты прысвячэнні, пачынаючы ад прысвячэння ўсёй кніжкі («*Шчыра Паважанаму доктару А. П. Ерэмічу гэту кніжку пасьвячаю. Аўтар*»). У карэктурных адбітках выкраслены і іншыя прысвячэнні: «*В. і М. Ластоўскім*» («Песьня Званара»), «*Аўтару «Беларускай Гісторыі» Власту*» («Дудар»), «*Канстанцыі Буйло*» («Мая думка»), «*Балканскім славянам*» («Забраны край»), «*М. Шышко*» («Жняя»), «*Памяці С. Палуяна*» («Курган»), прысвячэнні газеце «Наша Ніва» на некалькіх вершах («Роднае слова», «Ужо днее», «Нашай Ніве», «З мінуўшых дзён»). Прычыны гэтай акцыі, відавочна, розныя. Але, думаецца, яна выклікана не ў апошнюю чаргу тым, што паэт хацеў значна пашырыць адраснасць сваіх твораў, не абмяжоўваючы іх пэўнымі асобамі або падзеямі.

Усё, пра што мы гаварылі дагэтуль, засведчана матэрыяламі Каталога. Мяркую, ужо аднаго гэтага даволі, каб паказаць яго сапраўдную вартасць. Але нельга не звярнуць увагі і на такі момант. Праца над дзвюма часткамі Каталога вымусіла яго ўкладальнікаў яшчэ раз уважліва перагледзець архіў песняра, што захоўваецца ў Музеі. Перагледзець ужо пасля таго, як ён старанна «перапапачваўся» тэкстолагамі пры падрыхтоўцы ПЗТ, у які ўвайшло, як сказана ў прадмове да «дзесяцікніжжа» (М. Мушынскі), літаральна ўсё з Купалавай спадчыны, што на час выдання захавалася ў бібліятэках і архівах. У тым ліку — і ў рукапісным фондзе Музея. Заўважым: сказана **«ўсё».** Але ж мы ведаем: колькі разоў ні выдавалі расіяне Поўныя зборы твораў Пушкіна, кожнае з такіх выданняў папаўнялася хаця б некалькімі новымі тэкстамі. Вядома, асабліва сенсацыйных знаходак не назіралася. Ды ўсё ж… Так здарылася (відавочна, будзе здарацца і далей) і з творчай спадчынай Янкі Купалы. Атрымалася, як у тым грыбным лесе: колькі грыбнікоў ні пройдзе праз лес, кожны нешта знойдзе. Знайшлі не ўлічанае ў ПЗТ і аўтары Каталога. А гэта — некалькі чарнавых аўтабіяграфічных нататак паэта, а таксама шэраг невядомых дагэтуль ягоных вершаваных твораў. Не варта і казаць, што гэтыя матэрыялы пашыраюць наша веданне асобы і творчасці песняра, выклікаюць яшчэ большую чытацкую цікаўнасць да Янкі Купалы.

Вось бланк для тэлефанаграмы. Яшчэ з цвёрдымі знакамі пасля зычных у канцы слоў, адмененымі ў рускім правапісе пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі («Передал**ъ**», «Принял**ъ**»). На ім рукой паэта (відаць, на хаду, недзе на пошце, — так, як прыйшло гэта імгненна ў галаву) — два чатырохрадкоўі. Абодва, відавочна, выкліканы канкрэтнымі падзеямі ці паводзінамі пэўных асоб (тут і далей у тэкстах захоўваюцца асноўныя асаблівасці аўтарскага правапісу):

* * *

*Пішы, паэта, і пішы,*
*Аб чым — ты сам згадай.*
*Адно не кратайся душы*
*І сэрца не чапай.*

* * *

*Вельмі хораша песьні нам пелі*
*Тыя ўсе, што нам волі жадалі.*
*Дый ня ўсе нашу волю сьцярпелі,*
*Бо ў чужацкай тапіліся хвалі* (адз. зах. 208).

Пэўнымі ўчынкамі пэўных асоб выкліканы і наступны сатырычны верш без назвы, чарнавы тэкст якога захоўваецца сярод рукапісаў Музея :

* * *

*Як усё ідзе ўверх дном!*
*Толькі ўчора — даліпан! —*
*Перад чорным груганом*
*Чорны (**Кожны**) кланяўся груган.*

*А сягоньня што за цуд?*
*Той жа нізенькі паклон*
*Белай б'е вароне тут*
***(Б'е вароне белай тут)***
*Бела-чорных (**Збалванеўшых**) рой варон*
***(Кожна з крэсавых варон)**.*

*Мабыць, прыдзе гэткі (**хутка**) час,*
*Што, ня гледзя ўсіх асноў,*

*Паскубе каршун у нас*
*І варон і груганоў.*

*Ну а заўтра — даліпан! —*
***(Заўтра ж, пэўна, будзе так)***
*Займе ўжо (**Што займе**) каршун пасад,*
*А варона і груган*
***(Будзе кланяцца ўсяляк)***
*Будуць кланяцца да пят* (адз. зах. 207).

Захаваўся ў фондах Музея яшчэ адзін чарнавы накід незакончанага купалаўскага верша з аўтарскімі праўкамі, без назвы, без даты. У ім — той самы, не асабісты, клопат, не асабістыя перажыванні:

* * *

*Па-суседску мы з вамі жылі,*
*Ва ўсём слухалі вас, паважалі.*
*Скарбы ўсе дабывалі мы з маткі-зямлі,*
*Імі вы сваіх дзетак хавалі.*

*Ці то стужа, ці спека, з пакорай ідзём.*
*Мы ішлі на адно ваша слова.*
*За сабак гаравалі гадок за гадком*
*І ў патрэбе давалі галовы.*

*Зірне пусткай сягоння найноўшы вастрог*
*І нагайка і пуля ня сьвісьне…* (адз. зах. 209)

Ці вось яшчэ: на лісце лінаванай паперы ўпоперак лінеек простым алоўкам — чатыры вершаваныя радкі:

*** * ***

*Ах ты воля мая, воля*
*Залатая ты мая.*
*Воля — сокал паднябесны,*
*Воля — светлая зара* (адз. зах. 362).

А крыху ніжэй, ужо чорным чарнілам, таму значна выразней, — запіс прозаю. Мабыць, занатоўка для нейкага допісу: «*І «шумі, Марыца». Гэта, мабыць, водгукі руска-турэцкай вайны, якая нібы вялася за вызваленне братоў балгараў, якія*

*былі славянамі і праваслаўнымі, з-пад турэцкай няволі. Іронія. Было гэта ў той час, калі Польшча стагнала ў няволі пад тым жа рускім царом, які нібы вызваляў з няволі Балгарыю…*» Допіс не закончаны. Але думка акрэслена.

Усе тэксты, што цытаваліся дагэтуль, без даты. Напісаны ўсе яны (ці амаль усе) у дарэвалюцыйны час. Аднак наступныя запісы можна па розных прыкметах аднесці да першых паслярэвалюцыйных гадоў, калі Янка Купала стаў актыўна ўдзельнічаць у афіцыйна распачатым працэсе беларусізацыі маладой савецкай рэспублікі. У той час ён пераклаў з польскай мовы на беларускую опернае лібрэта У. Вольскага «Галька» (музыка Станіслава Манюшкі), фантастычна-алегарычную драму Е. Жулаўскага «Эрас і Псіха» (для БДТ-2 у Віцебску). Асаблівую ўвагу паэт звярнуў на дзяцей як на будучыню Беларусі, імкнуўся ўзбагаціць школьны рэпертуар і ўласнымі дзіцячымі вершамі, і перакладамі з суседніх рускай і польскай літаратур («Лісце» Ф. Цютчава, «Ёлачка» Р. Кудрашовай, «Пралетарская калыханка» М. Красільнікава, «Пажарнікі» Л. Ягалкоўскай-Кашуцкай, «Зімка», «Каваль» — невядомых польскіх аўтараў і інш.). Да паслярэвалюцыйнага часу можна аднесці і асобныя вершаваныя радкі паэта, якія, у прыватнасці, захоўваюцца ў архіўным фондзе Музея на ўвогуле малачытэльным аркушы паперы (адз. зах. 316). Яны ў свой час увайшлі ў раздзел «Чарнавыя накіды» чацвёртага тома ПЗТ [2, т. 4, с. 249–250]. Праўда, хацелася б паспрачацца з тэксталагамі наконт адэкватнасці ўзнаўлення ў друку некаторых з гэтых «накідаў». Спрэчку, аднак, пакінем па-за старонкамі гэтага артыкула. Тут жа прапаную ўласнае прачытанне некаторых вершаў, якія, на маю думку, маглі б увайсці нават у асноўны корпус купалаўскіх твораў. Напачатку працытую запісаны на тым самым аркушы першапачатковы тэкст перакладу верша Мар'і Канапніцкай «Choinka w lesie»:

* * *

*А хто ж, хто сасонку (**ялінку**) ў лесе гэту сеяў?*
*Ой, засеяў яе ветрык, што над хатай вее.*
*А хто ж, хто сасонцы падаваў вадзіцы?*
*Падавала ей расіца і вада з крыніцы.*
*А хто ж, хто сасонку грэў у цёмным боры?*
*Агравала яе сонца з паднябесных гораў.*

*А хто ж, хто сасонку выхаваў (**гадаваў**) з зярняці?*
*Гадавала яе гэтак наша зямля-маці.*

Падаю гэты тэкст не толькі для таго, каб дапытлівыя чытачы маглі параўнаць яго з выразна іншым запісам перакладу верша М. Канапніцкай (пад назвай «Сасонка»), што змешчаны ў ПЗТ [гл.: 2, т. 4, с. 208]. Справа яшчэ ў тым, што гэты пераклад можна дакладна датаваць: ён змешчаны ў дзіцячым часопісе «Зоркі» (№ 2) 15 мая 1921 г. Значыць, і ўзнікненне астатніх вершаў, напісаных той жа ручкай на тым самым аркушы, можна аднесці да 1921 г.

Вось маё прачытанне іншых купалаўскіх тэкстаў:

* * *

*Позьненька сонца сягоньня ўстала,*
*Хмарак на небе не разагнала,*
*Дык сабраліся скрозь грамадою.*
*Хутка і дожджык цурне (**ліне**) вадою,*
*Дрэўцы асьвежыць у лесе і садзе,*
*Краскі ўзрастаці расой прынадзе*
***(Зьвяўшыя кветкі росамі ўскрэсе)**,*
*Пучкі распусьце кветкаружовы,*
*Зазелянее траўка шаўкова (**нанова**).*
*Дык хоць мне дома сядзеці трэба,*
*Дзякуй за дожджык, што льецца з неба!*

* * *

*Вясна прыйшла зноў. Цёплы май шчыра*
*Ўбірае ў зелень лес і лог.*
*Птушкі, што ўвосень ляцелі ў вырай,*
*Назад вярнулісь к нам іздалёк.*
***(К нам прыляцелі іздалёк)**.*
*У гай сьпяшыма ўсе за раз,*
*Вясна і кветкі вабяць нас.*
*Там круг мы зладзім, дружныя дзеці,*
*І будзем весела пеці.*
***(Там злучыцца ў круг не замарудзім***
***І пець весела там будзем)**.*

* * *

*Гэй, акропе дождж палетак*
*І вясёлка выплывае.*
*Я ў вянку з вясенніх кветак* ***(з жывых пралесак)***
*Па лажку сабе гуляю.*
*Там скачу, тут ўнеспадзеўку*
*Запяю што для пачатку,*
*Падцінаю салавейку,*
*З жаўруком пайду у звадку* ***(у спрэчку)****.*
*Бо жаўрук і салавейка,*
*І вяночак, і* ***(вясёлка)****,*
*І крынічка-дабрадзейка —*
*Ўсё маё, ўсё з давен даўна.*

*** * ***

*О, як прыгожа ў цяністым гаі!*
*Пяе салоўка у дрэў цяні* ***(у цені дрэў)****,*
*«Ку-ку» зязюлі не заціхае,*
*Драздоў чырыканьне чуваць на пні.*

Сапраўды, сімпатычныя дзіцячыя вершыкі! Яны на законнай падставе могуць узбагаціць і кніжку твораў Янкі Купалы для дзяцей. Як і наступны верш — таксама без назвы і без даты:

*** * ***

*Цёплы ветрык вее*
*І нясе нам весткі,*
*Што ўжо ў лесе зацвітаюць*
*Красачкі-пралескі.*

*Скокні, ветрык мілы,*
***(Ветрык даражэнькі)***
*Ў цёплы край павевам,*
***(Ў цёплы край ляці ты)***
*Крыкні птушкам, што ўжо ў нас*
*Зелянеюць дрэвы*
***(Зелянее жыта)****.*

*Шэпні жаўраночку,*
*Як вясёла дзецям,*

*Што зязюлька й салавейка*
*Маюць прыляцеці*
***(У нас будуць хутка)*** (адз. зах. 325).

У фондах Музея захоўваецца і апісаны цяпер у Каталозе «Рукапісы Янкі Купалы», але чамусьці да гэтага не заўважаны тэкстолагамі, даволі чытэльны рукапіс купалаўскага твора пад назвай «Майстры» (адз. зах. 324). Хутчэй за ўсё гэта пераклад урыўка з нейкай аперэты (оперы?), якая ў першыя паслярэвалюцыйныя гады, як і «Галька», рыхтавалася да пастаноўкі на беларускай сцэне. Зрэшты, купалазнаўцам тут і карты ў рукі. Вось гэты тэкст:

**Хор**

*Мы ўсе майстры тут у зборы,*
*Пры сваім заданьні,*
*Хто наўчыць нас чаго хоча,*
*Пасярод хай стане.*

*Гультаём жыць вельмі цяжка (2 р.),*
*Не хапае хлеба.*
*Дык пакажам, што мы ўмеем,*
*Працаваць нам трэба.*

**Сола**

*Я сталяр вам адмысловы,*
*Хораша габлюю.*
*А ўсё тое, што ня гладка,*
*Вельмі ня люблю я.*

**Хор**

*Жыці гультаём на сьвеце (2 р.)*
*Цяжка, няма хлеба,*
*Дык габлюйма, дык габлюйма,*
*Бо працаваць трэба.*

**Сола**

*А я шэўчык, шыю боты,*
*Шыю чаравікі.*

*А што добры з мяне майстар —*
*Маю збыт вялікі.*

**Хор**

*Жыці гультаём на сьвеце (2 р.)*
*Цяжка, няма хлеба.*
*Шыйма боты, чаравікі,*
*Бо працаваць трэба.*

**Сола**

*Я каваль нязломны, дужы,*
*Складна ўсё майструю,*
*Абцугі і молат маю*
*І ў кузьні працую.*

**Хор**

*Жыці гультаём на сьвеце [2 р.]*
*Цяжка, няма хлеба.*
*Дык біць будзем малатамі,*
*Бо працаваць трэба.*

**Сола**

*А я швачка, шыю зграбна*
*Спаднічкі (****Кашулькі****), гарсэткі*
*І ўсіх вас, мае дзяўчынкі,*
*Прыбяру, як кветкі.*

**Хор**

*Жыці гультаём на сьвеце [2 р.]*
*Цяжка, няма хлеба.*
*Дык жыць будзем, дык жыць будзем,*
*Бо працаваць трэба.*

Купалаўскія рукапісы прымушаюць сяды-тады звярнуцца да тых твораў, якія ўжо даўно вядомыя і — асабліва пасля выдання ПЗТ — набылі, здавалася б, канчатковую, кананічную вызначанасць. Звярнуцца і… не пагадзіцца ў тым-сім з укладальнікамі ПЗТ. Прыклад? Калі ласка. Верш без назвы «На шырокім,

на далёкім…». Адзін з самых знакавых твораў Янкі Купалы, напісаных у першыя гады савецкай улады.

У каментарыі да гэтага верша ў ПЗТ сказана: «Друкуецца па аўтографе. Верш у прыжыццёвыя выданні не ўключаўся. У пасмяротныя выданні твораў Я. Купалы ўключаецца з 1974 г. (Зб. тв., 1974, т. IV)…» [2, т. 4, с. 391]. Па якім аўтографе друкуецца верш? У тым жа каментарыі сцвярджаецца, што «захоўваюцца тры аўтографы: чарнавы (адз. зах. 204, л. 1), перабелены з паметкай «Я. Купала. 9.VI.21 г.» (адз. зах. 204, л. 1) і белавы дзвюх першых строф (адз. зах. 205, л. 1)». Каментарый гэты, як аказваецца, няпоўны. У ім не толькі не ўказана, па якім канкрэтна аўтографе верш друкуецца, але не названы яшчэ два, якія існуюць у архіўным фондзе Музея (адз. зах. 203, 206) і апісаны ў 1-й частцы каталога «Рукапісы Янкі Купалы». Прычым гэтыя два рукапісныя варыянты верша, не заўважаныя тэкстолагамі, узніклі на дзень пазней, **10** чэрвеня 1921 г. У іх рукой паэта ўнесены некаторыя праўкі (у параўнанні з папярэднімі варыянтамі твора). У верш упісана яшчэ адна, трэцяя па ліку, страфа. Гэтыя змены чамусьці нават не паказаны ў ПЗТ у раздзеле «Іншыя рэдакцыі і варыянты». Несумненна, менавіта **тут** выяўлена апошняя воля паэта. Значыць, адзін з гэтых тэкстаў (самы апошні, мяркуючы па характары аўтарскіх выпраўленняў) і павінен лічыцца кананічным. Пададзім яго, і паўтлустым курсівам у дужках падкрэслім адрозненні ад таго варыянту верша, які друкуецца ў ПЗТ [2, т. 4, с. 101]:

*** * ***

*На шырокім, на далёкім (**беларускім)***
*Буйным полі*
*Вырастаюць згодна кветкі*
*І гугольле.*

*Людзі рвуць і (**Свае людзі)** топчуць кветкі*
*Без патолі,*
*А гуголь расьце, ня дбае,*
*Ў поўнай волі.*

***(І так з веку ў век, у долі***
***І нядолі,***

***Гінуць кветкі, а гугольле***
***Ўсходзе болей)****.*

*Ой, ці ж (****праўды век не будзе)*** *вам не ўцяміць, людзі*
*Ўжо ніколі,*
*Што (****не кветак таптаць трэба)*** *не кветкі трэба рваці,*
*А гугольле?!*

Янка Купала
Менск. 10/VI–21 г.

Думаю, не трэба тлумачыць, наколькі апошні варыянт купалаўскага верша (у параўнанні з папярэднімі) стаў паграмадзянску больш актуальны, нацыянальна акрэслены, наколькі больш выразным стаў яго хранатоп.

* * *

На гэтым можна было б скончыць гаворку пра каталогі «Рукапісы Янкі Купалы» 2008 і 2011 гадоў выдання. Але супрацоўнікі Дома Купалы не супакоіліся. І ў канцы 2011 года пры падтрымцы Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і дзякуючы матэрыяльнай дапамозе ЮНЕСКА (Праграма «Памяць свету») надрукавалі ўнікальны, першы такі ў Беларусі, каталог — альбом «Аўтографы першага народнага паэта Беларусі Янкі Купалы» [1]. Унікальнае гэта выданне тым, што цяпер кожны, хто разгорне яго, зможа не толькі *прачытаць* пра купалаўскія рукапісы, але і *ўбачыць* іх — і ў каляровых фотавыявах, і ў электронных запісах на кампакт-дыску, прыкладзеным да альбома. Апісанне рукапісаў тут самае мінімальнае (у параўнанні з ранейшымі каталогамі), але затое можна паглядзець на іх, пазнаёміцца з почыркам песняра, з прыладамі яго пісьма, з вокладкамі кніг і здымкамі, на якіх значацца яго інскрыпты. На старонках альбома ў якасці ілюстрацый змешчана звыш 150 фрагментаў розных рукапісаў Янкі Купалы. Прычым укладальнікі альбома звярнуліся да твораў розных літаратурных жанраў. Зразумела, найбольш прадстаўлены вершы: «Мая доля» (1904), «Беларушчына» (1908), «Блізкім і далёкім» (1911), «Прарок» (1912), «Наша гаспадарка» (1918), «Наш летапісец» (1924), «Хлопчык і лётчык» (1935), «Генац-

вале» (1938), «Беларускім партызанам» (1941), «Зноў будзем шчасце мець і волю» (1942) і інш. Паказаны фрагменты з паэм «Нікому» (1906), «Бандароўна» (1913), «Яна і я» (1913), «Тарасова доля» (1939), з драматычнай паэмы «Сон на кургане» (1910), п'ес «Раскіданае гняздо» (1913) і «Прымакі» (1913), з асобных перакладаў, баек, шарад і інш. Нямала і ўзораў лістоў паэта (у рэдакцыю «Нашай Нівы», да Б. Эпімах-Шыпілы, К. Елісеева, М. Ісакоўскага, У. Ф. Луцэвіч і інш.), надпісаў на падараваных кніжках і здымках (А. Карынфскаму, А. Луцкевічу, П. Панчу, Я. Адамовічу, С. Гарадзецкаму і інш.). У той час калі на старонках фотаальбома паказаны толькі *некаторыя* рукапісы, прычым звычайна іх фрагменты, то кампакт-дыск дае змогу пазнаёміцца з *усімі* захаванымі аўтографамі песняра (559 адзінак захавання). Можна «пагартаць» рукапісны зборнік «Шляхам жыцця», аўтографы «Паўлінкі», «Бандароўны», перакладу «Слова аб палку Ігаравым» і іншыя рукапісныя матэрыялы. Яшчэ колькі гадоў таму назад гэта здавалася б цудам. Сёння — ноў-хаў выдавецкай справы.

Напісанае — застаецца. У гэтае старое лацінскае выслоўе сёння асабліва верыцца. Застануцца навечна не толькі творы народнага паэта Беларусі Янкі Купалы, але і яго рукапісы.

## Літаратура

1. Аўтографы першага народнага паэта Беларусі Янкі Купалы : каталог / уклад. А. Дражына, Л. Яўменава, А. Ляшковіч [і інш.]. — Мінск : Промпечать, 2011.
2. Купала, Я. Поўны збор твораў : у 9 т. / Янка Купала. — Мінск : Маст. літ., 1995–2003. — Т. 1–9.
3. Рукапісная спадчына Янкі Купалы / укл. А. У. Бурбоўская ; навук. рэд. і аўтар прадмовы В. П. Рагойша. — Мінск : Чатыры чвэрці, 2008.
4. Рукапісная спадчына Янкі Купалы : каталог. Частка II / укл. А. У. Бурбоўская, М. І. Плаўская, Н. В. Саевіч ; уступ А. Р. Мацевасян ; навук. рэд. і аўтар пасляслоўя В. П. Рагойша. — Мінск : Чатыры чвэрці, 2010.
5. Янка Купала : энцыклапедычны даведнік / рэд. калегія: І. П. Шамякін (гал. рэд.) [і інш.]. — Мінск : БелСЭ, 1986.

# УКРАІНСКІ ПАЎПРЭД БЕЛАРУСКАГА ПЕСНЯРА
## Пра Дмытра Паўлычку, які пераклаў усе 22 Купалавы санеты

Калі мы з былым дырэктарам Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы Жаннай Казіміраўнай Дапкюнас узяліся за рэалізацыю праекта — выданне ўсіх санетаў Янкі Купалы на асноўных еўрапейскіх мовах, дзвюх думак не існавала: на ўкраінскую мову купалаўскія творы павінен перакласці не хто іншы, як Дмытро Васільевіч Паўлычка. Перад намі стаяла задача: не толькі выдаць да 120-годдзя песняра яго санеты ў арыгінале і ў выдатных (па магчымасці) узнаўленнях на англійскай, іспанскай, нямецкай, польскай, рускай, украінскай, французскай мовах, але і пазбегнуць стылёвай стракатасці такіх узнаўленняў, дамагчыся, каб на пэўную мову пераклады зрабіў адзін перакладчык. А Дмытро Паўлычка да выканання нашай задачы падыходзіў як найлепш. Ён — вопытнейшы і таленавіцейшы сучасны ўкраінскі паэт-перакладчык, што засведчана рознымі айчыннымі і замежнымі літаратурнымі прэміямі, ганаровымі званнямі — ажно да Героя Украіны. Да таго ж, роўна палову купалаўскіх санетаў ён пераклаў і без нашай замовы, уключыўшы іх яшчэ ў 1983 г. у сваю знакамітую персанальную анталогію «Світовий сонет» [5, с. 380–390].

Забягаючы наперад, скажу, што задачу сваю мы выканалі: у кнігу Янкі Купалы «Санеты», прыгожа, у падарункавым афармленні выдадзеную «Мастацкай літаратурай» у 2002 г., увайшлі санеты ва ўзнаўленні аднаго перакладчыка на кожную з еўрапейскіх моў. Так, купалаўскія творы пераклалі: на англійскую мову — Вера Рыч, на іспанскую — Карлас Шэрман, на нямецкую — Увэ Грунінг, на польскую — Фларыян Няўважны, на рускую — Навум Кіслік, на французскую — Юрась Барысевіч. У кнізе знайшлі сваё месца літаральна ўсе санеты Янкі Купалы ва ўкраінамоўных узнаўленнях таксама аднаго перакладчыка, а менавіта — Дмытра Паўлычкі [2, с. 197–218]. Аднак перш чым разглядаць іх і закранаць сам працэс перакладу, думаю, не лішнім будзе хаця б коратка спыніцца на асобе і арыгінальнай творчасці самога аўтара перакладаў. Бо, несумненна, поспех у перaклад-

чыцкай творчасці напрамую залежыць ад кангеніяльнасці перакладчыка, яго ідэйна-мастацкага сугучча з аўтарам арыгінала.

«Гранаслоў» — так называецца адна з некалькіх дзясяткаў уласных паэтычных кніг Дмытра Паўлычкі. Якая дакладная назва! Паэт усё жыццё не проста пісаў, складаў вершы, а менавіта *граніў* у іх кожнае слова. Ён, у адрозненне ад многіх сваіх равеснікаў і асабліва малодшых калег, ніколі не гуляў у словы і не гуляў словамі. Ён імкнуўся, каб у кожным яго творы палаў, кажучы словамі Івана Франко, «агонь у адзенні слова». Пра гэта сведчаць ужо самі назвы яго кніг — ад першай, «Любоў і нянавісць» (1953), і да «Аўтодафе» (2008). Чалавечая мудрасць, грамадзянская смеласць, публіцыстычная зоркасць, філасофская засяроджанасць, дэмакратызм, палкае адстойванне агульначалавечых маральна-этычных пастулатаў, шчыры патрыятызм і арганічны інтэрнацыяналізм — гэтым вызначаецца глыбінная сутнасць Паўлычкі як асобы і як пісьменніка. І ніштo — ні выключэнне яго з аспірантуры Львоўскага ўніверсітэта за адстойванне роднай украінскай мовы ў цёмнай памяці часы «зліцця моў», ні знішчэнне васямнаццацітысячнага тыражу кніжкі «Праўда кліча!» (1958) за антытаталітарысцкі верш «Калі памёр крывавы Тарквемада…» — нішто не змусіла яго схіліцца перад ідэалагічным фарысействам і крывадушшам. І ледзь зардзеўся світанак незалежнасці Украіны, такой жаданай для паэта, ён закляйміў «Братэрства па-імперску» (1991) ды, як некалі Янка Купала («Час!», 1918), вершам заклікаў родны народ: «Уставай з каленяў!» (1991).

Сучасная еўрапейская версіфікацыя нярэдка адмаўляецца ад класічнай сілаба-тонікі, рыфмы, нават ад знакаў прыпынку, прапісных літар, баючыся быць западозранай у сувязі з традыцыямі вуснай народнай творчасці і літаратурнай класікі. У выніку многія вершы не выклікаюць ніякіх эмоцый, яны існуюць як своеасаблівыя рэбусы-загадкі, тэксты-забаўлянкі. У супрацьлегласць такой тэндэнцыі, Паўлычка ні ў ранні перыяд творчасці, ні цяпер не імкнецца быць «модным», «мадэрным», «авангардным». Наадварот, у яго паэзіі пругка струменяць крыніцы роднага фальклору, украінскай і сусветнай класічнай вершатворчасці. Не дзіва, што многія яго вершы сталі папулярнымі песнямі («Два кольори», «Лелеченьки», «Явор і яворина», «Я стужився, мила, за тобою», «Дзвенить у зорях небо

чисте», «Долиною туман тече» і інш). Відаць, як ніхто ў сучаснай украінскай паэзіі Паўлычка выкарыстоўвае т. зв. цвёрдыя формы верша (тэрцыны, секстыны, рубаі і інш.). Што да санетаў, то тут Паўлычку няма роўных. Яго пяру належаць не толькі шматлікія асобныя санеты, а цэлыя вялікія санетныя цыклы: «Львоўскія санеты», «Кіеўскія санеты», «Санеты падольскай восені», «Белыя санеты», «Біблейныя санеты», «Спавядальныя санеты», «Балючыя санеты» і інш.

На Украіне Паўлычка даўно стаў паўнамоцным прадстаўніком многіх літаратур свету. Ужо згадвалася адным ім укладзеная, перакладзеная ажно з 25 моў свету, забяспечаная кваліфікаванай прадмовай і даведкамі пра 117 аўтараў унікальная анталогія «Світовий сонет». Менавіта там упершыню знайшлося месца і для 11 санетаў Янкі Купалы, а таксама двух — Максіма Багдановіча. Яго ж аўтарскую кнігу «Сонети. Світовий сонет», што выйшла ў 2004 г. [4], склалі, апрача ўласных санетаў, поўныя санетарыі англічаніна Шэкспіра, француза Бадлера, славака Гвездаслава, беларуса Янкі Купалы, а таксама творы яшчэ 120 паэтаў з усяго свету, у тым ліку нашых Максіма Багдановіча і Рыгора Барадуліна. А ён жа перакладаў на ўкраінскую мову не толькі санетапісцаў. Свайму літаратурнаму прадстаўніку за вялікую аўтарскую «Анталогію славацкай паэзіі XX ст.» (1997) удзячныя славакі, за «50 польскіх паэтаў» (2001) — палякі, за «Анталогію рускай паэзіі» (2004) — расіяне, за «Анталогію балгарскай паэзіі» (2006) — балгары… Увогуле, няма, відаць, ніводнай еўрапейскай (дый не толькі!) літаратуры, да якой сваім перакладчыцкім або літаратуразнаўчым сцілом не дакрануўся б Паўлычка. У прыватнасці, толькі ў 2-і том яго вялікага двухтомніка «Літературознавство. Критика» [3] увайшлі артыкулы пра 33 пісьменнікаў розных народаў, ад Гамера, Шэкспіра, Хасэ Марці, Шарля Бадлера да Пушкіна, Блока, Ясеніна, Шолам-Алейхема, Мірдзы Кэмпе. У тым ліку — і пра нашых Васіля Быкава, Рыгора Барадуліна, Ніла Гілевіча…

Некалькі згаданых тут фактаў дазваляюць назваць Паўлычку паўнамоцным прадстаўніком і беларускай літаратуры, нават шырэй — беларускай культуры на Украіне. Беларусь і беларускае прыгожае пісьменства ён добра ведае, творы многіх беларускіх паэтаў (апрача названых — Аркадзя Куляшова, Пімена Панчанкі, Максіма Танка, Генадзя Бураўкіна і інш.) перакладаў. Неаднойчы

ён наведваў нашу краіну. Асабліва памятныя былі яго прыезды ў Беларусь у лютым 2003 і ў лютым 2009 г. Дарэчы, у 2003 г. ён прыходзіў і ў Дом Купалы, зацікаўлена агледзеў экспазіцыю, пакінуў свой водгук у кнізе наведнікаў Музея. Абодва разы прыязджаў ён да нас яшчэ з адным шчырым сябрам беларускай літаратуры Раманам Лубкіўскім. І абодва разы пасля гэтых паездак у газеце «Літературна Україна» з'яўляліся вялікія, на дзве паласы, развароты з зацікаўленымі, падчас трывожнымі, але разам з тым і аптымістычнымі дыялогамі «Паўлычка — Лубкіўскі» пра сучасныя беларускія літаратурныя (і не толькі) справы, сучасны стан і перспектывы ўкраінска-беларускіх узаемасувязей, пераклады беларускіх паэтаў, рэцэнзіі на беларускія выданні і г. д.

Аднак давайце вернемся да паўлычкавых перакладаў санетаў Янкі Купалы. Думаецца, найлепш пра сам працэс перакладу і пра адносіны перакладчыка да арыгіналаў могуць расказаць урыўкі з лістоў Паўлычкі да ініцыятараў вышэй названага выдання. Вось, у прыватнасці, што напісаў Дмытро Васільевіч, высылаючы з Кіева 2 сакавіка 1999 г. свае пераклады на мой адрас: *«Дарагі Вячаслаў! Вось трымай дзесяць санетаў Янкі Купалы, якія я пераклаў па Тваёй просьбе. Я ўдзячны лёсу за тое, што меў гонар перакладаць гэтыя надзвычай важныя творы, якія сведчаць пра геній аўтара, пра яго бясстрашную любоў да беларускага народа і пра вялікую тугу вялікай душы… У мінулым годзе я выдаў санеты Шэкспіра ў сваіх трансляцыях і, праўду кажучы, ужо быў пакляўся, што больш перакладаць нічога не буду. Але перад Купалам я адступіў. Я кланяюся не толькі Вашаму паэту, але і Вашаму народу якраз у той час, калі беларусы павінны ведаць, што яны не адзінокія, што ўкраінцы з імі. Калі будзе час, я напішу артыкул пра санеты Купалы. Бо я цяпер мог бы іх цалкам апублікаваць у Кіеве. Што і трэба зрабіць абавязкова… Дзякую за тое, што Ты змусіў мяне ўзяцца зноў за пераклады з Купалы. Прашу перадаць мае вітанні Быкаву, Гілевічу, Бураўкіну і Барадуліну. Пры першай жа нагодзе прыеду да Вас, мае дарагія!»**. У пачатку 1999 г. Паўлычка быў

---

* Арыгінал гэтага ліста, як і наступнага, захоўваецца ў фондах Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы (Мінск).

прызначаны Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Украіны ў Польшчы, збіраўся да ад'езду ў Варшаву. Пасылаючы яму сем санетаў Янкі Купалы на польскай мове і тры — на беларускай, я, прызнацца, не меў асаблівай надзеі на іх хуткі пераклад. На шчасце, я памыліўся. Заставаўся неперакладзеным на ўкраінскую мову толькі адзін санет — «Наша гаспадарка». Ліст на імя тагачаснага дырэктара Дома Купалы Жанны Дапкюнас ад 29 снежня 1999 г. — неаспрэчнае сведчанне таго, што Янка Купала зноў усхваляваў Паўлычку: «*28 снежня мне перадалі з Пасольства Беларусі санет Янкі Купалы «Наша гаспадарка» для перакладу. Санет надзвычай актуальны. Я верыў, што ў Янкі Купалы павінна быць нешта такое, што мае адносіны да адвечнага жадання беларусаў — жадання мець сваю дзяржаву. Дужа дзякую за давер да маіх перакладчыцкіх здольнасцяў. Я перажыў пэўную радасць, перакладаючы «Нашу гаспадарку*».

Што ж прыцягнула ўвагу Паўлычкі — пры такой загружанасці адказнай працай — да санетаў Янкі Купалы? Санетарый беларускага песняра, як вядома, уключае 22 санеты — 15 на беларускай мове, напісаныя ў 1910–1918 гг., і 7 санетаў на польскай мове, створаных не пазней за 1904 г. Вершы гэтыя, нават узятыя самі па сабе, даюць выразнае ўяўленне пра веліч таленту песняра, сутнасць яго дум і перажыванняў у лёсаносны для Бацькаўшчыны перыяд пачатак XX ст., пра яго шырокія мастакоўскія магчымасці. Янку Купалу санет спатрэбіўся перш за ўсё не для выяўлення ўнутрана-асобаснага, інтымнага, не для разваг абстрактна-філасофскіх (хоць, несумненна, прысутнічае тое і другое), а для выказвання трывог, клопатаў і надзей агульнаграмадзянскага значэння, звязаных з сацыяльнымі і нацыянальнымі праблемамі існавання роднага народа. Менавіта гэткімі клопатамі клапаціўся, гэткімі трывогамі трывожыўся і сам Паўлычка ў няпростыя для Украіны 1990-я гг. (як, зрэшты, клапоціцца, трывожыцца і зараз). Гэтым яго і ўзварушылі купалаўскія санеты.

Вось такая кароткая гісторыя ўзнікнення ўкраінамоўных узнаўленняў санетаў Янкі Купалы і даведка пра таго, хто іх узнаўляў. Цяпер жа — пра самі гэтыя узнаўленні.

Пачну з таго, што перакладаць з блізкіх, тым больш — блізкароднасных моў не толькі не лягчэй, чым з моў далёкіх, а ў пэўным сэнсе нават цяжэй. Пра гэта, дарэчы, неаднойчы

выказваўся і сам Паўлычка, перакладчыцкаму вопыту якога можна давяраць. Пры несумненнай дапамозе блізкай мовы (а гэта таксама неаспрэчны факт), перакладчыка, асабліва паэтычных твораў, падсцерагаюць і многія «падводныя камяні», звязаныя з міжмоўнай аманіміяй, полісеміяй, непрадбачанай інтэрферэнцыяй, рознасцю адных і тых жа слоў у родзе, скланенні, у стылістычнай афарбоўцы і інш. Перакладчык з блізкіх моў заўсёды адчувае за сваёй спіной кантроль чытача, у якога нярэдка арыгінал, як кажуць, на слыху, і таму ён не мае такой магчымасці «перакладчыцкага манеўра» (адступлення ад арыгінала), як пры перакладзе з моў нязблізкіх. Што ж да перакладаў санетаў, то да звычайных цяжкасцей з адэкватнай перадачай семантыкі, стылістыкі, тропікі дадаюцца яшчэ і свае, санетапісныя, звязаныя з жорсткай усталяванасцю метрыкі, рыфмікі, архітэктонікі і кампазіцыі гэтага віду верша.

Калі ж гаварыць пра купалаўскія санеты, то тут трэба мець на ўвазе і яшчэ адну акалічнасць. У той час як М. Багдановіч прытрымліваўся строга вызначанай, кананічнай традыцыі санетапісання, Янка Купала часта адступаў ад гэтай традыцыі, адчувальна змяншаў колькасць тых «клямараў», якімі, кажучы словамі Максіма Танка, структура санета «сціскае» творчую свабоду паэта. Беларускі пясняр, выяўляючы дыханне часу, звычайна ламаў, асабліва ў беларускамоўных санетах 1910–1912 гг., пракрустава ложа традыцыйнага для санета вершаванага памеру — пяцістопнага ямба (Я5). Побач з Я4 («…Па межах родных і разорах») і Я6 («Запушчаны палац», «Таварыш мой», «Бацькаўшчына» і інш.) у яго з’яўляюцца нават трохскладовыя памеры — Ам4 («Жніво») і Ан3 («Я люблю»). Больш таго, ён звярнуўся да 4-іктнага тактавіка («Для зямлі прадзедаў маіх…»), што ўжо зусім парушала ўсталяваную традыцыю санетапісання. Да гэтага, часам у санетах не захоўвалася агульнапрынятае чарагаванне мужчынскіх і жаночых рыфмаў. І ў гэтым выяўлялася не пэўная творчая нявопытнасць самога Янкі Купалы, не «агульная збедненасць нацыянальнай літаратуры з прычыны неспрыяльных умоў гістарычнага развіцця» [1, с. 144]. Несумненна, прычына тут у іншым — у даволі смелым стаўленні песняра да некаторых паэтычных традыцый, у жаданні знайсці адэкватную форму для выяўлення думкі і пачуцця, нават калі б дзеля гэтага і трэба было адысці ад нейкіх ранейшых канонаў. Разам з тым усе

згаданыя купалаўскія мадыфікацыі беларускамоўнага санета не выйшлі за рамкі прывычнай для ўсходніх славян сілаба-тонікі. Гэта, зразумела, таксама імпанавала Паўлычку як паэту і перакладчыку з класічнай творчай загартоўкай. Да таго ж магчымасці ўспрымаючай украінскай мовы і традыцыі ўкраінскай літаратуры дазвалялі ўпаўне адэкватна ўзнаўляць арыгіналы. Што, зрэшты, і прывяло да творчага поспеху.

Дмытро Паўлычка ўзнавіў сродкамі роднай мовы вобразны змест першакрыніц, а таксама ў цэлым іх паэтыку. Вершаваны памер, якасць рыфмаў, характар рыфмоўкі, унутраная будова санетаў (кампазіцыя) і знешняя (архітэктоніка) усюды, за нязначным выключэннем, захаваны. Гэтае выключэнне, калі гаварыць пра пераклады купалаўскіх беларускамоўных санетаў, датычыцца не вершаванага памеру (эквірытмічнасць усюды вытрымана), а рыфмоўкі, прычым толькі ў тэрцэтах, некаторых твораў (парадак рыфмоўкі, замена асобных жаночых рыфмаў на мужчынскія і наадварот). Гэта мы бачым у перакладах санетаў «Жніво» (**вГГ ввГ — вГд двГ**), «Запушчаны палац» (**вГГ ввГ — ВгВ ггВ**), «Маё цярпенне» (**вГГ ввГ — ВгВ гВг**), «Сярод магіл» (**ВГГ ВВГ — вГГ ввГ**), «Чаму?» (**Вгг ВВг — вГв ГГв**), «Для Бацькаўшчыны» (**Вгг ВВг — ВгВ Гвв**) і «Пчолы» (**ВгВ ГГв — ВгВ гВг**). У той жа час заўважаецца значна больш адступленняў ад арыгіналаў пры перакладзе польскамоўных санетаў. І гэта зразумела. Пры ўсім пранікненні ўсходнеславянскай тонікі ў польскую сілабіку, якая заўважаецца на працягу ўсёй практыкі беларуска-польскіх паэтычных кантактаў (Адам Міцкевіч, Ян Чачот, Уладыслаў Сыракомля і інш.), усё ж у сваіх ранніх вершах на польскай мове беларускі пясняр стараўся выкарыстоўваць традыцыйную для польскай вершатворчасці сілабіку. У асноўным гэта 11-складовік («Białorusin», «O zmroku», «…Przestańcie marzyć», «…Z bólem wieczystym») і ў адным выпадку («Ziemio…») — 13-складовік. Дмытро Паўлычка ўсе 11-складовікі ўзнавіў традыцыйным для класічнага еўрапейскага сілаба-танічнага санета Я5, а 13-складовік — Я6. Для параўнання: перакладчык гэтых санетаў на рускую мову Навум Кіслік аддаў перавагу Я6, і толькі ў адным выпадку, пры перакладзе «…Przestańcie marzyć», — Я5. Перакладчык жа санетаў на беларускую мову Уладзімір Мархель вырашыў праблему эквірытмічнасці іначай — выкарыстаў, у асноўным, трохскладовыя памеры: Д4 («Białorusin», «O zmroku»),

Ам4 («…Przestańcie marzyć»). У двух астатніх выпадках, як і Паўлычка, ён пакарыстаўся Я5 («…Z bólem wieczystym») і Я6 («Ziemio…»). Думаецца, у дадзеным выпадку няма падставы гаварыць пра слушнасць толькі аднаго з перакладчыкаў. Мы маем справу са звычайнай поліварыянтнасцю пры ўзнаўленні сілабікі сродкамі ўсходнеславянскай сілаба-тонікі.

Пішучы свае вершы на польскай мове, Янка Купала ў двух выпадках, і хутчэй за ўсё наўмысна, паспрабаваў выкарыстаць рытмічныя і рыфмічныя магчымасці роднага беларускага вершавання, не характэрнага для польскай паэзіі. Так, верш «Nie dla was…» ён напісаў Д4, а верш «Hej, w swiat!..» — Я4, ды яшчэ з мужчынскімі рыфмамі. І гэта ў паэзіі на мове з пастаянным месцам націску ў словах, а менавіта на перадапошнім складзе! Трэба аддаць належнае У. Мархелю: пры перакладзе ён цалкам выкарыстаў «падмогу» аўтара арыгінала, узнавіў вершы тымі ж сілаба-танічнымі памерамі. Што да Паўлычкі, то эквірытмічна ён перадаў «Hej, w swiat!..», а вось у вершы «Nie dla was…» Д4 чамусьці замяніў, як і Н. Кіслік, на звычны Я5. Дарэчы, Н. Кіслік неабгрунтавана памяняў і памер верша «Hej, w swiat!..» — з Я4 на Ан4…

Мы спыніліся на перадачы некаторых асаблівасцей формы, паэтыкі арыгіналаў (метрыка, рытміка, рыфміка, строфіка). Не будзем забывацца, што ў паэзіі не толькі пэўны змест аформлены, але і форма змястоўная. Узнаўленне (або неўзнаўленне) тых ці іншых кампанентаў формы цягне за сабой захаванне (або незахаванне) таго ці іншага сэнсавага, эмацыянальнага напаўнення арыгінала. Разам з тым, пры ўсёй непарыўнасці зместу і формы, у вершах вылучаецца яшчэ і аўтаномны (у пэўным сэнсе) семантычны ўзровень, што ствараецца ўжываннем слоў у прамым і пераносным значэнні (паэтычная лексіка, тропы), размяшчэннем іх у фразах і радках (паэтычны сінтаксіс), іх гучаннем (эўфанія), стылістычнай афарбоўкай… Так, як у чалавечым арганізме пры ўсёй важнасці літаральна ўсіх органаў сэрца — галоўны орган, у сістэме паэтычнага твора семантычны ўзровень — найгалоўнейшы. Таму поспех перакладу залежыць найперш ад узнаўлення семантыкі арыгінала (у шырокім сэнсе).

Санеты Янкі Купалы ва ўзнаўленнях Дмытра Паўлычкі пры параўнанні іх з беларускімі і польскімі адпаведнікамі — нават

пры аб'ектыўных адступленнях ад арыгіналаў — не пакідаюць уражання перакладчыцкага свавола, з аднаго боку, і сляпога калькавання — з другога. Так, гэта ўжо некалькі іншыя творы, «нешта трэцяе» (А. Кундзіч), бо ў іх ёсць, як пісаў Самуіл Маршак, «бацька і маці: аўтар і перакладчык…». У перакладах пульсуе кроў абаіх бацькоў. У той жа час радаслоўная бацькі — відаць выразна. Возьмем, для прыкладу, перакладныя тэрцэты з санета «Бацькаўшчына»:

*Так, Батьківщину я здобув собі без люті,*
*Але не викинув кістки чужі, забуті,*
*З полів, де я зростав, з озерних узбереж.*

*Як зневажаєш ти мене — я в темній скруті,*
*Бо зневажаєш ти мою Вітчизну теж,*
*А кривдиш ти її — мене тим злом уб'єш* [2, с. 215].

Параўнаем з арыгіналам:

*Так Бацькаўшчыну я здабыў сабе без злосці,*
*Узрос з яе й чужых з яе не скінуў косці,*
*Грудзьмі тулюсь к ёй, як да матчыных грудзей.*

*І калі здзекваецца нада мною хтосьці —*
*Над Бацькаўшчынай здзекваецца ён маей,*
*Калі ж над ёй — мяне тым крыўдзіць найцяжэй* [2, с. 35].

Няма ў арыгінале мікравобразаў «в темній скруті», «озерних узбереж», а ў перакладзе няма (магчыма, і шкада!) параўнання зямлі з маці, да грудзей якой туліцца лірычны суб'ект. Аднак ёсць вобразная кампенсацыя: замест спакойнага «мяне тым крыўдзіць найцяжэй» — рашучае «мене тим злом уб'єш». І мы адчуваем: гэта таксама Янка Купала!

Якасць перакладу любых санетаў можна вызначыць, параўнаўшы адно толькі ўзнаўленні тэрцэтаў. Тэрцэты ў санетах нясуць асноўную нагрузку, у іх заключана кульмінацыя і развязка вобразнай думкі, эмацыйнага напружання ўсяго твора. Тэрцэты купалаўскіх санетаў у перастварэнні Паўлычкі, як правіла, вызначаюцца яснасцю і лаканічнасцю вобразна выказанай думкі, нярэдка — афарыстычнасцю, філасафічнасцю. Вось некаторыя з іх:

*То — білорус! Як гірко він зітха!*
*В багновище нужди його втопила*
*Темнота клята, мачуха лиха;*

*Його майно — хатиночка похила,*
*Його життя — сокира та соха,*
*Кінець його страждань — корчма й могила*
(«Білорус», 1904; 2, с. 197);

*Там пісня пливе, і пливе в небеса,*
*Крізь біле колосся проходить журливо,*
*І губить у пущах перо вогневе…*

*До мене та пісня пливе, і зове,*
*І в серці дзвенить, як у травах коса:*
*«Ти, брате, сіяч… ну, а де твое жниво?»*
(«Жниво», 1910; 2, с. 204);

*На великім світі дзвони б’ють на славу,*
*Ланцюги зривають із плечей титани,*
*Браття йдуть до сонця, заживають рани…*

*На великім світі в ясноту яскраву*
*Обертають люди віковічну мряву…*
*А що в нас?.. В нас тиша, лиш гримлять кайдани…*
(«На великім світі…», 1912; 2, с. 208);

*Господарюєм так і дома, й за домами,*
*Ждучи даремно втіх, подібні до трави,*
*Що жде в спекотний день роси — іди злови!..*

*Хліб в горлі нам стає, і душить, мов зубами,*
*Волання: доки ж ми ще будемо рабами*
*Варшави панської і царської Москви?!*
(«Наша господарка», 1918; 2, с. 218)…

Нават у адных гэтых тэрцэтах відаць скразны пафас усяго цыкла купалаўскіх санетаў: палкае імкненне беларусаў «людзьмі звацца», а пасля і сцвярджэнне, кажучы словамі Паўлычкі, іх адвечнага «жадання мець сваю дзяржаву». І ці не выяўляецца тут выказаная беларускім песняром усечалавечая мара, мара кожнага народа, нават самага малога, жыць па-людску і быць «панам у

сваёй хаце»? Думаецца, што выяўляецца. Відавочна, менавіта за гэтую ўсечалавечую мару-ідэю і змясціў Дмытро Паўлычка ў сваёй анталогіі сусветнага санета цалкам санетарый Янкі Купалы, прычым побач з санетарыямі самых вялікіх санетапісцаў свету — Шэкспіра, Бадлера і Гвездаслава.

## Літаратура

1. Грынчык, М. Шляхі беларускага вершаскладання / М. М. Грынчык. — Мінск : Выд-ва БДУ імя У. І. Леніна, 1973.
2. Купала, Я. Санеты : на бел., англ., ісп., пол., рус., укр., фр. мовах / Янка Купала ; уклалі Ж. Дапкюнас, В. Рагойша ; рэд. перакладаў Л. Казыра ; паслясл. В. Рагойшы. — Мінск : Маст. літ., 2002.
3. Павличко, Д. Літературознавство. Критика : в 2 т. / Дмитро Павличко. — К. : Вид-во Соломії Павличко «Основи», 2007. — Т. 1 : Українська література; Т. 2 : Світова література.
4. Павличко, Д. Сонети. Світовий сонет / Дмитро Павличко ; передм., укр. переклад сонетів зарубіж. авторів та примітки Д. Павличка. — К. : Генеза, 2004.
5. Світовий сонет : антологія / переклад, передм., довідки про авторів та примітки Д. Павличка. — К. : Дніпро, 1983.

# КАЛІ Б МЫ БЫЛІ ЯПОНЦАМІ...
## ...то ў Янкі Купалы месца і дата нараджэння былі б іншымі

Усяму свету вядома: народны паэт Беларусі Янка Купала нарадзіўся 7 ліпеня 1882 г. у вёсцы Вязынка цяперашняга Маладзечанскага раёна Мінскай вобласці. Аднак мала хто ведае, што перад самым яго нараджэннем Дамінік і Бянігна Луцэвічы — бацькі песняра — жылі і працавалі ў Паморшчыне, невялікай вёсачцы, што ўжо даўно злілася з мястэчкам Ракаў Валожынскага раёна той жа Мінскай вобласці. Прычым дробныя арандатары Луцэвічы, як і іншыя арандатары, нідзе доўга не маглі затрымацца. Звычайна ўладальнікі зямлі не трымалі іх даўжэй за тры гады, не хацелі, каб тыя «ўрасталі» ў зямлю, бо па тагачасных

законах выселіць з той зямлі іх пасля было б цяжка. Паслухаем, што пра гэта пісаў сам Янка Купала 23 лістапада 1927 г. у Пецярбург свайму біёграфу Л. М. Клейнбарту:

*1) Отец мой родился в застенке (хуторе) Пески Игуменского уезда Могилянской волости Минской губернии.*

*Эти Пески были подарены предкам отца за какие-то заслуги, но потом оказались во владении князей Радзивиллов. Эти последние выбросили весною от посевов всю семью Луцевичей на улицу (как говорится)* [Выпадак гэты лёг пазней у аснову трагедыі пісьменніка «Раскіданае гняздо». — **В. Р.**].

*2) После этого Луцевичи взяли в аренду фольварок Камень помещика Говорки, около Ивенца, Минской губернии.*

*3) Из Каменя переехали тоже на аренду в Раговичи помещика Наборовского Старосельской волости Минской губернии. Там же отец мой в 1879 г. женился на Бенигне Ивановне Волосевич, родом из фольварка Нешота, около местечка Рубежевичи, Минской губернии.*

*4) Из Рагович отец отделился от семьи и* ***пошел служить в Поморщину около Ракова (Минская губерния)*** [выдзелена мной. — **В. Р.**] *к помещику Здеховскому, отцу братьев Здеховских, из которых в настоящее время в Польше один — профессором (был и министром), а другой — романист, литератор.*

*5) Из Поморщины отец снова переходит на арендованную землю в фольварок Вязынка помещика Замбржицкого Радошковичской волости, Вилейского уезда, Виленской губернии.*

*6) В 1883 г. отец снова на службе в имении Юзефове у помещика Богдановича (Минской губернии, Борисовского уезда)...*

Такім чынам, Луцэвічы, бацькі Янкі Купалы, з'явіліся ў Паморшчыне ў 1879 г. Гэта дакладна вядома. Аднак колькі часу яны тут жылі і калі пераехалі ў Вязынку? І чым займаліся ў Паморшчыне? На апошняе пытанне можна даць даволі пэўны адказ. Маладажонам, у якіх, як кажуць, не было ні кала ні двара, патрэбна было як мага хутчэй сабраць неабходныя сродкі, каб уладкоўваць свой сямейны быт. Не забудзем, што Дамінік Луцэвіч быў з беднай сялянскай сям'і (дакладней — са збяднелай, т. зв. «шарачковай», шляхты), а Бянігна — з даволі заможных сялян. І бацькі не хацелі аддаваць яе за беднага, хоць прыгожага і разумнага, Дамініка, якога яна палюбіла ўсім сэрцам. За тое, што яна тайна павянчалася з арандатарскім хлопцам, яны не далі

ёй пасагу і доўгі час увогуле ні яе, ні зяця не прызнавалі. Як гэта нагадвае некаторыя калізіі з п’есы Янкі Купалы «Паўлінка»!..

Працуючы ў Паморшчыне, сабраць неабходныя сродкі, каб стаць самастойным арандатарам, у той час можна было. Там яшчэ ў 1850 г. пан Ваўжынец Здзяхоўскі, які купіў Ракаў з навакольнымі землямі і сялянамі ў рускага князя Мікалая Салтыкова (яму Кацярына II падарыла мястэчка ў 1793 г. пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай), пабудаваў бровар. У той час, калі ў Паморшчыну прыехалі бацькі Янкі Купалы, прыгоннае права амаль дваццаць гадоў было як адменена, і працаваць на бровары і на зямлі прымусіць сялян нельга было. Можна было іх наймаць, прапануючы выгадныя ўмовы працы. Эдмунд Здзяхоўскі (1837–1901) — сын Ваўжынца, бацька прафесара Мар’яна і раманіста Казіміра, пра якіх згадвае Янка Купала, славіўся на ўсю Міншчыну культурай вядзення гаспадаркі. Ён у свой час скончыў Горы-Горацкі земляробчы інстытут (вучыўся там, дарэчы, разам з бацькам Юзафа Пілсудскага). Адным з першых у Беларусі яшчэ ў 1896 г. наладзіў тэлефонную сувязь — паміж сваім велікапанскім дваром у Ракаве і Паморшчынай. Ён вёў узорную гаспадарку згодна з рэкамендацыямі тагачаснай сельскагаспадарчай навукі. Несумненна, многае з гэтых рэкамендацый засвоілі Дамінік і Бянігна, а праз іх — і сын Ясь, будучы беларускі песняр, які, як вядома, да канца жыцця захаваў любоў да працы на зямлі, уменне працаваць на ёй…

Умовы працы ў Здзяхоўскіх, несумненна, задавальнялі Луцэвічаў. Можна было арандаваць кавалак панскай зямлі, з вясны да восені працаваць на ёй. А зімой, калі рамкі сялянскай працы рэзка звужаліся, — пачыналася праца на бровары, дзе можна было зарабіць «жывую капейку». Спірт гналі з бульбы, якую нарыхтоўвалі восенню, складалі ў доўгія бурты. Печы палілі торфам, які капалі і сушылі на навакольных тарфянішчах цэлае лета. Арандатарам можна было пры неабходнасці падзарабіць і на гэтай працы. З жыллём таксама не было праблем: Здзяхоўскі недалёка ад бровара пабудаваў інтэрнат для арандатараў і найманых работнікаў (яго ў народзе ахрысцілі «баракам», прастаяў ён да 1960-х гг.). Вядома, што ў 1880 г. на бровары працавалі 1 майстар і 7 рабочых, за той год было выгнана 4100 вёдзер спірту на 29 725 рублёў. Як на той час і на тыя грошы — нямала. Дарэчы, той бровар (вядома, некалькі ўдасканалены) працуе ў

Паморшчыне і цяпер, належыць СВК «Ракаўскі», прыносіць гаспадарцы немалыя прыбыткі.

Такім чынам, Луцэвічы жылі ў «бараку», працавалі на бровары і, відавочна, арандавалі ў Здзяхоўскіх кавалак зямлі. Пра гэта, у прыватнасці, сведчыць выказванне Янкі Купалы: «Из Поморщины отец **снова** [падкрэслена мной. — **В. Р.**] переходит на арендованную землю в фольварок Вязынка…». Але калі «пераходзіць»? Недзе ў архівах сённяшняга Вільнюса ў бухгалтарскіх матэрыялах Здзяхоўскіх захоўваюцца не адшуканыя дасюль запісы аб найме Луцэвічаў. Яны пральюць святло і на сутнасць, і на час працы ў Паморшчыне бацькоў Янкі Купалы. Аднак калі ўлічыць умовы і звычайны трохгадовы тэрмін арандатарства, а таксама характар працы бровара, то можна выказаць меркаванне: позняй вясной ці ў самым пачатку лета 1882 г., калі леташні ўраджай быў цалкам спарадкаваны, а бровар спыніў сваю працу. А чаму ў Вязынку? Адказаць на гэта пытанне можам і без архіўных росшукаў. У той час менавіта Вязынку арандавалі бацькі Дамініка Луцэвіча, жылі ў асобнай хаце (а не ў агульным інтэрнаце). Яны цёпла ставіліся да сям'і сына і маглі рэальна дапамагчы цяжарнай нявестцы Бянігне — і пры нараджэнні дзіцяці, і ў першыя, самыя складаныя, месяцы гадавання немаўляці…

Такім чынам, калі б мы былі японцамі (ці ўвогуле народамі азіяцкага Усходу), то часам нараджэння песняра лічылі б кастрычнік 1881 г. (да ўзросту чалавека дадаецца яшчэ 9 месяцаў яго развіцця ў лоне маці), а месцам нараджэння — Паморшчыну (улічваецца месца, дзе чалавек зачынаўся, а не дзе з'явіўся на свет). Але мы жывём у цэнтры Еўропы, і ў нас у гэтым сэнсе свае, еўрапейскія традыцыі. Таму ў 2002 г., да 120-годдзя з дня нараджэння народнага паэта Беларусі, у Паморшчыне на сцяне бровара з'явілася мемарыяльная шыльда наступнага зместу: «У Паморшчыне ў 1879–1882 гг. жылі і працавалі бацькі Янкі Купалы Дамінік Ануфрыевіч (1846–1902) і Бянігна Іванаўна (1857–1942) Луцэвічы».

А ў Вязынцы маладыя Луцэвічы доўга не затрымаліся. Ужо ў 1883 г., калі Ясь не стаў яшчэ і на ногі, яны, маючы зробленыя грошы, пачалі арандаваць зямлю ў маёнтку Юзафова, у 1887 — у Косіне, у 1889 — у Сенніцы… Арандатарскі лёс не раўнуючы як цыганскі: вечныя пераезды з месца на месца. У гэтых, як і

іншых, мясцінах мог таксама нарадзіцца будучы геній роднай літаратуры Янка Купала. І абяссмерціць іх. Шкада, канечне, што не нарадзіўся ён у Паморшчыне (фактычна — сённяшнім Ракаве). Але не забывайма і Паморшчыну. Хоць мы і не японцы.

## ГАСПАДЫНЯ ДОМА КУПАЛЫ
## Жанна Казіміраўна Касяровіч-Дапкюнас

З усіх надпісаў на падараваных ёй кнігах (а сярод іх — аўтографы Максіма Лужаніна, Пімена Панчанкі, Рыгора Барадуліна, Леаніда Дранько-Майсюка і інш.) найбольш мне прыйшоўся даспадобы дарчы надпіс паэткі і вучонай Ірыны Багдановіч на яе зборніку вершаў «Сармацкі альбом»: «Шаноўнай Жанне Казіміраўне Дапкюнас — з роду Купалы — захавальніцы шляхецкага духу Беларушчыны, рыцарам якога быў наш велічны і вечны Купала. 6.09.2004». Адзінае, што я ўдакладніў бы, — слова «шляхецкага» замяніў бы словам «шляхетнага». Гэта, як мне здаецца, больш адпавядае не толькі характару ўнучатай пляменніцы вялікага песняра, але і яго самога…

Што да Жанны Казіміраўны, то яе шляхетнасць (менавіта шляхетнасць!) я ведаю яшчэ з 1958 г., калі мы з ёй у ліку пяці адсоткаў дзесяцікласнікаў (астатнія 95 %, згодна з тагачаснымі правіламі прыёму ў ВНУ, былі выпускнікі сярэдняй школы з не менш чым двухгадовым працоўным стажам ці дэмабілізаваныя салдаты) паступілі на беларускае аддзяленне філфака БДУ. Яна ніколі не хвалілася сваім блізкім сваяцтвам з Янкам Купалам, і пра гэта мы, яе аднакашнікі, увогуле даведаліся выпадкова, і толькі на другім ці трэцім курсе, калі Жанна Касяровіч (прозвішча да замужжа) арганізавала сустрэчу з цёцяй Уладзяй — Уладзіславай Францаўнай Луцэвіч, жонкай Янкі Купалы. Тады якраз будаваўся Дом Купалы — цяперашні Музей песняра, і мы, падахвочаныя Жаннай, прынялі актыўны ўдзел у яго будаўніцтве падчас рэгулярных тады суботнікаў. Чарнявая прыгажуня са своеасаблівымі ўсходнімі рысамі твару, мінчанка з інтэлігентнай сям'і, яна перад намі, вясковымі хлопцамі і дзяўчатамі з універсітэцкага інтэрната па вуліцы Свярдлова, нос

асабліва не задзірала, паводзіла сябе прыстойна, па-сяброўску: удзельнічала ва ўсіх курсавых мерапрыемствах, якія планаваў і ажыццяўляў наш нязменны камсамольскі сакратар Мікола Пашкевіч (яму, вясковаму настаўніку, не ў пару памерламу, Васіль Быкаў прысвяціў пасля аповесць «Абеліск»), дапамагала дастаць дэфіцытную літаратуру і такія ж дэфіцытныя білеты на тэатральныя прэм'еры, арганізоўвала культпаходы ў музеі, на розныя літаратурныя сустрэчы і г. д. І таму калі недзе на апошнім курсе яе адлучыў ад нас студэнт Мінскага тэатральна-мастацкага інстытута з нетутэйшым прозвішчам Дапкюнас, відаць, не адно юнацкае філалагічнае і журналісцкае (а тады на філфаку вучыліся і журналісты) сэрца сціснулася ў жалі…

Аднак зусім шляхетна паступала Жанна, дакладней — ужо Жанна Казіміраўна, і пазней, калі стала з 1963 г. працаваць у Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы на пасадзе навуковага супрацоўніка, пасля — загадчыка экспазіцыйнага аддзела, вучонага сакратара, намесніка дырэктара па навуковай рабоце і, нарэшце, дырэктара музея (у 1986–2003 гг.). Мы, дый не толькі мы, што сталі настаўнікамі, журналістамі, навукоўцамі, музейшчыкамі, архівістамі, выдаўцамі, заўсёды мелі (і маем!) у асобе Жанны Дапкюнас рэальную дапамогу ў пошуках неабходных навуковых матэрыялаў, арганізацыі музейных экскурсій ці проста кансультацый па тых ці іншых пытаннях. Бо наша аднакашніца з часам вырасла ў аднаго з самых кваліфікаваных музейных работнікаў краіны, аднаго з самых дасведчаных купалазнаўцаў. Не дзіва, што найперш з ёй раіліся беларускія энцыклапедысты, калі ствараўся грунтоўны энцыклапедычны даведнік «Янка Купала», а акадэмічныя тэкстолагі — калі выдавалі першы Поўны збор твораў Янкі Купалы ў 9 тамах, 10 кнігах. Менавіта яна напісала (або адрэцэнзавала) дзясяткі артыкулаў пра асобу і творчасць Янкі Купалы і для энцыклапедычнага даведніка, і для іншых энцыклапедый, перыядычных выданняў, уклала (сумесна з асобнымі супрацоўнікамі музея) зборнік купалаўскай публіцыстыкі, адзін з тамоў трохтомнага выдання твораў паэта на рускай мове. Яна арганізоўвала і непасрэдна ўдзельнічала ў выданні каталога «Янка Купала ў выяўленчым мастацтве», буклетаў «Святло Купалава Дому», «Па Купалаўскіх мясцінах: Вязынка, Яхімоўшчына, Акопы, Ляўкі», «Музей Янкі Купалы», «Купалаўскія мясціны на Мала-

дзечаншчыне: Яхімоўшчына» і інш. Рупнасць яе як тэкстолага і проста як арганізатара зведаў і я асабіста, калі мы, у прыватнасці, разам працавалі над кнігай санетаў Янкі Купалы ў арыгінале і ў перакладзе на сем еўрапейскіх моў (англійскую, іспанскую, польскую, рускую, нямецкую, украінскую, французскую). Часам апускаліся рукі, бо не ставала спосабаў і сродкаў непасрэдна звязацца з замежнымі перакладчыкамі, набраць і адрэдагаваць тэксты на некаторых замежных мовах, а кнігу трэба было чым хутчэй здаваць у друк. І тут настойлівасць і нават упартасць праявіла Жанна Казіміраўна, выкарыстала ўсе свае сувязі і магчымасці, падключыла да гэтай шляхетнай справы нават мужа Вадзіма, сыноў Андрэя і Ігара. Я не агаварыўся: *шляхетнай* справы. Бо санеты Янкі Купалы (а ён — аўтар першых санетаў на беларускай мове, адзін з буйнейшых сусветных санетапісцаў, яго санетарый налічвае 22 творы) — гэта, перафразуючы словы Івана Франко, яшчэ адзін пашпарт на беларускую інтэлігентнасць, шляхетнасць. Пыхлівай Еўропе нам хацелася паказаць, што і мы не лыкам шытыя і не адно — «паны сахі і касы». Тым больш, што і нагода добрая была: праз Беларусь, з прыпынкамі ў Мінску і Брэсце, меўся ехаць еўрапейскі «Літаратурны экспрэс», а Жанна Казіміраўна якраз курыравала гэты экспрэс з беларускага боку…

Увогуле, даследаваць, прапагандаваць, праслаўляць Янку Купалу, бадай, самага шляхетнага беларускага паэта, — ці не азначае гэта захоўваць і памнажаць шляхетны дух самой Бацькаўшчыны?! Думаю, пытанне рытарычнае. Не памылілася, ой, не памылілася Уладзіслава Францаўна, калі пастаянна вадзіла сваю любіміцу Жанначку ў Саюз пісьменнікаў на розныя дзіцячыя ранішнікі, далучаючы яе да пісьменніцкай сям'і, а пасля цвёрда заявіла дзесяцікласніцы Жанне: «Будзеш паступаць ва ўніверсітэт на філфак, на беларускае аддзяленне!» Тады ўжо бачыла яна Жанну прадаўжальнікам сваіх тытанічных высілкаў па ўшанаванні бацькі беларускай нацыі, а праз яго — і самога гераічнага, шматпакутнага беларускага народа. Жанна хоць не адразу (спачатку марыла стаць піяністкай або… доктарам), але ўрэшце зразумела сваё галоўнае жыццёвае прызначэнне. Зразумела, і заўсёды з годнасцю апраўдвала спадзевы таксама шляхетнай Уладзіславы Францаўны, у жылах якой, дзякуючы маці Эміліі Манэ, пульсавала і кроў французскага роду славутага мастака Клода Манэ…

Варта шчырага подзіву зробленае Жаннай Казіміраўнай дзеля слова і славы Янкі Купалы. Колькі намаганняў яна асабіста прыклала для арганізацыі купалаўскай фанатэкі і відэатэкі, мастацкай Купаліяны, для збору музейных экспанатаў, якія расшуквала не толькі ў архівах, музеях, прыватных асобаў Беларусі, але і ў Маскве (у прыватнасці, мэбля з дому Венявіцінавых і Елісеевых), Ленінградзе, Вільні, Рызе, Кіеве! Гэтыя экспанаты не толькі папоўнілі Дом Купалы ў Мінску, але і яго філіялы ў Вязынцы, Ляўках, Акопах, Яхімоўшчыне. Што да двух апошніх, то заслуга іх адкрыцця цалкам належыць Жанне Казіміраўне. Я быў не раз непасрэдным сведкам, як тагачасная дырэктарка Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы — гаспадыня Дома Купалы — па-жаночы гнутка, часам жа — па-мужчынску настойліва, але заўсёды шляхетна дамагалася належнага вырашэння нялёгкіх праблем. У выніку ў наваколлі Акопаў на Лагойшчыне, дзе былі напісаны ледзь не ўсе лепшыя творы Янкі Купалы, з’явіўся не толькі выдатны філіял музея, устаноўлены арыгінальны помнік песняру (работы А. Заспіцкага), але заснаваны і Рэспубліканскі ландшафтны заказнік «Купалаўскі» на тэрыторыі ажно ў 3834 гектары! Адчыніў свае дзверы для наведнікаў у 2001 г. і арыгінальны філіял купалаўскага музея ў вёсцы Яхімоўшчына каля Маладзечна, дзе паэт працаваў на бровары ў 1905–1907 гг., напісаў славутыя «А хто там ідзе?», «Ворагам Беларушчыны», «Там», «Што ты спіш?», «Гэта крык, што жыве Беларусь» і іншыя вершы. Самастойна ці ў садружнасці з іншымі супрацоўнікамі Жанна Казіміраўна нямала папрацавала і для стварэння стацыянарнай экспазіцыі Дома Купалы, належных экспазіцый музея-кватэры Янкі Купалы ў Пячышчах (пад Казанню), гісторыка-літаратурнага музея «Над ракой Арэсай» у Доме культуры калгаса «Чырвоная змена» Любанскага раёна, Купалавай залы ў музеі А. С. Пушкіна ў Вільні (на жаль, з 1990-х гг. гэтая зала не працуе) і інш. Галоўны купалаўскі музей вектары сваіх інтарэсаў працягнуў далёка за межы роднай Беларусі, заключыўшы дамовы на творчае супрацоўніцтва з асобнымі музеямі Расіі (Аляксандра Пушкіна — у Міхайлаўскім, Максіма Горкага — у Маскве і інш.), Украіны (Тараса Шаўчэнкі — у Кіеве, Івана Франко — у Львове), Польшчы (Адама Міцкевіча — у Варшаве), Англіі (Чарльза Дзікенса — у Лондане) і інш. А колькі высілкаў каштавала, каб ушанаваць яго імя ў розных

сувенірах, значках, дыяфільмах, плакетках, паштовых марках і канвертах! У прыватнасці, не раз ёй даводзілася наведвацца ў Рыгу, каб вырабіць з металу памятныя медалі «Вязынка», «Акопы», «Ляўкі». А ў Ленінградзе давялося дняваць і начаваць, нават выклікаць авіярэйсам мінскага скульптара У. Летуна, каб своечасова і на высокім мастацкім узроўні выплавіць на тамтэйшым манетным двары юбілейны медаль песняра да ягонага 100-годдзя…

Так, шмат пакладзена сіл, каб далёка быў відзён бессмяротны курган Купалавай велічы, а разам з ім — і мы, беларусы, спадчыннікі і прадаўжальнікі дум і дзей нашага паэта-прарока. Пры гэтым, відавочна, галоўныя высілкі Жанны Казіміраўны былі скіраваны на сам Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы, на тое, каб ён стаў цэнтральным, галоўным літаратурным музеем-храмам не толькі сталіцы нашай дзяржавы, але і ўсёй дзяржавы. І ён, несумненна, такім музеем стаў. Дом Купалы — так мы яго завём сёння. Падобнай перыфразы не заслужыў ніводны беларускі музей.

А кіраваць ім стала Жанна Дапкюнас у нялёгкі час перабудовы, распаду СССР, эканамічнага і палітычнага крызісу, у першыя гады станаўлення незалежнай Беларусі. Падчас думалася не пра тое, як лепш пражыць, а — як выжыць. Аднак, дзякуючы дапамозе розных дзяржаўных установ, асобных дабрадзеяў і, зразумела, у суладдзі з працавітымі, таленавітымі супрацоўнікамі музея, — і выжылі, і пражылі. Ні разу не зачыніліся, не адгарадзіліся ад наведнікаў. Больш таго: дапамаглі выжыць іншым. Музей стаў адным з вядомых культурных асяродкаў Мінска, дзе ўвесь час ладзіліся і ладзяцца розныя культурныя мерапрыемствы, выставы, сустрэчы з вядомымі пісьменнікамі, артыстамі, вучонымі. У Доме Купалы распачаў сваю працу паэтычны тэатр, які сёння вядомы як тэатр аднаго акцёра Галіны Дзягілевай «Зьніч». Музей у свой час падставіў плячо фотаклубу «Мінск», сябры якога, адчуўшы рэальную падтрымку (і не толькі маральную), аднавілі сваё актыўнае творчае жыццё. А Дом Купалы, у сваю чаргу, папоўніўся арыгінальнымі мастацкімі фотаздымкамі, многія з якіх выкарыстоўваюцца ў розных музейных выставах, у выданнях музея. Ён, як той магніт, стаў прыцягваць да сябе школы краіны, што носяць імя Янкі Купалы (у Мінску, Маладзечне, Мазыры, Капылі, Сенніцы, Бяларучах і інш.). «З Купалам

у сэрцы» — так сталі называцца перыядычныя злёты маладых купалянятаў. Нарэшце, Жанна Дапкюнас не толькі актыўна падтрымала ідэю стварэння ў 1995 г. Міжнароднага фонду Янкі Купалы, але дала яму прытулак у Доме Купалы, стала намеснікам старшыні гэтага фонду, адным з непасрэдных арганізатараў перыядычных міжнародных Купалаўскіх чытанняў…

Я расказаў толькі пра частку таго, да чаго мела дачыненне Жанна Казіміраўна. Але і цяпер, калі яна перадала кіраўніцтва Домам Купалы ў больш маладыя рукі, творчае гарэнне яе не затухае. Яна на грамадскіх пачатках кіруе падрыхтоўкай да друку навуковых каталогаў фондаў музея, распрацоўвае далей радаслоўнае купалаўскае дрэва, рыхтуе да выдання зборнік успамінаў і мастацкіх твораў, прысвечаных песняру, укладае кнігу «Паплечніца Купалы» — пра першага дырэктара музея Уладзіславу Францаўну Луцэвіч. Пра чалавека, годным прадаўжальнікам спраў якога найперш з’яўляецца сама.

## СВЯТА Ў ВЯЗЫНЦЫ
## З успамінаў

Гэта было больш як паўсотні гадоў таму назад.

Божа, як даўно гэта было!..

А помніцца як цяпер…

Ішоў 1957 год. Краіна яшчэ не зусім залячыла раны, нанесеныя адносна нядаўна адгрымелай вайной. Не зацягнуліся рубцы траншэй, болькі акопаў, паабапал дарог яшчэ валяліся абгарэлыя шкілеты вайсковай тэхнікі. Самай пашыранай дзіцячай гульнёй была гульня «ў вайну», «у нашых і немцаў», а наўмысны прагул урока называўся «пайсці ў партызаны»… Неставала ежы, вопраткі, сялянам не выдавалі пашпарты, працавалі яны ў калгасах не за грошы, а за нішчымныя працадні… І ўсё ж не адным хлебам жыве чалавек! І ў тагачасным небагатым жыцці існавалі светлыя моманты, своеасаблівыя «прадушыны», якія — пры катэгарычнай забароне рэлігійных святаў — прыносілі ў чалавечае існаванне пэўныя мэтазгоднасць, духоўнасць і радасць. Аднымі з такіх «прадушын» былі юбілеі класікаў нацыянальных

літаратур, якія, трэба сказаць, адзначаліся шырока і годна, на самым высокім партыйным і ўрадавым узроўні. У нас, у Беларусі, гэта найперш юбілеі Янкі Купалы і Якуба Коласа.

Улетку 1957 г. святкавалася 75-годдзе з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Янкі Купалы. Жыла яшчэ яго жонка Уладзіслава Францаўна Луцэвіч, цёця Уладзя, як яе звычайна не толькі за вочы, але і ў вочы называлі ўсе, ад малога да старога. Сілай свайго аўтарытэту, нестарэючай энергіяй (усё-такі ў яе жылах пульсавала і французская кроў!) яна запальвала павагай да песняра ўсіх, ад каго залежала яго годнае ўшанаванне. У скверы каля Дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы быў устаноўлены помнік-бюст паэта работы Заіра Азгура. У цяперашнім парку імя Янкі Купалы на месцы спаленай фашыстамі хаты аўтара славутай «Паўлінкі» пачаў узводзіцца новы двухпавярховы будынак для Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы (будаўніцтва было завершана ў 1959 г.). У самой жа Вязынцы, што знаходзілася на тэрыторыі калгаса імя Янкі Купалы, у хаце, дзе нарадзіўся пясняр, яшчэ ў 1948 г. быў адкрыты філіял купалаўскага музея, якім, як і самім музеем, загадвала У. Ф. Луцэвіч. З таго часу кожны год, звычайна ў нядзелю, самую блізкую да дня нараджэння Янкі Купалы, цёця Уладзя наладжвала ў Вязынцы святкаванне імянін народнага паэта. На гэта свята яна запрашала вядомых беларускіх пісьменнікаў, артыстаў. У мясцовым калгасным клубе наладжвалася ўрачыстая вечарына, у клубе і на адкрытых пляцоўках выступалі прафесійныя артысты і самадзейныя калектывы. Грымеў сапраўдны фэст, які для людзей замяняў забароненае святкаванне Купалля і на які сыходзіліся і з’язджаліся не толькі з былых Радашковіцкага раёна і ўсёй Маладзечанскай вобласці (куды адміністрацыйна тады ўваходзіла Вязынка), але з Мінска і іншых мясцін Беларусі. Нярэдка гасцямі такіх святаў былі дзеячы культуры Расіі, Украіны, Літвы, Польшчы. Жыхары Вязынкі, суседніх Сяледчыкаў, Гурнавіч пасля вечарыны паважаных гасцей звычайна «разбіралі» на начлег па хатах, і свята працягвалася да самай раніцы…

Так адзначаліся звычайныя дні нараджэння Янкі Купалы. Што ўжо казаць пра юбілейныя даты! А 1957 год быў жа юбілейны. Да юбілею Янкі Купалы (і, відаць, не без уплыву Уладзіславы

Францаўны) быў прымеркаваны тыдзень украінскай літаратуры ў Беларусі, які ў тым годзе праходзіў з 25 чэрвеня па 2 ліпеня. Ужо на другі дзень пасля свайго прыезду ўкраінскія пісьменнікі — а сярод іх былі Андрэй Малышка, Леанід Навічэнка, Тарэнь Масэнка, Мікола Нагнібеда, Платон Варанько і інш. — пазнаёміліся з Мінскам, сустрэліся з Марыяй Дамінікаўнай і Леакадзіяй Дамінікаўнай — роднымі сёстрамі песняра, усклалі кветкі да яго помніка, правялі гарадскі літаратурны вечар. Уладзіслава Францаўна як гасцінная гаспадыня прыняла ўкраінцаў у Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы (ён размяшчаўся ў некалькіх пакойчыках мінскага Дома пісьменніка, па вул. Энгельса, 21). Тады ж яна запрасіла іх і ў Вязынку.

Вязынку ўкраінскія пісьменнікі наведалі ў пятніцу 28 чэрвеня. Сустракаць гасцей сабраліся члены сельгасарцелі імя Янкі Купалы, моладзь, вучні мясцовай школы. Высока над аркай палымнеў лозунг: «Сардэчнае прывітанне пісьменнікам братняй Украіны!» Калі з-за павароту паказалася калона легкавых аўтамабіляў, наперад выйшаў адзін са старэйшых калгаснікаў Іван Бізюк і працягнуў гасцям на вышытым ручніку хлеб-соль, які прыняў Андрэй Малышка. Вучні ўручылі гасцям букеты кветак. Затым госці ў суправаджэнні Максіма Танка, Аркадзя Куляшава, Піліпа Пестрака і іншых беларускіх пісьменнікаў накіраваліся да Дома-музея Янкі Купалы. Тут Андрэй Малышка ўсхвалявана прачытаў свой верш, прысвечаны народнаму беларускаму песняру, сказаў пра значэнне творчасці Янкі Купалы для ўкраінскай літаратуры. Іван Шамякін звярнуўся да гасцей са словамі прывітання. У адказ выступіў Леанід Навічэнка. Ён падзякаваў прысутным за цёплую сустрэчу. У заключэнне выступіла Уладзіслава Францаўна. Яна прывяла некалькі яскравых прыкладаў дружбы Янкі Купалы з украінскімі пісьменнікамі. Госці агледзелі экспанаты Дома-музея, пакінулі запіс у кнізе водгукаў…

Цёця Уладзя запрасіла ўкраінскіх пісьменнікаў і на юбілейную вечарыну, што мелася адбыцца ў той жа Вязынцы праз два дні. І ў якой мне, тагачаснаму дзевяцікласніку Ракаўскай сярэдняй школы, пашчасціла прыняць удзел. Вось як гэта ўспамінаецца.

…Дваццатыя дні чэрвеня. З кніжкаю пад пахай і пужкаю ў руках адпасваю ў полі радоўку. Раптам бачу: здалёку напраскі праз жніўё, сенажаць, балацявіну бяжыць нейкі хлопец. Калі

падбег бліжэй — пазнаю: Сцёпа Доўнар, мой аднакласнік, сын школьнай тэхнічкі. Задыханы, працягвае мне нейкую паперу. Тэлефанаграма (тады ў Ракаве тэлефон быў толькі ў сельсавеце ды школе). Аказваецца, з рэдакцыі нашай раённай газеты «Сцяг Ільіча» званіў яе адказны сакратар Адам Восіпавіч Мальдзіс. У Вязынцы наладжваецца святкаванне юбілею Янкі Купалы. Жонка паэта Уладзіслава Францаўна вельмі просіць, каб на юбілейнай вечарыне, якая павінна трансліравацца па абласным радыё, з вершам пра паэта абавязкова выступіў нехта з мясцовых паэтаў. Адам Мальдзіс, які надрукаваў ужо некалькі маіх вершаў у раёнцы, гэтую місію ўсклаў на мяне…

Не варта і казаць, што з той хвіліны каровам настала воля вольная — у маёй галаве пачалі раіцца радкі верша. Да вечарыны ж заставаўся ўсяго нейкі тыдзень!.. Не стану і апісваць, як я дабіраўся да Вязынкі. Тады з Ракава да Мінска аўтобусы не хадзілі, «папуткі» ж высаджвалі пасажыраў на ўскраіне горада, каля Кальварыйскіх могілак. Ад іх да чыгуначнага вакзала ніякі транспарт не хадзіў, дабрацца туды можна было толькі пешкі. Электрычак яшчэ не было. Не было і прыпынка каля Вязынкі. Рэдкія цягнікі спыняліся на станцыі Радашковічы, а гэта да роднага кута паэта чатыры кіламетры па шпалах… Аднак жаданне пабываць на вечарыне, на ўласныя вочы пабачыць саму жонку Янкі Купалы Уладзіславу Францаўну, урэшце, не падвесці старшыню нашага раённага літаратурнага аб’яднання Адама Мальдзіса было такім вялікім, што я перамог і дарожныя цяжкасці, і страх заблудзіцца ў Мінску, у якім я быў ці не першы раз, і натуральнае маё хваляванне — я ж упершыню выступаў перад такой аўдыторыяй…

Вечар умела вяла цёця Уладзя. Яна прадставіла ганаровых гасцей, якія сядзелі ў прэзідыуме, давала слова выступоўцам. Не скупілася на жарты, што здымалі залішнюю і непатрэбную на такім вечары афіцыёзнасць. Прысутнічаў на тым вечары і Адам Мальдзіс. З ім мы сядзелі побач на лаве мясцовага клуба. Ён увесь час падбадзёрваў мяне, неаперанага вясковага школьніка, які — памятаецца — ад страху гатоў быў нават уцячы з залы. Нарэшце цёця Уладзя назвала маё прозвішча, і я, страшэнна хвалюючыся, выйшаў на сцэну і як мог гучна і выразна (так вучыў Мальдзіс) пачаў чытаць напісаны ў полі пры скаціне свой верш «Земляком сваім я ганаруся»:

*Земляком сваім я ганаруся,*
*Ён уліў у песню сэрца жар.*
*Наш Купала славу Беларусі*
*Словам срэбразвонным памнажаў.*

*Словам тым, што ў час былой нядолі*
*Клікала за праўду йсці у бой,*
*Каб ліхіх часін не стала болей,*
*Каб лунала шчасце над зямлёй.*

*Ганаруся словам тым, якое*
*Заклікала светлых дзён прыход.*
*Гэта слова сэрца маладое*
*Навучае, як любіць народ.*

*Наш Купала песню склаў такую,*
*Для якой нішто стагоддзяў час.*
*Голас мы яго заўсёды чуем,*
*Хоць няма яго даўно між нас.*

*Земляком сваім я ганаруся,*
*Ён уліў у песню сэрца дар.*
*Наш Купала славу Беларусі*
*Словам срэбразвонным памнажаў.*

Землякі і госці вечарыны хораша ўспрынялі маё чытанне верша са сцэны. Я куточкам вачэй заўважыў, як у зале Адам Мальдзіс разам з усімі горача пляскаў у ладкі і радасна ўсміхаўся. Абрадаваўся і я: значыць, не падвёў ні яго, ні землякоў Янкі Купалы!

Цёця Уладзя пасля чытання верша мяне са сцэны не адпусціла, абняла, пацалавала, пасадзіла ў прэзідыуме побач з сабой. Не адпусціла мяне Уладзіслава Францаўна і пасля вечарыны. Разам з некалькімі беларускімі і ўкраінскімі пісьменнікамі яна была запрошана на гасціну ў адну з мясцовых сялянскіх хат. «Павячэраць і пераначаваць» узяла з сабой і мяне. Па дарозе распытала, у якім класе вучуся, куды думаю пастурацць, хто мае бацькі. Радасна ўсклікнула: «Дык мы ж блізкія землякі! Маё ж Вішнева недалёка ад Ракава. Вішнеўцы часта на знакаміты кірмаш у Ракаў ездзілі. Ды і на Мінск едучы, Ракаў не абмінеш».

Запрасіла завітаць у новы купалаўскі Літаратурны музей, які «ўрэшце ўсё ж дабудуем!».

Крыху перакусіўшы за святочным сялянскім сталом, папрасіў гаспадыню хаты паслаць мне пасцель. Ды дзе быў той сон! Амаль да раніцы чуліся за сцяною пакоя тосты, жарты, песні… А ранічкай, толькі каровы ў поле, я ўжо шураваў па шпалах у напрамку станцыі Радашковічы…



# І ГАРМАТЫ ГАВАРЫЛІ, І МУЗЫ НЕ МАЎЧАЛІ
## Жанравая палітра лірыкі Якуба Коласа ваеннага часу

Народны паэт Беларусі Якуб Колас, як і большасць савецкіх людзей, замбіраваных даваеннай «шапказакідальнай» прапагандай, быў цвёрда ўпэўнены, што варта распачацца вайне — і «*Зальецца дучэ ў гнойнай плыні, / Ганебна фюрэр будзе біт*» («Сучасныя калігулы», 1937; 1, с. 224), што калі «*сусветны граміла… папрэцца ў савецкі наш сад, / Тут зломіць ён рыла*» («Пагромшчыкі», 1938; 1, с. 275), што, нарэшце, фашыстам увогуле «*савецкае граніцы не прайсці!*» («Калымага вайны», 1938; 1, с. 253). Таму ў першы ж дзень Вялікай Айчыннай вайны (ВАВ) паэт са шчырым (а не ўдаваным) аптымізмам у вершы «Шалёнага пса — на ланцуг!» пісаў:

*Дык чуйце, народы: ў паход на бандыта,*
*На меч перакуйце ваш плуг.*
*Захочам — і Гітлер, як пёс, будзе біты:*
*Шалёнага пса — на ланцуг!* [2, с. 42].

Гэты верш-заклік «Шалёнага пса — на ланцуг!» ужо праз дзень, 24 чэрвеня 1941 г., быў надрукаваны — без перакладу, на беларускай мове! — у самым на той час аўтарытэтным савецкім выданні — газеце «Правда», у першым яе «ваенным» нумары.

Звернем увагу на слова «захочам». Якубу Коласу ў нядзелю, 22 чэрвеня, калі распачалася вайна і пісаўся гэты верш, сапраўды верылася: варта толькі захацець, і Гітлер, як шалёны сабака, будзе пабіты, пасаджаны «на ланцуг». Але ўжо назаўтра, у панядзелак, калі над Мінскам пачалі кружыць фашысцкія самалёты, тым больш праз тыдзень, калі сталіца Беларусі была ўжо ў руках немцаў, а сам паэт, кінуўшы ўсё сваё дабро, спешна з сям’ёй эвакуіраваўся ў напрамку Масквы, гэтак ён, відаць, ужо не думаў. Гнеў ягоны на фашыстаў яшчэ больш разгараўся, дый вера ў перамогу над акупантамі не згасала, але ў лёгкую, хуткую перамогу — значна зменшылася. Так, у другім па часе

надрукавання вершы — «Душою і сэрцам мы з вамі, героі» («Комсомольская правда», 18 ліпеня, і таксама на беларускай мове) — народны паэт, звяртаючыся да савецкіх воінаў, выказваў ужо не столькі *веру*, колькі шчырую *надзею*:

*Душою і сэрцам мы з вамі, героі,*
*Краса наша, гордасць і цвет.*
*Вы множыце славу чырвонае зброі,*
*З надзеяй на вас глядзіць свет* [2, с. 43].

У вершах-закліках, вершах-зваротах Якуба Коласа перыяду ВАВ вера ў моц Чырвонай Арміі і непахісны дух савецкага народа перамяжоўваліся з надзеяй на хуткую перамогу, любоў да роднай зямлі — з нянавісцю да фашысцкіх «калігул» («На абарону», «Байцам-камсамольцам», «Абаронцам роднай зямлі», «Народу-барацьбіту», «Капайце яму, далакопы» і інш.). Разам з тым гэтыя паэтычныя пасланні суб'ектыўна выяўлялі тагачасны настрой паэта, пастаўленага ў стрэсавую сітуацыю, і аб'ектыўна былі востра запатрабаваныя афіцыйнай антыфашысцкай прапагандай…

Кажуць, калі гавораць гарматы — музы маўчаць. Сапраўды, так часам бывае. Мы ведаем: Янка Купала на пачатку Першай сусветнай вайны, у 1915 годзе, замоўк як паэт, не напісаўшы за тры гады ні радка. Але ж тая вайна была імперыялістычная, захопніцкая, не народная, не за народныя інтарэсы. Што да ВАВ 1941–1945 гг., то літаральна ўсе беларускія савецкія паэты адразу актыўна далучылі свае галасы да стрэлаў чырвонаармейскіх гармат па фашысцкіх захопніках, з першых і да апошніх дзён вайны грамілі ворага то буйнакалібернымі кулямі вершаў, то важкімі снарадамі паэм (назавём у першую чаргу паэмы «Суд у лесе» і «Адплата» самога Якуба Коласа, «Сцяг брыгады» Аркадзя Куляшова, «Янук Сяліба» Максіма Танка, «Паэму пра Смалячкова» і «Беларусь» Петруся Броўкі). Прычым найбольш творча актыўным выявіўся менавіта аўтар «Новай зямлі». Так, Янка Купала з пачатку вайны і да сваёй трагічнай смерці ў Маскве 28 чэрвеня 1942 г. напісаў толькі 7 вершаў агульнай колькасцю 289 радкоў [гл.: 3]. За гэты ж час у Якуба Коласа з'явіліся 44 вершы, што склалі 1478 вершаваных радкоў. Увогуле, па колькасці напісанага за ўвесь час ВАВ (127 вершаў) Якуб Колас значна пераўзыходзіць не толькі ўсіх беларускіх паэтаў, з ім мала хто

можа параўнацца ва ўсёй тагачаснай савецкай паэзіі. Скажам, за чатыры ваенныя гады Пімен Панчанка напісаў 103 вершы, Пятрусь Броўка — 65, Максім Танк — 58, Аркадзь Куляшоў — 15, Аляксандр Твардоўскі — 57, Максім Рыльскі — 70. Зразумела, у мастацкай літаратуры, як і ў мастацтве наогул, далёка не ўсё вызначае колькасць напісанага. Да таго ж мы падлічылі толькі вершы, а названыя паэты ў той ці іншай ступені звярталіся і да ліра-эпасу, пісалі паэмы. І ўсё ж у творцаў такога маштабу, як Якуб Колас, колькасць таксама шмат пра што гаворыць.

Безумоўна, і колькасныя, і якасныя паказчыкі творчага дыяпазону паэтаў у скрутны час ваеннага ліхалецця павінны былі прадвызначацца як пэўнымі суб’ектыўнымі, так і аб’ектыўнымі чыннікамі. З аб’ектыўных варта ў першую чаргу назваць бытавыя ўмовы жыцця і творчасці беларускіх літаратараў. Як вядома, літаральна ўсе яны, у адрозненне, скажам, ад расійскіх ці нават большасці ўкраінскіх пісьменнікаў, адразу, з першых гадзін вайны, спазналі ўсе яе жахі: адступленне, голад, нягоды франтавога жыцця, складанасці мабілізацыі ці імклівай эвакуацыі (у прыватнасці, гэта датычылася Янкі Купалы і Якуба Коласа, якія па ўзросту не падлягалі мабілізацыі). Зразумела, у Якуба Коласа, які ў сярэдзіне жніўня 1941 г. з сям’ёй эвакуіраваўся ў Ташкент, умовы для творчай працы, нягледзячы на ўсе складанасці, былі значна лепшыя, чым у тых жа П. Броўкі, Максіма Танка, А. Куляшова або П. Панчанкі, якія надзелі вайсковую форму і «да штыка прыраўнялі пяро» (У. Маякоўскі) — актыўна працавалі ў армейскім друку. Нават Янка Купала, якога часова прытулілі добрыя людзі ў адносна недалёкай ад фронту Казані, быў пазбаўлены многага з таго, што меў у сталіцы Узбекістана ягоны пабрацім (пэўны матэрыяльны дабрабыт, адносны душэўны спакой, магчымасці лячэння і адпачынку і інш.).

У Ташкент былі эвакуіраваны кіраўніцтва Акадэміі навук БССР, вядомыя рускія пісьменнікі і вучоныя: Анна Ахматава, Сяргей Гарадзецкі, Аляксандр Дэйч, Віктар Жырмунскі, Карнелій Зялінскі, Сямён Кірсанаў, Барыс Лаўранёў, Уладзімір Лугаўской, Мікалай Пагодзін, Мікалай Піксанаў, Аляксей Талстой, Іосіф Уткін, Мікалай Ушакоў, Карней Чукоўскі і інш. Яны, а таксама ўзбекскія дзеячы навукі і культуры (Айбек, Хамід Алімджан, Гафур Гулям, Зульфія, Уйгун і інш.) стварылі спрыяльную творчую аўру, у якую адразу трапіў беларускі

паэт. Яго асабіста і ягоныя новыя творы радасна сустракалі ў рэдакцыях мясцовых перыядычных выданняў («Правда Востока», «Фрунзевец» і інш.), у выдавецтвах, ён часта выступаў на розных літаратурных вечарах (Ташкенцкі педінстытут, Дом Чырвонай Арміі, Ваенная акадэмія імя Фрунзе і інш.), па радыё. У выдавецтве «Советский писатель», якое было эвакуіравана ў Ташкент з Масквы, і ў Дзяржаўным выдавецтве УзССР у 1942 г. выйшлі яго зборнікі вершаў на рускай («Голос земли», «Избранные стихотворения») і ўзбекскай («Выбраныя вершы») мовах. У сувязі з 60-годдзем народнага паэта Беларусі ў ташкенцкім Доме Чырвонай Арміі адбыўся вялікі юбілейны вечар, а адна з гарадскіх вуліц (Асакінская) была перайменавана ў вуліцу Якуба Коласа. Тут, у Ташкенце, Якуб Колас пазнаёміўся з рускай паэтэсай Святланай Аляксандраўнай Сомавай, супрацоўніцай апарата Саюза пісьменнікаў Узбекістана, якой ён захапіўся як жанчынай і якая на працяглы час стала ягонай Музай*. Усё гэта, апрача, зразумела, прыроджанай таленавітасці, выключнай працаздольнасці, жадання ўнесці як мага большы ўклад у хутчэйшую перамогу над ворагам, і абумовіла незвычайную творчую актыўнасць паэта, намнога большую, чым у іншых беларускіх вершатворцаў. Аднак для нас важней падкрэсліць, што і *якасны* дыяпазон творчасці Якуба Коласа ваеннага часу, які ўключае ў сябе не толькі аксіялагічную важкасць паэзіі, але і яе жанрава-відавую характарыстыку, таксама ў многім прадвызначаны названымі (і неназванымі) чыннікамі. Чым жа ён, гэты дыяпазон вызначаецца, што для яго характэрна?

Традыцыйны падзел лірыкі на жанры — грамадзянская, філасофская, інтымная, пейзажная — у нашым выпадку не зусім падыходзіць. Па сутнасці, ледзь не ўся беларуская савецкая ваенная лірыка была грамадзянскай, прасякнутай антываенным, антыфашысцкім пафасам. Цяжка знайсці «чыста» інтымны, «чыста» філасофскі або «чыста» пейзажны верш. У кожным з такіх вершаў, за рэдкім выключэннем, прысутнічаюць эмоцыі грамадзянскія: боль за патаптаную фашысцкім ботам Радзіму, перажыванні за яе гаротнае становішча, надзея на яе абавязковае вызваленне, радасць ад кожнай выйгранай бітвы з ворагам

* Гл. пра гэта артыкул «Я не кахаю Вас. Я Вас люблю».

і г. д. Таму прапануем некалькі іншыя жанравыя вектары лірыкі, вылучым у ёй творы 1) услаўленча-заклікальныя, 2) сатырычна-выкрывальныя, 3) медытатыўна-роздумныя і 4) аповедныя.

У Якуба Коласа амаль чвэрць вершаў — 31 са 127, або 24,4 %, — адносіцца да першай жанравай катэгорыі. З іх, як было відаць вышэй, і пачалася яго літаратурна-мастацкая творчасць ваеннага часу. Да жанру паслання, верша-заклiку, якi знаходзiўся ў творча-публіцыстычным арсенале паэта яшчэ з даўніх часоў (прыгадаем хаця б «Беларусам», «Ворагам», «Да працы!», «Покліч» і інш.), паэт звяртаўся на працягу ўсіх чатырох ваенных гадоў. Гэта такія творы (апрача ўжо названых), як «Маскве», «Бацьку Мінаю», «Байцам і камандзірам Чырвонай Арміі», «Савецкім народам», «Помсці!», «Люду і краю», «Роднаму краю: Да 25 гадавіны БССР» і інш. Разам з тым услаўленне роднага краю і народа ў Якуба Коласа арганічна спалучалася — і гэта зразумела — з пафасным выкрыццём захопнікаў у вострых інвектывах («Фашысцкім бандытам», «Фашысцкаму звяр’ю», «Калымага Рым–Берлін», «Да Германіі», «Фрыцы» і інш.; іх у паэта 20, або 15,6 %). У такіх творах сатырычна-гратэскны плакатнага тыпу партрэт захопнікаў маляваўся ў асноўным з дапамогай вульгарызмаў (падлы, бандыты, галодная зграя, арда, фашысцкая чорная вош, фашысцкая гідра, людаеды, расцугленая сцерва і г. д.).

Пасланні, вершы-заклікі, інвектывы, сатыры Якуба Коласа апярэдзілі, а таму, відавочна, у пэўнай ступені і прадвызначалі з’яўленне аналагічных жанравых разнавіднасцей у творчасці іншых паэтаў, і не толькі беларускіх. Назавём хаця б «Беларускім партызанам» Янкі Купалы, «Змагайцеся адважна за Радзіму!» і «Фашыстам літасці няма!» П. Панчанкі, «Пісьмо землякам» і «Помста» П. Броўкі, «Мы вернемся» і «Не шкадуйце, хлопцы, пораху» Максіма Танка, «Клятва партызана» А. Астрэйкі, а таксама «Тебе, Украина», «Бойцу Южного фронта», «Новогоднее слово» расіяніна А. Твардоўскага, «Слово про рідну матір», «Друзям по Союзу», «Україні» ўкраінца М. Рыльскага і інш. Усе гэтыя вершы арганічна ўпляталіся ў сістэму савецкай прапаганды ваеннага часу, куды, побач з творамі літаратурнымі (лірычнымі, эпічнымі і драматычнымі), уваходзілі творы іншых відаў мастацтва — выяўленчага (згадаем хаця б карыкатуры Кукрыніксаў), музычнага, тэатральнага, кінамастацтва…

Адкрыта-публіцыстычныя заклікальныя і выкрывальныя творы ў 1941–1945 гг. рабілі сваю мабілізацыйную справу: уздымалі дух абаронцаў Радзімы, усялялі ў іх сэрцы веру ў немінучую перамогу над ворагам. Нездарма яны пастаянна друкаваліся на першых старонках франтавога перыядычнага друку (у прыватнасці, у газеце-плакаце «Раздавім фашысцкую гадзіну»), у выглядзе лістовак засылаліся ў тыл праціўніка. Ужо само іх аўтарства — у прыватнасці, Якуба Коласа, аўтарытэтнейшага класіка айчыннай літаратуры, аднаго з «маршалаў нацыі» (Р. Семашкевіч) — надавала ім характар своечасовай парады, нават — калі хочаце — камандзірскага загаду.

Але нават у арміі, на вайне аднымі загадамі дасягнуць мэты немагчыма. Тым больш — сродкамі паэзіі, сіла якой — найперш у шчырасці, пачуццёвасці, суцішанай эмацыйнасці. Ды і не адной гэтай — масава-агітацыйнай — мэтавай устаноўкай жылі ў той час паэты, не выключаючы і Якуба Коласа. Як і ў тым нялёгкім жыцці, яны і ў сваёй творчасці нярэдка сумавалі, бедавалі, весяліліся, сябравалі, кахалі… Таму вершы медытацыйна-роздумнага, элегічнага характару, да якіх арганічна далучаецца лірыка пейзажная і інтымная, займаюць у творчасці беларускіх паэтаў ваеннага часу — як гэта, на першы погляд, ні парадаксальна — вядучае месца. Пра што зноў выдатна сведчыць спадчына Якуба Коласа.

Літаральна на другі дзень пасля напісання аптымістычна-заклікальнага паслання «Душою і сэрцам мы з вамі, героі», 19 ліпеня 1941 г. у Клязьме (пад Масквой) у Якуба Коласа «здарыўся» зусім не мажорны верш «Развітанне», дзе элегічны настрой разлучаных вайной блізкіх людзей выявіўся нават у своеасаблівай «арытміі» яго няцотных радкоў:

*Разышліся мы у трывожны час*
*Пад напевы сірэн і матораў.*
*Ясны летні дзень плыў на захад, гас,*
*А наступны прарочыў нам гора <…>.*

*Я на ўсход пайшоў, ты ж павёў свой шлях*
*Па знаёмай мясціне ступою.*
*Развіталіся, і сляза ў вачах*
*Заблішчала тужлівай расою <…>.*

*Як бы я хацеў паглядзець, зірнуць*
*На чароўныя родныя гоні,*
*І паветрам іх яшчэ раз дыхнуць,*
*І да іх прыхінуць свае скроні* [2, с. 46].

Падобных вершаў, у якіх развага, роздум перамешаны нярэдка са «слязой у вачах», у Якуба Коласа за ваенны час з'явілася шмат — 66, або 52 %, больш за палову ад усяго напісанага. Гэта «…Запытай ты сябе, чалавеча», «Майму другу», «У цяжкую часіну», «Дуб», «Вясною», «Стары гасцінец», «На захад», «Пад Новы год», «Над магілаю друга» і інш. Сярод іх вылучаюцца творы цалкам інтымнага, асабістага і «асобаснага» характару, што надае паэзіі Якуба Коласа выразную адметнасць і, магчыма, адрознівае яе ад усёй вершатворчасці ўсходнеславянскіх савецкіх паэтаў перыяду ВАВ. Такія творы, выяўляючы патаемныя думкі і перажыванні, прысвячаліся найперш жонцы і дзецям («Самому сабе», «Мае мары: М. Д. М.», «М. Д. М.», «Маёй Марусі», «Сыну», «Міхасю» і інш.), сябру — рускаму паэту Сяргею Гарадзецкаму («Сяргею Гарадзецкаму», «С. Гарадзецкаму», «С. Г.»). Асобныя з гэтых вершаў не прызначаліся для тагачаснай публікацыі, пісаліся «ў стол» (як, зрэшты, і цытаваны вышэй верш «Развітанне», апублікаваны ўпершыню толькі ў 1952 г.). Тыя ж, што друкаваліся (у газеце «Савецкая Беларусь», альманаху «Беларусь», зборніках «Адпомсцім», «Голас зямлі»), зусім не кантраставалі з творамі ўслаўленча-заклікальнымі і сатырычна-выкрывальнымі, разлічанымі на масавую аўдыторыю. Больш таго, яны аказваліся надзвычай запатрабаванымі. Бо на чырвонаармейцаў, што змагаліся з фашыстамі, часта мацней, чым творы публіцыстычнага напалу, уздзейнічала гэтак званая «ціхая лірыка», разлічаная на ўспрыманне не столькі розумам, колькі сэрцам, у якой замест масавага «Мы» праяўлялася лірычнае «Я». Дарэчы, гэта добра адчулі паэты, якія самі былі сярод салдат, у пекле ваенных падзей. Услед, а часам раней ці ў адзін час з Канстанцінам Сіманавым і Аляксеем Сурковым (маюцца на ўвазе, у прыватнасці, іх вершы «Жди меня» і «Бьется в тесной печурке огонь», што сталі папулярнымі песнямі), яны друкавалі свае шчымліва-лірычныя радкі, вобразны лад і мелодыка якіх выяўлялі асабістае, прыватнае, індывідуальнае, а праз гэта — і агульнае, грамадскае і грамадзянскае. Назваць можна

хаця б вершы П. Панчанкі «Сінія касачы», «…Будуць вечна сады расцвітаць», «…І гора міне, і радасць міне», «Далёкія станцыі», «…У мяне не забілі нікога» (такіх твораў у яго 39, або 38 %), Максіма Танка «Адыходзячы з хаты», «…Чуўся гром кананады ў тумане», «Яна хату бяліла», «…Мы берагам мора ішлі» (25, або 43 %). Менш іх у П. Броўкі (11, або 20 %) і А. Куляшова (2, або 13 %).

Асобную выразную і даволі вялікую групу твораў Якуба Коласа, напісаных пераважна «ў стол» (каля трох дзясяткаў), складаюць інтымныя (любоўныя) вершы, што ўзніклі ў выніку ўзаемаадносін паэта са Святланай Сомавай. Яны значна паглыбілі жанравы струмень не толькі ваеннай, але і ўсёй лірыкі Якуба Коласа, у якой да ВАВ амаль не было інтымных (дакладней — любоўных) матываў. Разам з тым яны пашырылі і яе відавы дыяпазон. Так, верш «…Бліснỳць у бяздонні вячэрнія зоры» напісаны секстынай — арыгінальнай шасцірадковай страфой з рыфмоўкай АББАБА. Дагэтуль такой страфой у спалучэнні з чатырохстопным амфібрахіем паэт увогуле не карыстаўся. Кантакты са Святланай Сомавай прывялі і да ўзнікнення ў яго творчасці такога віду верша, як акраверш. Вось першы ў творчасці Якуба Коласа акраверш «Слова» (23.06.1943), у якім па вертыкалі прачытваецца імя **Светлана** (у рускім напісанні):

> ***С****лова — радасць, слова — чары,*
> ***В****образ вечна юных вёсен!*
> ***Е****сць ты ўсюды: ў сонцы, ў хмары,*
> ***Т****ы глядзіш праз неба просінь.*
> ***Л****ашчыш слух мой, слова-ззянне,*
> ***А****туляеш сэрца ласкай.*
> ***Н****оч і вечар, дзень, світанне*
> ***А****бняло ты, слова-краска* [2, с. 125–126].

Калі такі від верша, як акраверш, — не навіна ў беларускай вершатворчасці, то ўжо прысвечаны Святлане Сомавай санет-акраверш «Зорка» (21.08.1943) з’явіўся першай такой вершаванай формай за ўсю больш чым пяцісотгадовую гісторыю пісьмовага існавання нашай паэзіі:

> ***С****веціць мне зорка з бяздонных глыбінь,*
> ***В****ечнае неба таемна-прыгожа.*

*Есць нейкая сувязь, няспынная плынь,*
*Толькі ім назвы, імя не знаходжу.*

*Ласкава кажа мне зорка: спачынь!*
*Ах, мой вандроўнік, суцішся, нябожа!*
*Носіш ты ў сэрцы жальбу далячынь,*
*Атам журботны ў святым падарожжы.*

*Светлая зорка, ты ярка гарыш,*
*Одум мой горкі ўзнясі ты на крыж,*
*Мне ж падары ты радасць спакою!*

*О, не, ты далёка, халодны твой жар.*
*Вечар мой нікне пад полагам хмар.*
*Арфа разбіта — чыею рукою?* [2, с. 133]

Тут, у адрозненне ад папярэдняга верша, прачытваецца не толькі імя, але і прозвішча адрасата твора ў іх рускім напісанні: **Светлана Сомова**.

Інтымныя вершы Якуба Коласа ваеннага часу, як мы падкрэслілі ўжо, — ледзь не выключная з’ява ва ўсёй савецкай паэзіі часу ВАВ, у якой — па зразумелых прычынах — такая жанравая разнавіднасць лірыкі прадстаўлена невялікай колькасцю твораў.

Нарэшце, чацвёрты жанравы вектар коласаўскай лірыкі складаюць вершы аповедныя, у якіх пераважае аповед ці проста паведамленне пра нейкую падзею. Колькасна іх найменш: 10, або 8 %. Гэта сюжэтныя вершы ці творы з элементамі сюжэта. Сюды, несумненна, адносяцца і балады, але яны, у адрозненне ад А. Куляшова («Балада аб чатырох заложніках», «Камсамольскі білет»), П. Панчанкі («Герой», «Балада пра Міколу Сасноўскага»), Максіма Танка («Казак гнаў каня», «Развітанне»), П. Броўкі («Магіла байца», «Два клёны»), у ваеннай лірыцы Якуба Коласа не зафіксаваны. Затое той ці іншы аповед прадвызначае мастацкі свет такіх ягоных твораў, як «Над магілай партызана», «Засада», «Крумкачы», «На новы рубеж», «Над Прутам», «Топаль» і інш. У іх у пэўнай ступені выявіліся магчымасці Якуба Коласа як ліра-эпіка, выдатна ўвасобленыя ў яго даваенных паэмах і вершаваных апавяданнях.

Цікава, што твораў аповеднага характару ў паэтаў, якія былі непасрэдна на фронце, значна больш, чым, скажам, у Якуба

Коласа ці М. Рыльскага, якія знаходзіліся ў эвакуацыі. Так, яны займаюць вядучае месца ў творчасці А. Куляшова (87 %), П. Панчанкі (40 %), П. Броўкі (38 %), А. Твардоўскага (55 %). Гэтаму ёсць тлумачэнне: паэты-франтавікі на свае вочы бачылі многія знакавыя падзеі, іх не трэба было прыдумваць, можна было ў вершы браць, як кажуць, «жыўцом».

Жанравая своеасаблівасць лірыкі Якуба Коласа перыяду ВАВ (22.06.1941–9.05.1945), у параўнанні з паэтычнай творчасцю некаторых іншых беларускіх паэтаў, а таксама — рускага А. Твардоўскага і ўкраінца М. Рыльскага, добра відаць з наступнай абагульняльнай, дзе лічбы ў верхнім радку абазначаюць асноўныя жанравастваральныя вектары — творы 1) ўслаўленча-заклікальныя, 2) сатырычна-выкрывальныя, 3) медытацыйна-роздумныя і 4) аповедныя:

| *Паэты* | *1* | *2* | *3* | *4* | *Усяго* |
|---|---|---|---|---|---|
| Якуб Колас | 31 (24,4 %) | 20 (15,6 %) | 66 (52 %) | 10 (8 %) | 127 (100 %) |
| П. Броўка | 19 (35 %) | 4 (7 %) | 11 (20 %) | 21 (38 %) | 55 (100 %) |
| Максім Танк | 15 (26 %) | 1 (2 %) | 25 (43 %) | 17 (29 %) | 58 (100 %) |
| П. Панчанка | 9 (9 %) | 14 (13 %) | 39 (38 %) | 41 (40 %) | 103 (100 %) |
| А. Куляшоў | — | — | 2 (13 %) | 13 (87 %) | 15 (100 %) |
| А.Твардоўскі | 9 (16 %) | — | 16 (29 %) | 32 (55 %) | 57 (100 %) |
| М. Рыльскі | 31 (45 %) | 3 (5 %) | 25 (35 %) | 11 (15 %) | 70 (100 %) |

Табліца колькасна пацвярджае як выключны творчы плён Якуба Коласа (127 твораў — супраць 70 у М. Рыльскага і 57 у А. Твардоўскага), так і значную перавагу ў яго паэтычнай творчасці вершаў медытацыйна-роздумных (52 %) над вершамі ўслаўленча-заклікальнымі (24,4 %), сатырычна-выкрывальнымі (15,6 %) і асабліва аповеднымі (8 %).

## Літаратура

1. Колас, Я. Збор твораў : у 20 т. / Якуб Колас. — Мінск, 2007. — Т. 2 : Вершы (1911–1938).
2. Колас, Я. Збор твораў : у 20 т. / Якуб Колас. — Мінск, 2008. — Т. 3 : Вершы (1939–1945).
3. Купала, Я. Поўны збор твораў : у 9 т. / Янка Купала. — Мінск, 1998. — Т. 5 : Вершы, пераклады (1930–1942).

# «Я НЕ КАХАЮ ВАС. Я ВАС ЛЮБЛЮ»
# Святлана Сомава ў жыццёвым і творчым лёсе Якуба Коласа

Даволі працяглы час наша айчынная гісторыя літаратуры, зацыкленая на сацыяльных і нацыянальна-вызваленчых тэмах і праблемах беларускіх пісьменнікаў, зусім ці амаль зусім не закранала інтымныя, найперш — любоўныя, моманты іх біяграфій і матывы творчасці. Рускія і асабліва замежныя пісьменнікі — справа іншая, а вось беларускія літататары быццам бы толькі і турбаваліся лёсам «пана сахі і касы», толькі і заклікалі: «стрэльбы, хлопчыкі, бяры!». Адсюль — своеасаблівая «забранзавеласць» іх воблікаў, што выявілася не толькі, скажам, у мінскіх помніках Янку Купалу і Якубу Коласу, што яшчэ даравальна, але і ў гісторыка-літаратурных публікацыях, выданнях для гэтак званага масавага чытача, школьных падручніках… У самы апошні час, праўда, і Янка Купала, і — асабліва — Максім Багдановіч сталі паўстававаць перад намі і як звычайныя жывыя людзі, са сваімі прыватнымі клопатамі і турботамі, захапленнямі, адносінамі да жанчын, каханнем, любоўнымі прыгодамі… І гэта зусім не аддаляе нас, чытачоў, ад іх асоб і творчасці. Як не аддаляе ад Аляксандра Пушкіна, Івана Тургенева, Фёдара Дастаеўскага, інтымныя падрабязнасці жыцця якіх даўно ўжо не сакрэт… Спадзяюся, што і гэты аповед пра Якуба Коласа не аддаліць чытачоў ад яго твораў, а, наадварот, наблізіць да іх, заахвоціць разгарнуць кнігі аўтара знакамітай «Новай зямлі».

* * *

Як вядома, Якубу Коласу, чалавеку далёка не прызыўнога ўзросту, пасля пачатку Вялікай Айчыннай вайны разам з сям'ёй (жонкай і сынамі Данілам і Міхасём) давялося эвакуіравацца ў далёкі Ташкент. Можна сабе ўявіць настрой народнага песняра, які ваеннай віхурай быў адарваны ад роднага краю і закінуты за тысячы кіламетраў ад акрываўленай Бацькаўшчыны. Смутак, туга, жаль, горыч, боль, нават роспач — усе гэтыя пачуцці перапаўнялі сэрца паэта-патрыёта, у якога да агульнанароднага гора далучалася і сваё асабістае. Прыгадаем толькі бацькоўскія перажыванні Канстанціна Міхайлавіча за лёс сярэдняга сына Юркі, які быў мабілізаваны на фронт і ад якога не было ніякіх звестак (пазней стала вядома, што ён загінуў у адным з першых цяжкіх баёў з фашыстамі). А тут звычайныя бежанскія праблемы з жыллём, харчаваннем, здароўем — сваім і жончыным (Марыя Дзмітрыеўна апошнія гады часта і цяжка хварэла, што і звяло яе ў 1945 г. заўчасна ў магілу). І вось у гэты час у Ташкенце знайшоўся чалавек, які паспрабаваў хоць крыху суцішыць боль, развеяць сумны настрой, дапамагчы прыжыцца ў чужым горадзе, набыць новых знаёмых і сяброў. Такім чалавекам стала Святлана Аляксандраўна Сомава (1911–1990), руская паэтэса і перакладчыца, «краса Узбекістана», як называў яе народны паэт Беларусі. Яна ў той час працавала ў апараце Саюза пісьменнікаў Узбекістана. Менавіта знаёмства са Святланай Сомавай, і не столькі як з «апаратным работнікам», колькі з маладой таленавітай і прыгожай жанчынай, што перарасло ў шчырую і, як аказалася, пажыццёвую прыязнасць і абумовіла даволі хуткае «прыжыванне» Якуба Коласа ў незнаёмым датуль горадзе, а таксама ўзнікненне мноства лірычных твораў песняра, значнае пашырэнне жанравага дыяпазону яго лірыкі ваеннага і пасляваеннага перыяду.

Вось некалькі агульных звестак з біяграфіі Святланы Сомавай.

Нарадзілася Святлана Аляксандраўна 30 красавіка 1911 г. у Пецярбурзе. Яшчэ дзяўчынкаю разам з бацькамі пераехала ў «горад хлебны» Ташкент, дзе пражыла большую частку свайго свядомага жыцця, вывучыла ўзбекскую і некаторыя іншыя цюркскія мовы. Менавіта тут, працуючы літкансультантам у

Саюзе пісьменнікаў Узбекістана, яна ўпершыню сустрэлася, пазнаёмілася і ўрэшце пасябравала з Якубам Коласам, якога бежанскі ваенны лёс, як і многіх вядомых рускіх пісьменнікаў і вучоных (Анна Ахматава, Дзмітрый Благой, Сяргей Гарадзецкі, Аляксандр Дэйч, Карнелій Зялінскі, Барыс Лаўранёў, Уладзімір Лугаўской, Мікалай Пагодзін, Мікалай Піксанаў, Уладзімір Пічэта, Ілья Сяльвінскі, Аляксей Талстой, Мікалай Ушакоў і інш.) і некалькіх літаратараў з Беларусі (Эдзі Агняцвет, Уладзімір Агіевіч, Віталь Вольскі, Міхась Модэль, Уры Фінкель), закінуў ажно ў Сярэднюю Азію. У Ташкенце ў час вайны выйшла першая кніга яе вершаў, якая так і называлася — «Ташкент» (1943). Затым былі іншыя, выдадзеныя і ў сталіцы Узбекістана, і ў Маскве: «Стихи и переводы» (1947), «На полях Мирзачуля» (1950), «Огни Сталинграда» (1953), «Красные гвоздики» (1961), «Огонь в окне» (1966), «Червонный явор» (1974), «На восходе луны» (1984) і інш. Тысячы вершаваных радкоў яна пераклала на рускую мову з узбекскай, кара-калпацкай і некаторых іншых цюркскіх моў, рэдагавала шматлікія перакладныя выданні, што выходзілі ў час Вялікай Айчыннай вайны і пасля яе ў Сярэдняй Азіі і сталіцы СССР.

На жаль, нават сёння мы да крыўднага мала ведаем і пра Святлану Сомаву, і пра высакароднае сяброўства Канстанціна Міхайлавіча і Святланы Аляксандраўны, якое доўжылася без малога паўтара дзясятка гадоў — пачынаючы з канца 1941 г. і ажно да самай смерці беларускага песняра. У прыватнасці, нічога не знойдзем мы ні пра ўзаемаадносіны Якуба Коласа і Сомавай, ні пра яе саму ў цікавай кнізе ўспамінаў сына паэта Д. К. Міцкевіча (1914–1996) «Любіць і помніць», хоць пабыўцы Якуба Коласа ў Ташкенце ў ёй адведзена некалькі разгорнутых эсэ («У Ташкенце ў час вайны (1941–1943)», «Пра Ташкент, сяброў-таварышаў і няпростыя стасункі песняроў», «Яшчэ асобныя ташкенцкія ўспаміны») [гл. 6, с. 81–126]. У той жа час імя (*Святлана*), прозвішча (*Сомава*) або проста крыптанімы *С., С. А., С. С.* неаднаразова сустракаюцца ў розных запісах народнага паэта Беларусі. Так, толькі ў яго апублікаваных дзённіках «Кніга Ташкенцкага быцця: дзень у дзень» (1943) [3, с. 223–263] Сомава пад крыптанімам «*С*» упамінаецца ажно 15 разоў, у «Гаворыць Клязьма» (1944) [3, с. 264–290] — 10, «На схіле дзён» (1945–1951) [3, с. 291–319] — 6. У некаторых выпадках ні яе імя,

ні крыптаніма ў дзённікавых запісах не прыводзіцца, але што гаворка ідзе пра яе — не выклікае сумнення. Вось некаторыя з гэтых запісаў.

**«Кніга Ташкенцкага быція: дзень у дзень»**

«*Заходзіў у Дом пісьменніка. Здаў тры тысячы на танкавую калону. Бачыўся з сваёй перакладчыцай. Была рада сустрэцца. Збіраецца ехаць у Маскву на дэкаду ўзбекскай паэзіі*» (23.3.1943);

«*Быў у Саюзе. Нікога не застаў. Пакінуў запіску: «Заходзіў, не застаў, пайшоў, засумаваў». Сустрэў С. Яна спяшалася. Не паспеў запытаць аб перакладзе «Мая зямля» і верш, напісаны для мяне*» (27.3.1943);

«*Вечар прайшоў добра. Назад ішлі той жа дарогай. На плошчы прыпыніліся закурыць. Утраіх дайшлі да 1-майскай. Спадарожніца С. заходзіла ў Дом пісьменніка, а мы з Марусяй пайшлі дамоў*» (9.4.1943);

«*Слухаў радыё. Чытала вершы С.*» (10.4.1943);

«*Быў у Саюзе пісьменнікаў. Напісаны 20.4. С. верш аказаўся надзвычай трапным. Я хваліў яго. Нават некаторыя строфы запомніў і чытаў на памяць*» (22.4.1943).

26 красавіка 1943 г. Якуб Колас выехаў з Ташкента ў Маскву на Усеславянскі мітынг. Вось што ён запісаў у сваім дзённіку пра той дзень: «*Каля 12 гадзін дня паведамілі з ЦК, каб зайшоў туды. Звёў шмат часу. «Дрыгву» і «Палескую глуш» у маю адсутнасць прыносіла С. Потым яна заходзіла развітацца. Сабралася на провады шмат народу <...>. Машыну далі з ЦК. Праводзілі Данік, Ізя і Жэня. Да Першамайскай падвезлі С.*» (запіс за 15.5.1943).

19 мая паэт выехаў з Масквы ў Ташкент. Ехаць давялося доўга, больш за тыдзень, у тым ліку — і з думкамі пра Сомаву: «*У дарозе большую часць дня праводзіў каля акна. Глядзеў на бязмежныя прасторы стэпу. Многа птушак. Пустэля захаплівае сваёй велічаваю маўклівасцю і спакоем. Лічыў арлоў на слупах. Дзевяты арол злучаны з імем С., калі ўбачу яшчэ арла, дык С. не выехала з Ташкента <...>. Прыехаў у Ташкент 27 мая, каля пяці гадзін <...>. Мой дзевяты арол спраўдзіў сваё прароцтва<...>. Сустрэў С. Збіраецца выязджаць з брыгадай у Маскву*». Гэта Якуб Колас запісаў у сваім дзённіку 15 мая 1943 г. А назаўтра, 30 мая, напісаў верш «Арол»— пра «прароцтва» дзявятага арла…

Святлана Сомава з брыгадай пісьменнікаў выязджала на фронт — выступаць перад байцамі і камандзірамі Чырвонай Арміі. Прывядзём асобныя запісы таго часу:

«*Апусцеў, асірацеў Дом пісьменніка — няма С. Няма ад яе і пісем*» (22.6.1943);

«*Сядзеў, многа разоў чытаў «Прощание»* [верш С. Сомавай. — **В. Р.**]. *Сум навеяла на мяне яно. І напісана шчыра, ад сэрца, прыгожа*» (5.7.1943);

«*Напісаў верш «Крынічка». А ці пападзе па адрасу, не ведаю*» (29.7.1943);

«*Учора званілі з Саюза. Сказалі — ёсць пісьмо. Пісьмо было, ды не тое, якога чакаў і якога ўжо не дачакаюся*» (2.8.1943);

«*Быў у Саюзе пісьменнікаў. Адбывалася засяданне прэзідыума, на якое быў заклікан я. Перад Алімджанам ляжала пісьмо С. Заўважыў два словы: «Дарагая мая…». Алімджан паведаміў, што С. сядзіць на тых мясцінах, дзе адбываліся нядаўна баі, што раней верасня яна не прыедзе…*» (18.8.1943);

«*Напісаў санет* [санет-акраверш «Зорка», дзе прачытваюцца словы **Светлана Сомова**. — **В. Р.**], *такі ж журботны, як і мой настрой*» (21.8.1943);

«*Напісаў учора верш «Чымган». Канец верша, можа, крыху песімістычны, але ён адпавядае настрою*» (29.8.1943).

Нарэшце Сомава з фронта, з Курскай дугі, вярнулася ў Ташкент. Вось сведчанні сустрэч двух паэтаў, двух прыяцеляў:

«*Заходзіў у Дом пісьменніка <…>. Заходзіў на пошту з С. Грошай не выдалі: не ўсё сыходзіцца ў пашпарце. С. пераклала верш «Узбекістану». Вечарам чытаў, папраўляў…*» (26.10.1943);

«*Зранку заходзіў да перакладчыцы… Перапісаў верш, паправіў разам з перакладчыцай. Ізноў хадзіў у горад. Заходзіў у рэдакцыю «Правды Востока», аддаў верш адказнаму сакратару. Абяцаў змясціць за 31/X.*» (27.10.1943).

1 лістапада 1943 г. Якуб Колас разам з сям'ёй выязджае з Ташкента. Праз тыдзень прыязджае ў Маскву, адтуль — у падмаскоўную Клязьму да жончыных родзічаў, дзе і спыняецца на доўгі час. Не аднойчы крыптанім «С.» сустракаецца і ў напісаным у 1944 г. дзённіку паэта пад вымоўнай назвай

**«Гаворыць Клязьма»:**

«*Хадзіў на пошту. Паслаў тэлеграму, атрымаў 270 руб., была тэлеграма ад С.*» (11.2.1944);

«*Атрымаў пісьмо з Ташкента ад С. Трэба адказаць…*» (26.2.1944);

«*Паслаў пісьмо і павіншаванне С.*» (27.2.1944);

«*Хадзіў на пошту. Было пісьмо з Ташкента. Скардзіцца, што даўно няма ад мяне пісем*» (7.5.1944);

«*Напісаў адкрытку С. Пісаць было трудна*» (6.7.1944);

«*Забягаў на пошту. Газеты атрымалі. Нарэшце адказала С. — прыслала тэлеграму*» (19.7.1944);

«*Напісаў пісьмо. Напісанае 2/VIII не адаслаў, далучыў да яго яшчэ адно. Паслаў з Клязьмы, заказным*» (4.8.1944);

«*Прынеслі шмат тэлеграм — з Мінска, Ташкента. С. прыслала аж дзве, апроч таго вялікае пісьмо…*» (22.11.1944).

На пачатку снежня 1944 г. разам з сынам Данілам Якуб Колас вяртаецца ў вызвалены ад немцаў, разбураны Мінск. Даваенны дом яго згарэў. Паэту выдзяляюць невялікую часовую кватэру. Хворая жонка Марыя Дзмітрыеўна застаецца на лячэнні ў Маскве. У студзені 1945 г. Якуб Колас вяртаецца ў Маскву, каб быць побач з жонкай, і толькі наездамі бывае ў Мінску. У ноч з 20 на 21 мая 1945 г. у філіяле крамлёўскай бальніцы ў Сакольніках Марыя Дзмітрыеўна памірае. Пахавалі яе 24 мая на Вайсковых могілках у Мінску.

Пэўную гісторыю ўзаемадачыненняў Якуба Коласа і Святланы Сомавай пазнейшага часу можна вычытаць і з дзённіка паэта за 1945–1951 гг.

**«На схіле дзён»:**

«*С. прыслала тэлеграму — прыехала ў Маскву*» (1.11.1945);

«*Дзень майго нараджэння <…>. Ні Сяргей, ні С. не прыслалі тэлеграм — забыліся…*» (3.11.1945);

«*Думаю пра паездку ў Маскву. Як сустрэне С.? Штось маўчыць, відаць, злуецца*» (10.11.1945);

«*Была ў «Метраполі» некалькі разоў С. Дарогі нашы пачалі разыходзіцца. Цяжка было…*» (13.6.1946);

«*Учора паслаў «Избранное» С. у Ташкент…*» (28.1.1947);

«*Учора вярнуўся з Масквы… Усяго было: былі сустрэчы з С. — перапакутавана, перажыта, асела на дно душы. А ўсё ж…*» (2.7.1951).

* * *

Усе названыя дзённікі Якуба Коласа былі ўпершыню апублікаваны яшчэ ў 1964 г. у 12-м томе Збору твораў народнага паэта ў 12 тамах [1, с. 419–512]. Ужо тады я зацікавіўся і жыццём-быццём Якуба Коласа ў Ташкенце, і яго ўзаемаадносінамі з загадкавай «С.». Таму, калі ў 1974 г. я, як член Саюза пісьменнікаў СССР, па прадпісанні міністра абароны краіны павінен быў прайсці вайсковую стажыроўку, прычым дазвалялася выбраць месца стажыроўкі, — я выбраў менавіта Ташкент. Меркаваў, апрача стажыроўкі ў акруговай газеце, папрацаваць у мясцовых архівах і бібліятэках, запісаць успаміны людзей, якія ведалі Якуба Коласа, і, зразумела, калі магчыма — сустрэцца з «С.». На жаль, па незалежных ад мяне прычынах я трапіў не ў Ташкент, а ў Алма-Ату, у Сярэднеазіяцкую (а не Туркестанскую) вайсковую акругу, у аруговую газету «Боевое знамя»…

І ўсё ж, вяртаючыся з Алма-Аты ў Мінск, я зрабіў крук, заехаў у Ташкент, каб хоць глянуць на горад, дзе два ваенныя гады знаходзіўся Якуб Колас са сваёй сям’ёй. Балазе ў той час у Ташкенце яшчэ жыў Сцяпан Ліхадзіеўскі (1911–1979), арыгінальны беларускі паэт і перакладчык, доктар філалагічных навук, прафесар мясцовага ўніверсітэта. Са Сцяпанам Іванавічам мы былі знаёмыя завочна, я рэцэнзаваў адну з яго кніжак. Уласна, ён і прапанаваў мне «па дарозе» заехаць у сталіцу Узбекістана. Ён добра ведаў Ташкент даваеннага і ваеннага часу, дзе пасяліўся, жыў і вучыўся пасля арышту і высылкі ў Казахстан у 1930-х гг. за беларускі «нацыяналізм» і «антысаветызм» (на радзіму яму вярнуцца так і не дазволілі). Тут у час вайны ён і сустрэўся з Якубам Коласам. Пра Ліхадзіеўскага згадвае і Д. К. Міцкевіч: «У Ташкенце ў педінстытуце працаваў беларускі паэт, перакладчык і літаратуразнавец Сцяпан Іванавіч Ліхадзіеўскі. Ён вучыўся ў Белпедтэхнікуме, калі там працаваў Якуб Колас. У Ташкенце ён неаднойчы наведваў Коласа, сустракаўся з намі, разам з Коласам удзельнічаў у літаратурных сустрэчах. Пазней ён прымаў удзел ва ўшанаванні памяці Якуба Коласа ў Ташкенце, напісаў успаміны пра народнага паэта і прысвяціў яму вершы. Колас вельмі любіў і паважаў гэтага слаўнага чалавека» [6, с. 109]. Сцяпан Іванавіч паказваў мне «коласаўскія вуліцы», па якіх мог хадзіць паэт, тыя мясціны, дзе ён мог кватараваць. Ды тыя вуліцы

і тыя мясціны былі ўжо цалкам новыя, сучасныя, падобныя на мінскія. На жаль (для мяне, а не для ташкентцаў), гэта быў ужо не коласаўскі, пераважна аднапавярховы, з глінабітнымі хатамі, а цалкам новы шматпавярховы горад, адбудаваны пасля страшэннага землятрусу сярэдзіны мінулага стагоддзя. У Сцяпана Іванавіча, які ведаў усіх тагачасных мясцовых пісьменнікаў, я распытаў і пра Сомаву. Ад яго я пачуў, што паэтэса яшчэ да землятрусу пераехала ў Маскву. А дзе цяпер жыве і ці жыве ўвогуле — ён не ведае…

Мая цікаўнасць з часам не астыла, а разгарэлася яшчэ больш, калі праз два гады пасля вайсковай стажыроўкі ў новым, ужо 14-томным, Зборы твораў Якуба Коласа, у яго 13-м [2] і 14-м [3] тамах, я, як і іншыя чытачы, упершыню прачытаў 17 лістоў паэта да Сомавай і некаторыя вершы, прысвечаныя ёй. У рэшце рэшт мне пашчасціла даведацца маскоўскі адрас Святланы Сомавай, скантактавацца з ёй, а ў другой палове 1980-х гг. — і сустрэцца ў невялікай яе «хрушчоўцы» на адной ціхай, зялёнай маскоўскай вуліцы. Зразумела, мне карцела найперш пачуць і запісаць успаміны Сомавай пра Якуба Коласа, даведацца пра іх узаемаадносіны — і не толькі творчага, але, як цяпер кажуць, і гендарнага характару. Святлана Аляксандраўна прыгадала некалькі эпізодаў з жыцця Якуба Коласа ў Ташкенце.

…Паэт неяк сустрэў на вуліцы заплаканага хлапчука. Спыніў, распытаў яго. Той аказаўся беларусам, расказаў, як немцы забілі ягоную маму, як яго эвакуіравалі сюды, а цяпер ён застаўся адзін, без прытулку. У паэта па твары пацяклі слёзы. Потым ён накарміў хлопчыка, адвёў у дзіцячы спецпрыёмнік, дапамог уладкавацца ў дзіцячы дом. Гэты выпадак паэт апісаў пасля ў вершы «Невядомы хлопчык» [4, с. 102–103]. Праўда, у вершы нацыянальнасць хлопчыка не называецца. І пра ўладкаванне яго паэтам у дзіцячы прытулак не говорыцца. Аднак у тым эпізодзе была адна цікавая дэталь, пра якую нагадала Святлана Аляксандраўна. Расказваў паэт пра сустрэчу з тым хлопчыкам-сіратой у сябе дома, і адно толькі ў прысутнасці сына Данілы, яго сябра Фелікса Лагуты і Эдзі Агняцвет. Ды пра той аповед адразу стала вядома ў… НКУС. Выклікалі туды Сомаву: «Так про какого мальчугана рассказывал Колас?» — «Я ничего не слышала… А вообще о своих друзьях я не считаю нужным говорить», — заявіла яна. І больш пра Якуба Коласа ў яе ніколі не распытвалі.

Яшчэ адзін эпізод, расказаны мне Святланай Аляксандраўнай. У Ташкенце славутая руская паэтэса Анна Ахматава жыла, як і многія эвакуіраваныя пісьменнікі, у тым ліку і Якуб Колас, бедна, часам не было што ў рот узяць, у што-небудзь больш-менш прыстойнае апрануцца. Дарэчы, пра яе жыццё ў Ташкенце цікава распавяла С. Сомава ў сваіх успамінах «Мне дали имя — Анна» [8] і «Тень на глиняной стене» [9]. У Якуба Коласа ў вогненным Мінску засталіся ўсе зберажэнні, спачатку ён не меў ніадкуль ніякай дапамогі. Але паступова матэрыяльнае становішча пачало наладжвацца — дзякуючы адноўленай (з 1.10.1941 г.) выплаце персанальнай пенсіі, такім-сякім ганарарам. Аднойчы ён прапанаваў Святлане Аляксандраўне: «Я дам грошы, Вы аднясіце Ахматавай, скажыце, што нехта іх ёй прыслаў, але не кажыце хто. Яна вельмі гордая, калі даведаецца, што гэта я, які жыве таксама не асабліва багата, то не прыме такі падарунак». Так і зрабілі. Гэта на нейкі час падтрымала Ахматаву, на Коласавы грошы яна купіла сабе нешта з адзення.

Паказвала мне Святлана Аляксандраўна розныя здымкі. Адзін з іх падрабязна пракаментавала. Вось яе каментарый, напісаны па маёй просьбе:

«На здымку — тры паэтэсы, «тры грацыі рознай нацыі», як пажартаваў Якуб Колас, прымаючы ў падарунак наш калектыўны здымак: Эдзі Агняцвет, Святланы Сомавай і Зульфіі [пазней — народная паэтэса Узбекістана. — **В. Р.**]. Яны схілілі галоўкі адна да адной і пасябравалі навек сваімі вершамі. А здымаліся мы ў Саюзе пісьменнікаў Узбекістана, на вуліцы Першамайскай, 20, 8 сакавіка 1943 года, у пакоі, дзе я правяла 12 год за пісьмовым сталом, заваленым рукапісамі, і дзе па сутнасці быў клуб для пісьменнікаў, эвакуіраваных у час вайны ў Ташкент, і куды прыносіў часта Якуб Колас свае толькі што напісаныя вершы. Картачку гэту я падаравала Якубу Коласу ў тым жа 1943 годзе, ён яе захаваў, як захавала і Эдзі Агняцвет… Хораша глядзець у ясныя вочы, поўныя ласкавасці і паэтычнага роздуму, тугі і даверлівасці. Тады мы толькі пачыналі свой паэтычны шлях, верылі людзям і ў светлую будучыню. А была ж вайна з яе трывогамі і бедамі. Мы пісалі вершы, жылі паэзіяй, рыхтавалі свае першыя кніжкі. Зульфія працавала над кнігай «Вернасць», Эдзі — над вершамі і лібрэта оперы-казкі «Джанат» — пра дружбу ўзбекскіх і беларускіх дзяцей (опера, на музыку Льва

Шварца, у 1944 г. была пастаўлена сіламі ташкенцкага Палаца піянераў), я — над перакладамі і сваёй першай кнігай «Ташкент». Помніцца, я тады напісала верш «Развітанне» — перад ад'ездам на фронт, на Курскую дугу. Гэты верш быў надрукаваны ў сярэднеазіяцкай газеце «Фрунзевец» пасля майго ад'езду. Якуб Колас выразаў яго з газеты і падарыў мне пасля майго вяртання з фронту. Вось і картачка Якуба Коласа, маладога, з добрымі, светлымі вачыма. Тады ён прынёс у Саюз пісьменнікаў свой верш «Узбекістану». Аўтограф гэтага верша на беларускай мове, напісаны ўзорным коласаўскім почыркам і падараваны мне ў 1943 годзе, захаваўся ў мяне да гэтага часу. Я тады пераклала гэты верш, і ён увайшоў у шматлікія выданні вершаў Коласа на рускай мове. Даруючы адно з выданняў, ён надпісаў: «Очаровательной Светлане, дорогому другу моего Ташкентского шестидесятилетнего юношества. 28.09.1951 г.» [7].

Я спытаўся ў Святланы Аляксандраўны, ці пісала яна калі-небудзь — прозаю ці вершам — пра свае ўзаемадачыненні з Якубам Коласам. Яна, грузная ў свае амаль восемдзесят, але па-ахматаўску «царственная», павярнулася ў крэсле, уважліва паглядзела на мяне і пачала сваім грудным пявучым голасам чытаць верш, спачатку папрасіўшы прабачэння, што гэты ніколі не друкаваны верш напісала вельмі даўно, 30 сакавіка 1943 г., у Ташкенце, у свой дзень нараджэння, і 45 гадоў не чытала, таму можа падвесці памяць. Прыводжу верш цалкам — так, як запісаў яго са слоў Святланы Сомавай:

*А завтра снова день,*
*И встречу я его*
*На том тридцатилетнем перевале*
*Дней человеческих.*
*Неужто это все?*
*Как мало прожито, как много пережито!*
*Ведь сердце еще совсем не начинало жить,*
*Ведь все оно готовилось к полету,*
*К расцвету.*
*А расцвет не наступил…*
*Любовь я отдаю бегущим буквам,*
*И верю словам несказанным.*
*И дальше снова так —*

*Еще не раз, не уставая за ночь,*
*Сварю я в поэтическом мартене*
*Сталь скоростную звонкого стиха.*
*Еще с ночными звездами поспорит*
*Якубом Коласом подаренная лампа*
*На книгами заваленном столе.*

«На той дзень нараджэння Якуб Колас падарыў мне настольную лямпу з зялёным абажурам», — пракаментавала апошнія радкі верша Святлана Аляксандраўна…

* * *

Звестка пра тое, што Якуб Колас прыносіў Святлане Сомавай свае вершы для перакладу, прымусіла мяне задаць ёй асцярожнае, з надзеяй, пытанне: можа, выпадкова захаваліся і рукапісы тых вершаў? «Конечно! И не только во время войны я их получала, но и много позже, — сцвярджальна адказала Святлана Аляксандраўна. — Приходите завтра, я поищу». На наступны дзень на стале перада мной ляжалі тры дзясяткі лісткоў паперы, на якіх сінім і фіялетавым чарнілам акуратным коласаўскім почыркам былі запісаны вершы. Пасля назваў твораў пазначаны і даты іх напісання, а таксама — прысвячэнні Сомавай. Узнікненне некаторых з іх яна мне каментавала.

Многія вершы, адрасаваныя Святлане Сомавай, утрымлівалі ў загалоўках яе імя. Першы з такіх вершаў — жартоўная карацелька «Святлане», напісаная 27 снежня 1942 г. на невялікім лістку паперы як самаэпіграма Якуба Коласа на яго няўдалы малюнак чорта (паэт маляваў чорта па просьбе Святланіных дзяцей):

*Відаць, твой лёс ужо такі —*
*Як ні стараюся, дарма:*
*Няважны чорт, няма рукі*
*І выгляду чартоўскага няма.*

Прозвішча, імя Святланы Сомавай (або іх крыптанімы) упаміналіся ў загалоўках і іншых вершаў беларускага паэта, рукапісы якіх захаваліся ў асабістым архіве паэтэсы: «Святлана. 12.IV.1943» («Ці то вечар, ці то рана…»), «С. С-й. 28.VII.1943» («Адступілася радасць мая ад мяне…»), «Святланін кут. 4.

IV.1943» («У Ташкенце ёсць не мала…»), «С. А. С-й. 18.XI.1945» («Усё, што поўніла мне сэрца…»), «Из Светланы Сомовой (Светлане Сомовой)» («Празрыстае неба, зялёны грудок…»), «Яшчэ раз Святлане. 10.III.1946» («Што рабіць мне са Святланай…»), «Мая просьба. Светлане (Последней весне). 31.VII.1943» («Прыйшоў мой час падацца далей…»), «На апошняе развітанне. Святлане Сомавай. 12.IV.55» («Ці помніце мяне, ці не…»), «Зорка (Святлане Сомавай). 21.VIII.1943» («Свеціць мне зорка з бяздонных глыбінь…»), «Святлане. 18.XI.1945. Масква» («Усё, што поўніла мне сэрца…»). Рукапісы многіх іншых вершаў таксама сведчаць, што яны былі першапачаткова прысвечаны, а магчыма, і прызначаліся Святлане Сомавай: «Чымган. С. С-й. 29.VIII.1943» («У мантыі лёгкай з празрыстай сінечы…»), «У Чымгане. С. С. 4.IX. 1943» («Стаіць нерухома Чымган сівагрывы…»), «На восеньскі лад. С-не С-вой. 15.IX.1943» («Травы пажоўклі. Падаюць лісці…»), «Крынічка (С. С.). 29.VII.1943» («Позні час ужо, друг дарагі…»), «Чую голас. С. С. 19.VII.1943» («Студзіць сонца твар гарачы…»), «Хваля. С. С. 5.VII.1943» («Набяжыць-наплыве часам хваля…»), «Салар (Светлане С.). 3.VIII.1943» («Рассыпала сонца…»). Ды і тыя вершы, у назвах і прысвячэннях якіх не ўпамінаецца Сомава, але рукапісы якіх народны паэт падараваў сваёй сяброўцы, несумненна, у значнай, калі не ў выключнай, ступені ўзніклі ў выніку кантактаў з ёй: «На развітанне. 24.I.1943» («Далёкі шлях, прыгод не мала…»), «Песня ў бяссонне самому сабе» («Вецер сцішыўся ў бары…»), «Узбекістану. На развітанне. 23.X.1943» («Прыйшоў мой час. Я пакідаю…»), «Слова (Акростих). 23.VI.1943» («Слова — радасць, слова — чары…»), «І неба хмурна пазірае… 29.III.1943», «Арол. 30 мая 1943 г.» («Шмат думак снуецца ў дарозе…»), «Маёй Вясне. 18.IV.1943» («Я шмат пісаў, складаў ёй оды…»), «Бывае музыка і ў стуку… 42 г.», «На развітанне. 18.IX.1947» («Адзін я, самотны, бы крыж заімшэлы…»), «Мой дом» («Між ніў дарожкаю сляпою…»), «У хвалях няспыннага руху…», «Блісну́ць у бяздонні вячэрнія зоры…» (падаю назвы вершаў і іх даты такімі, якімі яны захаваліся ў Коласавых рукапісах з прыватнага архіву Святланы Сомавай).

Асобныя з гэтых вершаў — сапраўдныя ўзоры інтымнай лірыкі. Беларускі паэт іх пісаў разам з творамі антываеннага, антыфашысцкага характару, але большыня іх ва ўмовах ваеннага часу, дый напружанага пасляваеннага аднаўлення народнай

гаспадаркі, не магла быць надрукаваная. Зразумела, без пэўнага пачуцця, адпаведнага настрою яны і не маглі быць напісаныя. А гэтыя пачуцці, гэты настрой (і далёка не заўсёды вясёлы і радасны) выклікалі ўзаемаадносіны са Святланай Сомавай… Вось строфы з некаторых такіх вершаваных твораў, якія сёння можна прачытаць цалкам ў новым 20-томным Зборы твораў Якуба Коласа (Т. 3. Мінск, 2008):

*Бывае музыка і ў стуку,*
*Хоць, можа, гэта і дзіўно —*
*Благаслаўляю тую руку,*
*Што мне пастукала ў акно.*

*Жывуць яшчэ той усмех, бровы*
*І вочы-зоркі з-пад брывей,*
*І той агеньчык, ветлы, новы,*
*Што заструменіўся з вачэй.*

[«Бывае музыка і ў стуку…»]

*Ой, ведаю, будзе хвілін такіх многа,*
*Нявеtлых, як склеп.*
*Пра светлае ж імя — нікому, нічога,*
*Маўчу, ані шэпт!*

*Я ведаю, кончацца болі, пакуты,*
*Загоіць іх час.*
*І горкую кроплю чароўнай атруты*
*Успомню не раз.*

[«У бяссонную ноч»]

*Далёкі шлях, прыгод нямала,*
*І вабіць душу новы край,*
*А горыч суму ў сэрца пала,*
*І цяжка мне сказаць: «Бывай!» <…>*

*Не толькі рад, шчаслівы буду*
*Ад Вас далёка ў старане,*
*Калі Вы ў шуме сярод люду*
*Хоць зрэдку ўспомніце мяне.*

[«На развітанне»]

*Мне цяжка-цяжка, горка-горка,*
*Калі падумаю, што я*
*Не стрэну больш Вас, мая зорка,*
*Вясна апошняя мая!*

*Што ж мне сказаць на развітанне*
*Прад тым, як рушыць у свой край?*
*Скажу — сагрэй мой час змяркання*
*І аб сабе мне весць падай.*

[«Мая просьба»]

Поўнасцю гэтыя, як і іншыя вершы Якуба Коласа, прысвечаныя Святлане Сомавай, цяпер можна прачытаць у 3-м і 4-м тамах найбольш поўнага, 20-томнага Збору твораў народнага паэта Беларусі [4; 5].

* * *

У часе той сустрэчы са Святланай Аляксандраўнай я спытаўся і пра арыгіналы лістоў Якуба Коласа да яе, першапублікацыю якіх я бачыў у Зборы твораў народнага паэта ў 14 тамах. Яна паказала мне іх. Пры гэтым сказала, што недзе ў самым канцы 1950-х гг. яе расшукаў у Маскве сын Якуба Коласа, тагачасны дырэктар Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа Даніла Канстанцінавіч Міцкевіч, якога яна ведала яшчэ з Ташкента. Святлана Аляксандраўна (па яе словах) дазволіла яму перафатаграфаваць у яе на кватэры, не выносячы з хаты, усю захаваную коласаўскую рукапісную спадчыну — і вершы, і лісты. Як я зразумеў, у выніку гэтага асобныя вершы з гэтай спадчыны (без указання на месца іх захавання) і з'явіліся, у прыватнасці, у «Полымі» (1960, № 5; 1962, № 6), «ЛіМе» (1962, 9 кастрычніка), пазней — у 2-м томе Збору твораў Якуба Коласа у 14 тамах, асобныя лісты — у 13-м і 14-м томе гэтага ж Збору твораў. Я спытаў Святлану Аляксандраўну, чаму яна коласаўскія рукапісы не перадала праз Д. К. Міцкевіча ці пазней праз каго-небудзь іншага ў Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа. Выказаў і сваё жаданне выканаць гэтую ганаровую місію. «Они мне весьма дороги. Пока я живу, пусть они будут вместе со мной, грея мою душу. Иногда я достаю их,

перечитываю некоторые стихи, письма…». Не дазволіла яна і мне вынесці рукапісы з кватэры, каб у бліжэйшай фотастудыі перафатаграфаваць іх. Свайго фотаапарата тады ў мяне не было. Таму дамовіліся, што падчас наступнага майго прыезду ў Маскву я прывязу адпаведныя тамы Збору твораў Якуба Коласа, каб з чыста тэксталагічнай цікаўнасці супаставіць рукапісы тэкстаў з іх публікацыямі, паглядзець на паўнату і дакладнасць гэтых публікацый.

Так яно і здарылася праз некаторы час.

Перада мной зноў ляжалі рукапісы песняра. Святлана Аляксандраўна ўзяла ў рукі тамы Збору твораў Якуба Коласа. Потым перадала мне, папрасіла зачытаць літаральна ўсё, што было звязана з ёй (вершы, лісты, дзённікі), перакласці асобныя беларускія словы. Я зачытваў і перакладаў. На яе твары спачатку была цікаўнасць, потым адбілася незадаволенасць. «Интересно, кто взял на себя смелость выступить в качестве цензора? Я же позволила печатать все письма Якуба Коласа ко мне. А здесь они опубликованы избирательно, причем в публикациях — масса не отмеченных пропусков. Даже все обращения Константина Михайловича ко мне сняты… Как и посвящения на стихотворениях». Незадаволенасць перайшла ў раздражненне, нават гнеў.

Сапраўды, падрыхтоўка да друку вершаў і — асабліва — лістоў была ажыццёўлена ў тым Зборы твораў не па строгіх правілах тэксталагічнай навукі. З вершаў зняты прысвячэнні, часам зменены іх назвы, зафіксаваныя ў коласаўскіх рукапісах. З усіх лістоў паэта да Сомавай, якія яна захавала і дазволіла Д. К. Міцкевічу перафатаграфаваць, надрукавана ўсяго крыху больш за палову, ды і ў іх зроблены тыя ці іншыя купюры, прычым без пазначэння месца гэтых купюр прынятым у тэксталогіі знакам <…> або нават звычайным шматкроп'ем. Якуб Колас у пісьмах да Святланы Аляксандраўны, у тым ліку ў зваротах, выказваў свае надзвычай прыязныя адносіны да яе: «*Милая, дорогая Светланочка, мой далекий прекрасный друг!*», «*Милая, дорогая Светланочка!*», «*Мой дорогой друг, радость и печаль моя!*», «*Мой чудесный, неповторимый друг!*», «*Далёкая, но дорогая и милая Светлана!*», «*Милая, дорогая Светланочка, Краса Узбекистана!*», «*Дорогая Светланушка!*», «*Милая, дорогая Свет-Ланочка!*», «*Светлая-Лана, далёкий мой и неповторымый друг Светлана!*» і г. д. Усе такія звароты зняты, быццам гэта

не прыватныя лісты, а нейкія дзелавыя, чыста інфармацыйныя дакументы. З саміх лістоў выдалены іх асобныя, дакладней — асобасныя фрагменты (зноў жа без пазначэння месца купюр, а толькі заменай іх шматкроп'ем, якое можа быць і аўтарскім знакам прыпынку). Як, напрыклад, такія: «*…в Узбекистане я обрел моего лучшего, прекрасного друга, пленившего все мои мысли и лучшие чувства, и он всегда неразлучно со мной*» (з ліста ад 29.11.1944); «*Я вспоминаю пышные цветы на столе и того, кто гораздо лучше и краше тех цветов. Пусть радостно и весело живется ему на земле. И как радостна была бы встреча с ним в моей родной Белоруссии*» (з ліста ад 6.12.1944); «*Милый мой далекий друг! Откликнитесь, дайте о себе весточку. Ведь я так часто думаю о Вас, хожу вместе с Вами по Пушкинской, Первомайской улицах, по Ульяновской и часто заглядываю под крышу Вашего домика в саду, где на столе горит лампа с выщербленным белым абажуром*» (з ліста ад 24.12.1944); «*Уйти от того, что пережито и перечувствовано, нельзя. Вот почему мне дорого все, что напоминает о Вас: и дымка тумана, опоясывающая неясные очертания далеких гор вокруг Ташкента, и самый Ташкент с его стройными тополями, и арыки, как-то значительно и неумолчно булькающие летом — днем и ночью — вдоль улиц, и сами улицы, и Мельничный переулок, куда я очень часто заглядывал с большим волнением, а иногда просто как вор, и тот колодец, куда я сопровождал своего кумира и помогал ему нести воду, и горленки, воркующие, словно добродушные старушки, и своеобразный стук в закрытые ворота…*» (з ліста ад 21.6.1947) і інш. І гнеў Святланы Аляксандраўны цалкам можна было зразумець. Тым больш, што тэксты (як, зрэшты, і сама асоба) класіка нацыянальнай літаратуры — не прыватная нечая ўласнасць, і рэдагаваць або цэнзураваць іх не мае права ніхто. Каб супакоіць адрасата, я паабяцаў надрукаваць усе захаваныя лісты і вершы ў тым выглядзе, у якім яны ўвасоблены ў коласаўскіх рукапісах. Што, зрэшты, і раблю ў гэтым выданні. З адным толькі выключэннем: вершы публікаваць не стану, бо яны знайшлі сваё месца ў трэцім і чацвёртым тамах новага Збору твораў Якуба Коласа ў 20 т. Поўная ж публікацыя лістоў паэта да Святланы Сомавай будзе, спадзяюся, своеасаблівым адкрыццём для чытачоў, паколькі заключныя тамы гэтага выдання, куды павінны ўвайсці Коласавы лісты, яшчэ не ўбачылі свет.

* * *

Як вызначыць сутнасць узаемаадносін Якуба Коласа і Святланы Сомавай, што пачаліся ў жніўні 1941 г. (у Ташкент Якуб Колас з сям'ёй прыехаў 14 жніўня 1941 г.) і закончыліся толькі са смерцю песняра? Якім словам іх назваць? Несумненна, гэтыя ўзаемаадносіны ў вялікай ступені прадвызначаліся неабходнасцю вырашэння чыста ўтылітарных патрэб. Святлана Сомава, працуючы ў Саюзе пісьменнікаў Узбекістана, дапамагала многім пісьменнікам-бежанцам вырашыць бытавыя праблемы (пасяленне, харчаванне, працаўладкаванне). Як мы ведаем, дапамагала яна ў гэтым і Якубу Коласу, што не магло не выклікаць пачуцця ўдзячнасці да яе. Але ж яна была, апрача гэтага, і арыгінальнай паэтэсай, часта друкавалася, выступала на розных літаратурных вечарах. Скажам, на першым жа літаратурным вечары ў Ташкенце, у якім прыняў удзел Якуб Колас (2 снежня 1941 г.), выступіла — разам з Аннай Ахматавай, Уладзімірам Лугаўскім, Гафурам Гулямам, Хамідам Алімжанам, Зульфіёй — і Святлана Сомава. Пачуццё павагі і любові да Якуба Коласа не раз вылівалася ў шчымлівыя радкі, прысвечаныя беларускаму паэту, якія яна чытала непасрэдна яму або дасылала ў сваіх лістах, некаторыя з якіх захоўваюцца ў архіве Дзяржаўнага літаратурна-мематыяльнага музея Якуба Коласа. І беларускаму паэту гэта таксама не магло не імпанаваць.

У пачатку 1944 г. Святлана Сомава задумала напісаць цэлую паэму, галоўным героем якой быў бы Якуб Колас: «*Милый, родной мой Константин Михайлович, если бы Вы знали, как мне не хватает Вас, Вашей доброты и внимательности, как я скучаю без Вашей улыбки и Ваших стихов, — Вы писали бы мне чаще… Задумала поэму «Друзья» — писать в ней нужно много, а вот рассказать бы интересно, тем более, что Вы являетесь ее героем. Буду посылать Вам отрывками. Недели через две — ждите*» (з ліста ад 20.2.1944)

А вось некалькі строф паэтычнага паслання «доброму другу» ў толькі што вызваленую Беларусь з далёкага Ташкента (верш «Когда зацветали вишни»):

*Добрый друг мой! Двенадцать часов.*
*Может быть, Вы за книгой сидите.*

*Может, белый полет лепестков*
*У распахнутой двери следите.*

*В предвесенней встречаете мгле*
*Белорусскую ночь, не такую.*
*...О невиданной мною земле,*
*Вспомнив Вас, я сегодня тоскую.*

*Вешний ветер пускай понесет*
*Эту песню по дальней дороге,*
*Пусть внезапно она опадет*
*Лепестками на Вашем пороге.*

*Сколько ночью цвело их кругом,*
*На рассвете осыпалось сколько...*
*Это белым своим рукавом*
*Прошумела весна издалека* (з ліста 1944 г.).

У іншым лісце паэтэса згадвае свой верш «Полночь», прысвечаны Якубу Коласу: «*Сейчас я заново переписала свою посвященную Вам «Полночь». Хочу, чтобы эти стихи вошли в мой сборник. Сегодня я пришлю Вам (или еще лучше — привезу!) эту книжку с теплой надписью*» (з ліста ад 27.7.1944).

Альбо яшчэ адзін верш — і таксама прасякнуты токамі сардэчнасці, — дасланы ў лісце ад 4 снежня 1946 г. з наступнымі словамі: «*Сейчас я вспомнила строки одного, посвященного Вам, стихотворения. Кажется, оно даже неизвестно Вам. А если известно, прочтите еще раз и напишите свое мнение. Мне вдруг захотелось снова записать его.*

***Одному человеку***

*Опять подходит ночь. И неудобно с ней,*
*Внимательной, вдвоем внезапно оказаться.*
*Ее не обмануть, как множество людей,*
*Скороговорке слов привыкших улыбаться.*
*Что нужно мне сейчас? Десяток папирос?*
*Неразрешимую житейскую задачу?*
*Охапку хризантем в тяжелых каплях рос*
*Да счастья грустного немножечко в придачу?*
*Мне знать бы (только знать!), что возле дальних рек*
*Всю ночь не спит доверчивый, как дети,*

*Немолодой уже, усталый человек.*
*Не спит… И я одна нужна ему на свете.*
*Мне только это знать… Но жизни ход таков,*
*Что бесприютен день и ночь неколебима.*
*А счастье грустное — в мгновениях стихов,*
*Стихов, плывущих вслед за синей струйкой дыма».*

Заўважым, што ніводнага верша Святланы Сомавай мы не знойдзем у паэтычных зборніках-прысвячэннях народнаму паэту Беларусі. Больш таго, гэтыя прысвячэнні нават не зафіксаваны ў яго персанальных бібліяграфіях.

* * *

Святлана Сомава выявіла сябе і як таленавітая перакладчыца, найперш — узбекскай паэзіі на рускую мову. Адзін толькі факт у доказ гэтаму: калі ў 1945 г. узнікла патрэба выдаць у Маскве вялікую анталогію ўзбекскай паэзіі, то менавіта ёй даручылі і перакласці многіх узбекскіх паэтаў, і адрэдагаваць мастацкія пераствaрэнні іншых перакладчыкаў. Якубу Коласу, адарванаму ад беларускамоўнага асяроддзя, таксама быў патрэбны паэт-перакладчык, які б наладзіў сувязь з чытачамі, тагачасныя ягоныя думкі і пачуцці данёс да насельнікаў і Узбекістана, і ўсяго Савецкага Саюза. Публіцыстычныя творы народны паэт мог адразу пісаць (і часта пісаў) на рускай мове, паэзія ж — рэч іншая: найбольш арганічна яна выяўляецца толькі ў родным слове. І Святлана Сомава (канешне, не толькі яна) на нейкі час стала для беларускага паэта сувязной паміж ім і чытачамі — пераклала шэраг вершаў на рускую мову. Так, у калектыўны зборнік «Залп» (Ташкент, 1942) у перакладзе Сомавай увайшлі вершы Якуба Коласа «Москве», «Расставанье», «Над могилой партизана», у часопісе «Славяне» (1942, № 2) быў надрукаваны ў яе перакладзе верш «Засада», у газеце «Правда» (1945, № 239) — «Лесам Белоруссии» і інш. Пра пераклады твораў беларускага паэта сведчаць, у прыватнасці, і радкі з асобных лістоў паэтэсы-перакладчыцы да Якуба Коласа:

«*Что-то Вы пишете сейчас? Пришлите мне свои стихи, а я переведу и напечатаю здесь во «Фрунзевце» (по старой памяти). Мне очень бы хотелось хоть изредка получать от Вас*

*весточку и стихи и отвечать тем же... Я перевела Ваши стихи о Свислочи. Следующий раз пошлю Вам на память»* (люты 1942);

«*Вчера мы с Эди читали «Сымона-музыку». Я уже перевела при ее помощи несколько отрывков. Какая чудесная, благоуханная поэма! Это — не только музыка слова, это музыка светлой человеческой души, музыка природы, тоненького, нежно-зеленого стебелька под солнечным лучом. Я горда тем, что Вы доверяете мне перевод поэмы. Принимаюсь за нее с трепетом. Никому не под силу сделать перевод эквивалентным поэме. Боюсь за себя. Боюсь за Поэму. Одно только — может быть, любовь к Вам, удивление перед Вашим светлым талантом помогут как-то решить эту неразрешимую задачу*» (27.7.1944);

«*Хочу выехать в начале сентября и привезти Вам в Москву забавный подарок — свои переводы всех Ваших оставленных у меня лирических стихов. Это — целый сборничек, необычайной чистоты и тонкости. Отпечатаем его тиражом 2 экземпляра — Вам и мне. Перевод — это второе рождение стиха. Второе рождение этих стихов было очень радостным для меня...*» (1.8.1944);

«*Я всерьез увлеклась переводом Ваших стихов. Вот еще одно, грустное. Грустные у меня всегда получаются лучше.*

*Травы пожухли. Листы облетают.*
*Ветер пригнулся до самой земли.*
*Шепчет цветам: холода наступают!*
*Шепчет он лесу: засни, задремли!*

*Ветер, ты — друг мой! Я слышу намеки:*
*Хочешь и ты мне на ухо сказать —*
*Близок твой вечер, путь недалекий,*
*Узел последний пора завязать.*

*Ветер, ты — брат мой! Слушать мне горько*
*Шум твоих крыльев и твой разговор.*
*Хочется верить — выплывет зорька,*
*Выйдет из тени на самый простор.*

*Может, я хворый, измучен дорогой,*
*Тяжким раздумьем своим отягчен...*
*Справлюсь я, друг мой, с житейской тревогой,*
*Вынесут волны мой парус, мой челн.*

*Тихой дремотой объятые горы!*
*Тонущий в мраке ореховый чай!*
*Сердце не слушает ветра укоры,*
*Сердце не хочет сказать вам — прощай.*

*Понимаете ли Вы сами, какие это прекрасные стихи? Как сквозь глубокую, несравненную по своей чистоте грусть прорывается страстная жажда жизни?*

*Вы — исполинский поэт. И именно в лирике, в таких вот стихах. Бросьте всякие казенные дела и пишите стихи. Милый мой! Я как-то очень взволновалась сейчас, когда окончила перевод этого стихотворения (и перевела его без Эди — видите, как уже знаю по-белорусски!). Так вот, я хочу, чтоб Ваша жажда жизни не изменила Вам, чтоб она вытащила Вас из унынья и вернула Вам бодрость*» (7.8.1944);

«*Сейчас окончила перевод «Салара». Посмотрите, какая прелесть получилась! Вы его написали 3/VIII–43 г. И вот, год спустя, стихотворение родилось заново, чтобы украсить собой русский язык.*

*Не сердитесь за некоторые, очень маленькие, отклонения. Вы повторяете слово «Салар», рифмуя его со словами, которых нет в русском языке — гушчар, мар, абшар. Пришлось вводить новые. Но они так органически звучат в общем образном и эмоциональном строе стиха, так он задушевен и тонок, что, ей-богу, Вам не надо на меня обижаться.*

*Спасибо Вам, дорогой мой, за эти стихи, за то, что они лежат на моем столе, украшают мои ночи и помогают мне самой становиться поэтом*» (15.8.1944);

«*И опять ночь. И опять Светлана пишет Вам неровные строчки возле светлой свидетельницы своих ночей — Вашей лампы. Перевожу Ваши стихи. Сегодня отделала дочиста мои самые любимые — бессонную ночь, криничку, Весну, отступилась радость и… окошко. Пожалуй, пошлю Вам его обратно. Уж очень оно мне дорого… И не только потому, что очень помню, как стукнула в окно и как приветливо Вы взглянули, а и потому, что это — близкие мне интонационно и вообще прекрасные стихи.*

*Вот они! Конечно, получилось хуже, чем у Вас, и чуть по-моему. Здесь уж ничего не поделаешь.*

*Бывает, сердце радо стуку,*
*Лишь им, как музыкой, полно.*
*И я благословляю руку,*
*Что постучала мне в окно.*

*Еще живут — усмешка, брови*
*И звезды глаз из-под бровей,*
*И огонек приветный, новый,*
*Что заструился из очей…*

*Как сладко вспоминать об этом,*
*Как больно вслух произнести —*
*Иль мало песен непропетых?*
*Иль мало огоньков в пути?*

*Волна волну встречает в море*
*И прочь плывет за рубежи,*
*Но грустно ей в седом просторе.*
*А что ей грустно? Расскажи!*

*И я мелькну волной печальной,*
*Огни и песни притаю,*
*Окликну только песней дальней*
*Ее, красу-весну мою…*

*А знаете, оказывается, Вы много научили меня своему языку. Я работаю над Вашими стихами и поэмой уже почти без помощи Эдди*» (4.12.1946).

У прыватным архіве нашчадкаў Якуба Коласа знаходзіцца машынапісны зборнік «Последняя весна» (першапачатковыя назвы: «Ташкентская тетрадь», «Светлана»), які складаецца з 16 твораў паэта ў перакладзе на рускую мову Святланы Сомавай [гл.: 3, с. 414, 505–506]. Гэта найперш вершы, напісаныя дзякуючы ўзаемаадносінам з самой перакладчыцай («Светлана», «Светланин уголок», «Позабыла ты, радость моя, обо мне…», «В бессонную ночь», «Стук», «Криничка», «Моей весне», «Последняя весна» і інш.), а таксама верш «Памяці герояў» і ўрывак з паэмы «Рыбакова хата». Некаторыя з названых (і неназваных) перакладаў друкаваліся ў розных выданнях. Арыгіналы гэтых твораў паэт у свой час дарыў Святлане Аляксандраўне. Дзякуючы гэтаму, зрэшты, многія з іх і захаваліся да сённяшняга

дня. Так, у лісце да Якуба Коласа ад 16 лютага 1952 г. Святлана Сомава пісала: «*Знаете, до того я растосковалась, что начала рыться в своих архивах, вытащила все Ваши старые письма, стихи — и стала перечитывать. Помнится, Вы просили найти эти стихи, говорили, что у Вас они не сохранились. И, знаете, их много — 30 стихотворений. Это целая книга, нежная и грустная, но светлая — совершенно прозрачная по своему рисунку, как солнечный день осенью...*».

* * *

Ужо адно гэта — роднаснасць духоўная, блізкасць паэтычных талентаў, літаратурных інтарэсаў, творчая зацікаўленасць аднаго ў другім — не можа не прадвызначыць глыбіню і працягласць кантактаў дзвюх асоб. А калі яшчэ гэта асобы рознага полу? І калі яны знешне падабаюцца адно другому? Тут не перашкода і значная розніца ва ўзросце (пра што сведчаць і шматлікія прыклады з асяроддзя сучаснай творчай эліты), і сямейныя абавязкі…

Несумненна, Якубу Коласу падабалася Святлана Сомава і як жанчына, а не толькі як роднасны паэтычным талентам, блізкі духоўна і душэўна чалавек, пра што мы знойдзем доказ у многіх лістах Яго да Яе. Маладая кабета (маладзейшая за паэта ажно на 30 гадоў), маці двух хлопчыкаў-«янтарыкаў» (так называў Якуб Колас яе загарэлых на паўднёвым сонцы дзетак), сярэдняга росту шатэнка з нейкімі незвычайнымі васільковымі вачыма (Эдзі Агняцвет запомніла яе такой), яна была надзвычай вабная той красой жанчыны-маці, якую ў сваіх вершах услаўляў яшчэ Максім Багдановіч. Пачуццё, якое ўзнікла ў нашага паэта, відаць, найдакладней можна акрэсліць словам «захапленне» (па-руску — увлечение) або словам «любоў» у яго беларускім значэнні (у адрозненне ад «кахання»).

Менавіта ў такім — беларускім — значэнні, толькі ў рускім напісанні і вымаўленні, і выкарыстоўваў Якуб Колас слова «любоў» у сваіх вусных і пісьмовых, вершаваных і празаічных зваротах да Святланы Сомавай. Вось два характэрныя выказванні з лістоў да яе: «*Просмотрел сегодня — хочется все написанное перечеркнуть и написать только одно или два, самое большее — три или четыре слова: «Как Вы дороги мне!»*. «*Как я люблю*

*Вас!»* (з ліста ад 30.11.1944); «*Милый мой, дорогой друг, желаю Вам успехов, мирного и радостного благополучия. Не забывайте того, кто больше всех на свете любил Вас и желает Вам счастья*» (з ліста ад 14.10.1948). Пра такое пачуццё беларускага паэта да Сомавай ведалі і многія з іх акружэння, пра што са зразумелай жаночай радасцю і гордасцю паведамляла Святлана свайму сябру: «*А сегодня вечером я была у Эди. Она позвонила, что от Вас телеграмма. Мы сидели с ее разговорчивой мамой, которая все говорила о Вас и о том, как Вы меня любили. И неловко, и радостно мне было слушать эту недалекую добрую женщину. А все-таки, хоть и неловко, приду и послушаю еще. Очень хорошо, когда любят…*» (з ліста ад 11.7.1944). Менавіта гэтае пачуццё любові выклікала цэлы шэраг цёплых, прачулых лірычных вершаў Якуба Коласа цяжкога ваеннага і клопатнага пасляваеннага часу, што ў *тых* умовах без *гэтага* пачуцця было б немагчымым. І Святлане Сомавай як жанчыне мы, чытачы, у вялікай ступені абавязаны значнаму пашырэнню жанравага дыяпазону творчасці паэта, які доўгі час быў вядомы ў паэзіі пераважна як майстар грамадзянскай ды пейзажнай лірыкі.

Зрэшты, пачуццё ў адносінах да Якуба Коласа ў такім, беларускім, яго значэнні насіла ў сваім сэрцы і Святлана Сомава. Пра гэта сведчыць і адзін яе чатырохрадковік, выкліканы, відаць, нараканнем Якуба Коласа: маўляў, Вы, Святлана, мяне, старога пня, не любіце…

*Зачем же сравнивать со старым пнем себя?*
*Вы старый, но не пень.*
*Вот если б не другого <u>тень</u>…*
*Но как же полюбить уже любя?*

У кожнага з іх у жыцці было сваё каханне: у Якуба Коласа — да жонкі, маці яго дзяцей Марыі Дзмітрыеўны, у Святланы Сомавай — да мужа, бацькі яе дзяцей Ігара Андрэевіча Герардзі (1911–1983), выдатнага, вядомага на ўсю Сярэднюю Азію інжынера-ірыгатара, «цень» кахання да якога («Но как же полюбить уже любя?») клалася і на адносіны двух паэтаў. А што Святлана Аляксандраўна кахала свайго мужа (ва ўсякім разе, да пэўнага часу), гавораць факты, засведчаныя і ў яе лістах да Якуба Коласа, якога яна называла хараша і шчыра: «*Самый дорогой друг*», «*Милый мой Константин Михайлович*», «*Родной*

*мой Константин Михайлович*», «*Ненаглядный мой Константин Михайлович*», «*Хороший и все более любимый Константин Михайлович*», «*Солнышко моё белорусское, ласковое и нежаркое, и никогда не потухающее*»… У адным з лістоў (ад 5.4.1944) яна наракала, што яе «*муж, как всегда, очень равнодушен к семье*», у другім лісце праз месяц з адчаем пісала: «*3-го мая я отправила своего мужа на полевые работы в Бухару, а вчера узнала, что он живет (какое страшное слово!) с одной женщиной, инженером*» (з ліста ад 6.5.1944). І ўсё ж нават такую правіну яна даравала мужу (толькі каханаму можна такое дараваць!): калі ён праз нейкі час «*приехал с температурой выше 40 и каким-то новым, страшным типом малярии*», яна ўсё ж не пагрэбавала «*укладывать его в больницу, выхаживать, дежурить там и два раза в день носить туда ему пищу*» (з ліста ад 9.10.1944).

Пра любоў (а не каханне!) Святланы Сомавай да беларускага паэта сведчаць яе многія адкрытыя прызнанні, якія маглі б у пару рамантызму сысці за ўзоры любоўных пасланняў. Вось што яна пісала Якубу Коласу ў Маскву 4 верасня 1944 г.: «*Вышло так, что я отдельно от Вас, много пережив и перечувствовав за этот год, много подумав над Вашими стихами, надышавшись ими — гораздо глубже оценила и полюбила Вас. Большое всегда лучше видно на расстоянии. Я не знаю, занимаю ли в Вашей душе такое большое место, как Вы в моей. Думаю, что нет. Но если все же я со своей неровной горячностью хоть немного оживила Вашу жизнь и Вы меня чуточку любите — не уезжайте из Москвы до моего приезда. Давайте встретимся еще раз на круглом земном шарике и улыбнемся друг другу. Для того, чтобы жить стихом, надо хоть изредка радоваться*». Віншуючы свайго старэйшага любімага сябра з днём нараджэння, Святлана Сомава ў лісце ад 23.10.1944 г. паведамляла: «*День Вашего рождения — праздник не только в Белоруссии и в Вашей семье, это — праздник в далеком Ташкенте, у меня. В этот день я куплю для Вас чудесные хризантемы у Полякова (помните, какие приносила Вам, пунцовые с седым отливом?), поставлю на своем столе и буду радоваться Вам издалека… Душою я с Вами, около Вас, улыбаюсь Вам и греюсь Вашей доброй ответной улыбкой. Милый мой! Как давно уже я Вас не видела, как соскучилась!..*». А як хацелася Святлане сустрэцца з Якубам Коласам у Маскве ў час паездкі яе ў сталіцу краіны! «*Конечно, в стихе человек*

*всегда любит больше, чем в жизни. Конечно, Вы уже забыли ту самую Светлану, которая полтора года спустя переживает Ваши стихи и старается не плакать над ними. Все это так, но, пожалуйста, вспомните, что Вы меня немножко любили, и не уезжайте из Москвы, не дождавшись меня. Я хочу еще Вас видеть! Ей-богу, жизнь отпускает человеку очень мало радости и надо ее, радость, уважать. Вы стали моей радостью, я хочу видеть Вас, хочу слушать Ваши стихи и читать их Вам, и свои стихи тоже хочу читать Вам*» (з ліста ад 4.12.1946). Бо, як не раз у сваіх лістах шчыра прызнавалася Святлана Сомава, «*без Вас для меня и Москва — не Москва*» (з ліста ад 23.10.1944).

Характар інтымных узаемаадносін Якуба Коласа і Святланы Сомавай — з абодвух бакоў — найдакладней, як мне здаецца, можна вызначыць вершам Ніны Мацяш «Люблю»:

*На Ваша «ты» сказаць Вам «ты» не смею,*
*І калі позірк позіркам злаўлю,*
*Як птушанё, спалохана нямею.*
*Я не кахаю Вас. Я Вас люблю.*

*Святла, што падарылі, не растрачу.*
*І шчырых слоў ніколі не згублю.*
*...Нашто журба у цёплых зрэнках Вашых?..*
*Я не кахаю Вас. Я Вас люблю.*

На жаль, у рускай мове існуе паняційная лакуна: паняцце «любоў» не падзелена, як у беларускай мове, на спецыфічнае псіхафізіялагічнае пачуццё да асобы супрацьлеглага полу (каханне) і яскравыя эмацыйныя адносіны да ўсяго астатняга (любоў — да прыроды, сябра, радзімы і г. д.). Па сутнасці, на рускую мову нельга адэкватна перакласці і гэты верш Ніны Мацяш. Але «Я не кахаю Вас. Я Вас люблю» маглі б сказаць і Святлана Сомава Якубу Коласу, і Якуб Колас — Святлане Сомавай.

* * *

Можа ўзнікнуць пытанне: ці ведала пра кантакты са Святланай Аляксандраўнай Сомавай жонка Якуба Коласа Марыя Дзмітрыеўна, і, калі ведала, як да гэтых кантактаў ставілася? Ведала. Гэтаму знаходзім пацвярджэнне, у прыватнасці, у

дзённіках паэта: «*Беглі з Марусяй наперагонкі к тэлефону: званіла С.*» (1.4.1943); «*Маруся купіла на рынку тытуню. Яна спаткалася з С.*» (24.4.1943); «*Прыехала Маруся. Прывезла газету і пісьмы — ад Ігнася і С. С., відаць, у гэтым годзе не прыедзе*» (24.10.1944). Дый сама Святлана Аляксандраўна ў сваіх лістах да Якуба Коласа звычайна перадавала прывітанні Марыі Дзмітрыеўне, хвалявалася за яе здароўе: «*Марию Дмитриевну нужно всеми силами поправлять. Я думаю, что самое хорошее было бы устроить ее в какой-нибудь санаторий, туда, где не будет хлопот. Дома она не усидит. И перед тем, как переезжать на отдельную квартиру, что тоже требует немало сил, устройте ей месяц-полтора хорошего санаторного отдыха. Передайте М. Д. от меня большой привет, будьте здоровы и подольше не забывайте свою Светлану*» (з ліста ад 5.4.1944); «*Крепко Вас целую. Передайте мой привет Марии Дмитриевне и сынам. Светлана*» (з ліста ад 9.10.1944); «*Я очень тревожусь за Вас и Марию Дмитриевну. Говорят, что эта операция мучительна и опасна. Дай Бог ей справиться со всеми напастями и чувствовать себя хорошо! Все это время душою я с Вами. Думаю о том, как Вы безумно волнуетесь, как бесприютно Вам без тихой и ласковой заботы М. Д., как страшно подходить к больнице. Мужайтесь, дорогой мой друг!.. Берегите Марию Дмитриевну. В ней — Ваша жизненная опора. О, как тяжело человеку одному на свете!..*» (з ліста ад 12.1.1945).

Часамі (і гэта можна зразумець) мужава захапленне Сомавай выклікала ў Марыі Дзмітрыеўны і пэўную рэўнасць, пра што сведчыць тая ж «Кніга Ташкенцкага быцця: дзень у дзень»: «*Маруся захварэла. Ніколі такой цяжкай хваробы ў яе не было. Прычына… ну што казаць? Можа, нават і я прычына*» (запіс ад 10.6.1943). Але тут жа Канстанцін Міхайлавіч адкрыта і шчыра (бо запіс не для іншых) прызнаецца: «*Мая бедная Маруся! Як блізка да сэрца яна ўсё прымае. Не ведае, што* ***больш дарагога чалавека за яе ў мяне нікога на свеце няма***» [падкрэслена мною. — **В. Р**.]. І гэта былі не проста словы. Так, у адным з лістоў да той жа Святланы Сомавай, калі ўжо не стала Марыі Дзмітрыеўны (памерла яна 21 мая 1945 г.), паэт пісаў: «*Сегодня было бы ровно тридцать два года совместной жизни с моей незабываемой Марусей, если бы она была жива. Но не судила*

*ей доля дожить до этого дня. Время идет, а моя острая боль тяжелой утраты сжигает меня, и когда я говорю о своем потерянном друге, мне трудно удержать слезы. Моя жизнь как-то поблекла и потеряла для меня свой интерес. Хожу я и езжу по улицам сожженного и разрушенного Минска, а вокруг полное одиночество*» (з ліста ад 16.6.1945). А літаральна праз некалькі дзён, скардзячыся на кепскае самапачуванне, паведамляў свайму адрасату: «*Мне иногда кажется, что я хожу на каких-то соломенных ногах, а в черепной коробке налито олово. И не с кем мне поговорить, немножко пожаловаться и получить заботливую поддержку. Но когда я говорю об этом, то мне трудно удерживать слезы. Два раза за эти дни был на могиле М[арии] Д[митриевны]. Ее могила аккуратно обложена дерном. В ближайшие дни будет сделана железная ограда, а в недалеком будущем я поставлю скромный памятник своему искреннейшему, чуткому другу, который, на мою огромную скорбь, отстал в пути и покинул меня в одиночестве*» (з ліста ад 20.6.1945). Яшчэ ў 1943 г. у вершы «М. Д. М.» Якуб Колас прызнаваўся: «*…ты ў душы маёй адна*», а ў тыя дні, калі пісаў лісты Сомавай, у вершы «На ростанях» (17.6.1945) прызнаваўся: «*Мне не стае душы паловы*», скардзіўся на лёс: «*…я не ўбачу больш ніколі / Цябе, мой лепшы ў свеце друг!*» [4, с. 161, 162]. Такім чынам, паэт выразна ў сваіх інтымных пачуццях аддаваў перавагу сваёй першай і адзінай каханай жанчыне — жонцы. Са свайго боку, Марыя Дзмітрыеўна ўвогуле спакойна, з разуменнем ставілася да мужавага захаплення: ён жа — натура паэтычная, а хто з паэтаў не біў паклоны жаночай маладосці і прыгажосці!

Святлана Аляксандраўна ў час адной з сустрэч расказала мне, што адносіны паміж імі, дзвюма жанчынамі, былі ўвогуле ветлівыя, прыязныя. Калі Марыя Дзмітрыеўна захварэла, яны з Якубам Коласам хадзілі ў шпіталь праведваць яе. А калі яе самую на некалькі месяцаў паслалі на фронт выступаць перад байцамі, то, з другога боку, Марыя Дзмітрыеўна нават узяла своеасаблівае шэфства над яе дзеткамі: сушыла сухары і прыносіла ім. «Ды і якія іншыя адносіны маглі быць, калі мы з Якубам Коласам былі адно сябрамі, заўсёды захоўвалі пэўную дыстанцыю, звярталіся адзін да аднаго на «Вы»! І не толькі пры жыцці Марыі Дзмітрыеўны, але і пасля яе смерці».

Цікавыя такія факты ўзаемаадносін беларускага песняра і рускай паэтэсы (з успамінаў Святланы Аляксандраўны). У 1950-х гг. Святлана Сомава з дзецьмі пераехала ў Маскву. У час прыездаў Якуба Коласа ў сталіцу краіны (на сесіі Вярхоўнага Савета, пасяджэнні камітэта па Сталінскіх прэміях, пленумы Саюза пісьменнікаў СССР і інш.) яны, бывала, сустракаліся. Вось два факты, якія гавораць пра многае. У прыватнасці, — пра своеасаблівую дыстанцыю паміж імі, наладжаную не столькі Ім, колькі Ёй. Аднойчы ў час іхняй сустрэчы паэт прапанаваў разам сфатаграфавацца. Ішлі яны якраз міма фатастудыі. Святлана Сомава катэгарычна адмовілася. Іншым разам, у той жа гасцініцы «Москва», у кіёску ляжала вельмі прыгожая брошка: чорны агат з нейкім беленькім каменьчыкам. Якуб Колас захацеў падараваць тую брошку Святлане Сомавай, але тая адмовілася. «І не шкадуеце цяпер?» — помню, запытаўся я. — «Шкадую да гэтага часу. Дурная была, маладая, залішне гордая, баялася быць залежнаю… Хоць бы нейкая матэрыяльная памятка засталася пра Якуба Коласа». І сказанаму Святланай Аляксандраўнай я веру…

Хаця, трэба сказаць, чамусьці хочацца верыць і Фрыдрыху Ніцшэ, які ў сваёй славутай кнізе «Так гаварыў Заратустра» выказаўся пра жанчыну так: «Занадта працяглы час у жанчыне пакутаваў раб і тыран. Таму яна не здольная да сяброўства: яна ведае толькі каханне. У каханні яе заўсёды ёсць несправядлівасць і слепата да ўсяго таго, што не патрабуецца ёй. Але і ў свядомым каханні жанчыны ёсць і раптоўнасць, і маланка, і цемра побач са святлом. Пакуль яшчэ не здольныя жанчыны да сяброўства: але адкажыце вы мне, хто з вас здольны да яго?». Менавіта гэтыя якасці жанчыны нярэдка выклікалі даволі цяжкія перажыванні Якуба Коласа. Асабліва ў апошняе дзесяцігоддзе ягонага жыцця, калі ён застаўся ў душэўнай адзіноце (у дарослых сыноў з'явіліся свае сем'і), і былі таксама звязаны са Святланай Сомавай (хаця, як мы цяпер ведаем, не толькі з ёй…). Гэтыя душэўныя рухі і зрухі, якія ён спазнаў у перыяд сваёй «трэцяй маладосці» (М. Рыльскі), паэт надзвычай яскрава выявіў у скапіраваным мной у архіве Сомавай вершы «На апошняе развітанне. Святлане Сомавай» (верш дагэтуль не друкаваўся):

*Ці помніце мяне, ці не,*
*Не ведаю, Святлана.*
*Адно вядома: аб Вясне*

*Ўздыхну не раз упатайне —*
*Бо ж песня адспявана!*

*Вандроўныя мы хвалі дзве,*
*Што стрэліся ў патоку,*
*Ды кожная адна плыве,*
*Пакуль не згубіцца ў траве,*
*Прыбіўшыся ў затоку.*

*Пазнаў я мукі, боль і сум*
*Бясплоднага спаткання.*
*Астыў, улёгся хмельны шум,*
*І дзесь крумкач крычыць: крум! крум!*
*То — песня пахавання* [7].

Верш напісаны 12 красавіка 1956 г. Крыху больш чым праз год Якуба Коласа не стала…

* * *

Вядома, якім заядлым грыбнікам быў Якуб Колас. У далёкім Ташкенце ён не раз успамінаў беларускі бор, а ў ім — нерушы чарнагаловікаў-баравікоў. Расказваў пра сваё «ціхае паляванне» ўзбекскім і рускім калегам, сябрам, у тым ліку і Святлане Сомавай, зваў яе прыехаць у Беларусь, пабачыць на свае вочы «беларускае грыбное царства». Яна, відавочна, і не супраць была зрабіць гэта. «*Мне хочется в Москву, а оттуда на недельку-другую к Вам в Белоруссию, в лес к боровикам, которые Вы обещали!*» — у прыватнасці, пісала яна беларускаму сябру ў сярэдзіне ліпеня 1944 г. Ды ні тады, ні пазней — па розных суб'ектыўных і аб'ектыўных прычынах — не суджана было здзейсніцца таму прыезду. Але калі грыбнік не можа пакланіцца баравіку, то баравік можа сам з'явіцца да яго на паклон. І я аднойчы прывёз Святлане Аляксандраўне вязанку выдатных — адзін у адзін — сушаных баравічкоў. «Баравікі прыносілі натхненне Якубу Коласу, прынясуць яны яго, несумненна, і Вам, — запэўніў пры гэтым яе. І дадаў: — Сабраны яны недалёка ад Мінска, у лесе каля майго роднага Ракава, дзе збіраў грыбы і Якуб Колас. Сабралі і высушылі іх спецыяльна для Вас мая жонка Таццяна Вячаславаўна і сыны Усевалад, Максім і Пятрусь…».

нас выказванне Аляксандра Дэйча, выражаючы разам з тым сардэчную ўдзячнасць Яўгеніі Кузьмінічне Дэйч за магчымасць апублікаваць яго цалкам:

«Я читал и перечитывал стихи Якуба Коласа в оригинале и переводах и все больше чувствую белорусского поэта не только в поэзии, но и в жизни. Хорошо помню тяжелые годы войны, когда в Ташкенте мы жили в одном доме на Пушкинской, 84. В большом среднеазиатском городе, переполненном эвакуированными, наш дом, превращенный в общежитие Академии наук, выглядел творческим центром… Помню, как Константин Михайлович приходил ко мне в большую необставленную комнату и читал стихи, особенно «Хату рыбака» — поэму, которая, как гомеровская «Илиада», складывалась вокруг основного ядра во все новые и новые песни — главы.

И вот сейчас, перечитывая эту поэму, я словно слышу ровный голос поэта, лишенный всякой аффектации, спокойно плывущий в лоне стиха.

Поэзия Якуба Коласа — именно такая, могучая, преданная народной стихии, властно зовущая вперед. Правильно говорили о ней, что она проникнута некрасовским народным началом. Прошло почти десять лет со времени издания последнего сборника Якуба Коласа на русском языке. Сейчас, в исторической перспективе, особенно видны и достоинства и недостатки переводов. Есть уже некоторый золотой фонд переводов поэзии Якуба Коласа — М. Исаковского, С. Городецкого, П. Семынина, Б. Иринина. Но в то же время есть переводы случайные, не поэтические, потерявшие обаяние подлинника, Для успеха нового издания нужен, прежде всего, тонкий и чуткий редактор-составитель (в свое время таким прекрасным редактором был П. Семынин).

К сожалению, обычно сборники составлялись так, что творчество Якуба Коласа представлялось резко двутонным — в миноре вся дореволюционная поэзия и в мажоре — послереволюционная. Действительно, если Некрасова именовали «поэтом гнева и печали», то Якуба Коласа можно назвать поэтом печали и счастья. Однако его печаль была не бессильной и бездейственной: в стихах дореволюционных есть провидение того будущего, певцом которого он стал впоследствии. Весь вопрос в умелом отборе стихов, в соблюдении соответствующих пропорций, чтобы избежать прямолинейности и схематизма.

Но дело надо начать с текстологического разбора переводов. Я, например, даже при первом чтении обнаружил ряд пропусков в переводах, пропусков непонятных и непозволительных. Взять, к примеру, стихотворение «Раскуты Праметэй». В переводе почему-то опущена строфа, в которой определенно названы имена «титанов труда» современности (стихотворение написано в 1935 г.):

*Хто і скуль яны, героі,*
*Дземчанка, Стаханаў,*
*Што ідуць напорным строем,*
*Крокам веліканаў?*

Опущенная строфа лишает стихотворение конкретности, и это не единственный случай. А как часто меняются и искажаются образы, данные поэтом! Прочитав стихотворение «Узбекістану» сначала в русском переводе, я был удивлен, что поэт называет его «краем гор». Смотрю в оригинале: «Край-друг Узбекістан». Строка ложится в русскую строку без искажения.

Еще одно замечание. Если даже в прозаическом переводе не проходит безнаказанно участие в одном произведении двух или нескольких переводчиков, то еще болезненнее это сказывается на переводах поэтических. Большое эпическое полотно «Хата рыбака» переведено тремя переводчиками — С. Городецким, П. Семыниным и Б. Ирининым. Все это имена бесспорные, и тем не менее чувствуется разнобой в отдельных песнях — начиная от подхода к стиху оригинала и кончая соблюдением точности. Три разных поэтики. Впечатление такое, что «Хата рыбака» написана не одним поэтом…

Хорошо помню весь процесс работы Якуба Коласа с П. Семыниным над поэмой «Новая земля». Автор огорчался, что впервые вышедшая в русском переводе С. Городецкого «Новая земля» в 1934 г. предстала перед русским читателем с большими искажениями. П. Семынин проделал огромную работу по редактированию перевода, дополнительно переведя несколько глав поэмы. Помню, что автор принимал в этой работе самое активное участие. И вышедший в 1949 г. русский перевод поэмы выгодно отличался от предыдущего издания. Но, к великому огорчению, русский читатель до сего времени не имел возмож-

ности познакомиться с полным переводом этого замечательного произведения.

Недавно мы обсуждали новый сборник переводов литовской поэтессы Саломеи Нерис, и тут обнаружилось, что новые поэтические силы внесли много свежести в передачу ее стихотворений. Был устроен конкурс на лучший перевод, и это дало самые отрадные результаты. Быть может, настало время перенести этот опыт и при издании белорусских классиков: Янки Купалы и Якуба Коласа» [3].

…Здарылася так, што хвароба вачэй, якая распачалася яшчэ ў гады вайны, з часам прывяла Аляксандра Дэйча да поўнай слепаты. Аднак сэрца пісьменніка і вучонага заўсёды заставалася не толькі добрым, але і відушчым. Зрокам свайго сэрца ён з юнацкіх гадоў і да самых апошніх дзён бачыў беларускую літаратуру, яе народных паэтаў Янку Купалу і Якуба Коласа, усю Беларусь.

## Літаратура

1. Дейч, А. День нынешний и день минувший: литературные впечатления и встречи / Александр Дейч. — Изд. 2-е, доп. — М. : Советский писатель, 1985. — 320 с.
2. Между сердцем и временем : воспоминания об Александре Дейче / сост. Е. Дейч. — К. : Феникс, 2009. — 344 с.
3. Семейный архив А. И. Дейча (Москва).

# РАКАЎСКІМІ СЦЯЖЫНАМІ ПЕСНЯРОЎ

У літаратурна-краязнаўчым нарысе «Калі б мы былі японцамі…» я ўжо расказаў пра жыццё і працу ў Паморшчыне бацькоў Янкі Купалы перад самым нараджэннем песняра. Пра гэта, у прыватнасці, сведчыць мемарыяльная дошка, устаноўленая ў 2002 г. пры ўваходзе ў бровар, на якім бацькі будучага песняра працавалі ў 1879–1882 гг. Сённяшняя вуліца, якая носіць імя Янкі Купалы, злучыла колішнюю вёсачку Паморшчыну з мястэчкам Ракаў. А ці наведваў пясняр тую мясціну, дзе калісьці маці люляла яго ў сваім лоне? Пра гэта — крыху пазней…

А што да Якуба Коласа, то не толькі яго блізкіх родзічаў, але і самога аўтара «Новай зямлі» даволі часта бачылі на Ракаўшчыне з пачатку 1950-х гг. да самай яго смерці ў жніўні 1956 г. Мой бацька Пётр Іосіфавіч, у тыя гады рахункавод мясцовага калгаса, расказваў, як сустрэўся з Канстанцінам Міхайлавічам у бузуноўскага каваля Букрэя (суседняя вёска Бузуны знаходзіцца за 5 км ад Ракава). Народны паэт прасіў тады каваля выкаваць яму невялікі тапорык, каб з ім зручна было хадзіць у лес. Пазней, як казаў бацька, Якуб Колас не толькі добра заплаціў за работу (ажно 100 рублёў «адваліў»!), але і стаў браць да сябе ў Мінск у якасці хатняй прыслугі кавалёвых дочак. «Возьме, а праз некаторы час замуж выдасць, пры гэтым пасаг добры дасць… Так усіх трох і вывеў у людзі».

Хочацца прывесці тут і словы-ўспаміны нашага земляка заслужанага артыста Беларусі, колішняга дырэктара Віцебскага дзяржаўнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа Рыгора Шацькі. Карэспандэнт «Звязды» сустрэўся з ім у 2001 г., калі тэатру споўнілася 75 год. Да свайго юбілею тэатр паставіў спектакль «Зямля» паводле славутай «Новай зямлі». У спектаклі Р. Шацька іграў галоўную ролю. Вось невялікі ўрывак з газетнага інтэрв'ю:

«*Карэспандэнт*: Досыць сімвалічна: дырэктар тэатра імя Якуба Коласа іграе самога Якуба Коласа.

*Р. Шацька*: Многія сцвярджаюць, што я вельмі падобны да яго.

*Карэспандэнт*: Сапраўды, магу пацвердзіць!

*Р. Шацька*: Я пачаў дапытвацца ў сваёй радні, у бабуль-дзядоў, чаму так. Бацька расказаў: Колас кожную раніцу калісьці заходзіў да майго дзеда — у яго была дача ў Палачанца пад Мінскам, а хутар майго дзеда знаходзіўся побач. Дзед трымаў 40 калод пчол — кожную раніцу Колас заходзіў, ласаваўся мёдам, выпіваў чарачку самагонкі… Нават ёсць у яго радкі:

*І Шацька мёдам пачастуе,*
*І чарку поўную нальe…*

Гэта пра дзеда… Дарэчы, дужа не любіла Коласа мая бабуля — таму што «зранку спорціць чалавека, а сам пайшоў у бярэтцы сваёй» (смяецца)» [*«Звязда». 2001. 21 лістапада*].

Не станем высвятляць, дзе тут праўда, а дзе мастацкі домысел. Сапраўды, недзе на пачатку 1950-х гг. Якуб Колас наняў пад

лецішча ў недалёкай ад Ракава Палачанцы крайнюю ад дарогі хату калгасніка Мікалая Фёдаравіча Букрэя (1916–1983). Хату тады толькі што пабудавалі. Радавалі вока светлая дранка страхі, свежапагабляваная падлога, жоўта-васковыя сцены, якія пахлі сасновай смалой. Паэт папрасіў гаспадароў не тынкаваць, не абклейваць сцены, не фарбаваць падлогу, пакінуць усё ў натуральным выглядзе. Яны ўлічылі просьбу. Жылі самі ў старой хаціне, а ў новы дом перабіраліся восенню, там зімавалі, нічога не змяняючы, а летам зноў уступалі месца радні паэта.

А летавалі тут некалькі гадоў падрад сыны Якуба Коласа Даніла Канстанцінавіч і Міхась Канстанцінавіч са сваімі сем'ямі. Міхась Канстанцінавіч прыгадвае, што Якуб Колас прыязджаў у Палачанку, любіў хадзіць па лесе, збіраць грыбы, якіх у тыя часы «было тут процьма». Дый да гэтага часу палачанкаўскія лясы лічацца, бадай, самымі грыбнымі на Ракаўшчыне. Летам 2002 г., збіраючы матэрыял па літаратурнаму краязнаўству, я наведаў Палачанку. Як аказалася, маладыя гаспадары хаты сын Мікалая Фёдаравіча Марцін, яго жонка Леакадзія Уладзіміраўна, тым больш іх дачка Таццяна ведалі пра «дачнікаў» толькі па сямейных пераказах. Затое сусед, колішні млынар Фёдар Мікалаевіч Юрынок добра помніў і сыноў паэтавых, і яго нявестак, дый самога Канстанціна Міхайлавіча. Галава ў яго была светлая, нягледзячы на старэчы ўзрост і хваробу, што прыкавала да ложка.

— Якуб Колас часта раніцай заходзіў у млын — пагутарыць са мной, з ваколічнымі сялянамі і… узважыцца. У мяне стаялі вялікія вагі, на якіх я важыў збожжа і змолатую муку, вось на іх станавіўся паэт, і я яго ўзважваў, — прыгадваў Фёдар Мікалаевіч. — У Якуба Коласа было хворае сэрца і, як ён казаў, урачы раілі яму сачыць за вагой цела. Калі трохі худнеў — радаваўся, калі хоць крыху паўнеў — азмрочваўся.

Млына, што стаяў на беразе невялікай рачулкі Палачанкі, даўно няма. А як ён упрыгожваў і акультурваў гэты куток! Ды і азярцо рыбнае было, што паіла вадой прыбярэжныя агароды, палі і сенажаці. Якуб Колас любіў пасядзець з вудачкай, пахадзіць з кавенькай яго берагамі. А цяпер няма возера, сама рэчка абмялела…

Пытаюся пра лёс млына. Аказваецца, калісьці належаў ён Здзяхоўскім, у якіх арандаваў яго яўрэй Рухім Меір, што ў час вайны загінуў у ракаўскім гета. Пасля вайны ўласнікам млына

стаў Радашковіцкі прамкамбінат. Тады ж Фёдар Мікалаевіч і стаў працаваць млынаром. Працаваў да варварскага, нічым не апраўданага разбурэння млына ў 1961 годзе…

Пра Якуба Коласа стары млынар згадваў з выразнай павагай. Як пра ганаровага сталічнага субяседніка, які, аднак, ніколі не паказваў сваю перавагу над іншымі. Як пра чалавека з тыповай сялянскай псіхалогіяй. Як пра частага і жаданага госця ў Палачанцы.

— Стала ў Палачанцы не жыў, часцей на некалькі дзён завітваў. Да яго сюды прыязджалі пісьменнікі. Помню Лужаніна, Калачынскага… Аднойчы застаўся на тыдні два. Тады яго тут наведаў Уладзімір Дубоўка — высокі, шыракаплечы, з доўгай барадой. Папрасіў у канцы майго агарода, каля рэчкі, паставіць палатку, атабарыўся ў ёй на ўвесь час, пакуль тут Колас быў. З Коласам яны хадзілі і гаварылі цэлымі днямі, пра што — не скажу, не чуў. А мне Дубоўка расказваў, што сын яго на вайне загінуў, што сам быў рэпрэсіраваны, вывезены ў Сібір больш чым на дваццаць гадоў…

Чым прывабіла Якуба Коласа пасляваенная Палачанка? Мясціна — прыгожая, лясная, грыбная, прычым зусім недалёка ад Мінска. Да яе вяла бойкая (хоць і надта пашкоджаная вайной) Ракаўская шаша. Да ўсяго, Ракаў і яго ваколіцы — гэта ўжо былая Заходняя Беларусь, дзе і жылі нават пасля ваенных падзей значна багацей, чым ва ўсходняй частцы Беларусі, і ў Бога верылі, а таму і мараль на больш высокім узроўні трымалася. У Ракаве штотыдзень праходзіў славуты кірмаш, на якім значна танней, чым на мінскіх кірмашах, можна было купіць харчовыя прадукты, розныя прылады працы, вопратку. Для Якуба Коласа, апрача іншага, Палачанка, магчыма, нагадвала сугучную ёй Балачанку — вёску ў Пухавіцкім раёне, дзе ён таксама адпачываў…

А можа, пра Ракаў і выдатныя суседнія мясціны ён пачуў ад пісьменніка Уры Фінкеля, які нарадзіўся і вырас у Ракаве? Тут варта прыгадаць, што ваенны лёс закінуў Фінкеля, як і Якуба Коласа, у далёкую Сярэднюю Азію, ва Узбекістан, але не ў Ташкент, а ў Самарканд. Горкі лёс бежанскага пакутніка выпаў на долю Уры Фінкеля. Вайна застала яго ў Мінску, а радню яго — бацькоў, жонку і дзвюх дачок — за «лініяй Сталіна», у Ракаве. Каб вывезці іх адтуль, не было і гаворкі: на «лініі», як і да 1939 г., стаялі савецкія пагранічнікі, для праезду ў «заходнюю»

трэба было мець спецыяльны дазвол. А дзе можна было ўзяць яго пры такім імклівым наступленні немцаў (у Мінску яны былі ўжо на пяты дзень вайны)? Ледзь сам вырваўся з палаючага горада. А радня ўся загінула ў лютым 1942 г. у ракаўскім гета… Пра трагічны лёс сваёй сям'і Уры Фінкель даведаўся пасля таго, як Ракаў быў вызвалены ад фашыстаў. Магчыма, расказаў пасля вайны пра гэта і Якубу Коласу, з якім яны сустракаліся на розных пісьменніцкіх сходах. А тады, на пачатку 1943 г., даведаўшыся аб аднаўленні працы Акадэміі навук Беларусі, ён з надзеяй атрымаць хоць бы нейкую пасаду ў Інстытуце літаратуры напісаў з Самарканда (вул. Стадыённая, д. 8) ліст Якубу Коласу ў Ташкент (вул. Пушкінская, д. 84). Праз некалькі дзён атрымаў наступны адказ ад песняра, які выконваў тады абавязкі віцэ-прэзідэнта АН БССР:

«*26.1.1943 г.*

*Дорогой товарищ!*

*Я лично ничего не имею против зачисления Вас в Институт литературы. Но сделать это сейчас я не могу. Надо подождать возвращения тов. Горева* [тагачасны прэзідэнт Акадэміі навук БССР. — **В. Р.**] *из Москвы: он уехал 7 января в Москву. По его возвращении я напомню ему о Вас и Вашем заявлении. Не знаю, насколько это возможно в настоящее время: наши штаты ограничены. Крепитесь. Всего лучшего.*

*Ваш Якуб Колас*»*.

Як бы там ні было, а ў пачатку 1950-х гг. Якуб Колас для адпачынку сваіх сямейнікаў і сябе асабіста выбраў менавіта Палачанку.

Знамянальна, што ў гэты час родзічы другога нашага вялікага песняра — Янкі Купалы — лецішча нанялі таксама ў гэтых жа ракаўскіх мясцінах, толькі ўжо ў Міхалове — двух-трох кіламетрах ад Палачанкі. Зусім верагодна, што гэтаму паспрыялі цесныя кантакты Луцэвічаў, асабліва Уладзіславы Францаўны — жонкі Янкі Купалы, з Міцкевічамі, у прыватнасці з самім Якубам Коласам. Родныя сёстры Янкі Купалы Ганна Дамінікаўна Луцэвіч

---

* Ліст гэты мне ў пачатку 2000-х гг. перадала дачка ракаўскага пісьменніка Фрыда Фінкель. Цяпер ён знаходзіцца ў фондах Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа.

(1886–1962), Марыя Дамінікаўна Луцэвіч-Аўлачынская (1887–1966) і Леакадзія Дамінікаўна Луцэвіч-Раманоўская (1890–1970) разам са сваімі дзецьмі і ўнукамі асталяваліся ў Міхалове ў толькі што пабудаванай хаце Більманаў. У адрозненне ад палачанцаў, міхалоўцы добра памяталі сваіх дачнікаў-«купалянят». Гаспадыня хаты Браніслава Сямёнаўна Більман, якой на пачатку XX ст. пайшоў быў дзявяты дзясятак, а таксама яе дачка Галіна Мікалаеўна Більман-Савельева аказаліся словаахвотлівымі суразмоўцамі. Хата іх стаіць пры самай шашы Мінск–Гродна (калісьці дарога гэта праходзіла ўвогуле каля самай хаты). Калі яе нагледзелі родзічы Янкі Купалы, хату толькі што пабудавалі. У гаспадарцы былі карова, свінні, куры, гусі… Значыць, на месцы можна было набыць малако і ўсе малочныя прадукты, гародніну, садавіну, яйкі… А калі чаго не хапала — побач, у Міжрэччы, масласырзавод (на ім, дарэчы, працаваў гаспадар хаты), а за чатыры кіламетры — Ракаў: крамы, кірмаш…

Перад паездкай у Міхалова я сустрэўся ў Мінску з пляменнікамі Янкі Купалы Уладзіславам Юльянавічам і Ядзвігай Юльянаўнай Раманоўскімі. Ім час тады ўжо адлічваў па восьмым дзясятку, але памяць у абаіх была проста выдатнай. Яны з захапленнем успаміналі летаванне ў ваколіцах Ракава, прагулкі заліўнымі лугамі ўздоўж Ісламы (Лу́кі — мясцовая назва), паходы ў грыбы і ягады, цёплыя ўзаемаадносіны з міхалоўцамі. Ядзвіга Юльянаўна пераказала расказаны ёй калісьці яе маці — сястрой Янкі Купалы — эпізод. У 1913 г. у Радашковічах з вялікім трыумфам прайшоў спектакль па п’есе «Паўлінка». Іван Дамінікавіч з сястрой Леакадзіяй не засталіся на шыкоўным балі з той нагоды, што ладзіў рэдактар «Нашай Нівы» Аляксандр Уласаў, а нанялі гарцука (таннага балагола) і праз Ракаў паехалі ў Нешату, што каля Рубяжэвічаў, — абрадаваць гэтай навіной бабцю Кацярыну з Шаблоўскіх і родных трох дзядзькоў, Міхала, Антонія і Франака. Расказала Ядзвіга Юльянаўна і пра тое, як у кастрычніку 1939 г. праз Ракаў і паўз Міхалова ехаў Янка Купала ў Беласток на знакамітае пасяджэнне Народнага сходу, на якім прымалася просьба-заява аб далучэнні Заходняй Беларусі да БССР. У Беласток народны паэт ехаў на «Эмцы», з Беластока — на шыкоўным «Шэўрале», падараваным яму беластаччанамі… Відавочна, па дарозе спыняўся — не мог не спыніцца! — і ў Ракаве. Ён жа ведаў і пра Здзяхоўскіх (а іх панскі двор тады яшчэ быў у

поўнай красе), і пра колішняе жыццё тут сваіх бацькоў. Маці ж яго, Бянігна Іванаўна, тады жыла разам з ім, і яна не магла не пацікавіцца пра знаёмыя мясціны…

Уладзіслаў Юльянавіч таксама прыгадаў выпадак — як яны з Браніславай Сямёнаўнай хадзілі на Ракаўскі кірмаш купляць карову. І вельмі ўдала купілі яе, хоць і не былі ў гэтым «спецамі»…

Браніслава Сямёнаўна Більман добра помніла прыезды ў Міхалова «Купаліхі» — Уладзіславы Францаўны, жонкі Янкі Купалы.

— Бывала, прыедзе, возьме мяне пад руку і кажа: «Пойдзем прагуляемся». Паходзім мы каля Іслачы, па лузе, па лесе. А потым яна будзе казаць: «А цяпер давай паямо». Любіла надта нашу мясцовую вэнджанку — паляндвіцу, кумпяк, вэнджаную кілбасу. Цяпер няма, а тады хапала… Я, бывала, ёй і з сабой дам. Дзякавала шчыра. Добры чалавек быў! Вясёлы, парадачны! Аднаго разу цэлы адрэз на паліто маёй Галіне падарыла. А быў і такі смешны выпадак. Неяк яна прыехала з Мінска, з пакункамі ў абедзвюх руках заходзіць у хату, ды забылася пра парог і — расцягнулася на ўсю падлогу. Па падлозе разляцеліся пакункі, шыкоўны пірог. Другая пачала б злавацца, абвінавачваць сябе ці іншых А яна ляжыць на падлозе, грузная, непаваротлівая, і смяецца: «Вось і прыехала, вось і прывіталася! Так і трэба падхаліму!»

Запытаўся, як карову куплялі. Пра гэта расказвае ўжо Галіна Мікалаеўна:

— Лань звалі тую карову. Чорная ўся была. Калі куплялі, баяліся прагадаць: вымя слабое было. Але не памыліліся. Малака ад Лані хапала не толькі нам, але і ўсёй Купалавай радні…

Успаміны, згадкі… Адзін след, другі, трэці… А там, глядзіш, ужо і сцяжыны праляглі. Ракаўскія сцяжыны песняроў.



# З БАГДАНОВІЧАЗНАЎЧЫХ ЭЦЮДАЎ

## З жыццяпісу

У Мінску на доме па вуліцы Максіма Багдановіча, што побач з будынкам Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь, можна ўбачыць мемарыяльную дошку з выявай профілю паэта. Надпіс сведчыць, што на гэтым месцы калісьці стаяла хата, у якой 9 снежня 1891 г. нарадзіўся будучы класік беларускай літаратуры Максім Багдановіч. Дарэчы, каля тэатра, амаль насупраць ад месца нараджэння паэта, узвышаецца велічны помнік яму, а літаральна праз сотню метраў, бліжэй да Свіслачы, знаходзіцца Дзяржаўны літаратурны музей Максіма Багдановіча. Так годна ўшанавала беларуская сталіца свайго вернага сына. Можа, пражыў ён у ёй усё сваё жыццё? На жаль, не. Праз год пасля нараджэння Максіма яго сям’я пераязджае ў Гродна. Не споўнілася яму і пяці год, як ад сухотаў у маладым узросце памірае ягоная маці. Бацька з дзецьмі пераязджае ў Ніжні Ноўгарад, дзе знаёміцца, а потым і родніцца з Максімам Горкім (яны былі жанатыя з роднымі сёстрамі Волжынымі). Пасля заканчэння гімназіі Максім паступае ў Яраслаўскі Дзямідаўскі ліцэй, які паспяхова заканчвае ў 1916 г., і вяртаецца ў Мінск. Але пажыць яму тут доўга не давялося. Ён вымушаны быў паехаць на лячэнне ў Ялту, дзе 25 мая 1917 г. і памёр у адзіноце, у найманым пакойчыку на беразе Чорнага мора, пакінуўшы на кавалку паперы радкі:

*Ў краіне светлай, дзе я ўміраю,*
*У белым доме ля сіняй бухты,*
*Я не самотны, я кнігу маю*
*З друкарні пана Марціна Кухты* [1, т. 1, с. 320].

Гэтай кнігай быў адзіны прыжыццёвы зборнік паэта «Вянок», надрукаваны віленскім друкаром М. Кухтам у 1913 г.

Такая кароткая біяграфія паэта. Аднак колькі стаіць за гэтымі скупымі радкамі!

Усё жыццё Багдановіча — гэта суцэльнае пераадоленне. Пераадоленне абставін. Іншых людзей. Самога сябе. Пачнём з таго, што з васямнаццаці год сухоты сталі каварна падточваць яго сілы. Максім ведаў пра гэту спадчынную хваробу, прадчуваў свой хуткі канец. Але страх смерці пераадолеў думкай пра бяссмерце сваёй роднай Беларусі, духоўнаму і матэрыяльнаму адраджэнню якой прысвяціў усё сваё жыццё.

Жыццёвыя абставіны яшчэ ў раннім дзяцінстве разлучылі Багдановіча з Бацькаўшчынай. На жаль, у асобе свайго бацькі, вечна занятага грамадскімі справамі, пошукамі сродкаў для ўтрымання вялікай сям'і, юны паэт не знайшоў свайго аднадумца. І ўсе ж, як потым напіша з адабрэннем Адам Ягоравіч у сваіх успамінах пра сына, Максім «не пайшоў па лініі найменшага супраціўлення: не стаў пісаць па-руску. Ягоныя пераклады сваіх жа вершаў сведчаць, што ён і па-руску мог бы пісаць нядрэнныя вершы. Але ён гэты лёгкі шлях яшчэ з дзяцінства адхіліў і смела вырашыў пераадолець агромністыя цяжкасці, каб авалодаць роднаю мовай сваіх продкаў… Якія цяжкасці ён пераадолеў на гэтым шляху, сведчаць яго рукапісы і сшыткі: колькі там выпісак са слоўнікаў, зборнікаў і старадрукаў! Хто з паэтаў, што ўсмактаў беларускую мову з малаком маці, паднімаў гэты цяжкі, карпатлівы, крыхаборскі клопат? А ён, слабагруды, кволы, падняў» [2, с. 124–125]. Сапраўды стаічная натура!

Максіма Багдановіча, як Янку Купалу і Якуба Коласа, усю беларускую літаратуру пачатку XX ст., вынесла на паверхню сацыякультурнага жыцця рэвалюцыйная хваля 1905–1907 гг. Ёсць нешта дзівоснае ў той немінучай заканамернасці, з якой на небасхіле беларускай літаратуры, што перажывала ў той час перыяд свайго паскоранага развіцця, з'явіліся амаль адначасова тры зоркі першай велічыні: у 1905 г. свой першы твор апублікаваў Янка Купала, у 1906 — Якуб Колас, у 1907 — Максім Багдановіч. Адразу — цэлае сузор'е! Гісторыя быццам бы кампенсавала тое, што беларуская літаратура «недабрала» раней. Сёння нават цяжка сабе ўявіць, як бы развівалася новая беларуская літаратура, каб не было ў яе Багдановіча, чалавека

не толькі перадавога светапогляду, геніяльнай адоранасці, але і энцыклапедычных ведаў, здзіўляльнай працаздольнасці. Уся яго творчая спадчына — паэзія, проза, публіцыстыка, пераклады, крытыка, гісторыя і тэорыя літаратуры, лісты — змяшчаецца ў тры кніжныя тамы Поўнага збору твораў (1992–1995). Аднак гэта сапраўды залатыя тамы! Гэта своеасаблівы «пашпарт на інтэлігентнасць» (Іван Франко) беларускага народа.

Янка Купала, Якуб Колас і Максім Багдановіч рабілі, па сутнасці, адну справу: надзялялі родны народ эстэтычнымі скарбамі сусветнага ўзроўню, абуджалі яго ад векавога «летаргічнага сну» (выраз Багдановіча), садзейнічалі сацыяльнаму вызваленню і нацыянальнаму адраджэнню беларусаў. Але рабіў гэта кожны па-свойму, зыходзячы са сваіх жыццёвых і творчых магчымасцей, ведаў, майстэрства. Як справядліва адзначыў рускі паэт і перакладчык Ігар Паступальскі, было б недарэчным падстаўляць пад вершы рэвалюцыйнага дэмакрата Багдановіча «лозунгі і праграмы тых ці іншых палітычных партый перадкастрычніцкіх год», але лепшыя ўзоры яго грамадзянскай лірыкі («Мае песні», «З песняў беларускага мужыка», «Эмігранцкая песня», «Мяжы», «Народ, Беларускі Народ!..», «Пагоня» і інш.) — «усё гэта творы, якія ўтрымліваюць сапраўды рэвалюцыйныя ідэі, звернутыя супраць сіл прыгнёту — царызму з яго русіфікатарскай палітыкай, панскага ладу, капіталізму, што асуджае людзей на непасільную працу, галечу, уцёкі з родных мясцін» [6, с. 12]. Менавіта вуснамі Багдановіча маладая беларуская літаратура заявіла, што «не на грашовых справах трымаецца яна і ніколі не пойдзе чысціць боты капіталу!» [1, т. 2, с. 192].

Шырока вядома выказванне, што толькі чалавек, які жыў бы на Марсе, не заўважыў бы нацыянальна-вызваленчых памкненняў беларусаў у пачатку XX ст. (зрэшты, як і іншых народаў царскай Расіі). Імкненне мас да авалодання сваёй мовай і літаратурай было з’явай прагрэсіўнай. Багдановіч садзейнічаў абуджэнню нацыянальнай свядомасці беларусаў, сцвярджэнню іх нацыянальнай годнасці, чалавечай вартасці, услаўляў родную мову, культуру, ганьбіў розных рэнегатаў, адшчапенцаў, «абруселых іншародцаў». І сёння паэтавы коннікі імчацца за рознымі пярэваратнямі, адрачэнцамі, якія забылі родны край, адракліся ад яго. Да такіх паэт, вялікі гуманіст, бязлітасны:

*Бійце ў сэрцы іх — бійце мячамі,*
*Не давайце чужынцамі быць!*
*Хай пачуюць, як сэрца начамі*
*Аб радзімай старонцы баліць…*

Ён і сябе не шкадаваў, не бярог — у імя той жа Бацькаўшчыны:

*Маці родная, Маці-Краіна!*
*Не усцішыцца гэтакі боль…*
*Ты прабач. Ты прымі свайго сына,*
*За Цябе яму ўмерці дазволь!..*

(«Пагоня»; 1, т. 1, с. 314–315).

Сёння, калі мы ўмацоўваем аўтарытэт нашай Рэспублікі Беларусь ва ўсім свеце, вяртаем беларускай мове яе законнае месца ў дзяржаўным і грамадскім жыцці, з разуменнем успрымаем багдановічаўскія радкі, у якіх гучыць трывога за лёс роднага слова — так, як яна гучала яшчэ ў вуснах Францішка Багушэвіча:

*Народ, Беларускі Народ!*
*Ты — цёмны, сляпы, быццам крот.*
*Табою ўсягды пагарджалі,*
*Цябе не пушчалі з ярма*
*І душу тваю абакралі, —*
*У ёй нават мовы няма.*
*Збудзіўшысь ад грознай бяды,*
*Ўвесь поўны смяротнай жуды,*
*Ты крыкнуць не вольны «Ратуйце!»*
*І мусіш ты «Дзякуй» крычаць.*
*Пачуйце жа гэта, пачуйце,*
*Хто ўмее з вас сэрцам чуваць!* [1, т. 1, с. 266].

Гарачы патрыятызм у Багдановіча спалучаўся з сапраўдным інтэрнацыяналізмам. Талент паэта сілкаваўся не толькі з крыніцы роднай культуры, але і з культур іншых нацый, перш за ўсё рускіх і ўкраінцаў. Актыўна друкуючыся ў беларускіх, рускіх і ўкраінскіх выданнях, адгукаючыся на важнейшыя падзеі культурнага і грамадскага жыцця трох усходнеславянскіх народаў, беларускі пісьменнік — адзін — дзеля развіцця

ўсходнеславянскіх літаратурных кантактаў зрабіў столькі, колькі ні да яго, ні пасля яго не зрабіў ніхто,

Багдановіч як мастак слова вырас найперш на рускай культуры, на паэзіі XIX ст. (Пушкіна, Лермантава, Фета, Майкава, Цютчава, Палонскага, Някрасава). Нядрэнна ён быў знаёмы і з польскай літаратурай, у арыгінале чытаў Міцкевіча, Красінскага, Славацкага, Сыракомлю, Канапніцкую. Што да ўкраінскай паэзіі і прозы, то ў ёй ён ведаў літаратараў не толькі буйных, але і другарадных. Рускіх і ўкраінскіх аўтараў (Пушкін, Майкаў, Крымскі, Чарняўскі, Алесь) Багдановіч перакладаў на беларускую мову, а беларускіх (Янка Купала, уласныя вершы) і ўкраінскіх (Шаўчэнка, Франко, Стафанік, Самійленка, Крымскі, Алесь, Кацюбінскі) — на рускую. Багдановіч унёс адчувальны ўклад у вывучэнне і прапаганду творчасці асобных рускіх і ўкраінскіх пісьменнікаў. Арыгінальныя і трапныя яго назіранні, што датычацца «навуковай паэзіі» Ламаносава («Поэзия гениального ученого»), генезісу асобных паэтычных вобразаў у Пушкіна («Две заметки о стихотвореях Пушкина») і А. К. Талстога («К генеалогии одного стихотвореня»), характару светаадчування Лермантава («Одинокий») і г. д. Ён рэцэнзаваў зборы твораў Рылеева, Адоеўскага, Баратынскага, Някрасава, Чэхава, Брусава і інш.

Асаблівая любоў была ў Багдановіча да Украіны, украінскай культуры. Ён знаходзіў у ёй шмат агульнага з культурай беларускай. Надзвычай цікавыя яго гісторыка-этнаграфічныя нарысы «Галицкая Русь», «Червонная Русь», «Львов», «Угорская Русь», «Образы Галиции в художественной литературе», «Украинское казачество». Не страцілі свайго значэння ягоныя артыкулы пра У. Самійленку, І. Франка, Г. Чупрынку, У. Віннічэнку. А два даследаванні пра Шаўчэнку — «Краса и сила» і «Памяти Т. Г. Шевченко» — па прызнанні саміх украінскіх літаратараў, «належаць да залатога фонду дакастрычніцкага шаўчэнказнаўства» (І. Дэнысюк).

Багдановіч з’явіўся пачынальнікам беларускай гісторыка-літаратурнай навукі і літаратурнай крытыкі, паўплываў на развіццё тэорыі літаратуры. Большасць палажэнняў такіх яго прац, як «Глыбы і слаі», «Кароткая гісторыя беларускай пісьменнасці да XVI сталецця», «За сто лет», «За тры гады» і інш., трывала леглі ў падмурак сучаснай гісторыі беларускай

літаратуры. Неабходна падкрэсліць і тое, што Багдановіч сваімі арыгінальнымі развагамі пра рэалістычную творчасць геніяльнага рускага кампазітара Мадэста Мусаргскага («Об интересном мнении г. Глебова»), рэцэнзіямі на асобныя выпускі часопіса «Музыкальный современник» і «Музыкальный словарь» Ю. Энгеля паклаў пачатак прафесійнай беларускай музычнай крытыцы.

Незвычайна яскрава раскрыўся талент пісьменніка і ў жанры публіцыстыкі («Новая интеллигенция», «Сталецце руху беларускага народа», «Белорусское возрождение», «О гуманизме и неосмотрительности»). Цікавіўся Багдановіч (асабліва ў апошнія гады жыцця) пытаннямі сацыялогіі, эканомікі, палітыкі (нарысы пра М. К. Міхайлоўскага, М. Д. Ножына, рэцэнзіі на асобныя нумары часопіса «Национальные проблемы», кнігу А. Л. Пагодзіна «Политическое и экономическое положение славянских народов перед войной 1914 года»). Знамянальна, што ў 1916 г. ён адрэцэнзаваў «Дневник социал-демократа» Г. В. Пляханава (газета «Голос». Яраслаўль, 1916, 18 чэрв.), выявіўшы пры гэтым знаёмства з асноўнымі ідэямі навуковага сацыялізму. Уласныя грамадзянскія пазіцыі і палітычныя перакананні Багдановіч як паэт у гэты час выразна засведчыў у наступных знакамітых радках:

*Беларусь, твой народ дачакаецца*
*Залацістага, яснага дня.*
*Паглядзі, як усход разгараецца,*
*Колькі ў хмарках залётных агня…* [1, т. 1, с. 440].

Разам з Янкам Купалам і Якубам Коласам аўтар «Вянка» заклаў асновы рэалістычнай школы беларускага мастацкага перакладу. Як і ў арыгінальнай творчасці, паэт адкрыта ставіў мэту: прывіць беларускай паэзіі невядомыя ёй датуль формы. Менавіта дзякуючы Багдановічу ў нас з’явіліся трыялеты, актавы, тэрцыны, рандо, рандэлі, каламыйкі, элегічныя двувершы і г. д. Некаторыя з гэтых вершавых форм нават у багатай пісьмовымі традыцыямі рускай паэзіі XIX — пачатку XX ст. сустракаліся толькі зрэдку (напрыклад, у А. Пушкіна, Л. Мея, А. К. Талстога, В. Брусава). Што да чацвярнога акраверша, то ўсходнеславянскія вершазнаўцы знаходзяць яго толькі ў Багдановіча («Ах, как умеете Вы, Анна…»). Наогул,

Багдановічу належыць заслуга адкрыцця ў беларускай паэзіі многіх тэм, матываў, праблем. Карэнны гараджанін, ён першы звярнуўся да тэмы горада (цыкл «Места»). Прычым горад ён не ганьбіў, як некаторыя вясковыя менестрэлі таго часу, і не ідэалізаваў, накшталт футурыстаў. Багдановіч аб'ектыўна паказваў і «горада чароўныя прынады» («У Вільні»), і гарадскую галечу, «глухі людскі натоўп» («На глухіх вулках — ноч глухая…»). Сваю яскравую старонку паэт упісаў у беларускую любоўную і пейзажную лірыку. Пасля Багдановіча вольна задыхала ў беларускай паэзіі лірыка філасофская. Паэт першы прыступіў да стварэння мастацкага летапісу сярэдневяковай Беларусі («Летапісец», «Перапісчык», «Кніга» «Слуцкія ткачыхі», «Безнадзейнасць»), да адраджэння забытых міфаў і легенд (цыкл «У зачарованым царстве»).

Ды пра што б ні пісаў паэт, якія б тэмы і матывы ні закранаў, заўсёды ён памятаў пра тое, што «*сціснула гора дыханне ў народзе, / Гора усюды пануе*» («Краю мой родны! Як выкляты богам…»). Нават у самыя змрочныя дні сталыпінскай рэакцыі ён думаў пра тое, каб развеяць «людское гора». Яго ўвесь час непакоіла адно пытанне:

*Таварышы-брацця! Калі наша родзіна-маць*
*Ў змаганні з нядоляй патраціць апошнія сілы, —*
*Ці хваце нам духу ў час гэты жыццё ёй аддаць,*
*Без скаргі палеч у магілы?!* [1, т. 1, с. 111].

У Максіма Багдановіча гэтага духу хапала.

## З паэтыкі

Як вядома, у залежнасці ад фанетычных асаблівасцей той ці іншай мовы на пэўным гістарычным этапе развіцця літаратуры выпрацоўваюцца асобныя сістэмы вершавання. У час прыходу ў літаратуру Багдановіча беларуская паэзія прайшла ўжо два перыяды свайго існавання — метрычны (лацінамоўная творчасць Міколы Гусоўскага, Яна Вісліцкага, Андрэя Рымшы і інш.) і сілабічны (Францыск Скарына, Сімяон Полацкі, Ян Баршчэўскі, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч і інш.). Акцэнталагічныя асаблівасці беларускай мовы, як і іншых усходнеславянскіх (нефіксаваная

працягласць вымаўлення галосных гукаў, рухомы націск), сцвердзілі ў ёй пашырэнне сілаба-танічнай і танічнай сістэм вершавання. Наследуючы традыцыі беларускай вуснапаэтычнай творчасці, рускай класічнай (А. Пушкін, М. Лермантаў, М. Някрасаў і інш.) і новай беларускай паэзіі (Францішак Багушэвіч, Янка Лучына, Янка Купала, Якуб Колас і інш.), Багдановіч пачаў сваю вершаваную творчасць з выкарыстання гэтых сістэм, найперш — сілаба-танічнай. Яго першыя творы, за выключэннем аднаго, што імітаваў акцэнтны верш шаўчэнкаўскага тыпу («Над магілай», 1908), былі цалкам вытрыманы ў кадэнцыі сілаба-тонікі («Мае песні», 1908; «Ноч», 1908; «Падвей», 1909; «Возера», 1910, і інш.). Увогуле, з усіх напісаных Багдановічам вершаваных 309 твораў (4275 вершарадоў) абсалютная большасць (81,17 % ад агульнай колькасці радкоў) напісана сілаба-тонікай*.

Паэт карыстаўся ўсімі пяццю метрамі сілаба-тонікі: харэічным, ямбічным, дактылічным, амфібрахічным і анапестычным. У агульнай складанасці яны выявіліся ажно ў 78 памерах, у тым ліку ямб — у 26, харэй — у 22, анапест — у 13, дактыль — у 10 і амфібрахій — у 7. Прычым большасць памераў выкарыстаў Багдановіч толькі аднойчы: чаргаванне ў катрэнах радкоў пяці- і чатырохстопнага харэя («Не кувай ты, шэрая зязюля…»), чатырох- і трохстопнага ямба («Дзе вы, лясоў, палёў цвяты?..»), чатырох- і трохстопнага дактыля («Краю мой родны! Як выкляты богам…»), цэзураваны чатырохстопны анапест («Цемень») і інш. Найбольш пашыраныя памеры: ямб чатырохстопны (616 радкоў), шасцістопны (305), пяцістопны (209); харэй чатырохстопны (226), пяцістопны (156), шасцістопны бесцэзурны (148); анапест трохстопны (341); амфібрахій трохстопны (121).

Несілаба-танічныя віды верша займаюць у Багдановіча 18,83 %. На іх прыпадае 23 памеры. Сюды адносяцца тактавікі (7 памераў), дольнікі (4), лагаэды (4), а таксама ўсе іншыя вершаваныя формы, якія выкарыстоўваюць па адным памеры

---

* Тут і далей падлікі І. Ралько з яго «Метрычнага даведніка да вершаў Максіма Багдановіча. Гл.: Ралько, І.Д. Вершаскладанне : матэрыялы і даследаванні / І. Д. Ралько. — Мінск, 1977. — С. 69–140.

(акцэнтны шаўчэнкаўскага тыпу, каламыйкавы, трохскладовік з пераменнай анакрузай, лагаэд і інш.). Сярод іх — першыя спробы імітацыі ў паэзіі на сучаснай беларускай літаратурнай мове некаторых відаў антычнага (метрычнага) верша: гекзаметра («Тая крыніца, што раньш к акіяну нясла свае хвалі…», «Грамада зорак «Карона», «Ікар і Дзедал»), пентаметра («Рыцар Няшчасце, што скрозь ездзіць пад маскай маўчком…»), элегічнага двуверша («Да вагітнай», «Непагодаю маёвай», «З нізкага берагу дно акіяна вачам недаступна…»). Побач з гэтым — першыя прыклады выкарыстання ў беларускай паэзіі свабоднага верша (верлібра), які нават у тагачаснай багатай рускай, а таксама заходнееўрапейскай паэзіі толькі-толькі пачынаў ужывацца («Мая гаспадыня…», «Больш за ўсё на свеце жадаю я…», «Я хацеў бы спаткацца з Вамі на вуліцы…»). У цэлым жа Багдановіч, звярнуўшыся да трох сістэм вершавання (танічнай, сілабатанічнай і верлібрыстычнай), выкарыстаў 101 вершаваны памер, з іх аднойчы скарыстаных — 65, неаднойчы скарыстаных — 36.

Бадай, ні ў аднаго з беларускіх паэтаў — яго сучаснікаў не знойдзем мы такога метрычнага багацця. Асаблiва ўвага Багдановіча да метра-рытмічнай арганізацыі верша была цалкам свядомай. У артыкуле «Краса и сила: Опыт исследования стиха Т. Г. Шевченко» ён пісаў: «*Галоўным фарміруючым пачаткам усякага верша, безумоўна, трэба прызнаць рытм; зацвярдзеўшы ў сваім найбольш правільным, закончаным выглядзе, ён ператвараецца ў метр. Усе астатнія элементы верша іграюць у адносінах да таго і другога ролю другарадную, іншы раз — чыста службовую, дапаможную і ва ўсякім выпадку могуць быць зразуметыя і ацэненыя толькі ў цеснай сувязі з імі абодвума*». І тут жа дадаваў: «*Таму менавіта з рытму і метра пачнем мы сваю працу, што зразу ўвядзе нас у тайнікі шаўчэнкаўскага верша і дасць нам магчымасць прашчупаць яго асноўны рухальны нерв*» [1, т. 2, с. 231]. «Рухальны нерв» верша самога Багдановіча найперш выявіўся ў надзвычайным багацці вершаваных памераў, многія з якіх (пераважна аднойчы скарыстаныя) з’яўляюцца прыкладамі «найбольшай адпаведнасці паміж рухам пачуцця і рухам верша» («Без сіл, уся ў пату, як белы снег, блядна…», «Зірнуў, як між валос, між хмар калматых цёмных…», «Вы кажаце мне, што душа у паэта…» і інш.). Ды і творы, напісаныя адным і тым жа памерам, розняцца сваім рытма-інтанацыйным малюн-

кам — у залежнасці ад увасобленых у іх настрояў, пачуццяў, думак («Запляла я йстужку сінюю…», «Па-над белым пухам вішняў…», «Тым вянкі суворай славы…», «Донна Клара твар закрыла…» — чатырохстопны харэй; «Вераніка», «Завіруха», «Слуцкія ткачыхі» — чатырохстопны ямб; «Беларусь, твой народ дачакаецца…», «Дождж у полі і холад… Імгла…», «Пагоня», «Ўжо пара мне дадому збірацца…» — трохстопны анапест і г. д.).

У апошнія гады свайго жыцця Багдановіч з асаблівай увагай ставіўся да суладдзя паміж «рухам думкі і рухам верша». Гэта выявілася, у прыватнасці, у пошуках ім так званых «вершаў беларускага складу», арыентаваных на народную вуснапаэтычную творчасць, у намаганні «зрабіць нашу паэзію не толькі мовай, але і духам, і складам твораў шчыра беларускай» («Забыты шлях»). Яскравыя ўзоры такіх намаганняў — поліметрычныя творы «Максім і Магдалена», «Мушка-зелянушка і камарык — насаты тварык», «Страцім-лебедзь», у якіх, як і ў Шаўчэнкі, няцяжка ўбачыць «ужыванне пэўнага памеру для абмалёўкі кожнага з настрояў, што змяняюць адзін аднаго ў рамках дадзенай рэчы» («Краса и сила»). У свой час Багдановіч палічыў, што ў Шаўчэнкавай паэме «Гамалія» метр мяняецца 15 разоў. У яго ж паэмцы «Мушка-зелянушка і камарык — насаты тварык» метра-рытмічны малюнак складаецца з 12 розных памераў, сярод якіх — шасці- і сямістопныя харэі, двух- і трохстопныя дактылі, трохіктныя тактавікі і інш. У «Максіме і Магдалене» — 6 памераў (двух-, трох- і чатырохіктныя тактавікі, трохіктны дольнік, сямістопны цэзураваны харэй і інш.). Ранняя смерць не дала магчымасці Багдановічу завяршыць пошукі «вершаў беларускага складу» з іх яўнай арыентацыяй на народна-сказавыя танічныя прынцыпы рытмічнай арганізацыі вершаванага радка. Гэтыя вершы выразна выявілі ўвагу паэта да праблем вершавання, жаданне ўвасобіць «народны дух» не толькі ў змесце, але і ў форме вершаваных твораў, паказаць суладдзе таго і другога, імкненне ўнесці ў скарбонку сусветнай паэзіі штосьці «сваё», спецыфічна беларускае, сапраўды народнае. Як пісаў Багдановіч у тым жа артыкуле «Забыты шлях» (тэарэтычным абгрунтаванні «вершаў беларускага складу»), «было б горш, чым нядбальствам, нічога не ўзяць з таго, што соткі народаў праз тысячы год сабіралі ў скарбніцу светавой культуры. Але занасіць толькі чужое, не развіваючы свайго, — гэта яшчэ горш: гэта знача глуміць народ-

ную душу. Да таго ж адны жабракі могуць праз усё жыццё толькі браць. Трэба ж і нам, беручы чужое, калі-нікалі даць нешта сваё» [1, т. 2, с. 291]. І няхай ніхто спецыяльна не стаў пісаць у беларускай паэзіі багдановічаўскім «вершам беларускага складу», з’ява гэта — адметная ў гісторыі беларускага вершавання. Гэтаксама як ва ўкраінскай (і ўвогуле ўсходнеславянскай) паэзіі — «шаўчэнкаўскі верш». Ім таксама асабліва не карысталіся і не карыстаюцца паэты, але ніхто не стане адмаўляць уклад Кабзара ва ўкраінскае і ўсё еўрапейскае вершаванне. Бо, як слушна падкрэсліў у сваім даследаванні «Очерк истории европейского стиха» (Масква, 1989) М. Гаспараў, «культурныя ўплывы, якія вызначаюць развіццё вершавых формаў, ніколі не дзейнічаюць ізалявана, а заўсёды перакрыжавана. Параўнальная сіла гэтых уплываў вызначаецца, па-першае, іерархіяй прэстыжу культурных традыцый <…>, а па-другое, ступенню блізкасці культурнага кантакту. Тое ці іншае перасільвае ў залежнасці ад канкрэтных гістарычных абставін» [4, с. 268]. У XX ст. і ў беларусаў, і ва ўкраінцаў перасілілі, несумненна, кантакты з рускай культурай, з рускім сілаба-танічным вершам. «Вершы беларускага складу» Багдановіча засталіся яскравай, непаўторнай старонкай у гісторыі славянскага вершавання. Намаганні па іх стварэнні былі эпізодам у яго творчасці, якая прадвызначалася ў першую чаргу «*жаданнем прышчапіць да беларускай пісьменнасці здабыткі чужаземнага паэтычнага труда, памагчы атрымаць ёй больш еўрапейскі выгляд <…>, давесці здатнасць нашай мовы да самых строгіх вымог вяршоўнай формы*» [1, т. 3, с. 244]. І гэтыя намаганні рэалізаваліся не толькі ў метрыцы і рытміцы, але і ў іншых кампанентах паэтыкі верша, у тым ліку — у строфіцы і рыфміцы.

Пра разнастайнасць і багацце страфічнай арганізацыі верша Багдановіча сведчаць наступныя лічбы: з 309 вершаваных твораў паэта на раўнастрофныя прыпадае 121 твор, на аднастрофныя — 105, на разнастрофныя — 10. Астрафічныя творы займаюць 23,6 % (73 творы). Усяго ж у Багдановіча налічваецца 205 тыпаў строф — па спосабу рыфмоўкі, характары клаўзул, па метру і колькасці вершарадоў. Паводле радковага аб’ёму найбольш распаўсюджаныя катрэны: 358 з усіх 578 строф, або 62 %. За імі ідуць 6- і 8-радковыя (па 45 строф), 5-радковыя (34) строфы.

Абсалютная большасць вершаў Багдановіча рыфмаваныя (83,8 %). Сярод белых вершаў пераважаюць тыя, што па сваёй прыродзе рыфмаў мець не павінны. Гэта імітацыі антычнага вершавання (гекзаметр, пентаметр, элегічны двуверш), а таксама верлібр. У рыфмаваных творах мужчынскія і жаночыя рыфмы размеркаваны прыблізна аднолькава. Найчасцей сустракаюцца строфы з перакрыжаванай рыфмоўкай (309 строф), за імі ідуць строфы з сумежнай (90) і апаяснай (46). Нямала строф і са змешанай рыфмоўкай (101). Прычым паэт — выразны прыхільнік класічнай рыфмы, што сугучнасцю яднае розныя — паводле націску — клаўзулы: мужчынскія, жаночыя, дактылічныя і гіпердактылічныя. У такіх рыфмах галоўнае для яго — супадзенне націскных і паслянацiскных гукаў (*вачах — пах, кос — прынёс, хутка — Марутка, коні — Пагоні, заранachка — бранachка, гараванейка — каханейка*). Не цураўся паэт і новых для ўсходнеславянскай паэзіі пачатку XX ст. асанансных рыфмаў, у якіх супадаюць галоўным чынам націскныя галосныя (*душою — мускоe, скутыя — атрутамі, зварушыцца — жамчужніцы, асінавы — Максімавы*), а таксама рыфмаў усечаных (*Забелаў — смела, Вераніка — дзікай*), састаўных (*прыгожы — чаго жа*). Нямала ў яго і аднародных рыфмаў, пераважна дзеяслоўных (*ляціце — спяшыце, паняcліся — адракліся, мільганула — патанула, засне — мкне*). Белых вершаў у яго няшмат (12 %). Ён падчас рыфмуе нават творы (гэта датычыць імітацый некаторых старажытных відаў верша), у якіх рыфмаў калісьці не існавала, — гекзаметры («У небе — ля хмары грымотнай…»), элегічныя двувершы («Падаюць вішняў цвяты…»). Часам у вершах (перш за ўсё звязаных з народна-песеннымі традыцыямі) сустракаюцца спарадычныя рыфмы (4,2 %). Колькасць жаночых рыфмаў (*тушыць — зварушыць, полі — волі, дарожкі — рожкі, песні — прадвесні, прыпіску — Ваўкавыску*) у Багдановіча крыху перавышае мужчынскія (*сталь — даль, прывяла — узышла, дарог — ног, туман — палян*; адпаведна 49 % і 45 %), значна менш у яго дактылічных і гіпердактылічных рыфмаў — 6 % (*узорамі — прыгаворамі, затрымалася — пахавалася, чубаценькага — зухаваценькага*). Твораў, у якіх выкарыстоўваюцца толькі адны віды рыфмаў — мужчынскія («Падвей», «Завіруха», «Змяіны цар», «Не знайсці мне спакою…») або жаночыя («Добрай ночы, зара-заранiца…», «У небе — ля хмары грымот-

най…»), — няшмат. Звычайна паэт перамяжоўвае тыя і другія ў рознай паслядоўнасці. Сярод раўнастрофных вершаў твораў з перакрыжаванай рыфмоўкай — найбольш («Прывет табе, жыццё на волі!..», «Пагоня», «Слуцкія ткачыхі», «Зорка Венера ўзышла над зямлёю…»), менш з рыфмоўкай сумежнай («У Максіма на кашулі вышыты галубкі…», «Русалка», «О, сум, усні ў душы маёй…») і апаясной («Па ляду, у глухім бары…», «Да вагітнай», «Малюнак мора»). Гэтыя формы рыфмоўкі ў рознай колькасці і паслядоўнасці, у адпаведнасці з правіламі альтэрнанса (характар чаргавання розных рыфмаў), Багдановіч ужываў у іншых, больш складаных строфах і відах верша: санетах, трыялетах, рандо, рандэлях, тэрцынах, александрыйскім вершы…

З усіх функцый, якія адыгрывае рыфма ў вершаваных творах, Багдановіч у першую чаргу выдзяляў рытмічную: паводле паэта, яна павінна «падкрэсліваць форму метра, абводзячы цвёрдым контурам яго граніцы» («Краса и сила»). Сапраўды, дзякуючы рыфме мы звычайна лёгка вызначаем метрычную канву верша і вершаваны памер. Разам з тым зусім відавочна, што для паэта важныя былі і іншыя функцыі рыфмы: фанічная (гукапісная), кампазіцыйная (рыфма спалучае радкі ў страфічныя комплексы, аддзяляючы іх затым адзін ад другога), інтанацыйная (удзельнічае ў стварэнні адмысловага рытма-інтанацыйнага малюнка верша) і нават мнеманічная (рыфма дапамагае лепшаму запамінанню верша). Што да лексічнага (сэнсавага) значэння рыфмы, то Багдановіч нярэдка найбольш важкія для твора словы (паняцці, разуменні) ставіў у рыфму (*родны — народны, сплыве — ажыве, сонца — аконца*). Часам толькі па словах-рыфмах можна ўгадаць асноўны пафас таго ці іншага твора: *народ — крот, пагарджалі — абакралі, з ярма — няма, бяды — жуды, крычаць — чуваць, ратуйце — пачуйце* («Народ, Беларускі Народ!..»); *над зямлёю — з табою, прывяла — узышла, углядацца — разгарацца, шукаў — пачаў, нудзіцца — дзівіцца, у расстанні — каханне* («Раманс»). Рыфміка паэзіі Багдановіча стала ўзорам для многіх беларускіх паэтаў, яго сучаснікаў і наступнікаў.

Валоданне разнастайнымі магчымасцямі метра-рытмічнай, страфічнай і рыфмічнай арганізацыі верша дазволіла Багдановічу ўзбагаціць беларускую паэзію многімі вершаванымі відамі і жанрамі. Паэт у пачатку XX ст. звярнуўся да элегічнага дву-

верша, александрыйскага верша, трыялета, рандо, рандэля, тэрцыны, хоку, танка і інш. Па сутнасці, ён дапамагаў беларускаму вершаванню паскорана прайсці многія з тых шляхоў, якія еўрапейская паэзіі тарыла некалькі стагоддзяў. У гэтым Багдановіч салідарызаваўся з Янкам Купалам, які, звяртаючыся да санета, актавы, брахікалана, дбаў не толькі пра тое, *што* сказаць, але і *як* сказаць, пра пашырэнне выяўленчых здольнасцей беларускага верша. Па сутнасці, аўтар «Вянка» (1913), у якім былі прадстаўлены многія з невядомых раней беларускай паэзіі форм, рабіў тую ж справу, якую ў рускай паэзіі ў той час рабіў Валерый Брусаў, ствараючы своеасаблівую — паводле метрыкі, рыфмікі і строфікі — хрэстаматыю еўрапейскага верша «Опыты» (1916). Але калі ў Брусава на першым месцы была ў асноўным «чыстая краса», то Багдановіч імкнуўся гэтую «красу» паставіць на службу Бацькаўшчыне, роднай мове, культуры, роздуму над асабістымі перажываннямі і грамадскімі праблемамі, нацыянальным і агульначалавечым. Адсюль — александрыйскі верш, які як нельга лепш прыдаўся да перадачы асобных рэалій «старой Беларусі» («Летапісец», «Перапісчык»), санет «Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі», што сваёй вышуканай формай выявіў прыгажосць нацыянальна-адраджэнскіх помыслаў беларусаў, і г. д. Уклад, які ўнёс Багдановіч у беларускае вершаванне, немагчыма пераацаніць.

## З гіпотэз

Сярод асноўных топасаў жыццёвай і творчай прасторы Максіма Багдановіча адно з пачэсных месцаў належыць Крыму. Сюды ён, пачынаючы з 1909 г., некалькі разоў (прынамсі, не менш як тры) прыязджаў на лячэнне і адпачынак, тут яго сустрэла рамантычная курортная любоў, што вылілася ў радкі вершаў «Цемень», «Я, бальны, бесскрыдлаты паэт…», «Зачем грустна она была…», «Забудется многое, Клава…» і некалькі старонак абраслага легендамі «інтымнага дзённіка». Убачанае і адчутае ў Крыме паспрыяла ўзнікненню яго грунтоўнага крытычнага водгуку пра даведнік «Крым» (1914) і выдатнага, багатага на яскравыя мастацкія дэталі нарыса «Из летних впечатлений» (1915), дзе з натуры непаўторна замаляваны тагачасныя воблікі

Феадосіі, Старога Крыма і Кактэбеля. Нарэшце, у Крыме, у Ялце, беларускі пісьменнік знайшоў свой вечны спачын.

Зрэшты, усё гэта няблага вядома. Хоць і не выключае неабходнасці яшчэ аднаго, новага гісторыка-літаратурнага і тэарэтыка-літаратурнага даследавання. Як і вывучэння прысутнасці багдановічаўскай творчасці ў крымскіх сродках масавай інфармацыі, перакладаў яго твораў на рускую, украінскую і татарскую мовы, здзейсненых крымскімі пісьменнікамі, увекавечання яго памяці на крымскай зямлі і г. д. Аднак тут мне хочацца звярнуць увагу на іншае. Хочацца выказаць пэўную здагадку, вылучыць адну гіпотэзу.

У маім асабістым хатнім архіве ўжо немалы час ляжыць калісьці мной ад рукі перапісаны з «Нашай Нівы» за 1913 г. (№ 8, ад 20 лютага) допіс, названы «Беларускі рэферат» і падпісаны крыптанімам «М.». Перапісаўшы допіс, я тады ж сам сабе задаў пытанне, на якое не магу адназначна адказаць да сённяшняга дня: ці не Максіму Багдановічу належыць гэта публікацыя? Давайце ўслухаемся ў радкі допісу:

«2 лютага я чытаў тут (Карасубазар у Крыме) рэферат: «Геаграфія, этнаграфія і гісторыя Беларусі». Праўда, я і прыгатаўляўся да гэтага трохі, але так гадзіны дзве, а то і паўтрацці баіў маім цярплівым слухачам аб маей бацькаўшчыне і, як потым давялося гаварыць з імі, то аказваецца, яны пачулі шмат цікавага для іх, бо тут, браты мае, на поўдні аб Беларусі дужа мала ведаюць.

Я коратка расказаў усю гісторыю па Власту, этнаграфію і геаграфію па Максімовічу, Сямёнаву ды па Ліпрандзі «О Белоруссии» і др. Браў я, акром усяго гэтага, яшчэ троху з «Энциклопедического словаря» і з розных геаграфічных хрэстаматый, якіх пад рукамі ёсць нямала.

У розных мейсцах рэферата былі ўстаўлены і прадэкламаваны вершы Я. Купалы, М. Багдановіча, Неслухоўскага, Паўловіча.

Здзіўлены былі мае слухачы беларускімі вершамі і после гаварылі, што «а ведь похож язык и на малорусский и на русский». Усе шчыра дзякавалі за цікавую для іх лекцыю і выказвалі жальбу аб гэткай гістарычнай долі «бедной Белоруссии»…

Ведаеце, браты мае, трэба шырыць вядомасць аб беларусах усюды, дзе толькі можна. Гэта — сіла. Я да гэтай мыслі яшчэ раней прыйшоў і цяпер буду яе праводзіць дзе толькі прыдзецца,

пакуль ізноў не вярнуся на мілую бацькаўшчыну. Я, здаецца, не абмінуў бы і ілюзіёна, каб даць яму на экран відокі Белавежскай пушчы, Віліі, старых замкаў, лясоў і хат беларускіх.

Сваім слухачом паказываў не толькі на Купрынскую «Алесю», дзе трохі такі датыча быту і палажэння беларусоў, але такжа на «Без языка» і «Лес шумит» Караленкі, на «Княгиню Острожскую» С. Соловьева, на Крашэўскага, але такжа на «Две силы» і «Панургово стадо» Крестовского.

Зацікаўленым мовай і вершамі беларускімі даю кніжкі ды вершы з газет, што маю. Просяць расказаць ім яшчэ «о поэзии белорусской». Я ўжо абяцаў. Узноў у памяці сваёй абнаўляю ўсё, што ўперад чытаў.

**М.**» [5].

На карысць таго, што гэта пісаў Максім Багдановіч, гавораць і глыбокае знаёмства аўтара рэферата (адпаведна і газетнага допісу) з рознымі беларусазнаўчымі працамі, з тагачаснай рускай літаратурай і маладой беларускай паэзіяй, і яго знаходжанне (відавочна, на лячэнні) у Крыме, дакладней — у Карасубазары, цяперашнім Белагорску, што недалёка ад Старога Крыма, дзе аўтар «Вянка» правёў усё лета 1915 г., і такі выразны «багдановічаўскі» крыптанім «М.»… Сюды можна дадаць і акцэнтаваны патрыятычны пафас газетнага паведамлення, і тое, што ў Багдановіча яшчэ з ліцэйскага часу быў значны вопыт выступленняў перад слухачамі з рознымі рэфератамі… Існуюць, аднак, і пэўныя сумневы ў Багдановічавым аўтарстве допісу. Мы не маем звестак пра паездку пісьменніка ў Крым у лютым 1913 г. Некаторыя выразы і словы, здаецца, не з яго лексікону (браты мае, паўтрацці, узноў…)… Але ж адсутнасць звестак — яшчэ не доказ, бо гэтыя звесткі з часам могуць з’явіцца. Тэкст жа мог на ўласны густ папраўляцца некім з работнікаў рэдакцыі «Нашай Нівы»…

Ва ўсякім разе, сярод невялікай кагорты тагачасных адукаваных, патрыятычна настроеных беларускіх інтэлігентаў, што маглі ў пачатку 1913 г. апынуцца ў крымскім Карасубазары і прачытаць там пра Беларусь рэферат на дастаткова высокім навуковым узроўні, найбольш шанцаў застаецца ў Максіма Багдановіча.

# З рарытэтаў

Творы Максіма Багдановіча перакладаліся, перакладаюцца і — упэўнены! — будуць перакладацца на многія мовы свету. У тым ліку — на мову вялікага братняга ўкраінскага народа. Яшчэ ў 1929 г. кніга выбраных твораў паэта пад назвай «Вінок» убачыла свет у Кіеве ў Дзяржаўным выдавецтве Украіны. Прычым гэта была ўвогуле першая перакладная беларуская мастацкая кніга, якая выйшла на тэрыторыі нашай паўднёвай суседкі. Укладальнік кнігі, яе перакладчык, аўтар прадмовы і заўваг да твораў выдатны паэт класічнага стылю Міхайла Драй-Хмара пісаў тады: «Чаму — спытае дапытлівы чытач — мы Багдановіча, а не кагосьці іншага перасадзілі ў першую чаргу на ўкраінскі грунт? А вось чаму: па-першае, ён адзін з пісьменнікаў-класікаў, якія закладалі аснову беларускай мастацкай літаратуры; па-другое, ён выдатны майстар слова, які чуйна адгукаўся на ўсе праявы нацыянальнага і сацыяльнага вызвалення беларускага народа; па-трэцяе, ён з надзвычайнай любоўю ставіўся да ўкраінскай культуры наогул, а да літаратуры ў прыватнасці: публічна выступаў на абарану Галіччыны, калі ёй неслі «асвету» Яўлогіі і графы Бобрынскія, друкаваўся ў нашых часопісах, вывучаў наша пісьменства, мову, пісаў пра нашых пісьменнікаў артыкулы, перакладаў іх творы і нават сам спрабаваў пісаць украінскія вершы. Мы яшчэ маглі б сказаць, чаму нам падабаецца Багдановіч і чаму мы найперш спыніліся на ім, але, здаецца, досыць і таго, што мы сказалі».

Сёння гэта кніга — надзвычай рэдкі рарытэт. Яе няма пакуль што нават у фондах Дзяржаўнага музея Максіма Багдановіча ў Мінску.

У 2002 г. з’явіўся яшчэ адзін кніжны рарытэт, што датычыцца не толькі Максіма Багдановіча, але і ўсёй беларускай мастацкай літаратуры. І зноў — ва Украіне! Праўда, рарытэт у крыху іншым сэнсе. На гэты раз — у Львове пад назваю **«Стратим-лебідь»** выйшаў у свет *поўны збор твораў класіка нашай літаратуры* [3]. Гэта — не толькі першае выданне Поўнага збору твораў Багдановіча ў перакладзе на нейкую замежную мову, але ўвогуле першае поўнае выданне якога б там ні было беларускага пісьменніка на замежнай мове.

У кнігу ўвайшлі літаральна ўсе арыгінальныя паэтычныя, празаічныя, публіцыстычныя, літаратурна-крытычныя творы Багдановіча і яго эпісталярый. Услед за зборнікам «Вянок» з усімі яго цыкламі (за выключэннем, зразумела, цыкла перакладаў — «З чужой глебы») у выданні ідуць раздзелы «Вершы розных гадоў» (1910–1917), згрупаваныя ў падраздзелы «Эрас», «Лесавік», «З песень беларускага мужыка», «Усмешкі», «Вершы беларускага складу», а таксама «Творы невядомага часу» і «З чарнавых накідаў». Проза прадстаўлена раздзеламі «Апавяданні і нарысы», «Літаратурна-крытычныя творы» (з падраздзеламі «Беларуская літаратура», «Украіназнаўчыя працы», «Замежнае пісьменства»), «Лісты». Арыгінальнымі ў «Стратим-лебеді» з'яўляюцца невялікія раздзелы «Беларусы пра М. Багдановіча» (з выказваннямі Якуба Коласа, Уладзіміра Караткевіча, Ніла Гілевіча, Генадзя Бураўкіна і Васіля Зуёнка) і «Украінцы пра М. Багдановіча» (выказванні Іларыёна Свянціцкага, Міхайлы Драй-Хмары, Максіма Рыльскага, Івана Дэнысюка, Дмытра Паўлычкі). Завяршае кнігу грунтоўны, на чатыры дзясяткі старонак, раздзел-даследаванне «Заўвагі».

Творы паэзіі прадстаўлены лепшымі перакладамі Міхайлы Драй-Хмары («У зачарованым царстве», «Вечар на захадзе тушыць…», «Песняру», «Трыялет (На сонца заглядзеўся я…)», «Ліст да п. В. Ластоўскага», «Цёмнай ноччу лучына дагарала…», «Споўненае абяцанне», «Пугач» і інш.), Рыгора Кочура («Ціха па мяккай траве…», «Падыймі у гару сваё вока…», «Непагодны вечар. Сумна, дружа, мусі?..», «Дзесь у хмарах жывуць павукі…»), Яраслава Яра-Славутыча («Трыялет (Мне доўгае расстанне з Вамі…», «Эміганцкая песня»), Дмытра Паўлычкі (санеты), Ігара Калынца («У старым садзе», «Змяіны цар», «Вечар», «Я, бальны, бесскрыдлаты паэт…» «Хоць мы былі адны ў той час…»), Сцяпана Літвіна («Слуцкія ткачыхі», «Краю мой родны! Як выкляты Богам…», «Максім і Магдалена»), Уладзіміра Лучука («Па ляду, у глухім бары…», «Русалка», «Пачуццю цёмнаму падлеглая», «У вёсцы»), Аксаны Сенатовіч («Ты ночкаю каляднай варажыла…», «Як Базыль у паходзе канаў…», «Агата», «Мы гаворым удвух пры агні ў цішыне…», «Пракляцце вагітнай»), Віктара Чабаненкі («Калі зваліў дужы Геракл у пыл Антэя…», «Дождж у полі і холад… Імгла…», «Разрытая магіла») і інш. Таццяна Кабржыцкая з беларускай і рускай моў пераклала для

выдання шэраг літаратурна-крытычных артыкулаў («Глыбы і слаі», «За сто лет», «Кароткая гісторыя беларускай пісьменнасці да XVI сталецця», «Белорусское возрождение», «Санет», «Забыты шлях», «Грицько Чупринка», «В. Винниченко» і інш.).

Можна смела сцвярджаць: без Рамана Лубкіўскага* ўкраінцы яшчэ б доўга не мелі «поўнага» Максіма Багдановіча. Раману Лубкіўскаму належыць канцэпцыя ўкладання кнігі, пераклад многіх празаічных і паэтычных твораў, выбар гатовых і заказ новых перакладаў, рэдагаванне ўсіх тэкстаў. У цікава і грунтоўна напісанай прадмове да выдання «Беларускі Ікар» Лубкіўскі спыняецца не толькі на арыгінальнай і перакладчыцкай творчасці Багдановіча, але і на яго радаводзе, нялёгкім жыццёвым шляху, укладзе ў беларуска-іншанацыянальныя (і найперш — у беларуска-ўкраінскія) культурныя сувязі, на асноўных этапах украінскага багдановічазнаўства. У прадмове ўпершыню цалкам цытуецца віншавальны ліст першага Прэзідэнта Украіны Леаніда Краўчука Вярхоўнаму Савету Рэспублікі Беларусь ад 23 снежня 1991 г. у сувязі з 100-годдзем з дня нараджэння Максіма Багдановіча.

Кніга «Стратим-лебідь» выйшла ў львоўскім выдавецтве «Світ» пры матэрыяльнай падтрымцы дырэктара Інстытута праблем рэабілітацыі і рэабілітацыйнага цэнтра «Эліта», Героя Украіны, прафесара, нашага земляка В. І. Казяўкіна. Ёй распачалася адмысловая выдавецкая серыя «Ad Fontes» («Да крыніц»).

## З прапаноў

Добра памятаю, як 9 снежня 1981 г. на плошчы Парыжскай Камуны, насупраць Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР (цяпер — Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Беларусі) ва ўрачыстай абстаноўцы адкрывалі помнік Максіму Багдановічу работы скульптара Сяргея Вакара. Сотні людзей прысутнічалі. Сярод іх — тагачасныя кіраўнікі ўрада БССР, Саюза пісьменнікаў Беларусі, розных арганізацый і ўстаноў. Як усе радаваліся, што «наш Максім» пасля стольկіх гадоў неразумення

---

* Пра Р. Лубкіўскага і яго ўклад у багдановічазнаўства гл. у артыкуле «Духоўны паўпрэд Максіма Багдановіча».

(«мадэрніст», паэт «чыстае красы», стваральнік «мастацтва для мастацтва»), а то і шальмавання (апалагет «дробнай буржуазіі», выразнік ледзь не «контррэвалюцыйных настрояў»), нарэшце ўганараваны выдатным помнікам! Ды яшчэ ў такім месцы! Лічы, у самым цэнтры горада, на плошчы з такой «рэвалюцыйнай» назвай — Парыжскай Камуны, каля опернага тэатра…

Праўда, сёй-той не мог зразумець такога суседства: Максім Багдановіч і — Парыжская Камуна, Максім Багдановіч — і оперны тэатр. Яму тут жа растлумачвалі: Максім Багдановіч — адзін з нацыянальных геніяў. Помнік яму павінен стаяць на прэстыжным месцы, каб многія яго бачылі і нават той, хто мала ведае яго асобу і творчасць, даведаўся пра незвычайны лёс паэта: нарадзіўся ў Мінску, з пяці год жыў у рускім асяроддзі (Яраслаўль, Ніжні Ноўгарад) і — стаў класікам беларускай літаратуры. Ён — найбольш яскравы сімвал яднання трох усходнеславянскіх народаў: беларусаў, рускіх і ўкраінцаў. Унёс свой важкі ўклад не толькі ў беларускую, але ў рускую і ўкраінскую літаратуру і культуру. Апрача таго, Максім Багдановіч уваходзіць у лік самых музычных паэтаў свету — і па мелодыка-інтанацыйнаму ладу вершаў, і па колькасці песень, напісаных на яго словы. «Зорка Венера», напрыклад, у Заходняй Беларусі была своеасаблівым нацыянальным гімнам, ролю гімна яна нярэдка выконвае і сёння сярод беларусаў замежжа. Сам жа паэт быў музычна адораны, праявіў сябе як выдатны музыказнавец. Рэцэнзаваў усерасійскі часопіс «Музыкальная жизнь», «Музыкальный словарь». У навуковай спрэчцы пра рэалістычны характар творчасці Мадэста Мусаргскага перамог нават такога музычнага карыфея, кампазітара і выдатнага музыказнаўца, як Барыс Асаф’еў (артыкул «Об интересном мнении г. Глебова»)*… Некаторыя сумняваліся: ці не стане помнік засланяць тэатр? Пасля ж убачылі: помнік сваімі памерамі не толькі не засланяе тэатр, а, наадварот, нават нібыта ўзвышае яго…

З тае пары прайшло нямала гадоў. Мінчукі (і не толькі мінчукі) ужо і не ўяўляюць плошчу каля опернага тэатра, якая носіць дагэтуль усё тую ж «рэвалюцыйную» назву «Парыжскай

---

* Пра спрэчку М. Багдановіча з Б. Асаф’евым гл. у артыкуле «Музыка перш за ўсё!..».

Камуны» (?!), без помніка Максіму Багдановічу, які, праўда крыху перамясціўся са свайго першапачатковага месца. Амаль заўсёды на пастаменце помніка ляжаць жывыя кветкі. Да паэта нярэдка прыязджаюць маладажоны (балазе і ЗАГС тут побач), у сэрцах якіх — «ні жуды, ні нуды, толькі радасць кахання», каб сфатаграфавацца разам з ім, выказаць сваю любоў да яго букетам жывых ружаў. Падыходзяць да помніка беларускія і замежныя турысты, паколькі ён хораша завяршае невялікі пешаходны турысцкі маршрут уздоўж вуліцы Максіма Багдановіча. Бо тут жа побач, літаральна праз вуліцу, — месца, дзе стаяў дом, у якім нарадзіўся паэт (пра гэта сведчыць мемарыяльная дошка; існуе задума аднавіць на тым самым месцы гэты невялікі драўляны будынак), трохі далей — Траецкае прадмесце, у якім знаходзіцца выдатны Дзяржаўны музей Максіма Багдановіча…

Чаму я пачаў гаворку пра ўсё гэта? А каб яшчэ раз выказаць сваю даўнюю мару: убачыць і сам тэатр, і плошчу каля яго пад іменем Максіма Багдановіча! Паэт, несумненна, варты таго! Дарэчы, у тэатра ўжо ёсць свая «багдановічаўская» візітка. Калісьці ў ім з поспехам ішла опера Юрыя Семянякі (лібрэта Алеся Бачылы) «Зорка Венера» — пра аўтара гэтага аднайменнага верша. Оперу не цяжка аднавіць, каб распачынаць ёй кожны сезон у абноўленым тэатры, накшталт таго, як пачынае «Паўлінкай» свае тэатральныя сезоны Нацыянальны драматычны тэатр імя Янкі Купалы. А пасля, відаць, гэтай операй распачынаць і наступныя тэатральныя оперныя сезоны. Магчыма, нехта з сучасных беларускіх кампазітараў напіша новую оперу па матывах твораў або жыцця Максіма Багдановіча…

Традыцыя даваць тэатрам оперы і балета імёны выдатных нацыянальных пісьменнікаў — даўняя і даволі пашыраная. Імя Пушкіна такія тэатры носяць (або насілі) у Ніжнім Ноўгарадзе і Кішынёве, Чарнышэўскага — у Саратаве, Шаўчэнкі — у Кіеве, Франко — у Львове, Абая — у Алматы, Ахундава — у Баку, Наваі — у Ташкенце, Махтумкулі — у Ашхабадзе, Айні — у Душанбэ, Мусы Джліля — у Казані…

Як бы хацелася, каб гэтая мара (і не толькі мая!) здзейснілася!

## Літаратура

1. Багдановіч, М. Поўны збор твораў : у 3 т. / Максім Багдановіч. — Мінск : Навука і тэхніка, 1992–1995. — Т. 1–3.
2. Богданович, А. Страницы из жизни Максима Горького / А. Е. Богданович. — Минск : Беларусь, 1965.
3. Богданович, М. Стратим-лебідь : зібрання творів : поезія, проза, публіцистика, критика, лісти / Максим Богданович. — Львів: Світ, 2002.
4. Гаспаров, М. Очерк истории европейского стиха / М. Л. Гаспаров. — М. : Наука, 1989.
5. М. Беларускі рэферат / М. // Наша Ніва. — 1913. — 20 лют.
6. Поступальский, И. О поэзии Максима Богдановича / И. Поступальский // Максим Богданович. Стихотворения. — М. : Сов. писатель, 1971.

# МУЗЫКА ПЕРШ ЗА ЎСЁ!.. Спрэчка Максіма Багдановіча з Барысам Асаф'евым

«*Жыў на свеце музыка. Многа хадзіў ён па зямлі ды ўсё граў на скрыпцы. І плакала ў яго руках скрыпка, і такая была ў яго гранні нуда, што аж за сэрца хапала…*».

Так пачынаецца прыпавесць Максіма Багдановіча «Музы́ка» [1, т. 2, с. 6–7]. Паэт далей апавядае: не толькі слёзы выклікáла скрыпка, не адно той стан, калі чалавек *«усё плакаў бы па сваёй долі».* Бывала, што музыка граў па-іншаму: моцна, гучна. І тады *«людзі падымалі апушчаныя галовы, і гневам вялікім блішчэлі іх вочы. Тады бляднелі і трасліся, як у ліхаманцы, і хаваліся ад страху, як тыя гадзюкі, усе крыўдзіцелі народу».*

Яны, гэтыя крыўдзіцелі, хацелі адкупіць скрыпку, але не прадаў яе музыка. Тады «*злыя і сільныя людзі кінулі яго ў турму, і там скончылася яго жыццё*». А самі ўзялі скрыпку і пачалі «*граць на ёй народу*». Але людзей гранне не цешыла, не хвалявала. «*Добра граеце,* — казалі яны, — *ды ўсё не тое!*» І не маглі даўмецца «*злыя і сільныя людзі*», што ні выдатны інструмент,

ні нават віртуознае валоданне гэтым музычным інструментам не прымусяць мацней біцца чалавечыя сэрцы. Сакрэт музыкі ў тым, што ён «*усю душу сваю клаў у ігру*». А «*душа яго знала ўсё тое гора, што бачыў ён па людзях; гэта гора грала на скрыпцы, гэта яно вадзіла смыкам па струнах; і ніводзін сыты не мог так граць, як грала народнае гора*».

Выдатная прыпавесць!

Цудоўная ілюстрацыя поглядаў Багдановіча на сутнасць і ролю мастацтва ў чалавечым жыцці. А таксама — выяўленне разваг пісьменніка пра месца і значэнне музыкі, музычнай творчасці ў грамадстве.

Калі ўлічыць, што прыпавесць «Музыка» (часам яе неапраўдана называюць апавяданнем) надрукавана шаснаццацігадовым юнаком, што гэта яго першае выступленне ў друку*, то ўжо тут відочная надзвычайная адоранасць будучага класіка беларускай літаратуры. Відаць яшчэ адно: яго выразная псіхалагічна-творчая «ўстаноўка» на рэалістычны пачатак у музычнай творчасці, у аснове якога — гармонія гуку і сэнсу, музычнай інтанацыі і слова.

Гэта «ўстаноўка», што фарміравалася з самага маленства — спачатку ў сям'і, потым у гімназіі і ліцэі, — вызначыла кола музычных упадабанняў Багдановіча, адбілася на яго паэтычнай творчасці. Прыгадаем выключную музычнасць, песеннасць вершаў паэта, іх віртуозную інструментоўку. Вучыўся ён гэтаму найперш у беларускай народнай песні. Многае запазычваў у выдатных рускіх паэтаў — Аляксандра Пушкіна, Міхаіла Лермантава, Фёдара Цютчава, Афанасія Фета і інш. Цікавіўся і заходнееўрапейскімі сімвалістамі. Словы цудоўнага французскага паэта Поля Верлена «De la musique avant chose» («Музыка перш за ўсё») нават узяў эпіграфам да сваёй «Маёвай песні» («Па-над белым пухам вішняў…»).

У паэзіі Багдановіча песенныя інтанацыі пераважаюць над гутарковымі і аратарскімі. Не дзіўна, што да яго творчасці так ахвотна звярталіся і звяртаюцца кампазітары, а некаторыя вершы (напрыклад, «Зорка Венера», «Слуцкія ткачыхі»)

---

* Прыпавесць «Музыка» апублікавана ў «Нашай Ніве» 6 ліпеня 1907 г. Наступная публікацыя М. Багдановіча з'явілася ў гэтай газеце толькі праз два гады, у 1909 г.

сталі сапраўднымі народнымі песнямі. Музычна-песенныя магчымасці паэта выразна выявіліся ў цыкле «Вершы беларускага складу», а таксама ў нізцы «Песні» — імітацыях народных рускіх, украінскіх, сербскіх, іспанскіх, японскіх, персідскіх песень, песень скандынаўскіх народаў. Імітацыі гэтыя настолькі таленавітыя, што нават асобныя літаратуразнаўцы лічылі іх не ўласнымі творамі паэта, а яго перакладамі з іншых моў. Тэма музыкі, песнятворчасці прысутнічае яшчэ ў адной прыпавесці — «Апокрыф», у апавяданні «Шаман», незакончаным артыкуле «Частушка» і інш. Асабліва глыбокія і арыгінальныя развагі пісьменніка пра беларускую народную песню — у артыкуле «Забыты шлях», які і сёння не страціў сваёй актуальнасці ні для літаратараў, ні для дзеячаў музычнага мастацтва.

Што да музычных упадабанняў Багдановіча, то яны былі даволі шырокія і разнастайныя. Паводле некалькіх ягоных музыказнаўчых публікацый і ўспамінаў сваякоў можна налічыць каля пяцідзесяці (!) рускіх і заходнееўрапейскіх кампазітараў, творы якіх любіў, цаніў ці проста ведаў аўтар «Вянка».

Гэта, зразумела, найперш «кучкісты» — сябры музычнага гуртка «Могучая кучка»: Мілій Балакіраў, Аляксандр Барадзін, Цэзар Кюі, Мадэст Мусаргскі, Мікалай Рымскі-Корсакаў. Так, Багдановіч вельмі любіў оперу А. Барадзіна «Князь Ігар», часта слухаў грамафонны запіс арыі Ігара (у палавецкім палоне). Не быў раўнадушны ён да «Барыса Гадунова» Мусаргскага. Вобраз Пімена, магчыма, натхніў паэта на стварэнне верша «Летапісец». Сярод любімых — і оперы Рымскага-Корсакава «Пскавіцянка» і «Садко» (ці не навеяны апошняй операй некаторыя вобразы «Зачарованага царства» — лесуна, вадзяніка, русалак?..). А яшчэ ж — Пётр Чайкоўскі з яго выдатнымі не толькі операмі, але і рамансамі, Міхаіл Глінка (словамі з яго раманса «Сомнение» — «Уймитесь, волнения страсти…» — паэт пачынае адзін са сваіх вершаў). Свае, беларускія, мелодыі чуліся Багдановічу ў творах ураджэнцаў Беларусі Станіслава Манюшкі і Міхала Клеафаса Агінскага. Грампласцінка «Развітанне з Радзімай» стала нават фамільнай каштоўнасцю ўсёй радні Багдановічаў. Блізкім веяла ад мелодый украінца Міколы Лысенкі. Хвалявалі і асобныя творы замежных кампазітараў — немца Людвіга ван Бетховена («Апасіяната»), французаў Шарля Гуно (арыя Валянціна з оперы «Фаўст» і ўся опера) і Жуля Маснэ («Элегія»), нарвежца Эдварда

Грыга (аркестравая сюіта да драмы Генрыха Ібсэна «Пер Гюнт»), паляка Генрыка Вяняўскага (скрыпічныя п’есы)…

Несумненна, на музычны густ, як і ўвогуле на эстэтычны ідэал Багдановіча, вялікі ўплыў аказалі музычныя зацікаўленні бацькоў, сваякоў, блізкіх людзей. У сям’і Багдановічаў ведалі і любілі музыку. Маці паэта Марыя Апанасаўна, настаўніца, мела прыгожы голас, любіла спяваць, іграла на фартэпіяна. Менавіта з яе вуснаў на ўсё жыццё запомніў пяцігадовы Максім раманс М. Глінкі «Паўночная зорка». Услед за ёю палюбіў і оперу А. Вярстоўскага «Аскольдава магіла», клавір якой і набор грамафонных пласцінак з запісам яе асобных фрагментаў захоўваўся ўвесь час у доме як памяць пра дачасна памерлую маці. Не мог без музыкі абыходзіцца і бацька Максіма Адам Ягоравіч, сябар Таварыства драматычных пісьменнікаў і оперных кампазітараў (існавала такое ў Горадні ў канцы XIX — пачатку XX ст.!). Асабліва любіў скрыпічную музыку. Нават лічыў, што скрыпка, а не цымбалы, — галоўны нацыянальны інструмент беларусаў (ці не адсюль і вобраз скрыпача ў «Музыку»?). Калі Адам Ягоравіч Багдановіч, пераехаўшы ў Ніжні Ноўгарад, парадніўся з сям’ёй Пешкавых (Максіма Горкага), пазнаёміўся з іншымі сем’ямі мясцовых культурных работнікаў, то часам на музычныя хатнія канцэрты браў і сваіх дзяцей. Трыа П. Чайкоўскага «Памяці вялікага артыста» для фартэпіяна, скрыпкі і віяланчэлі Максім упершыню пачуў на вечары ў доме дырэктара Ніжагародскай мужчынскай гімназіі С. Шчарбакова. Магчыма, матыў гэтага музычнага твора пазней вызначыў сэнсава-эмацыйную сутнасць яго верша «С. Е. Палуяну», балады «Страцім-лебедзь». Верагодна, што ў доме Максіма Горкага слухаў Багдановіч і Ф. Шаляпіна…

Чалавек такога густу і музычнага кругагляду, як Максім Багдановіч, зусім заканамерна падключыўся да музыказнаўчай дзейнасці. Талент яго не змяшчаўся ў межах толькі літаратурнай ці літаратуразнаўчай творчасці, тым больш што музыка вельмі цесна звязана з літаратурай, асабліва — з паэзіяй.

Яшчэ ў 1909 г. Багдановіч апублікаваў у яраслаўскай газеце «Голос» эсэ «После концерта Яна Кубелика», у якім у жывой, нязмушанай форме расказаў пра ўражанне ад выступлення вядомага чэшскага скрыпача [1, т. 2, с. 145–147]. Праз пяць гадоў у тым самым выданні надрукаваў невялікую рэцэнзію на «Музыкальный словарь» Ю. Энгеля, знанага ў свой час рускага

музычнага крытыка, кампазітара і перакладчыка [1, т. 2, с. 374]. Нават па тых некалькіх заўвагах, якія робіць аўтар рэцэнзіі, відаць яго музычная эрудыцыя. Так, Багдановіч папракае Ю. Энгеля («*едва ли не лучший из современных русских критиков*»), што ў музычным слоўніку памер артыкулаў, у якіх расказваецца пра асобных кампазітараў, не ўзгоднены з іх рэальным укладам у развіццё музычнага мастацтва: «*Балакиреву уделено места значительно менее, чем Даргомыжсскому; заметка о Вагнере в два раза превышает заметку о Бетховене и т. п.*». Ю. Энгель не сказаў пра некаторых кампазітараў («*Из младших «кучкистов» есть Щербачев, но нет Ладыженского*»), не назваў іх некаторыя лепшыя творы («*среди произведений Балакирева не упомянуты его симфонии*») і г. д. Несумненна, каб зрабіць такія слушныя закіды аўтару слоўніка, трэба было добра ведаць гісторыю музыкі, арыентавацца ў музычных школах, напрамках, быць добра знаёмым з творчасцю канкрэтных кампазітараў. Усімі гэтымі ведамі Багдановіч, як бачым, валодаў.

Гэта яшчэ раз засведчыў і яго водгук на першыя шэсць нумароў новага рускага часопіса «Музыкальный современник», што пачаў выдавацца ў Петраградзе ў 1915 г. пад рэдакцыяй музыказнаўца А. М. Рымскага-Корсакава (старэйшага сына славутага кампазітара Мікалая Рымскага-Корсакава) і пры самым блізкім удзеле Ю. Вейсберга, В. Каратыгіна, А. Асоўскага, П. Суўчынскага, Ю. Энгеля і інш. [1, т. 2, с. 400–401]. Папракнуўшы (адначасова і апраўдаўшы) рэдакцыю выдання за жаданне захаваць «*полную внепартийность журнала*» («*Твердо выдержать этот принцип — задача нелегкая ввиду кипящей у нас борьбы различных музыкальных течений*»), Багдановіч даў кароткую характарыстыку асноўным матэрыялам гэтага «*крупнейшего органа музыкальной культуры в России*». У прыватнасці, ён вітаў з'яўленне здвоенага нумара (№ 4–5), прысвечанага Аляксандру Скрабіну. Гэта падтрымка была вельмі дарэчы часопісу, бо ў той час многія музычныя дзеячы не разумелі і не прымалі наватарскую творчасць вялікага рускага кампазітара. Трапныя, дакладныя заўвагі Багдановіча неабвержна сведчаць, што ў яго асобе перадрэвалюцыйная Расія займела выдатнага музычнага крытыка, а тагачасная Беларусь — пачынальніка нацыянальнага музыказнаўства.

Тэмы «Багдановіч і музыка», «Багдановіч — музыказнавец» яшчэ як след не распрацаваныя. Па сутнасці, можна назваць хіба што публікацыі С. Нісневіч [12] і І. Нісневіча [10; 11], у якіх закранаюцца асобныя аспекты гэтых тэм. Праблема ж сапраўды важная…

Спынімся на яшчэ адной музыказнаўчай працы Багдановіча — яго артыкуле «Об интересном мнении г. Глебова» [1, т. 2, с. 377–379]. Справа ў тым, што гэта, бадай, найважнейшая музыказнаўчая публікацыя нашага пісьменніка, якая зрабіла б гонар любому даследчыку музычнай творчасці. М. Багдановіч у ёй уступіў у спрэчку з самім Барысам Уладзіміравічам Асаф’евым (1884–1949; Ігар Глебаў — яго псеўданім), класікам рускага музыказнаўства, акадэмікам, народным артыстам СССР, пладавітым кампазітарам (ён аўтар 28 балетаў, 11 опер, 4 сімфоній і інш.). Зразумела, тады, да рэвалюцыі, гучных тытулаў Асаф’еў яшчэ не меў, але ўжо лічыўся прызнаным спецыялістам у галіне гісторыі і тэорыі музыкі. І вось нікому не вядомы аматар музыкі адважыўся не пагадзіцца з самім мэтрам, запярэчыць яму…

І. Нісневіч пісаў пра гэты артыкул Багдановіча [10; 11]. Ёсць, аднак, два моманты, якія змушаюць зноў звярнуцца да яго. Па-першае, у маскоўскім Музеі музычнай культуры імя М. І. Глінкі мне пашчасціла адшукаць невядомыя матэрыялы (лісты Б. Асаф’ева), звязаныя з публікацыяй артыкула Багдановіча ў штотыднёвіку «Музыка». Па-другое, І. Нісневіч, аказваецца, нават не трымаў у руках сам часопіс (сёння, безумоўна, друкарскі рарытэт), яго развагі засноўваюцца толькі на публікацыі артыкула ў кніжным зборы твораў Багдановіча. Так, кажучы, што ў кнізе «Максім Багдановіч» Алег Лойка «памыляецца, калі піша, што М. Багдановіч палемізаваў з нейкім невядомым Глебавым», І. Нісневіч тут жа сам некампетэнтна сцвярджае, быццам бы Асаф’еў «у час дыскусіі працаваў у часопісе «Музыка» [11, с. 57, заўв.]. На самай справе, Асаф’еў працаваў тады канцэртмайстрам балета Марыінскага тэатра ў Петраградзе, а ў маскоўскі часопіс «Музыка» дасылаў свае нататкі пра петраградскае музычнае жыццё. Нават той артыкул, з асобнымі палажэннямі якога не згадзіўся Багдановіч, называўся «Петроградские куранты» [4]. Калі б І. Нісневіч трымаў у руках часопіс, ён бы ўсё гэта лёгка ўбачыў…

Відавочна, Багдановіч уважліва чытаў штотыднёвік «Музыка», які выдаваўся ў 1910–1916 гг. пад рэдакцыяй музычнага крытыка Уладзіміра Дзержаноўскага. Тут ён мог пазнаёміцца з рэцэнзіямі на асобныя музычныя канцэрты, спектаклі, з водгукамі на некаторыя музыказнаўчыя выданні, з лістамі М. Рымскага-Корсакава, М. Балакірава, Анатоля Лядава, грунтоўнымі музыказнаўчымі артыкуламі і інш. Неаднойчы на старонках часопіса сустракаліся і публікацыі Асаф'ева, падпісаныя псеўданімам «Ігар Глебаў». Звычайна цікава і глыбока напісаныя, багатыя на факты, доказныя, яны прыцягвалі ўвагу чытачоў. Большасць з іх, несумненна, не пакідала абыякавым і Багдановіча. Але што ж выклікала яго пярэчанне ў «Петроградских курантах»?

Б. Асаф'еў расказваў у сваім артыкуле пра выкананне «неувядаемой, вечно юной «Ночи на Лысой горе» Мусаргскага аркестрам Імператарскага Рускага музычнага таварыства (дырыжор Малько) і вырашыў папутна аспрэчыць «странное заблуждение»: «Как мог Мусоргский окрестить себя реалистом, даже каким-то натуралистом, и как другие люди могли поддержать его заблуждение и поверить этой кличке до сегодня?». Крытык безапеляцыйна заявіў: «Мусоргский — великий романтик. Не быт, не жизненную сутолку, не слова воплощает он в звуках, а творит из элементов жизни новые, интенсивные, «искусственные», вернее «искусные», переживания, причем таковые представляются нам и красивее, и напряженнее, чем те ощущения, что мы берем прямо их жизни» [5, с. 633].

М. Багдановіч, як вядома, увабраў у сябе традыцыі рускай і беларускай рэалістычнай літаратуры, па-наватарску развіваў іх. Разам з тым яму не былі чужыя і рамантычныя тэндэнцыі, што так выразна выявіліся ў «Вянку». Ды і ўвогуле, на думку паэта, рамантычныя элементы прысутнічаюць нават у найбольш тыповых рэалістаў. Тут жа, у артыкуле Асаф'ева, гаворка ішла не пра асобныя элементы, а пра сутнасць і прынцыпы ўсёй творчасці Мусаргскага, пра яго асноўны творчы метад, г. зн. пра асноватворнае, галоўнае ў музычнай дзейнасці геніяльнага кампазітара, пра тое, чым ён жыў, да чаго імкнуўся, у чым аказаўся наватарам, апярэдзіў свой час. І таму «рэаліст ці рамантык» у дачыненні да Мусаргскага набывала прынцыповае значэнне.

М. Багдановіч у выказваннях Асаф'ева ўбачыў перш за ўсё шэраг лагічных недакладнасцей. Вось дзе прыдадася паэту

навуковая дысцыпліна логіка, што вывучалася ім у юрыдычным ліцэі! З аднаго боку, рускі музыказнавец піша, што «*по своему содержанию, по темам, по формам, по достижениям, по идеалам творчество его (Мусоргского) — романтично*». З другога боку, ён указвае на прапаганду кампазітарам «*тенденциозного натуралистического народнического искусства*». Выходзіць, Мусаргскі — гэта мастак-рамантык, які прапаведуе натуралістычнае мастацтва. Нелагічна! Далей, Асаф'еў сцвярджае, што Мусаргскі «*творит из элементов жизни новые, интенсивные... переживания*» і гэтым даказвае рамантычны характар яго творчасці. Але ж, слушна кажа Багдановіч, усё гэта характарызуе «*не художника-романтика, а вообще всякого истинного художника, к какой бы школе он ни принадлежал и в какой бы области искусства он ни работал... иначе он — не художник*» [1, т. 2, с. 377].

Магутная логіка Багдановіча відаць на працягу ўсяго артыкула. Вось ён вылучае першую слушную пасылку: тэксты, на якія пісаў музыку Мусаргскі, «*бесспорно, относятся к активу реалистической литературы*». Сапраўды, хто будзе сумнявацца ў рэалістычнасці вобразаў і сюжэтаў «Барыса Гадунова», «Хаваншчыны», у якіх створаны жывыя тыпы людзей з народа, малюнкі жабрачай парэформеннай расійскай вёскі? У другой пасылцы ўказваецца на «*общественное стремление Мусоргского дать полное слияние между словом и музыкой*», на тое, што «*между ними есть тысячи связующих скреп*». І тут Багдановіч мае рацыю, бо, як вядома, галоўным прынцыпам кампазітара было *«стварыць жывога чалавека ў жывой музыцы»*. А для гэтага ён шырока карыстаўся інтанацыяй жывога чалавечага голасу, сінтэзам песеннасці і рэчытатыўнасці (ад звычайнай гаворкі, простага маўлення і да напеўнай меладычнай дэкламацыі). Але калі аснова музычнага твора — тэкст — рэалістычны і калі музыка адпавядае тэксту, то з гэтага вынікае яшчэ адна лагічная выснова: у такім разе і музычны твор, і саму ўсю музычную творчасць кампазітара трэба назваць рэалістычнымі. Калі ж прызнаць, што музыка не адпавядае тэксту, дык пра М. Мусаргскага не варта было б гаварыць увогуле як пра мастака. Аднак «*поскольку Мусоргский истинный художник — он реалист, т. е., короче говоря, Мусоргский — реалист*» [1, т. 2, с. 379].

На памяць зноў прыходзіць прыпавесць «Музыка». Ці не адна сістэма доказу каштоўнасцей сапраўды высокага рэалізму скарыстана і там і тут, толькі там, у «Музыку», — мастацкага доказу, тут — лагічнага? «*Добра граеце, ды ўсё не тое!*» — казаў народ сваім крыўдзіцелям. Значыць, мала проста **добра** іграць, трэба яшчэ **тое** іграць. У музыкі ж само «*гора грала на скрыпачцы, гэта яно вадзіла смыком па струнах*». Таму і атрымліваўся такі эфект. Эфект Мусаргскага!

Лагічна, пераканальна, доказна аспрэчваў Багдановіч меркаванне Асаф'ева, што Мусаргскі — рамантык, а не рэаліст. Відаць, назіранні і высновы Багдановіча калі не цалкам, то ў асноўным пераканалі рэдактара часопіса «Музыка» У. Дзержаноўскага, і ён вырашыў надрукаваць артыкул да таго нікому не вядомага музыказнаўца. Але як зрабіць, каб не пакрыўдзіць і знакамітага музычнага дзеяча, пастаяннага аўтара часопіса? І Дзержаноўскі пасылае ў Петраград да Асаф'ева рукапіс Багдановіча, просячы азнаёміцца з ім і выказаць пра яго сваю думку.

Б. Асаф'еў не прымусіў сябе доўга чакаць. Яго, несумненна, закранула за жывое: як мог нейкі паспаліты чытач часопіса не пагадзіцца з ім? Разам з тым Асаф'еў адчуваў, што логіка была на баку чытача, але прызнацца ў гэтым не хацелася. І вось ён піша новы артыкул, у якім імкнецца даказаць тое, што ўвогуле немагчыма даказаць: Мусаргскі — рамантык. Аднак і тут сістэма яго доказаў не вытрымлівае крытыкі. Так, каб пацвердзіць, што Мусаргскі не рэаліст, ён нагадвае, што свой артыкул ён напісаў для часопіса «Музыка», які «чужд и враждебен реализму, тем более всякому натурализму и передвижничеству». Больш таго, гаворачы пра творчы метад кампазітара, кажа, што ён, як аўтар, «оставался преимущественно в сфере исключительного звука». Але ж ці можна адрываць гук, мелодыю ад слова, сэнсу? «Сила и правдивость выражения (г. Богданович, видимо, не признает таких свойств у романтиков!) — вот что нас пленяет и действует на наши чувства, а не история (хотя бы и в звуках выраженная) царя Бориса»… Як гэта далёка ад музычнай канцэпцыі самога Мусаргскага, які перш за ўсё ў «гісторыі цара Барыса» шукаў тое, што магло зацікавіць слухача оперы, а потым, адпаведна гэтай гісторыі, ствараў сваю музычную драматургію!

Ці такі «доказ». М. Мусаргскі як кампазітар падабаўся М. Рымскаму-Корсакаву, а няўжо той «адепт реализма»? Адказ

напрошваўся сам сабою: не! Значыць, і Мусаргскі не рэаліст, бо не мог жа рамантыку падабацца рэаліст… Што да класіка рускага музыказнаўства Уладзіміра Стасава, які «яростно проповедовал передвижничество», то ў Мусаргскага, на думку Асаф’ева, яму падабаўся не рэалізм сам па сабе, а толькі высокая прафесійнасць, мастацкасць. Увогуле, Асаф’еў вельмі своеасабліва разумеў рамантызм як творчы метад. «В сердце каждого человека есть то вечное, что содержится в понятии «романтизма», — пісаў ён. Але ці не змешваецца тут рамантызм з рамантыкай (як у іншым выпадку рэалізм з натуралізмам)?..

Трэба сказаць, што выказванне Асаф’ева пра допіс Багдановіча ў асобных месцах некарэктны, музычны крытык глядзіць на свайго апанента звысоку, нават пагардліва. Такі, па сутнасці, і ліст Асаф’ева да Дзержаноўскага, адпраўлены з Пецярбурга ў Маскву 30 студзеня 1915 г. разам з артыкуламадказам. Вось што пісаў Асаф’еў у сваім лісце:

«Дорогой Владимир Владимирович! Если Вам не жалко номера «Музыки», то поместите в одном номере и письмо того г-на Богдановича и мой ответ. Письмо его, откровенно говоря, глупое. Ему бы читать «Музыку и Пение», а не «Музыку». Отвечаю же я не ради письма, а ради самого вопроса. Мне уже приходилось слышать здесь, да и найдутся по всей Руси, всякие смешные выражения, большей частью в таком же роде. Я уже мечтаю о статье «Мусоргский в новом освещении», но это надо делать на свободе, а пока в этом своем ответе я для себя, для памяти, **эскизно** наметил то, о чем скажу со временем, если буду жив и здоров, подробно и цельно. Так вот, если не жалко места, поместите рядом, если жалко — не помещайте ни письма, ни ответа. Кроме того: надо ли обращение в начале к редактору? или к оппоненту? или же без обращения, а под заголовком: «Необоснованнось мнения или неосмотрительность возражения?» (письмо по поводу взглядов г-на Богдановича на мое суждение о сущности творчества Мусоргского). Но если будете печатать, то желательно послесловие или предисловие г-на редактора тоже на тему о смысле идей или о направлении «Музыки» или о том, что мешает глядеть в корень, а не цепляться за тонкие ветки и т. д. Мне кажется, надо дать острастку. Но в конце концов полагаюсь на Ваше желание, волю и опытность. Если печатать не будете,

пришлите обратно. Это для меня как бы конспект…» [8; Ф. 3, адз. зах. 2, інв. № 86/3, арк. 1–2].

Як бачым, Асаф'еў не ўпэўнены, ці надрукуецца ў часопісе яго артыкул, і просіць сабе ў падмогу «предисловие или послесловие г-на редактора». Тут ужо яўна праглядвае яго няўпэўненасць у сваёй пазіцыі. Яна не зменшылася, а, наадварот, павялічылася, калі яшчэ раз ён перачытаў рукапіс свайго артыкула. Гэта відаць з пастскрыптума ліста да Дзержаноўскага:

«**P. S.** Знаете, хорошо бы так: в одном номере письмо и Вашу бы заметочку, а в другом мою статью. Я сейчас перечитал и нахожу, что недурно вышло. То, что написано о Стасове, — из моих личных бесед с ним и знакомства. Стасов был интереснее, чем о нем теперь думают. Помню, я сам был поражен его мнением о Лядове. Он его обожал. У того и другого были какие-то очень нежные точки соприкосновения в глубине души. Стасов устыдился бы их оглашать в печати из-за своего апостольства, даже при встречах с Лядовым спорил с ним, но все-таки эти точки были. Играло ли здесь роль то, что Стасов в детстве и юности не мог быть под влиянием романтизма, но узости Писарева или толстовских идей об искусстве в нем не было. Ваш **Б. А.**» [8; Ф. 3, адз. зах. 2, інв. № 86/3, арк. 6].

Аднак усё ж і далей нешта трывожыла Асаф'ева. І ён тут жа — толькі ўжо нейкім іншым почыркам, спешна, вялікімі літарамі — дапісвае: «Ввиду обширного размера моей болтовни о Мусоргском (перечитал в 3-ий раз) печатайте ее только в том случае, если это имеет ценность статьи вообще и если найдете интересным». Яскравая самаатэстацыя і самаацэнка!

Назаўтра, 31 студзеня 1915 г., Асаф'еў піша Дзержаноўскаму ў Маскву паштоўку, у якой гаворка ідзе пра тое самае:

«Дорогой Владимир Владимирович! Завтра к Вам едет обратно письмо г. Богдановича (так, кажется) и мое возражение. Представьте, мне захотелось обширно ответить, но не потому, что умно письмо этого господина, а самый вопрос интересен. Я знаю, что есть много людей, поумнее Богдановича, но рассуждающих почти как он. Что за «реалистическую» музыку он вообразил? И он не отличает впечатление от музыки, ее философское значение от простого восприятия? Отвлеченного от фактического? и т. д. Ну, Бог с ним. Мое возражение, если не пригодится, сохраните или пришлите: мне годится для будущего.

А все-таки я провозился целый день с этой историей и очень рад. Хорошо, что Вы мне прислали, — полезно так поработать»… [8; Ф. 3, адз. зах. 2, інв. № 87/3, арк. 1].

Нумар часопіса «Музыка» за 21 лютага 1915 г. (№ 211) пачынаўся новым артыкулам Барыса Асаф'ева, які называўся зусім не так, як прапаноўваў яго аўтар: «О романтической сущности творчества Мусоргского, попутно вообще о романтизме, все — в пределах полемического ответа эпигону «передвижничества» [5]*. Назву артыкулу даў, відавочна, рэдактар часопіса. Далей друкаваўся палемічны артыкул Максіма Багдановіча «*Об интересном мнении г. Глебова*», аўтарства якога (зноў жа, несумненна, па волі таго ж рэдактара) было зашыфравана крыптанімам «**М. Б-ч**» [2]. Рэдакцыйнай ці рэдактарскай нататкі не было. Чытачы самі павінны былі супаставіць два матэрыялы, два меркаванні, вырашыць, хто з аўтараў мае большую рацыю…

Спрэчку паміж Багдановічам і Асаф'евым вырашыла сама гісторыя. Як сцвярджае рускі даследчык музычных сувязей СССР С. Гінзбург, «Багдановіч падкрэсліваў зварот Мусаргскага да тэкстаў з «актыву рэалістычнай літаратуры» і іх праўдзівую музычную інтэрпрэтацыю, што робіць Мусаргскага, па яго перакананні, несумненна рэалістам. І хаця Асаф'еў, даючы адказ «эпигону передвижничества» (як ён называў Багдановіча), адстойваў свой пункт погляду, гістарычная праўда была не на яго баку, і ён затым вымушаны быў карэнным чынам перагледзець ранейшую ацэнку Мусаргскага» [3, с. 146]. Праўда, пераацэнка ўласных поглядаў Асаф'еву давалася нялёгка. Так, яшчэ ў 1922 г. ён упарта настойваў: «Великое значение «Бориса Годунова» и «Хованщины» заключается не в том, что это реалистические народные драмы…» [6, с. 271]. Аднак ужо праз шэсць гадоў ён прызнаў: «…Опера «Борис Годунов» становится действительно единственной по своему своеобразию и мощности выражения народной музыкальной драмой» [7, с. 18]. На гэтым спрэчка, якая пачалася на старонках «Музыкі» яшчэ ў 1915 г., па сутнасці,

* На гэту публікацыю Б. Асаф'ева ніхто з беларускіх даследчыкаў творчасці М. Багдановіча не спасылаўся. Не бачыў яе, відавочна, і І. Нісневіч.

скончылася. Праўда, апанента Асаф'ева, на жаль, ужо не было ў жывых цэлае дзесяцігоддзе…

І ў заключэнне — адна здагадка. Ці не падказала выдатнаму рускаму музычнаму дзеячу Барысу Асаф'еву тая спрэчка з беларусам Максімам Багдановічам вызначэнне музыкі як інтануемага сэнсу, а інтанацыі — як выяўлення думкі ў музыцы? (Словы Багдановіча: «*…мы думаем, что музыка Мусоргского не чужда своему словесному тексту, что между ними есть тысячи связующих скреп, что они, так сказать, духовные близнецы*» [1, т. 2, с. 378]) Гэта ж — стрыжань шырокавядомай сёння тэорыі інтанацыі Барыса Асаф'ева. Тэорыі, што стала ключом «действительно конкретного обоснования искусства как самого реального отражения действительности» [9, с. 236].

## Літаратура


1. Багдановіч, М. Поўны збор твораў : у 3 т. / Максім Багдановіч. — Мінск, 1992–1995. — Т. 1–3.
2. Б-ч, М. Об интересном мнении г. Глебова / М. Б-ч // Музыка. — 1915. — 21 фев. (№ 211). — С. 127–129.
3. Гинзбург, С. Из истории музыкальных связей народов СССР / С. Гинзбург. — Л., 1972.
4. Глебов, И. Петроградские куранты / Игорь Глебов // Музыка. — 1914. — 23 дек. (№ 203). — С. 629–636.
5. Глебов, И. О романтической сущности творчества Мусоргского, попутно вообще о романтизме, все — в пределах полемического ответа эпигону «передвижничества» / Игорь Глебов // Музыка. — 1915. — 21 февраля (№ 211). — С. 121–127.
6. Глебов, И. Симфонические этюды / Игорь Глебов. — Пг., 1922.
7. Глебов, И. К восстановлению «Бориса Годунова» Мусоргского / Игорь Глебов. — М., 1928.
8. Музей музычнай культуры імя М. І. Глінкі (Масква). Архіўны фонд. — Ф. 3. — Адз. зах. 2. — Інв. № 87/3.
9. Музыкальная энциклопедия. — М., 1973. — Т. 1.
10. Нисневич, И. Поэт и музыка / И. Нисневич // Советская Белоруссия. — 1966. — 10 дек. Ён жа: Слово, живущее в песне // Сельская газета. — 1966. — 10 дек. Ён жа: Максім Багдановіч і музыка // Полымя. — 1969. — № 10. — С. 185–196.

11. Нісневіч, І. Паэт і музыка // Музыка нашых дзён / І. Нісневіч. — Мінск, 1969.
12. Нісневіч, С. Удумлівы знаўца музыкі / С. Нісневіч // ЛіМ. — 1957. — 25 мая.

# ТВОРЧАЯ АКЦЫЯ І ЯЕ МАТЫВАЦЫЯ

У адрозненне ад арыгінальнай літаратурна-мастацкай творчасці, найперш паэтычнай, перакладчыцкая творчасць *заўсёды* матывацыйна прадвызначана, абумоўлена пэўнымі мэтавымі ўстаноўкамі. Гэта толькі паэт можа, услед за Аннай Ахматавай, са здзіўленнем усклікнуць: «О, если б знали, из какого сора растут стихи!..». Перакладчык выразна бачыць (зрэшты, у гэтым яму дапамагаюць чытачы і крытыкі), дзе «сор», літаратурнае «смецце», а дзе багаты плён іншанацыянальнай літаратурнай нівы, якім яму патрэбна ўзбагаціць свайго чытача і роднае пісьменства. Зрэшты, і ў арыгінальнай творчасці, як слушна сведчыў Максім Багдановіч, *«поэт всегда обдуманно творит»*, вобразна пацвердзіўшы гэту ісціну:

*Что из того, что стих в душе кипит?*
*Он через холод мысли протекает*
*И тут лишь твердость формы обретает,*
*Как воск, что при гаданьи в воду влит.*

(«Сонет»; 1, с. 342)

Праўда, у арыгінальнай творчасці суадносіны паміж рацыянальным і эмацыянальным, інтуітыўным, некалькі адрозніваюцца. У адных паэтаў гэтак званая творчая «ланцуговая рэакцыя», як у Аляксандра Твардоўскага ці ў той жа Анны Ахматавай, можа пачынацца з «іскры» слова ці слоўнага вобраза, г. зн. з семантычнага кампанента, у іншых, як ва Уладзіміра Маякоўскага, — з нейкага рытмічнага гулу, які толькі затым «пакрываецца словамі». Аднак і ў першым і ў другім выпадку вынікі нават самага гарачага паэтычнага натхнення калі не адразу, то пасля ўсё роўна працякаюць «через холод мысли»: твор праз нейкі час, адляжаўшыся, ацэньваецца «на цвярозы розум». Што ж да арыгінальнай творчасці паэта Максіма Багдановіча, то

ў ёй заўважаецца арганічнае і звычайна адначасовае паяднанне таго і другога, эмацыянальнага і рацыянальнага, думкі і пачуцця. У той жа час дзейнасць Багдановіча-перакладчыка сведчыць пра апераджальную ролю думкі, рацыянальнага пачатку ў ёй. Ва ўсялякім разе — на пачатковым этапе перакладчыцкай творчасці, калі перакладчык «всегда обдуманно творит» (падкрэслім гэтае «всегда»), выбіраючы творы для перакладу. А выбар гэты якраз і прадвызначаўся мэтамі, задачамі перакладу.

Практычнае вырашэнне тых ці іншых перакладчыцкіх мэт звязана з актуалізацыяй пэўных функцый перакладу. Розныя перакладазнаўцы налічваюць розную колькасць гэтых функцый. Так, славак Антон Попавіч гаворыць пра тры: інфармацыйную, грамадска-культурную і літаратурную [6, с. 276]. Украінец Віктар Радчук вызначае чатыры: пазнавальную, эстэтычную, узбагачэнне ўспрымаючай літаратуры, развіццё ўспрымаючай мовы [5, с. 11–12]. На самай справе, такіх функцый можна налічыць значна больш, звыш дзесяці. Апрача *азнаямленчай* («інфармацыйнай», «пазнавальнай» — у тэрміналогіі А. Попавіча і В. Радчука), *эстэтычнай* (стварэнне самадастатковага, эстэтычна паўнацэннага твора), *сацыякультурнай* («грамадска-культурнай» — А. Попавіч), *літаратуратворчай* і *моватворчай* («развіццё ўспрымаючай літаратуры», «развіццё ўспрымаючай мовы» — В. Радчук), вылучаецца яшчэ цэлы шэраг. Сярод іх — *генетычная* (роля перакладу ва ўзнікненні нацыянальнай літаратуры), *ідэйна-палітычная* (прыўнясенне ў свядомасць грамадства праз перакладны твор пэўных палітычных ідэй), *інтэрнацыяналізуючая* (удзел перакладу ва ўзнікненні полікультурнасці нацыі), *культураахоўная* (захаванне, развіццё роднай для перакладчыка культуры і яе сарцавіны — нацыянальнай мовы), *эўрыстычная* (выяўленне своеасаблівага перакладчыцкага таленту літаратара), *пабуджальная* (пераклад нярэдка выклікае імкненне пазнаёміцца з арыгіналам), *ілюстрацыйная* (пераклад урыўкаў з твораў дзеля пацвярджэння пэўных думак) і нават *утылітарная* (пераклад твораў «па знаёмству», дзеля заробку і г. д.) [гл. пра гэта больш падрабязна: 4]. Перакладаючы той ці іншы твор, перакладчык звычайна кіруецца адной галоўнай мэтай: пазнаёміць свайго чытача з раней не вядомым яму творам, наладзіць ці замацаваць міжлітаратурныя і міжкультурныя сувязі, удасканаліць нейкі

стылёвы пласт роднай мовы, аргументаваць сваю думку пра вартасць нейкага замежнага пісьменніка (напрыклад, у крытычным артыкуле) і г. д. Пры гэтым актуалізуецца, аднак, не адна — вядучая — функцыя перакладу, але, як правіла, некалькі іншых. Так, кожны таленавіты і разумны перакладчык (а менавіта такім перакладчыкам быў Максім Багдановіч) не толькі жадае пазнаёміць свайго чытача з невядомым яму выдатным творам іншанацыянальнай літаратуры, але і імкнецца да таго, каб гэты пераклад быў адэкватным, эстэтычна паўнацэнным, каб ён пашырыў ідэйна-мастацкі патэнцыял роднай літаратуры, стылёвыя мажлівасці роднай мовы і г. д. Такі перакладчык, нават калі ён кіруецца найперш нейкай кан'юнктурнай мэтай, актуалізуе пры гэтым і некаторыя іншыя функцыі мастацкага перакладу: азнаямленчую, пабуджальную, нацыяахоўную ці нейкую іншую.

Як вядома, Максім Багдановіч супрацоўнічаў з некаторымі расійскімі перыядычнымі выданнямі (часопісамі «Русский экскурсант», «Жизнь для всех», «Национальные проблемы», газетамі «Голос», «Северная газета» і інш.) і дзеля звычайнага заробку. Найперш дзеля заробку ён па замове кіяўляніна Паўла Багацкага ўклаў і пераклаў на рускую мову і анталогію беларускага апавядання пачатку XX ст., якая, на жаль, своечасова не выйшла ў свет і рукапіс якой, мабыць, страчаны канчаткова. Заробак той мусіў пайсці на выданне «Вянка». Такім чынам, галоўная мэта Багдановіча як перакладчыка была чыста ўтылітарная. Аднак пры гэтым, зразумела, пераклад Багдановіча вырашаў не толькі ўтылітарную, але і некаторыя іншыя функцыі, прынамсі азнаямленчую і нават эстэтычную. Хоць вырашаць іх было (асабліва другую функцыю) даволі складана, бо, як пісаў перакладчык у рэдакцыю «Нашай Нівы» 14 лістапада 1912 г., «пераклады выйшлі не зусім добрыя, бо арыгіналы часта маюць розныя перашкоды ў будоўлі фразы. Звычайна, трошкі абгладжваць я сабе дазваляў, але памятаваў добра, што перакладчык — не рэдактар, асабліва калі перакладае з такой блізкай мовы» [3, с. 251].

Канешне, найперш у імя азнаямлення рускіх чытачоў з творамі некаторых украінскіх паэтаў (Т. Шаўчэнкі, А. Крымскага, І. Франко, У. Самійленкі), а таксама беларуса Янкі Купалы перакладаў Багдановіч іх асобныя вершы на рускую мову. Але ж пры гэтым імкнуўся і да паўнацэннасці перакладаў як эстэтычна самадастатковых твораў, выяўляючы свае творчыя магчымасці як

перакладчыка (эўрыстычная функцыя), садзейнічаючы развіццю ўсходнеславянскіх літаратурных кантактаў (сацыякультурная функцыя). Як, зрэшты, не толькі азнаямленчая функцыя актуалізавалася пры ўкладанні ім зборніка аўтаперакладаў «Зеленя», хоць гэта арыгінальная рукапісная кніжка прызначалася не для шырока карыстання, а толькі для стрыечнай сястры паэта Ганны Іванаўны Гапановіч (Нюты), якая не валодала беларускай мовай і не магла ацаніць паэтычных вартасцей твораў брата. Урэшце, не адны ілюстрацыйныя функцыі выконвалі і шматлікія пераклады на рускую мову ўрыўкаў з празаічных і вершаваных твораў украінскіх і польскіх аўтараў (М. Кацюбінскага, К. Тэтмаера, І. Франко, С. Чарнецкага), якія Багдановіч уключыў у свае ўкраіназнаўчыя працы «Угорская Русь», «Образы Галиции в художественной литературе». Гэтыя ўрыўкі былі нярэдка першай прэзентацыяй твора замежнага аўтара на рускай мове. Выкананыя на высокім перакладчыцкім узроўні, эстэтычна дасканалыя, яны пабуджалі рускіх (і чытачоў, і крытыкаў, і перакладчыкаў) звярнуцца да арыгінала.

Такім чынам, асобныя пераклады Багдановіча напрамую былі звязаны з *азнаямленчымі*, *ілюстрацыйнымі* і нават чыста *ўтылітарнымі* мэтамі (хоць, як мы бачылі, адначасова выконвалі і іншыя функцыі). Аднак аналіз усёй перакладчыцкай дзейнасці Максіма Багдановіча дазваляе вызначыць яе найгалоўную матывацыю. Як вядома, адной з першаступенных задач аўтара «Вянка» з самага пачатку яго творчасці была, па яго словах, наступная: *«прышчапіць да беларускай пісьменнасці здабыткі чужаземнага паэтычнага труда»* [3, с. 244]. Бо, як пісаў Багдановіч у артыкуле «Забыты шлях», *«мы зрабілі б цяжкую памылку, калі б кінулі тую вывучку, што нам давала светавая (найчасцей еўрапейская) паэзія... Было б горш, чым нядбальствам, нічога не ўзяць з таго, што соткі народаў праз тысячы год сабіралі ў скарбніцу светавой культуры»* [2, с. 291]. Пры гэтым свядома вырашалася і другая надзвычай важная задача: *«давесці здатнасць нашай мовы да самых строгіх вымог вяршоўнай формы»* [3, с. 244]. Гэта былі дзве цалкам усвядомленыя мэты не толькі арыгінальнай, але адначасова і перакладчыцкай творчасці Максіма Багдановіча. Зрэшты, яны дыялектычна ўзаемна дапаўнялі адна другую. Адсюль — актуалізацыя найперш такіх функцый мастацкага перакладу, як *літаратуратворчая* і *культурааховўная*.

Значэнне багдановічаўскіх перакладаў найперш у тым, што яны ліквідоўвалі своеасаблівыя белыя плямы на літаратурнай карце беларускай нацыі, дапаўнялі ўвогуле небагаты ў пачатку XX ст. эстэтычны патэнцыял нацыянальнай літаратурна-мастацкай творчасці, пашыралі яе жанрава-стылёвы дыяпазон. Нельга не згадзіцца з Леанідам Казырам, што ў перакладах Максім Багдановіч «бачыў не толькі спосаб далучэння беларускага чытача да літаратур іншых народаў, але перш за ўсё — актыўны каталізатар, які павінен быў пашыраць і ўзбагачаць ідэйна-тэматычныя, вобразныя, сюжэтныя, фармальныя выяўленчыя сродкі і магчымасці роднай літаратуры і мовы» [1, с. 542]. Скажам больш катэгарычна: пераклады свядома былі скіраваны не на чытача, на яго звычайныя будзённыя патрэбы, у тым ліку на далучэнне яго *«да літаратур іншых народаў»,* а ў першую чаргу на беларускую пісьменнасць, каб *«памагчы атрымаць ёй больш еўрапейскі выгляд»* [3, с. 244]. На чытача была скіравана найперш арыгінальная творчасць паэта, эсэіста і літаратуразнаўца Максіма Багдановіча, хоць і тут ён вырашаў дзве вышэй азначаныя задачы праз выкарыстанне розных вышуканых класічных форм верша (санет, трыялет, тэрцыны, рандо і інш.), прынцыпаў вершавання (гекзаметр, пентаметр, верлібр і інш.).

Зрэшты, як маглі далучаць беларускага чытача да іншанацыянальных літаратур беларускамоўныя пераклады Багдановіча, калі з усіх іх толькі некалькі пры жыцці перакладчыка з’явіліся ў друку? Так, з 22 перакладзеных вершаў Поля Верлена толькі 2 былі надрукаваны ў «Нашай Ніве» («...У полі дзікім і апусцелым» і «Млоснасць»). Там жа былі змешчаны верш «…Ў паўночным краю на кургане» Генрыха Гейнэ (з 6 перакладзеных), «Дзве песні» рускага паэта Юрыя Святагора і чатырохрадковая філасафема Фрыдрыха Шылера «…Хочаш сябе ты пазнаць». Яшчэ некалькі перакладзеных вершаў («Грамада зорак «Карона» Авідзія — з лацінскай мовы, «…Кажуць людзі, быццам, творачы мужчыну» Агафангела Крымскага, «…Ўжо зноў не спаткаюцца тыя шляхі» Міколы Чарняўскага, «…Пекла было тут у тую часіну» і «Астры» Алеся — з украінскай мовы) увайшлі ў нізку «Старая спадчына» знакамітага «Вянка». Вось, бадай, і ўсё. Па розных прычынах толькі пасля смерці перакладчыка (у асноўным у «Творах» 1927 г.)

з чарнавых і белавых аўтографаў быў апублікаваны асноўны корпус яго перакладаў з Поля Верлена (20 вершаў) і Генрыха Гейнэ (5 вершаў), «Памятнік» Гарацыя, «Ікар і Дзедал» Авідзія, «Паўстанне» бельгійца Эміля Верхарна, «Санет» («…Я тайну ў глыбіні душы хаваю») француза Алексіса-Фелікса Арвера, «Паво» фіна Ёхана Людвіга Рунеберга, вершы рускіх паэтаў Аляксандра Пушкіна «…Сяджу я ў турме за рашоткай гады» («Узник»), Апалона Майкава «…Золата, золата падае з неба» («Летний дождь») і Міхаіла Розенгейма «…Цяжкая дарога» («…Тяжела дорога»). Немагчыма сёння вызначыць, якія аб’ектыўныя або суб’ектыўныя прычыны не дазволілі гэтым перакладам з’явіцца своечасова ў друку. Магчыма, і сам перакладчык бачыў недасканаласць (найперш моўную) некаторых з іх. Асобныя, што актуалізавалі ідэйна-палітычную функцыю (напрыклад, пераклад «Паўстання» Э. Верхарна, зроблены за тры гады да 1917 г.), відавочна, не маглі трапіць у друк з-за цэнзурных перашкод. І ўсё ж узнікненне абсалютнай большасці беларускамоўных перакладаў, тым больш тых, якія Багдановіч настойліва імкнуўся апублікаваць, было функцыянальна прадвызначана найперш дзвюма мэтамі — літаратуратворчай і культураахоўнай (а ў шырокім сэнсе — нацыяахоўнай).

Так, пераклад урыўкаў з 8-й песні «Метамарфозаў» Авідзія («Ікар і Дзедал», «Грамада зорак «Карона») быў закліканы замацаваць у беларускай паэзіі антычны памер гекзаметра, пацвярджаючы дасканаласць імітацыі гэтага памеру ў арыгінальных элегічных двувершах самога Багдановіча («Непагодаю маёвай» і «Пентаметры»). Своеасаблівым доказам дасканаласці ўласных класічных санетаў аўтара «Вянка» можа служыць і пераклад ім «Санета» А.-Ф. Арвера. А што да ўзнаўлення «Памятніка» Гарацыя, то гэта першы ў беларускай паэзіі і ледзь не адзіны да гэтага часу твор, напісаны асклепіядаўскім вершам. Памерам, які не змаглі адолець у свой час нават такія майстры рускага мастацкага перакладу, як М. Ламаносаў, Г. Дзяржавін, А. Фет і некаторыя іншыя.

Як вядома, Багдановіч як перакладчык найбольшую ўвагу ўдзяліў славутаму французскаму паэту-сімвалісту Полю Верлену. Пераклады з Верлена ён вельмі хацеў уключыць у свой «Вянок», пра што сведчаць яго лісты з Яраслаўля ў рэдакцыю «Нашай Нівы», супрацоўнікі якой (найперш Вацлаў Ластоўскі)

рыхтавалі зборнік да друку. *«Надумаўся я памясціць у зборнічак і пераклады з Верлена… Пераклады да арыгінала блізкія і, калі я магу іх справядліва ацаніць, — добрыя»*, — пісаў Багдановіч у лісце ад 29 ліпеня 1912 г. [3, с. 247]. І тут жа раіў: каб не павялічваць зборнік, выкінуць 20 уласных вершаў, а замест іх уключыць 21 пераклад з Верлена, стварыўшы ў «Вянку» асобны раздзел «З чужой глебы». Прычым ён вызначыў і строгі парадак друкавання кожнага з гэтых перакладаў. Ужо адно гэта сведчыць пра тую значнасць, якая надавалася ім верленаўскім творам. Аднак па нейкай прычыне ні перакладаў з Верлена, ні самой нізкі «З чужой глебы» ў «Вянку» не аказалася. Зусім магчыма, што іх напаткаў лёс першых уласных вершаў паэта, абазваных некаторымі нашаніўцамі «дэкадэншчынай», творамі «не для народа». Тады ў рэдакцыі «Нашай Нівы» з архіўных паліц на свет белы іх выцягнуў Сяргей Палуян, даказаў іх вартасць і пасадзейнічаў публікацыі. Цяпер жа такога Палуяна побач не аказалася, пераклады твораў сімваліста Верлена былі здадзены ў архіў…

Выдаўцы Поўнага збору твораў Максіма Багдановіча ў 3 тамах выканалі аўтарскую волю: у кнігу «Вянок» уключылі, як тое і хацеў паэт, асобны раздзел «З чужой глебы», а ў яго — усе пераклады з Верлена ў прапанаваным перакладчыкам парадку. І сталі надзвычай добра бачны матывы, якімі кіраваўся Багдановіч, не толькі перакладаючы Верлена, але і намагаючыся ўключыць пераклады ў свой першы (і апошні) прыжыццёвы паэтычны зборнік, ахвяруючы пры гэтым сваімі ўласнымі творамі. Пераклады з Верлена павінны былі выконваць найперш тыя ж функцыі, пра якія мы гаварылі раней: літаратуратворчую і культураахоўную. Уводзячы модны ў той час сімвалізм у кантэкст маладой беларускай літаратуры, беларускі паэт не толькі пашыраў яе выяўленчыя межы, паказваў, што *«ў нас кожны кірунак можа мець цэннасць»* [3, с. 249], але і дэманстраваў вялікія магчымасці беларускай мовы, якая не горш за французскую здольная перадаваць самыя тонкія адценні думак і пачуццяў. А тым самым даказвалася самастойнасць і вартасць беларускай мовы (а не «наречия»), права беларусаў называцца не «племенем», а народам. Разам з тым такі тонкі лірык і віртуоз вершавання, як Поль Верлен, мог даць нават у адносна невялікай вершаванай нізцы своеасаблівы майстар-клас па «абробцы»

верша, паэтычнай тэхніцы. А гэта было патрэбна не столькі самому Багдановічу, колькі дзясяткам маладых беларускіх паэтаў-пачаткоўцаў для *«палепшання версіфікатарскай снароўкі»* [1, с. 244], якія, нацыянальна абуджаныя рэвалюцыяй 1905–1907 гг., «ад сахі і касы» масава ішлі ў літаратуру. Максім Багдановіч у вершы «Песняру», звяртаючыся да такога паэта-пачаткоўца, *«брата маладога»*, нагадваў, што *«ў грудзях у людзей сэрцы цвёрдыя, быццам з камення»*, што трэба *«каваць, гартаваць гібкі верш, / Абрабіць яго трэба з цярпеннем»* [1, с. 126]. Цяпер жа з маладымі беларускімі песнярамі гаварыў на іх мове агульнапрызнаны еўрапейскі літаратурны мэтр, ды не мовай заклікаў, а мовай жывых канкрэтных прыкладаў. Эстэтычна паўнацэнны беларускамоўны цыкл твораў Верлена, апрача ўсяго, з'яўляўся, па сутнасці, своеасаблівым вучэбным дапаможнікам па паэтыцы верша, яго рытміцы, строфіцы, гукапісе…

Ужо першы верш гэтага перакладнога цыкла «…Рыцар Няшчасце, што скрозь ездзіць пад маскай маўчком» — яскравы прыклад імітацыі антычнага пентаметра (заўважым у дужках, што ўкладальнікі 1-га тома ПЗТ паэта ў заўвагах да твора памылкова пішуць, што «верш перакладзены асклепіядаўскім вершам». — 1, с. 614). Пентаметр у антычнасці звычайна ўжываўся разам з гекзаметрам, утвараючы элегічны двуверш. А тут — надзвычай рэдкі «чысты» пентаметр… З дапамогай Верлена Багдановіч дэманстраваў і магчымасці александрыйскага верша («…Гул вулічных шынкоў; панельны бруд; каштаны», «…Трэск дроў; газніцы блеск няяркі; за сталом», «…Ноч. Дождж. Нябёс імгла. Абрысам цёмным рэжа»). Прысутнічае і такі рэдкі від сілабатанічнага верша, як лагаэд («…Як раньш, пяе» — Я22Х2Я22Х2, «Плач сэрца майго» — Ам2Ан222). Сярод разнастайных вершаваных памераў (Х2, Х3, Х4; Я2, Я3, Я4, Я5, Я6; Д2, Д4; Ам2; Ан2, Ан4) вылучаюцца творы з цэзураваным усячэннем («…Ціхі і сіні блішча над хатай» — Д4Цу1Д2Д4Цу1Д2) і цэзураваным нарашчэннем («…У полі дзікім і апусцелым» — Я4Цн1Я4Цн1). Сярод строфаў сустракаюцца двухрадкоўі, трохрадкоўі, чатырохрадкоўі (найчасцей) і шасціраткоўі з мужчынскімі і жаночымі рыфмамі, звязаныя парнай, перакрыжаванай і апаясной рыфмоўкай. Ёсць і цвёрдыя формы верша: санеты («Шынок», «Млоснасць») і тэрцына («Ракаўкі»). Паэты-сімвалісты асабліва ўпадабалі музычнасць верша. Сваім гукапісам, музыкай асанансаў і алітэрацый вылучаюцца і вершы Верлена. Гэтую ўласцівасць яны маюць і

ў багдановічаўскіх перакладах («…Раяль цалуе тонкая рука», «Асенняя песня» і інш.). З сінтаксічных кампанентаў, залучаных для выяўлення самых тонкіх зрухаў пачуцця, заўважаюцца розныя паўторы, у тым ліку таўталагічныя, бяззлучнікавасць, рэфрэн, міжрадковы перанос, розныя рытарычныя фігуры і інш. Такім чынам, перад намі, сапраўды, наглядны курс паэтыкі верша ў яе практычным увасабленні. *«Я шчыра жадаў бы, каб гэтыя вершы мелі дзе-якой культурны ўплыў на нашых песняроў»*, — пісаў Максім Багдановіч, маючы на ўвазе некаторыя ўласныя творы. Гэта ён мог бы з поўным правам сказаць і адносна сваіх перакладаў вершаў Верлена. Бо менавіта такімі ж клопатамі быў праняты, узнаўляючы па-беларуску французскія арыгіналы, а пасля стараючыся іх апублікаваць у «Вянку».

Такім чынам, Максім Багдановіч як перакладчык актуалізаваў самыя розныя мэты перакладу: эстэтычную, азнаямленчую, сацыякультурную, пабуджальную, ілюстрацыйную, нават утылітарную і некаторыя іншыя. Аднак самыя галоўныя для яго былі — літаратуратворчая і культураахоўная. Тым самым яго перакладчыцкая творчасць дапаўняла і ўзбагачала творчасць арыгінальную, што выконвала найперш тыя самыя мэты.

## Літаратура

1. Багдановіч, М. Поўны збор твораў : у 3 т. / Максім Багдановіч. — Мінск, 1992. — Т. 1 : Вершы, паэмы, пераклады, наследаванні, чарнавыя накіды.
2. Багдановіч, М. Поўны збор твораў : у 3 т. / Максім Багдановіч. — Мінск, 1993. — Т. 2 : Маст. проза, пераклады, літаратурныя артыкулы, рэцэнзіі і нататкі, чарнавыя накіды.
3. Багдановіч, М. Поўны збор твораў : у 3 т. / Максім Багдановіч. — Мінск, 1995. — Т. 3 : Публіцыстыка, лісты, летапіс жыцця і творчасці.
4. Рагойша, В. П. Функции художественного перевода // Проблемы перевода с близкородственных языков / В. П. Рагойша. — Минск, 1980. — С. 17–32.
5. Радчук, В. Д. Проблемы верности художественного перевода : автореф. дис. … канд. филол. наук / В. Д. Радчук. — Киев, 1980.
6. Popovič, A. Teória umeleckého przekladu / A. Popovič. — Bratislava, 1975.

# СУСТРЭЧА ЎКРАІНЦАЎ З БЕЛАРУСКІМ ІКАРАМ
## Пра Рамана Лубкіўскага, які арганізаваў гэту сустрэчу

Калі гаварыць пра сучасныя міжславянскія літаратурныя сувязі, то тут «сувязістаў» увогуле нямала. Праўда, адны з іх выпадкова падключаліся да такога занятку, займаліся ім часова. Другія ўсё жыццё падтрымліваюць сувязь, але арыентуюцца толькі на адзін яе «канал»: прапагандуюць адну літаратуру або творчасць аднаго нейкага пісьменніка. А вось трэція… Трэція, так званыя поліфункцыянальныя сувязісты, хочуць і — галоўнае — могуць падключаць да роднай культуры лепшыя дасягненні многіх славянскіх пісьменнікаў і літаратур у цэлым. Зразумела, нават у нашым шматмільённым славянскім свеце такіх працаўнікоў налічваецца літаральна адзінкі. З беларусаў ім быў, у прыватнасці, Максім Багдановіч, які зацікаўлена і метадычна знаёміў сваіх чытачоў з літаратурай, культурай, гісторыяй беларусаў, рускіх, украінцаў, палякаў, чэхаў, сербаў, балгар… Што да сучаснай Украіны, то ім, несумненна, з'яўляецца вядомы пісьменнік і грамадскі дзеяч Раман Мар'янавіч Лубкіўскі.

Нагадаем некалькі біяграфічных звестак, паколькі яны паказваюць на асноўныя вытокі гэтай дзейнасці. Нарадзіўся Раман Лубкіўскі 5 жніўня 1941 г. у сяле Астрывец Тэрабаўлянскага раёна на Тарнопальшчыне ў бікультурнай сям'і: маці — украінка, бацька — паляк. Як падкрэсліў адзін з буйнейшых сучасных украінскіх пісьменнікаў, Герой Украіны Дмытро Паўлычка, улюбёнасць Лубкіўскага ў славянскі свет «ідзе з глыбіні сэрца, з народжанай еднасці ўкраінскай і польскай крыві, якая віруе ў ім. Менавіта гэта еднасць у яго сэрцы узмацняе ўкраінскі патрыятызм, завастрае пачуццё справядлівасці, праз якое незаконна прыніжаная і патаптаная чужынцамі і «сваімі» пігмеямі Украіна і ўкраінская мова становяцца ідэаламі ягонага жыцця, творчасці, няспыннай грамадскай і палітычнай дзейнасці» [6, с. 508]. «Кроўнае» веданне матчынай (украінскай) і бацькавай (польскай) моў і культур Раман Лубкіўскі значна паглыбіў і пашырыў за тыя пяць год, калі ён вучыўся на славянскім аддзяленні філфака Львоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя

Івана Франко. Паступова ўдасканальваліся і рэалізаваліся гэтыя веды падчас яго працы наменнікам рэдактара львоўскага літаратурна-мастацкага часопіса «Жовтень» (вёў там, у прыватнасці, раздзел перакладаў «Славянскія рэкі»), старшынёй Львоўскай арганізацыі Саюза пісьменнікаў Украіны і грамадска-культурнага аб’яднання «Просвіта», кіраўніком Львоўскага абласнога ўпраўлення культуры, дэпутатам Вярхоўнай Рады Украіны, Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Украіны ў Чэхіі і Славакіі…

Пісьменніцкі набытак Лубкіўскага вызначаецца найперш, зразумела, уласнымі творчымі дасягненнямі. Сёння ён — адзін з самых вядомых украінскіх літаратараў, аўтар звыш двух дзясяткаў арыгінальных паэтычных кніг, паэт са сваім адметным голасам. Асобныя зборнікі яго вершаў выходзілі ў розных краінах, у тым ліку і ў Беларусі [5]. Але сёння гаворка не пра гэта. Ідучы следам за сваім вялікімі настаўнікамі Іванам Франко і Максімам Рыльскім, працуючы поруч і падзараджаючыся энергіяй актыўнейшага міжкультурнага «сувязіста» Дмытра Паўлычкі, наследуючы іх энцыклапедызм, шчыры патрыятызм і шырокі ўніверсалізм, паэт, перакладчык, славяназнавец Лубкіўскі *«паказвае датычнасць украінцаў і іхняй працы ў фарміраванні цывілізацыі славянскай Еўропы, ці, калі хочаце, еўрапейскай Славяншчыны»* [6, с. 512]. Яго перакладчыцкае сціло ажывіла ў стыхіі ўкраінскага вобразнага слова *сотні* твораў *дзясяткаў* паэтаў літаральна *ўсіх* сучасных славянскіх народаў. Да гэтага, яго пяру належаць глыбокія артыкулы-даследаванні пра расіяніна Аляксандра Пушкіна («Крыштальная крыніца натхнення») і славака Павала Орсага (Гвездаслава) («Зара Гвездаслава»), балгарына Хрыста Боцева («Свабоды палымяны геній») і чэха Іржы Волькера («Сэрца Волькера»), сербку Дэсанку Максімавіч («Валадарка паэзіі — Дэсанка») і паляка Марэка Ваўжкевіча («Адчуванне мяжы… Але не апошняй!»), пра беларусаў Цётку (Алаізу Пашкевіч) («На струнах буры»), Максіма Багдановіча («Святло чыстае, незмяркальнае»), Янку Купалу («Гэта жывое і вечнае слова»)… Названыя (як і іншыя) артыкулы друкаваліся ва ўкраінскай перыёдыцы, уваходзілі ў якасці прадмоў да ўкладзеных і перакладзеных Лубкіўскім асобных зборнікаў вершаў Дэсанкі Максімавіч, Лаца Навамескага, Францэ Прэшэрна, Марэка Ваўжкевіча, Цёткі, Максіма

Багдановіча, склалі (разам з іншымі публікацыямі) кнігу яго літаратурна-крытычных нарысаў «Многосвіточ» [4]. Аднак, бадай, самае адметнае, чым вызначыўся Лубкіўскі як славяналюб і славяназнаўца, — і не толькі ва Украіне, але і ва ўсім славянскім свеце, — гэта стварэнне дзвюх унікальных анталогій: «Слов'янське небо» [8] і «Слов'янська ліра» [7].

На тытуле «Славянскага неба», што выйшла ў Львове яшчэ ў 1972 г., — даволі вымоўны падзагаловак: «Вершы рускіх, беларускіх, польскіх, чэшскіх, славацкіх, серба-лужыцкіх, югаслаўскіх, балгарскіх паэтаў у перакладзе Рамана Лубкіўскага». Такім чынам, гэта неардынарнае выданне працягнула справу (толькі, зразумела, на больш высокім, сучасным узроўні), пачатую сто гадоў перад тым хрэстаматыяй рускага перакладчыка і бібліёграфа М. В. Гербеля «Поэзия славян» (СПб., 1871). Канешне, за стагоддзе ўсе славянскія літаратуры выраслі колькасна і якасна, і цяпер нават самая аб'ёмістая анталогія не здолее ўмясціць у сябе адны толькі выдатныя творы славянскага прыгожага пісьменства. І ўсё ж ідэя звесці ўсе славянскія паэтычныя рэкі ў адно літаратурнае мора, змясціць асобныя творы славянскай паэзіі ў адной мікраанталогіі аказалася надзвычай плённай і арыгінальнай. Ва ўсялякім разе, падобнага выдання ў пасляваенны час ні ў адной іншай славянскай краіне, апрача Украіны, не з'явілася.

У кнізе змешчаны кароткія нататкі перакладчыка пра ўсіх славянскіх паэтаў, прадстаўленых у ёй. У невялікай прадмове «Ад перакладчыка» Лубкіўскі прызнаваўся: «З найбагацейшага гучання паэзіі славянскага свету выбіраліся, як на мой погляд, важныя, хоць далёка не ўсе тоны. Тыранаборчы дух класічнай рускай паэзіі, яе вечнае, рэвалюцыянізуючае абнаўленне, задушэўнасць паэзіі беларускай, шчырая чалавечнасць паэзіі чэшскай, славацкай, традыцыйнасць і разам з тым незаспакоенасць польскай, пачуццёвасць серба-лужыцкай, парывістасць і шматфарбнасць балгарскай, разнастайнасць паэзіі народаў Югаславіі — і паводле гэтых адзнак (зразумела, досыць умоўных) фарміравалася кніжка» [8, с. 6].

Крыху больш чым праз дзесяць гадоў, у 1983 г., на аснове «Славянскага неба» Лубкіўскі, ужо ў Кіеве, выдаў зборнік «Славянская ліра». І ў першую, і ў другую кнігу ўвайшлі творы ажно 136 (!) славянскіх паэтаў. Праўда, калі ў першай з іх

кожны паэт быў прадстаўлены адным, рэдка — двума-трыма вершамі, то ў другой — некалькімі, прычым звычайна новымі, перакладамі. Крыху зменена (колькасна і якасна) і нацыянальнае прадстаўніцтва асобных славянскіх паэзій. Аднак у абедзвюх кнігах самыя розныя вершы — грамадзянскія, філасофскія, інтымныя, пейзажныя — аб'ядноўвае адзін выразны матыў: адвечнае пабрацімства славянскіх народаў. Ён, гэты матыў, часам гучыць пэўна, выяўляецца непасрэдна. Як, скажам, у вершах рускага паэта Аляксандра Адоеўскага «Славянскія дзевы» ці харвата Петара Прэрадавіча «Прызначэнне славянства». Аднак у цэлым ідэя дружбы брацкіх народаў прарастае ў «Славянскай ліры» спакваля, увасабляецца не просталінейна, а хутчэй апасродкавана. Пра гэта сведчаць перш за ўсё ўключаныя ў анталогію творы розных славянскіх паэтаў пра Украіну, украінскі народ, яго гісторыю, культуру, мову. Назавём хаця б вершы рускіх Мікалая Някрасава «На смерць Шаўчэнкі» і Мікалая Ціхавава «Анна Яраслаўна», беларуса Максіма Танка «На Украіне», палякаў Уладзімежа Слабодніка «Да Міколы Бажана» і Мечыслава Яструна «Песня Яраслаўны», чэха Рудальфа Майера «Україна», балгарына Захарыя Іванова «Украіне»… Разам з тым укладальнік і перакладчык увёў у анталогію творы, якія тэматычна пацвярджаюць міжславянскія кантакты. Я маю на ўвазе такія вершы, як «Шапэну» расіяніна Афанасія Фета, «Боль Сербіі» беларуса Пімена Панчанкі, «Балгарскаму брату» беларуса Ніла Гілевіча, «З падарожжа ў Беларусь 1965 года» лужычаніна Кіта Лорэнца, «Беларускі снег» балгарына Андрэя Германава і г. д. Урэшце, няўжо не сцвярджаецца, хоць і апасродкавана, еднасць славянскіх народаў ужо тым, што вершы *ўсіх* славян, як добрыя сябры, сышліся ў *адной* кнізе, выдадзенай у перакладзе на *адну* са славянскіх моў, у *адной* з суверэнных славянскіх краін!

Кніга «Славянская ліра» (як, дарэчы, і «Славянскае неба») спалучыла ў сабе якасці двух самастойных выданняў. Па-першае, гэта арыгінальная анталогія агульнаславянскай (за выключэннем, зразумела, украінскай) паэзіі. Па-другое, гэта выбранае аднаго перакладчыка, Рамана Лубкіўскага. Апошняя акалічнасць дазваляе даволі выразна ўбачыць творчы почырк, стыль перакладчыка. У слова «стыль» мы ўкладаем яго літаратуразнаўчы змест, што ўключае ў сябе два традыцыйныя моманты, акрэсленыя займеннікамі «што» і «як»: што (каго канкрэтна, якія тво-

ры) і як (ступень адэкватнасці мастацкага перакладу) узнаўляе перакладчык. Пра тое, каго пераклаў Лубкіўскі, у цэлым відаць ужо са зробленага пераліку асобных імёнаў славянскіх паэтаў. Што датычыць перакладчыцкага майстэрства, то параўнанне рознаславянскіх арыгіналаў і іх украінамоўных узнаўленняў сведчыць пра ўважлівае стаўленне Лубкіўскага да першакрыніц, імкненне дакладна перадаваць інфармацыю не толькі сэнсавую, але і канатыўную, вобразна-выяўленчую, экспрэсіўную. Перакладчык па магчымасці ўзнаўляе арыгінал у еднасці яго зместу і формы, захоўвае дамінантныя дэталі яго зместу і асаблівасці паэтыкі. Галоўнае ж — імкнецца да таго, каб твор і ў перакладзе аказваў на чытача прыблізна такое ж уздзеянне, як і ў арыгінале, выклікаў падобныя эмоцыі. Адным словам, імкнецца паэзію перадаваць паэзіяй. Зразумела, не заўсёды гэта ўдаецца. Тым больш, што пераклад з роднасных моў, у параўнанні з перакладам з моў няроднасных, мае свае «падводныя камяні»: «пасткі» міжмоўнай аманіміі, інтэрферэнцыі, асаблівы кантроль чытачоў, у якіх арыгінал нярэдка «на слыху», і інш. Часам з перакладчыкам можна спрачацца, не згаджацца з узнаўленнем таго ці іншага вобраза, вобразнай дэталі, лексемы. Але, як правіла, наяўнасць спецыфічнага перакладчыцкага таленту, вялікі творчы вопыт, валоданне славянскімі мовамі, добрае веданне творчасці славянскіх паэтаў, славянскіх рэалій выручаюць перакладчыка.

Дзякуючы Лубкіўскаму ў адзінае рэчышча славянскіх літаратур уліваецца і рака беларускай паэзіі. У «Славянскім небе» яна была напоўнена вершамі 20 паэтаў, у «Славянскай ліры» — 15. Не стала твораў Францішка Багушэвіча, Каруся Каганца, Міхася Чарота, Уладзіміра Дубоўкі, Міхася Машары, Піліпа Пестрака, Ларысы Геніюш, Васіля Зуёнка, Мар’яна Дуксы, затое з’явіліся прозвішчы Паўлюка Багрыма, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Янкі Лучыны, Пімена Панчанкі. У цэлым у дзвюх анталогіях знайшлося месца для знакавых вершаў 24 беларускіх паэтаў (для параўнання: для столькі ж — польскіх і 37 — рускіх). Калі ж улічыць і пераклады, што не ўвайшлі ў дзве анталогіі, а таксама артыкулы пра беларускіх майстроў мастацкага слова, то, несумненна, ***Раман Лубкіўскі на сёння — самы плённы і адказны паўнамоцны прадстаўнік беларускай літаратуры на братняй украінскай зямлі. І ў першую чаргу —***

***духоўны паўпрэд (паўнамоцны прадстаўнік) нашага Максіма Багдановіча.***

Увага і павага ўкраінцаў да асобы і творчасці аўтара «Вянка» пачалася, па сутнасці, у адначассе з першымі публікацыямі твораў беларускага паэта ў «Нашай Ніве» і не канчаецца да нашага часу. На Украіне пераклады твораў Багдановіча і артыкулы пра яго друкаваліся (і друкуюцца дагэтуль) даволі часта. У той жа час можна вызначыць тры этапныя моманты ва ўкраінамоўным успрыманні творчай спадчыны Багдановіча. Першы, які ўмоўна назавём «драй-хмараўскім», звязаны з выданнем у 1929 г. зборніка «Вянок», куды ўвайшлі перакладзеныя Міхайлам Драй-Хмарам (1889–1939) 42 вершы і ягоная грунтоўная прадмова да кнігі [1]. Другі — так званы «дзенісюкоўскі» — прадвызначаны з’яўленнем кнігі Багдановіча «Лірыка» ў знакамітай серыі «Жамчужыны сусветнай лірыкі» кіеўскага выдавецтва «Дніпро» [2]. Арганізатарам і натхняльнікам гэтага выдання, яго ўкладальнікам, аўтарам знакавай прадмовы «Званар беларускага адраджэння» стаў прафесар (тады яшчэ дацэнт) Львоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя І. Франко Іван Аксенцьевіч Дзенісюк (1925–2009). Пакуль у Беларусі яшчэ нясмела прыстасоўваліся да наймення «класік» у дачыненні да Багдановіча, украінцы безапеляцыйна паставілі яго ў адзін шэраг з такімі тытанамі паэтычнага слова, як англічанін Шэкспір і шатландзец Бёрнс, немец Шылер і рускі Лермантаў, бельгіец Верхарн і таджык Амар Хаям, кнігі якіх некалькі раней пабачылі свет у гэтай жа серыі. Трэці этапны момант прэзентацыі творчасці Багдановіча ўкраінскаму чытачу непасрэдна суадносіцца з асобай Лубкіўскага. Неаспрэчным сведчаннем гэтага з’яўляецца ўкладзеная, забяспечаная грунтоўнай прадмовай, каментарам і ў значнай ступені перакладзеная ім кніга Багдановіча «Стратим-лебідь» [3]. Гэта, па сутнасці, першы поўны збор твораў класіка беларускай літаратуры за межамі Беларусі. Такога замежнага выдання пакуль што няма нідзе.

Да творчасці і постаці Багдановіча Раман Лубкіўскі падступаўся настойліва і даўно. Яшчэ ў канцы 1966 г. у часопісе «Дніпро» (№ 12) ён надрукаваў арыгінальны артыкул да 75-годдзя беларускага паэта з красамоўнай назвай «Речник приречених» і пераклады вершаў «Пагоня», «Санет», твораў з цыклу «Старая спадчына». У львоўскай газеце «Вільна Україна» за 9 снежня таго

ж года змясціў пераклады яшчэ двух санетаў — «Що з того, що у серці вірш кипить?..» («Что из того, что стих в душе кипит?..») і «Серед боліт, під сонячним промінням…» («На цёмнай гладзі сонных луж балота…»). А ў кнізе «Лірыка», што выйшла праз год, апублікаваў пераклады ўжо звыш двух дзясяткаў твораў Багдановіча, сярод якіх такія вядомыя, як вершаванае апавяданне «Вераніка», балада «Страцім-лебедзь», вершы «Пагоня», «Касцёл св. Анны ў Вільні», «Народ, Беларускі Народ!..», «Раманс», «Актава», «Тэрцыны», «Пентаметры», санеты «У Вільні», «Прынадна вочы ззяюць да мяне…» і інш. Пазней друкаваў і іншыя пераклады з М. Багдановіча. Некаторыя з ранейшых і пазнейшых перакладаў уключыў у анталогіі «Слов'янське небо» («Народе, відколи твій рід…», «Романс», «Білорусь») і «Слов'янська ліра» («Погоня», «Стратим-лебідь», «Переписувач», «Не блищать в змеркання пору…»). І ўсё ж галоўная, неацэнная заслуга Лубкіўскага і перад багдановічазнаўствам, і ўвогуле перад беларускай культурай — выданне «Стратим-лебедя»…

У кнігу ўвайшлі літаральна ўсе паэтычныя, празаічныя, публіцыстычныя, літаратурна-крытычныя творы аўтара «Вянка» і яго эпісталярый у лепшых украінскіх перакладах. Творы паэзіі прадстаўлены перакладамі Міхайла Драй-Хмары, Міколы Зэрава, Рыгора Кочура, Яраслава Яра-Славутыча, Дмытра Паўлычкі, Ігара Калынца, Сцяпана Літвіна, Уладзіміра Лучука, Аксаны Сенатовіч, Віктара Чабаненкі і інш. Таццяна Кабржыцкая пераклала для выдання шэраг літаратурна-крытычных артыкулаў («Глыбы і слаі», «За сто год», «Кароткая гісторыя беларускага пісьменства да XVI сталецця», «Беларускае Адраджэнне», «Санет», «Забыты шлях», «Грыцько Чупрынка», «Уладзімір Віннічэнка» і інш.).

Асноўны ж цяжар па выданні «Страцім-лебедзя» вынес на сваіх плячах сам Раман Лубкіўскі. І гэта не толькі клопаты, звязаныя з укладаннем кнігі, выбарам гатовых і заказам новых перакладаў, рэдагаваннем тэкстаў, напісаннем вялікай прадмовы да кнігі «Беларускі Ікар» (па сутнасці — асобнага літаратуразнаўчага даследавання), неабходных каментароў і г. д. Можна толькі ўявіць, колькі часу і творчай энергіі ўзялі ў Лубкіўскага тыя шматлікія яго паэтычныя і празаічныя пераклады, без якіх выданне Збору твораў Багдановіча было б далёка не поўным. Вось асобныя факты. Толькі з прозы Лубкіўскі ўзнавіў

сродкамі роднай мовы апавяданні, нарысы, публіцыстыку, лісты, украіназнаўчыя працы і інш. Што ж да твораў паэзіі, то іх ва ўзнаўленні Лубкіўскага налічваецца ажно 166 пазіцый (!). Ён адзін цалкам ці амаль цалкам пераклаў такія багдановічаўскія паэтычныя цыклы, як «Згукі Бацькаўшчыня», «Места», «Думы», «Каханне і смерць», «Вершы беларускага складу», «З чарнавых накідаў» і інш. Усё гэта дазваляе лічыць кнігу Багдановіча «Стратим-лебідь» аўтарскім выданнем Рамана Лубкіўскага.

У задуме Рамана Лубкіўскага — выданне ў гэтай жа серыі твораў Янкі Купалы, у прыватнасці тых, што да гэтага часу на ўкраінскай мове не друкаваліся. А таксама — стварэнне арыгінальнай аўтарскай анталогіі на ўкраінскай мове «100 беларускіх паэтаў». Спору ў працы!

## Літаратура

1. Багдановіч, М. Вінок : поезії / Максим Багдановіч ; перекл., вступна стаття й примітки Михайла Драй-Хмари. — К. : Держ. вид-во України, 1929. — 96 с.
2. Богданович, М. Лірика / Максим Богданович ; передм. Івана Денисюка. — К. : Дніпро, 1967. — 172 с. — (Перлини світової лірики).
3. Богданович, М. Стратим-лебідь : зібрання творів : поезія, проза, публіцистика, критика, листи / Максим Богданович ; упорядк., передм., примітки та наук. редаг. Романа Лубківського. — Львів: Світ, 2002. — 408 с. — (Ad Fontes).
4. Лубківський, Р. Многосвіточ : літературно-критичні нариси / Роман Лубківський. — К. : Радянський письменник, 1978. — 264 с.
5. Лубкіўскі, Р. Пялёсткі святла : вершы / Раман Лубкіўскі ; прадм. аўтара. — Мінск : Маст. літ., 1990. — 144 с. — (Паэзія народаў СССР).
6. Павличко, Д. Літературознавство. Критика : у 2 т. / Дмитро Павличко. — К. : Вид-во Соломії Павличко «Основи», 2007. — Т. 1 : Українська література / передм. автора. — 566 с.
7. Слов’янська ліра : збірник / упорядк. та переклад Романа Лубківського ; передм. Дмитра Павличко. — К. : Дніпро, 1983. — 424 с.
8. Слов’янське небо : вірші рос., біл., пол., чеш., слов., сербо-луж., югосл. поетів у перекладі Романа Лубківського / передм. та примітки Романа Лубківського. — Львів : Каменяр, 1972. — 264 с.

# ВАСІЛЁК НА МАГІЛУ БАГДАНОВІЧА
## З успамінаў

Прыгадаць гэты эпізод мяне падштурхнулі дзве нядаўнія даты рознай эмацыйнай настраёвасці. У канцы снежня 2011 г., як паведамілі сродкі масавай інфармацыі, у Кішынёве ўрачыста адзначылі 85-годдзе патрыярха рускай літаратуры ў Малдове, заслужанага дзеяча мастацтваў рэспублікі, кавалера «Ордэна Рэспублікі», ветэрана Вялікай Айчыннай вайны, лаўрэата Міжнароднай літаратурнай прэміі імя вялікага князя Юрыя Далгарукава Мікалая Сяргеевіча Савосціна. А 14 сакавіка 2012 г. споўнілася сорак гадоў, як не стала Міколы Арсенавіча Пашкевіча (1936–1972), майго сябра яшчэ са студэнцкага часу, аднакашніка, з якім мы пражылі ў адным пакоі студэнцкага інтэрната БДУ па вуліцы Свярдлова з другога па пяты курс. У «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі» пра яго, спасылаючыся на артыкул Васіля Жука «Сцежка застаецца людзям» («Маладосць», 1981, № 9), вядомы гісторык Генадзь Каханоўскі напісаў наступнае: «Пашкевіч Мікалай Арсенавіч (20.5.1936, в. Гарадзішча Мядзельскага р-на — 14.3.1972), педагог, літаратуразнавец, краязнавец. Скончыў БДУ (1963), Працаваў настаўнікам, намеснікам дырэктара Сваткаўскай СШ Мядзельскага р-на. Выступаў з вершамі, літаратуразнаўчымі артыкуламі ў газетах «Літаратура і мастацтва», «Чырвоная змена», «Мінская праўда», часопісе «Беларусь» і інш. Узначальваў літаб'яднанне пры газеце «Нарачанская зара» (Мядзел). Выдаў кнігу «З вопыту работы літаратурнага гуртка…» (1968) аб рабоце школьнага гуртка беларускай літаратуры. У пасяджэннях гуртка прымалі ўдзел М. Танк, Я. Брыль, В. Быкаў, Н. Гілевіч, У. Караткевіч, І. Навуменка, Г. Бураўкін, Р. Барадулін, В. Рагойша і інш. Памяці Пашкевіча прысвечана аповесць Быкава «Абеліск», верш А. Лойкі «Каліны», карціна А. Пупко «Памяць», раздзел экспазіцыі ў Мядзельскім музеі народнай славы» [2, с. 232]. Пра свайго сябра калісьці пісаў і я [3]. Думаю, напішацца яшчэ.

Аднак пры чым тут «васілёк на магілу Багдановіча»?

Але ўсё па-парадку.

У маі 1971 г. мы з жонкай Таццянай Вячаславаўнай, якая незадоўга перад тым нарадзіла другога (пасля Усевалада) сына

Максіма, трапілі ў сонечную Ялту. Я ўжо амаль два гады быў сябрам Саюза пісьменнікаў СССР і меў поўнае права на пуцёўку ва ўсесаюзны пісьменніцкі Дом творчасці, чым і скарыстаўся. Тым больш, што на май пуцёўку атрымаць было не складана: сталыя, больш заслужаныя пісьменнікі любілі ездзіць на поўдзень пазней, калі і мора цёплае, і таннай садавіны хапала, і на крымскім узбярэжжы збіраўся зусім салідны бамонд. Але менавіта месяц май нам быў і патрэбны. У такім жа маі і якраз у Ялце ў 1917 г. памёр славуты Максім Багдановіч, тагачасны паэтычны кумір і наш, і ўвогуле беларускай моладзі. І на ялцінскіх могілках знаходзілася яго магіла, пакланіцца якой нам так хацелася. Тым больш, што ў той год надыходзіла юбілейная дата: 80-годдзе з дня нараджэння аўтара неўвядальнага «Вянка».

Выпраўляючыся ў дарогу, я паехаў на пачатку мая на Мядзельшчыну пабачыцца з Міколам Пашкевічам. Трэба было адвезці яму такія-сякія кнігі, лекі. Мікола ўжо працяглы час хварэў на страўнік, перыядычна ляжаў у шпіталі, лячыўся ад хваробы, якая ўрэшце дачасна і звяла яго ў магілу. Зразумела, пра тую хваробу веку дактары тады не гаварылі, і ні ён, ні яго сябры пра яе да апошняга моманту не ведалі. Мікола, помніцца, «па-беламу» пазайздросціў нам з Таццянай. І не столькі таму, што пабудзем у Крыме, колькі нашай магчымасці пакланіцца магіле Максіма Багдановіча. «Шкада, што васількоў яшчэ ў жыце няма. А то паклалі б «цвяток радзімы васілька» на яго магілу як вітанне з роднай Беларусі, — сказаў са шкадаваннем Мікола. І дадаў: — Можа, там яны ўжо расцвілі? Але не, тых не кладзіце, яны не беларускія…».

На магілу паэта, тады яшчэ са старым, даваеннага часу невялікім помнікам-абеліскам, з пяцікутнай зоркай уверсе, мы адправіліся літаральна на другі дзень нашай ялцінскай пабыўкі. Доўга шукалі месца пахавання. Нарэшце, з дапамогай кагосьці з жыхароў Ялты, знайшлі. Як маглі, прыбралі магілу пасля зімы. Паклалі на яе букет купленых па дарозе вясенніх кветак, пастаялі, моўчкі прачыталі выбітыя на граніце заключныя словы санета «Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі…»:

*Вось сімвал твой, забыты краю родны!*
*Зварушаны нарэшце дух народны,*
*Я верую, бясплодна не засне,*

*А ўперад рынецца, маўляў крыніца,*
*Каторая магутна, гучна мкне,*
*Здалеўшы з глебы на прастор прабіцца.*

З сабою ў Ялту мы ўзялі старанна ўкладзены Алегам Лойкам і з яго прадмовай зборнік лірыкі Максіма Багдановіча «Маладзік» — так паэт марыў назваць адну з наступных сваіх кніг. Вечарам у пакоі да глыбокай ночы пачаргова чыталі шчымліва-балючыя, поўныя шчырага пачуцця і да Бацькаўшчыны, і да жанчыны, і ўвогуле да людзей, вершы класіка беларускай літаратуры, жыццёвы шлях якога скончыўся ў пары кіламетраў адсюль, ад пісьменніцкага Дома творчасці.

У той час у Ялце на марскім узбярэжжы (вул. Мікалаеўская, 8) стаяў невялікі двухпавярховы домік, дзе паэт дажываў свае апошнія дні. Пра гэта сведчыла і адпаведная мемарыяльная дошка. Вось як апісваў бацька паэта Адам Ягоравіч Багдановіч, які змог прыехаць у Ялту толькі на чацвёрты дзень пасля смерці сына, калі яго пахавалі ўжо, той домік і сынаў пакой у ім: «Комната была довольно обширная, светлая, с видом на море, на втором этаже, сзади дома, с отдельной лестницей и совершенно изолированная, глухая: хоть кричи, хоть стучи — никто не услышит (хозяйка жила внизу с подхода) и помощи не подаст. Самое подходящее, чтобы умирать в полном одиночестве» [1, с. 52]. Мы з Таццянай Вячаславаўнай наведалі апошні прытулак Максіма, падняліся па вонкавай лесвіцы на другі паверх, заглянулі ў пакой. Стала скрушна. А яшчэ больш, калі даведаліся, што лёс гэтага дома ўжо вырашаны: на яго месцы пабудуюць санаторый нейкага ваеннага ведамства. Мемарыяльную ж дошку павінны прымацаваць да новага будынка або закажуць новую…

У санаторыях, дамах адпачынку людзі знаёмяцца даволі хутка і лёгка. Тым больш — у інтэрнатах людзей адной спецыяльнасці ці прафесіі. У пісьменніцкім Доме творчасці мы неўзабаве пазнаёміліся і нават запрыязнілі на нейкі час з цікавай, таксама міжнацыянальнай, як і мы, сямейнай пісьменніцкай парай: яна — вядомая малдаўская пісьменніца Анна Паўлаўна Лупан (1922—1998), аўтар апавяданняў, п’ес, шырокавядомых раманаў «Дзе твае аратыя, зямля» (1961), «Трэція пеўні» (1966; выйшаў асобным выданнем і на беларускай мове), ён — ужо ўпомнены рускі пісьменнік (паэт, драматург, празаік, эсэіст) Мікалай

Савосцін. Пазнаёміліся і пабраліся яны ў Маскве ў самым пачатку 1960-х гг., калі прыехалі на вышэйшыя літаратурныя курсы ў Літаратурны інстытут імя Максіма Горкага. Ён — з глыбокай Сібіры, з Чыцінскай вобласці, пасля службы ў арміі і баёў з японцамі, з медалём «За отвагу» на грудзях і некалькімі кніжкамі вершаў, выдадзенымі ў Чыце і Іркуцку. Яна — з малдаўскай глыбінкі, маючы некалькі апавяданняў і аповесцей, надрукаваных у перыёдыцы па-малдаўску. Знешне яны былі поўная супрацьлегласць адно аднаму. Мікалай — высокі, па-афіцэрску падцягнуты, статны, надзвычай жвавы, з добрым рускім вымаўленнем. Анна — невысокая, поўная, вельмі спакойная, з моцным малдаўскім акцэнтам. Але ж, як вядома, супрацьлегласці прыцягваюцца. Прыцягнуліся і яны адзін да аднаго, і ў 1961 г. Мікалай назаўсёды пераехаў у Кішынёў да сваёй Анны.

Пазнаёміўшыся і часта сустракаючыся, мы, апрача іншага, расказвалі «малдаванам» і пра Максіма Багдановіча, наладжвалі чытанне яго вершаў. Музыка верша, хоць блізкая да рускай, але іншая, мова, што добра захавала ў сабе дух старасвеччыны, водар славяншчыны, пакарылі нашых слухачоў. Часам яны высвятлялі значэнне некаторых беларускіх слоў, падчас самі пранікалі ў іх сэнс і вобразную абалонку. Даведаўшыся ж, што Багдановіч з лютага па май 1917 г. жыў у Ялце, тут памёр і пахаваны, захацелі разам з намі наведаць яго магілу. Надыходзіў і добры повад: 25 мая, дзень смерці песняра. Але няхай далей распавядзе сам Мікалай Савосцін — так, як ён пазней апісаў той дзень у сваім эсэ «Василёк», надрукаваным у канцы 1971 г. да 80-гадовага юбілею паэта ў газеце «Молодежь Молдавии» [4] і пазней перадрукаваным (ужо ў поўным выглядзе) у некалькіх кнігах яго эсэістыкі («Иглица», «Сердце поэзии», «Честь поэтов» і інш.).

«Слава стучал осторожно, чтобы узнать: не спим ли? Вячеслав Петрович являл собой образ безмятежной, ничем не замутненной доверчивой простоты и ясной доброжелательности. В свои тридцать лет приобретший некую солидность, он, ширококостный и по-крестьянски крепкий, казался полнеющим. На лице готовность к дружеской улыбке, так и ждешь, что губы растянутся и на щеках заиграют ямочки.

Он, преподаватель университета, известный белорусский критик, кандидат наук, здесь, в Ялте, в писательском Доме творчества, дорвался до свободы от домашних забот и преподавания,

усердно пишет «свое», поэтому и не загорел, резко выделяясь белизной лица среди курортной публики, цель которой — приобрести максимальную черноту кожи.

— Сябры, вы решились, идемте?

Сябры — это друзья по-белорусски. Это слово как-то сразу вошло в наш обиход <…>.

Слава давно уже обошел все места, связанные с именем Богдановича. Долго не мог отыскать домик, где жил и умер поэт. И хотя это строение отмечено мемориальной доской, найти его было не так уж просто. Оно затерялось среди новых зданий и зелени.

Мы в молчании обошли старинный дом. Был он поднят на южный манер так, чтобы все комнаты были солнечными, чтобы каждому можно было добраться до своего жилья, не причиняя беспокойства соседу, — для этого наружная лестница. Комнаты в этом здании были самые дешевые, тут ютилась беднота. В старые времена тут была далекая окраина, отделенная от самой Ялты мусорной свалкой. Собственно, и возле дома была свалка, к морю надо было идти через кучи отбросов…<…>.

Мы шли на кладбище. Нести на могилу давно погибшего собрата по перу покупные шикарные розы показалось неким пижонством, цветов попроще и сердечней не было, и я собирал по дороге так много говорящие душе дикие цветы и травы. Вскоре у меня набрался небольшой неприхотливый букетик, в который хорошо легли рядом с крохотными лиловатыми колокольчиками стебельки полыни, алые маки, легко теряющие свои лепестки, а также колоски дикого ячменя и былинки каких-то трав. Между прочим, точно такие колоски привез мне как-то один старший друг-поэт из Италии, из Равенны, сорвал их возле могилы Данте. Колоски эти сблизили сразу и Ялту, и Равенну, и время великого флорентийца, и наш век, и разные земли, и разных поэтов <…>.

Мы вышли на ялтинское кладбище, то, которое у дороги на Севастополь. В зарослях тучных деревьев кое-где, словно украинская вышивка алым по зеленому, среди листвы краснели вишни. Всюду каменные обелиски, шлифованные плиты, изваяния. Для небольшого селения, каким Ялта была в прошлом, кладбище не по размеру, — тут покоится немало тех, кто искал на этом берегу исцеления. Недолго прожил в Ялте и молодой

белорус с болезненным румянцем на бледном лице, с юношескими усиками и густой шевелюрой <…>.

В нижнем краю кладбища под соснами в небольшой оградке с калиткой стоит серый четырехгранный обелиск с выбитой на нем в верхней части пятиконечной звездой. Звезда была такой, какой ее рисовали в первые годы советской власти, — с более узкими лучами <…>.

Мы убрали в оградке, подмели, положили на могилу цветы. Слава вынул записную книжку, из нее почтовый конверт, из которого достал засушенный цветок в а с и л ь к а. Слава положил засушенный василёк к обелиску, лицо его было серьезно и печально.

Но почему василёк? Символ Белоруссии?

Истинный поэт не может не любить свою родную землю, не может не быть патриотом своего края уже хотя бы потому, что ему нет жизни без родного языка. В знаменитом стихотворении «Слуцкие ткачихи» Максим Богданович изобразил это чувство. В Слуцк, который славился своими золототкаными поясами, барин собрал лучших мастериц из деревень. Они ткут имевший спрос в то время персидский узор, а перед глазами родные места, милые леса, перелески, и рука невольно ткет «заместо чуждого узора цветок родимый василька…».

Мои чудные сябры были молчаливы и на другой день. Они подарили нам прекрасно оформленный том лирики Максима Богдановича на белорусском языке, выпущенный в Минске три года назад. Книга называется «Маладзік», по-русски «Молодик», то есть народившийся месяц <…>. Когда я открыл страницу «Маладзіка», где напечатаны «Слуцкие ткачихи», то сердце обдало внезапным теплом: сябры заложили страницу живым цветком. Ах нет! Цветок василька напечатан, будто живой лежит у самого корешка страницы. Великодушный руководитель издательства «Беларусь» пошел на «нерентабельный расход» — я-то разбираюсь в этом, — разрешив напечатать внутри целой книги один-единственный цветной рисунок: голубой с лиловатым отливом простенький цветочек с зубчатыми лепестками, которые выпростались из золотистой цилиндрической кошелочки на тонком голом стебельке.

Василёк!..»

Што тут дадаць да сказанага? Хіба толькі тое, што з далёкай Мядзельшчыны прыслаў мне ў Ялту той засушаны васілёк мой сябра Мікола Пашкевіч. Прыслаў з просьбай ускласці гэты сімвал бессмяротнай Беларусі на магілу рана памерлага Максіма Багдановіча. Прыслаў, прадчуваючы, відаць, і сваё ранняе расставанне з Бацькаўшчынай…

## Літаратура

1. Богданович, А. Материалы к биографии Максима Адамовича Богдановича / А. Богданович // Шлях паэта : зб. успамінаў і біяграфічных матэрыялаў пра Максіма Багдановіча / склад. Н. Б. Ватацы. — Мінск : Маст. літ., 1975.
2. Каханоўскі, Г. Пашкевіч Мікола Арсенавіч / Г. Каханоўскі // Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі : у 5 т. / рэдкал. : І. П. Шамякін (гал. рэд.) [і інш.]. — Мінск : БелСЭ, 1986. — Т. 4.
3. Рагойша, В. Зробленае застаецца / Вячаслаў Рагойша // ЛіМ. — 1972. — 7 крас.
4. Савостин, Н. Василёк / Николай Савостин // Молодежь Молдавии. — 1971. — 2 дек.



# ВЕРШЫ, ПРЫСВЕЧАНЫЯ ЯНКУ КУПАЛУ, ЯКУБУ КОЛАСУ, МАКСІМУ БАГДАНОВІЧУ

## Земляком сваім я ганаруся

*Янку Купалу*

Земляком сваім я ганаруся.
Ён уліў у песню сэрца жар.
Наш Купала славу Беларусі
Словам срэбразвонным памнажаў.

Словам тым, што ў час былой нядолі
Клікала за праўду йсці у бой,
Каб ліхіх часін не стала болей,
Каб лунала шчасце над зямлёй.

Ганаруся словам тым, якое
Заклікала светлых дзён прыход.
Гэта слова сэрца маладое
Навучае, як любіць народ.

Наш Купала песню склаў такую,
Для якой нішто стагоддзяў час.
Голас мы яго заўсёды чуем,
Хоць няма яго даўно між нас.

Земляком сваім я ганаруся,
Ён уліў у песню сэрца дар.
Наш Купала славу Беларусі
Словам срэбразвонным памнажаў.

*1957 г.*

# Купалаўскі трыпціх

1.

Кожную жылку
Сваіх патрэб
Прасвечваю
Вашых ідэй
Святлом.
Не на куце ў мяне
Ваш партрэт,
А над рабочым сталом.

2.

Каб нас ніхто не ўрок
І пошасць не зламала,
У нас адзін Прарок —
Купала!

3.

Купалаўскі кліч
«Жыве Беларусь!» —
І ў сэрцы,
І ў галаве.
Ты толькі не бойся,
Ты толькі не трусь:
Жыве Беларусь,
Жыве!

*1995 г.*

# У Коласавым родным куце

*(Вершаваны цыкл)*

## 1. Па дарозе ў Стоўбцы

Цягнік, наказ наш улічы:
Званчэй па рэйках лязгай,
Хутчэй да Стоўбцаў даімчы —
Зрабі такую ласку!

Мы ўсёй студэнцкаю раднёй
Спяшаемся, дзе калісь
Над шчодрай роднаю раллёй
Узняўся буйны
Колас.

Нам зерні з Коласа таго,
Як іскры, ў сэрцы ўпалі
І там збудзілі зніч-агонь,
Навечна запалалі.

Хай ліўні льюць, імжыць імжа
Ў жыццёвай кругаверці,
Ды той агонь і ста дажджам
Не вымыць з нашых сэрцаў.

Палаць яму штодзень, штогод.
Нам шчасце ж адгукнецца,
Калі й другім каля яго
Захочацца пагрэцца.

Дык ты імчы, цягнік, імчы,
Званчэй па рэйках лязгай,
Да Стоўбцаў шпалы падлічы —
Зрабі такую ласку!

## 2. У Альбуці

Спяць хлопцы ў палатках белых,
Спяць, покуль сны не збеглі.
А я
Грыбніком
На золку
Іду і ад сноў, і ад дому.
Кашлатую лапу ёлкі
Трасу, як стары знаёмы.
Я з борам жыву папросту.
Глытаю дзяцінства водар.
Нібыта альбуцкі Костусь,
Праходжу ў хорам прыроды.
У хораме — ўлада цішы:
Сасна сон у шапцы калыша,
Спяць пташкі на лапах ялінаў,
Як зорнае неба — маліннік…
Ці ў гэткае шчасце паверыш?
Рукам далікатнасць раю.
Там неруш?
Няхай расце неруш! —
Сны-мары я сёння збіраю.
Сасна аддае свае мроі,
І пташкі — сноў светлыя кроі,
І краскі мне радасць трояць.
Зара прашугала паверку
І краскам,
І пташкам,
І соснам.
Я з кошыкам, поўным даверху,
Дадому йду сцежкаю роснай.
Свой скарб тут сябрам паказваю.
Зайздросцяць,
Вачам не верачы:
У кошыку
Дзіўнаю казкай
Ляжаць маладыя вершы.

